ББК 84 Бел 7
Р 82

Для старэйшага школьнага ўзросту

Мастак А. І. Аблажэй

Судьба не баловала Веру Признайцеву — главную героиню повести «Голосом разлуки»: не вернулся с войны отец, смерть матери, назойливое внимание отчима... Казалось, несчастьям не будет конца, но неожиданно в Веру влюбился молодой зоотехник...

В рассказах осуждаются такие порочные явления среди определенной части молодежи, как легкомысленные разводы, наркомания, пьянство, мещанский эгоизм.

Р $\frac{4803120201-008}{М\ 307(03)-89}$ 90—89

ISBN 5-7880-0196-X 



# ГОЛАСАМ РАЗЛУКІ

## Аповесць

Іду я радасны, харошы,
Знікае з сэрца пустата...
Максім Багдановіч

«Людзі нярэдка шукаюць спакой, не думаючы пра тое, што якраз з неспакою пачынаецца ўсё лепшае, чаго яны дасягнулі ў жыцці, і што без трывог і клопатаў чалавек не быў бы сабою».

Так падумаў я пасля. А напачатку быў неспакой. Чаму Іван Лявонавіч, заатэхнік, размаўляючы са мною, вінавата апускаў вочы? Навошта на развітанне папярэдзіў: «Адно прашу вас... Не тое што прашу, а проста... Не лезьце надта ў мінулае Веры Прызнайцавай. Такога нічога, але...»?

Што за гэтым «але»?

І вось я іду на сустрэчу, можна сказаць, разгублены. Цяпер, аддаліўшыся ад калгаснай канторы, трохі каюся, што не распытаў у заатэхніка пра ўсё да драбніц. Але тут жа знаходжу апраўданне: хіба добра было б лезці ў душу чалавека, які і так збіваўся на кожным слове, нервова барабаніў па стале тонкімі пальцамі ды паглядваў раз-пораз у акно, акурат размаўляў не са мною, а з кустом бэзу, што шаравата-зялёным лісцем прыткнуўся да шыбін — тыя мясцінкі лістоў, што прыліплі да шкла, былі зелянейшыя.

Мабыць, усё-ткі лепш зрабіць выгляд, што нічога не заўважаеш, не разумееш, ні пра што не здагадваешся, чым выпытваць у чалавека пра тое, ад чаго ён бянтэжыцца, ніякавее. Чаму? Ад шматлікага «чаму» ў мяне блытаюцца думкі, я хвалююся. Але тым жа часам і радуюся: праверу сваё журналісцкае чуццё, уменне разбірацца ў людзях. Гэта вельмі важна любому чалавеку, не гаворачы ўжо пра таго, хто мае справу з душою. Дасюль мой розум лёгенька плыў па паверхні жыцця, узаемаадносін.

Я памалу агледзеўся, прыкінуў, як выйсці на цэнтральную вуліцу. У канторы сказалі: не даходзячы да магазіна, каля якога расце вышэзная ліпа з буслянкаю на вяршаліне, звярнуць у завулак і праставаць па ім да самага канца.

Цэнтральная вуліца была шырокая і чыстая — заасфальтаваная. Скрозь паўз ашаляваныя хаты цягнуўся роўны невысокі штыкетнік, пафарбаваны ў жоўта-зялёны колер роўнымі часткамі: метр — у жоўты, метр — у зялёны. Амаль пры кожных весніцах, справа ці злева, стаялі рабрыстыя, як у горадзе, лаўкі з такімі ж рабрыстымі спінкамі.

Дзе-ндзе на лаўках сядзяць старэнькія бабулькі і, абапіраючыся на кійкі, пра нешта ціхенька зюкаюць. Калі параўноўваюся з імі, яны змаўкаюць і з цікаўнасцю, але неяк стрымана, быццам украдкаю, прыглядаюцца да мяне. На павароце, каля калодзежа, мне насустрач выбегла белавалосая дзяўчынка гадоў пяці з вялікімі чорнымі вачанятамі і, зморшчыўшыся, быццам глядзела на сонца, прашапялявіла:

— Дзяця, а вы да каго пліехалі?

У тварыку дзяўчынкі было нешта як бы знаёмае, звыклае вачам. Я націснуў ёй пальцам на кірпаты, у светла-рудзенькія кропачкі — як абсыпаны недаспелым макам — носік і ўсміхнуўся:

— Да вас у вёску. Да ўсіх. Што, вельмі на госця падобны?— Сам падумаў: «Мусіць, падвучылі бабулькі дзяўчынку, каб спытала, хто гэта і да каго прыехаў».

— А ў мяне татка Ваня і мама Ева ёсць,— нечакана пахвалілася дзяўчынка, кіруючыся сваёй, незразумелай даросламу дзіцячай логікай.

«Ах, цяпер дапяў, на каго ты падобна!»— здагадаўся я і пашкадаваў, што няма чым пачаставаць даверлівую дзяўчынку — заатэхнікаву дачку.

— Вось добра, толькі слухайся іх. Будзеш слухацца?

Дзяўчынка перастала жмурыцца, зрабіла сур'ёзныя вачаняты і згодліва кіўнула галавою.

— Значыць, дамовіліся?— падаў я дзяўчынцы руку і адчуў у сваіх пальцах пяшчотны халадок далонькі.

Сонца ўжо свяціла не вельмі ярка, быццам з-за туманнай паваловкі, але ўсё роўна было яшчэ горача. Над галавою вісела сіняе, з дамешкам шараватасці неба, а каля гарызонта, над лесам, асела ружаватасць. У гэтай ружаватасці застылі, як прыліплі там, белыя касмылінкі воблакаў. Між хат, калі гэтае прамежжа не засланялі сады, вачам адкрываўся прастор жытнёвага поля, якое зыбілася светла-васковымі хвалямі, трымцела, бы палотнішча.

На хату з белымі ліштвамі, дзе жыла гераіня майго нарыса, я натрапіў адразу. Мяне здзівіла чысціня, якая была каля яе: нідзе ні паперынкі, ні трэскі, ні сухой былінкі; дарожка з вуліцы на двор акуратна падмецена. Нясмела адчыніў весніцы — няшчыльныя, пакарабачаныя, але нядаўна пафарбаваныя на зялёнае — і перасігнуў праз нешырокую, пакладзеную на рабро дошку.

Шырокі двор быў утравелы, як поплаў, з кароценькаю густою муравою. Ад весніц да ганка вузенькім пясчаным паяском перакінулася сцяжынка — як згублены ў лузе дзявочы каснічок. У сялянскіх дварах я бываў ужо не раз, і таму падумаў, што ў яе ж, гаспадыні, мусіць, ёсць, як і ва ўсіх, карова, свінчо, куры...

На плоце вісела некалькі гліняных гладышоў, адзін белы, незакураны чыгунок і два трохлітровыя шкляныя слоікі. Каля ганка стаяла пад страхою цынкавая балея, у якой была чыстая, мабыць, дажджавая вада, на дне свіціўся залатою жылкаю пясок, відаць, нанесены курамі.

Дзверы былі запёртыя. Праўда, не на замок, а на трэску — тырчала ў прабоі. Значыць, гаспадыня недзе тут, недалёка. Можа, на агародзе. Трэба глянуць.

Я пайшоў у глыб двара. У куце, пры пуні, ляжала гара парэзаных, але няколатых дроў. У тоўсты цурбак была ўдзяўбнута сякера, на выслізганым тапарышчы ігралі сонечныя бліскаўкі.

На агародзе гаспадыні не было. На градзе цыбулі стаяў вялікі агністы певень і недаверліва паварочваў у мой бок дзюбатую галаву з круглым, як у рыбы, чырвоным вокам. Курэй не было відаць.

«Прарваўся ў забароненую зону»,— падумаў я пра пеўня.

Выходзіць, гаспадыня некуды сышла. Я патупаў з двара, на вуліцу. Сеў на лавачку — гладкую дошку, прыбітую плазам да двух слупкоў. Дошка была гарачая, напаленая сонцам. Яшчэ во на дождж збярэцца, занепакоіўся я, зірнуўшы на неба: белыя воблакі павышэлі, пагусцелі, сталі падобныя на вату.

З агародчыка цягнула густым, мядова-салодкім водарам, і я, не паварочваючыся, здагадаўся, што там растуць кветкі. Мне было сумна і карцела хоць нечым заняцца.

Я стаў на ногі — і ў вачах запярэсціла, паплылі ружовыя, сінія, жоўтыя, зялёныя кругі: перад гэтым глядзеў на высокае неба, а кветкі былі зусім блізенька, дастанеш рукою. Заплюшчыў на секунду вочы і адплюшчыў: у агародчыку раслі вяргіні, астры, гладыёлусы, цюльпаны. Над імі рупліва шчыравалі чмялі, пчолы, жоўта-паласатыя, як восы, мухі. Яны неяк скоранька, быццам спяшаючыся, грэбаліся лапкамі па тычынках, вымурзваліся ў бела-жаўтаваты пылок і папісквалі — дакладная прыкмета дажджу, так сказаў мне днямі адзін вясковы дзед.

Назіраючы за гэтым званкакрылым роем, я супакоіўся, і думкі перанеслі мяне ў недалёкае мінулае. Бо іменна яно, мінулае, вінавата ў тым, што я, карэнны гараджанін, апынуўся ў чужых мясцінах, прыехаў цяпер сюды, у вёску Малінаўка.

## Успамін першы.
## МОЙ АСЯРОДАК

Мая сям'я і мае знаёмыя — усе аднолькава правільныя, ветлівыя, дзелавыя — аказалі на мяне, лічу, дрэнны ўплыў, ва ўсякім разе не той, з-пад якога чалавек выходзіць у свет з чыстаю душою. Калі і чаму ўбілася гэтая думка мне ў галаву, я і сам добра не ведаю. Адно неяк, прачытаўшы ў часопісе артыкул, я ўбачыў сябе як бы чужымі вачыма — чэрствым, душэўна глухаватым тыпчыкам, адным з тых, якія асуджалі-

ся ў артыкуле. І мне, як журналісту і маладому чалавеку, патрэбен быў «душэўны эталон», па якому я зяраў бы свае ўчынкі і які ўдыхнуў бы ў маю душу веру ў сябе і ў людзей.

Недзе я чуў: калі дзікую жывёліну вырасціць у нязвыклых для яе ўмовах і потым выпусціць на волю, то яна, не маючы прыродных інстынктаў, абавязкова загіне. Гэта, прызнаюся, трывожыла і нават палохала. Я шмат думаў і многае з таго, чым жыў, не прымаў, а з многім, што гаварылася дома, не згаджаўся. Бацька, маці мяне адчытвалі, папракалі, давалі парады, а я, слухаючы іх ці наогул затыкаючы вушы, упарта круціў галавою: не і не! У мяне пачаліся сур'ёзныя спрэчкі са сваімі продкамі.

Мой бацька, салідны, паважаны чалавек, папярэдне напытаўшы месца ў рэспубліканскай газеце, настойваў, каб я ішоў у яе працаваць. Як-ніяк сталіца, тэатры, магазіны, аспірантура... Дый аўтарытэт сталічнага журналіста, нават калі ён творча слабы, намнога вышэйшы, чым у яго калегі-раёншчыка, які мае талент.

Я запярэчыў, але, мусіць, не вельмі ўпэўнена.

— Слухай, з другога боку што атрымліваецца,— гарачыўся бацька.— Ты ў мяне самога выбіваеш з-пад ног глебу. Выходзіць, што я... я!— не змог забяспечыць цёпленькае месца роднаму сыну. А многія ведаюць, што я ўладкоўваў на працу іншых людзей, часам зусім незнаёмых і без прапіскі. Дык як гэта будзе выглядаць, ты падумаў? Або ў Васіля Прохаравіча Кірыльчыка сын такі дурны, што адправілі на перыферыю, у глушэчу, або ён, Васіль Прохаравіч Кірыльчык, кепскі бацька, што не паклапаціўся пра сына. І не думай, і не трызні аб раёнцы — вось мой бацькоўскі сказ!..

— Не магу, мне ўсё гэта абрыдла!— адчайваўся я, седзячы ў крэсле-качалцы і не ведаючы, куды падзець рукі: браў са століка то крыштальную вазу са штучнымі цюльпанамі, то пустую попелку ў форме султанскага бота — і тут жа ставіў, моцна стукаючы. Чорная балонка па мянушцы Чорцік, якая ляжала пад столікам, пры кожным стуку ўздрыгвала і паднімала з лап калматую галоўку.— Я не хачу знаць ніякіх вашых сказаў!..

— Што табе абрыдла?— не зразумеў бацька, ловячы насцярожанымі вачыма мой позірк.

— Гэтыя званкі, званкі, званкі!.. Гэтае даставанне, прабіванне, заганянне! Гэты разлік, гэты ваш прагматызм! Які з мяне можа быць журналіст, скажы, калі ласка, тата? Што я магу ўзяць ад вас?

— Бач ты яго, яйка курыцу вучыць! — ажно затросся бацька.— Смаркач! Ты адкуль узяўся, такі праведнік? Ды калі б не я, ты б...

На шчасце, зазваніў тэлефон, і бацька кінуўся да яго. Я пайшоў да сябе ў пакой, уключыў магнітафон на ўсю моц.

Маці надумала ўціхамірыць мяне, суняць мае завіхрэнні сваім, як ёй здавалася, надзейным спосабам: балазе, хлопцу дваццаць два гады — каго ў такім узросце не вабілі дзяўчаты, не хваляваў іх таямнічамройны пагляд?

Неяк увечар, за чаем, яна здалёк пачала размову пра нейкую Ліду Цяцерыну. Спачатку хваліла-захвальвала яе сям'ю: бацька — галоўны ўрач бальніцы, маці — кандыдат педагагічных навук, браты — першакласныя інжынеры, адзін афіцэр. Словам, род што трэба. Потым перакінулася да самой нявесты: і прыгажуня, і разумніца (здала кандыдацкі мінімум), і гаспадыня, нават ведае італьянскую кухню...

Я зацята маўчаў, апякаючы губы, паднябенне, сёрбаў чай. Адчуваў, маці глядзіць на мяне, пільна, нецярпліва, чакае згоды на маё знаёмства з «суджанай». Смех, і толькі: я ніколі не згаджуся на нейкі «закулісны» шлюб. Хіба адно тады, калі ператваруся ў пустую нікчэмнасць. Таму не прамовіў ні слова, баючыся, што сваёй размовай толькі сапсую ўсім і сабе настрой.

Не стрымалася сястра Юлька, маладзейшая за мяне на два гады.

— Што ты губляеш, Пашачка? Жаніся! Такая пара. Машына, кааператыў забяспечаны! Гэта не тое, што ў мяне... токар шарыка-падшыпнікавага завода. Дарэчы, дарагія продкі, скажу вам, што днямі я прывяду ў нашыя пенаты белабрысага хлопца па імені Славік.

Маці — як хто кальнуў іголкаю — тарганулася, ажно выплеснуўся з кубка чай і скінулася са сподачка сярэбраная лыжка, зазвінеўшы на паркетнай падлозе; вочы акругліліся — на павеках густа ляжала бліскучая фарба, а твар, збялелы, застылы, павольна павярнуўся ў той бок, дзе сядзела дачка. Бацька заморгаў

вейкамі — так дробненька, быццам на яго дзьмуў моцны вецер.

— А гэта што яшчэ за самадзейнасць?..

— Маман, ён добры, працавіты... модны. І грошай у яго шмат, па рэстаранах водзіць. Нават ордэн ёсць, за Афганістан...

— Ніякіх Славікаў каб я тут не бачыла!

— Табе, дачка, трэба канчаць кансерваторыю! — павышаным голасам сказаў бацька — такім тонам з дачкою ён яшчэ ніколі не размаўляў.

«Ну, чаму так атрымліваецца? — пакутліва думаў я, не слухаючы спрэчку сястры і «дарагіх продкаў».— Навошта гэтыя натацыі, павучанні даросламу чалавеку, які сам павінен вызначаць сваё месца сярод людзей, мець свае адносіны да зла і дабра? Няўжо ва ўсіх так? А можа, гэта адно ў тых двух дзесяткаў людзей, якіх я добра ведаю і якія складаюць так званае кола знаёмых Кірыльчыкаў?»

У гэтым коле знаёмых круціўся і Генка Буданец, мой сябар, калі можна назваць сябрам чалавека, з якім зрэдчасу сустракаюся, каб пасля, развітаўшыся, не думаць пра яго да наступнай сустрэчы. Зрэшты, як гэта ні крыўдна, і Генка забываў на мяне і ўспамінаў адно тады, калі яму патрэбна была мая дапамога. Вось і ўчора пазваніў: «Давай збяжымся». І я прыйшоў на заўсёднае месца — да кінатэатра «Цэнтральны». Генка ўжо чакаў мяне — калі мае просьбу, прыходзіць раней. Даўгалыгі, з моднай чорнай барадою на бледным, худым твары.

— Выручай, сябрук,— сказаў ён адразу, падаўшы халодную руку.— Ноч не спаў, перажываю...

— Што, нейкая шмотка сніцца? — спытаў я з іроніяй.

— Няхай бы так! А то ж...— сарамліва, як дзяўчына, апусціў вейкі, і цень быццам падоўжыў іх.— Без твайго бацi не абысціся. Павязалі нас учора... у «Журавінцы». Зачапіў там адзін Воху ў туалеце, ён і не стрымаўся... ты ж, мабыць, яго ведаеш? Псіх, наркаман... Міліцыя, дружыннікі нахапіліся, склалі акт. Прыйдзе на інстытут — сам ведаеш, чым пахне... апошні курс.

— Даскакаўся... Гэты фінал, відаць, не назавеш выпадковым: віно, дзяўчаткі...

— Філасофію, Паша, потым...— Генка надзіва рахманы.— Лепш падумаем, як выбавіцца з бяды. Я ж цябе, ты ведаеш, паважаю. І сястрычку тваю кахаў...

— Я пагавару з бацькам, хоць цяпер і нелады ў мяне з ім... Але што ты далей будзеш рабіць без мяне?

— Як «без цябе»? — насцярожыўся Генка.

— Вельмі проста. Я ж размяркоўваюся на перыферыю.

— Ты?— Вочы ў Генкі пакруглелі, і па яго шчырым здзіўленні я зразумеў, што ён сапраўды быў высокай думкі пра мяне.— Ты — на перыферыю?

— Уяві сабе,— сказаў я спакойна, з важкасцю.

—Таксама выпадковасць?— Падобна, Генка ўжо шкадаваў не сябе, а мяне.

— Уласнае жаданне.— Я па-ранейшаму быў спакойны.

— Не жартуй. У чым справа?

— Мінск ад мяне нікуды не ўцячэ, а вось пажыць аднаму — цікава. Разумееш? Ці-ка-ва. Я — заяц, якога знайшлі ў лесе і вырасцілі ў клетцы.

— Дзіўны ты, Паша! Хіба тут не цікава?

— Дык пад крылом сваіх продкаў я адчуваю сябе... як тут сказаць? Няўтульна, ці што.

— Не разумею цябе, гавару шчыра...

— Гледзячы якую мэту перад сабою ставіць.

— У кожнага разумнага чалавека мэта адна, Паша,— пражыць жыццё прыгожа, упэўнена, з гонарам.

— Прыгожа... за кошт іншых?

— Бацькі — гэта не «іншыя».

— Якраз іх апека не дае нам самастойнасці, мы не ведаем жыцця, людзей... Хапаем толькі вяршкі. Ты не журналіст і, можа, табе гэта не так важна.

— Ёсць простае разуменне людзей: людзі — гэта іх пасады.

— Каб жа так...

— А што? Ты ж бачыш: я звяртаюся да твайго бацькі, а не да свайго, вагонарамонтніка.

— Ну, так бы не кожны зрабіў...

— А я раблю і прашу цябе, хутчэй пагавары з бацькам.

— Разумею,— сказаў я ціха, думаючы цяпер не толькі над Генкавай бядою, але і над тым, што, здавалася, было цвёрда вырашана. Генка зноў развярэдзіў душу, і мяне апанавалі сумненні.

Гэтую спрэчку з сябрам я не хацеў успамінаць, але тады-сяды, як тая стужка ў магнітафоне, яна пракручвалася ў маёй памяці. І вось цяпер недарэчы загучаў у вушах Генкаў голас, а мне і так было цяжка сядзець за сталом, слухаць, што скажа маці...

— Ну, дык што, Паўлічак? — Маці кранула мяне за локаць і насцярожылася, здзіўленая маёй задуменнасцю. Паўлічкам маці называе мяне тады, калі звяртаецца з просьбаю і не ўпэўнена, што я адклікнуся.

Я схамянуўся, падняў галаву. Сястры за сталом не было, са спальні чуліся яе ўсхліпы.

— Маці, няўжо ты не адчуваеш?..— толькі сказаў я і выкуліўся з-за стала. Пайшоў прэч такой рашучаю хадою, што ў серванце пераліўна зазвінеў крышталь, а дыван на падлозе пабраўся гарбякамі — там, дзе ступалі мае ногі.

А потым, праз два дні, маці прыйшла ўвечары не адна, а з ёй, Лідай Цяцерынай. Я акурат сядзеў перад тэлевізарам, глядзеў футбол. Убачыўшы сваю «суджаную», я не мог стрымаць усмешкі. Такая нафуфыраная, наструненая, што, здаецца, дыхні — і яна не ўтрымаецца на нагах, узаўецца ў паветра. Тварык маленькі, шчочкі бела-далікатныя, а вочы — вялікія, блакітныя — плюскаюць, як у лялькі.

— Знаёмцеся, калі ласка.— Маці падвяла яе, усю пакорлівую, слухмяную, да мяне.

— Павел.

Яна працягнула мне далоньку, падкусіла ніжнюю ярка напамаджаную губу і, трошкі падагнуўшы ў каленях ногі, праспявала:

— Лі-дзі-я,

«Якая яна спешчаная! — падумаў я.— Шкада яе...» — І зноў расчараваўся ў знаёмых сваіх продкаў.

На размеркаванні я назнарок папрасіўся ўсё-ткі ў «раёнку». Члены камісіі здзівіліся, калі я рашуча адсунуў убок паперыну-запыт (пастараўся бацька!), якую дастаў з-пад сукна старшыня. Я хацеў аднаго: пачаць жыццё на новым месцы, сярод незнаёмых людзей і самому ва ўсім разабрацца. Ці пан ці прапаў, як кажуць. Мяне зусім не палохалі цяжкасці, я не баяўся нават смерці, а былі імгненні, калі мне здавалася, што лепш загінуць у імя нейкай мэты, чым змарнець, завяць душою.

І цяпер, бываючы амаль штодня ў раз'ездах па раё-

не, я адкрываў для сябе зусім новы свет — вёску з яе цёмнымі драўлянымі хатамі, буслянкамі на дрэвах, на сянажных вежах і нават на электрычных апорах, з зялёнымі, забронелымі лужынамі; людзей, апранутых проста, у рабочае, і зусім рэдка — прыбраных, але заўсёды адкрытых, дасціпных і той жа час хітравата-кемлівых; усякія травы, кветкі, птушак, звяроў, казюлек... Мая душа прагна заграбала ўсё, імкнулася да ўсяго — і не толькі праз радасць, але часам і праз страх.

* * *

...Я ачнуўся ад голасу.

— Мабыць, Веру чакаеце? — Паджылая, год за шэсцьдзесят жанчына пільна прыглядалася да мяне глыбока запалымі вачыма, адно з якіх было крыху прыплюшчана, быццам на ім сядзеў ячмень. Побач стаяла маленькая дзяўчынка, падобная на тую, што пыталася ў мяне, да каго прыехаў, адно і розніцы, што ў гэтай быў на макушцы вялікі бант з ружовай стужкі, канцы якой былі абпалены і заплавіліся ў чорныя макулінкі.

Яны гналі гусей.

Жанчына трымала ў руцэ тонкі лазовы дубчык і раз-пораз лёгенька пасцёбвала ім па сваёй загарэлай лытцы — на ёй заставаліся светлыя, як ніткі, пісягі.

— Ага, Веру Дзям'янаўну чакаю,— адказаў я, гледзячы то на жанчыну, то на белых як снег гусей.

— Нямаш яе, хлопча, паехала ў горад. Вызвалі там нешта... Яна і казала, ды я прапусціла міма вушэй. Ці ўсё запомніш?

«А як жа тады дзверы?» — падумаў я і сказаў:

— Дык яна, відаць, ужо вярнулася. Дзверы незамкнутыя, я бачыў...

— А мы тут не запіраемся,— усміхнулася жанчына, і вочы яе паяснелі, заблішчалі,— давяраемся...

«Дзіўныя людзі...»

— Ты хто ёй будзеш? — пацікавілася жанчына, яшчэ больш прыплюшчыўшы левае вока.

— У мяне справа да яе. Я карэспандэнт...

Жанчына адразу неяк пастражэла, знерухомела, нават, здалося, пацямнеў твар.

— А-а-а, карыспадзент!..— наблізілася да мяне і здалася яшчэ больш старою: шчокі друзлыя, маршчы-

ністыя, ступні ног — шырокія, жылаватыя, а пальцы тонкія, з зеленаватымі пазногцямі.— Колькі-та ўжо часу?

Я адсунуў левае рукаво кашулі, глянуў на гадзіннік.

— Пачатак другой.

— То павінна з мінуты на мінуту падбеч. Ёй у чатыры на хверму. Яна мне наказвала: калі да абеду не будзе, дык парсюку каб замяшала. Пагуляйце трохі. Гыля, гыліня дахаты!— замахала яна дубчыкам і падалом спадніцы на гусей.— Куды, каб вас пярун паклаў!.. Гані іх, Люсічка, гані, дзетка, двору.

Мне ўжо надакучыла кружыць каля хаты, вырашыў прайсціся за ваколіцу. Хат праз пяць завулак скончыўся, дарога вымахнула на выган. Ён ляжаў шырокім зялёным дзірваном, зрэзаны глыбокімі каровінымі сцежкамі. На далёкім краі рос густы алешнік і прасветлінай насярэдзіне — там быў асушальны канал, абапал якога скругленымі выспачкамі ляжаў белы балотны жвір.

Я павярнуў улева — на сцежку. Глянуў удалеч — і серабрыста-белае ззянне асляпіла мяне. Каля фермы стаялі дзве аграмадныя сянажныя вежы. Няўклюднымі, змрочнымі побач з імі здаваліся цагляныя, крытыя шыферам кароўнікі.

Зноў успомнілася Вера Дзям'янаўна. Як пачаць з ёй размову? І дзе хаваецца тое «але», пра якое намякнуў заатэхнік? Фантазія ўгодліва малявала мне маю будучую размову. Яна ўяўлялася мне выганам, шматзначнае заатэхнікава «але» — купіны на ім. Сам я, журналіст, з завязанымі вачыма стаю на краі выгана і трымаю на галаве крыштальную вазу — задуму свайго нарыса. Каб сабраць факты, трэба, мінаючы купіны, прайсці на другі канец выгана. А зачапіўся нагою — і...

Гэта быў першы выпадак у маёй беднай журналісцкай практыцы, калі я наперад ведаў, што ў жыцці героя ёсць нейкія таямнічыя моманты. І не тыя, якія са шчырым жаданнем вывуджваюць журналісты, каб потым удала закруціць сюжэт. А тыя, якіх трэба асцерагацца, абыходзіць, а калі і закранаць, то вельмі далікатна, каб чалавек не думаў, што табе загадзя пра ўсё вядома, інакш не будзе шчырасці і даверу ў размове. Ва ўсякім разе, мне так здаецца.

Зусім іншае, калі пачынаеш размову, як кажуць, на голым месцы, ведаючы толькі прозвішча. Тады па ходу арыентуешся, адчуваеш, які жыццёвы паварот праясніць, удакладніць, а калі бачыш, што чалавек, сустракаючыся з тваімі вачыма, хавае позірк, не трэба лезці ў душу, яе варушыць. Не была б чалавечая душа такая багатая, калі б жыла толькі тым, што ўсім відаць, калі б не былі ў ёй свае таямніцы, калі б не кроіла сябе дакорам і сумненнямі на адзіноце.

І я зноў пашкадаваў, што ні кропелькі не распытаў у Івана Лявонавіча пра лёс сваёй гераіні. Але толькі на міг уявіў ціхія, па-юначы сарамлівыя заатэхнікавы вочы, як шкадаванне прапала і больш не напамінала пра сябе.

«Трэба даходзіць да ўсяго самому, а не браць гатовенькае. Сам жа да гэтага імкнуўся...»

Я паспрабаваў паставіць сябе на месца Веры Дзям'янаўны, вясковай жанчыны. Так, жыве адна... Мужа няма... А дзе муж? Можа, тут тоіцца ключык ад гэтага «але»? Дык жа пра мужа можна не пытацца, хоць у чалавечай біяграфіі любая дробязь важная. І Вера Дзям'янаўна так будзе думаць: што я павінен пытаць толькі пра яе асабіста, а не пра мужа і нават не пра сям'ю.

У мяне, нарэшце, адлягло на сэрцы, і я нечакана пачуў спеў жаваранка. Захлёбісты, заўзяты, як у сакавіку, пасля выраю. Задраў галаву ўгору, але колькі не ўпіваўся вачыма ў каламутную сінь неба, спевака не заўважыў. Мусіць, надта высока ўзняўся, або наадварот — лятаў недзе побліз, трымцеў над зямлёю, а я шукаў яго ў вышыні. Усё роўна было радасна, і я доўга слухаў жаваранка, хоць і не бачыў яго.

...Весніцы ў двор былі расчынены, і толькі цяпер я згледзеў на іх паштовую скрынку. Дома!.. Я пачуў, як у сенцах суха шчоўкнула восілка вядра, палілася вада — звонка, як з ручайка ў крыніцу.

Пачуўшы мае крокі, з-за дзвярэй выглянула жанчына. Трохі як быццам схамянулася, а потым, усміхнуўшыся, сказала здзіўленым голасам:

— Во, госці!..

— Добры дзень!— Я таксама збянтэжыўся.

Жанчына была святочна адзетая — у жоўтай шаўковай блузцы, цёмна-сіняй спадніцы; белай у сіні гарошак касынкай былі падвязаны доўгія чорныя ва-

ласы. Калі яна ўсміхалася, бліскалі здаровыя, зусім маладыя зубы.

— Я з газеты,— адрапартаваў я.— Вас жа ўзнагароджваюць... за працу, дык вось...— І адно тут спахапіўся, што лішняе сказаў: рэдактар прасіў пакуль не гаварыць даярцы пра ордэн. Яго задума была ў тым, каб разам з Указам надрукаваць у газеце і нарыс і казырнуць перад усім раёнам сваёй аператыўнасцю. Зноў падвяла мяне мая нявопытнасць.

— Ага... добра... А я во ўходжваюся, толькі з горада. Бюро было...— Пастаранілася, даючы мне праход.— Калі ласка, у хату заходзьце. Я хуценька...— адчыніла хатнія дзверы.— Во і парадку тут няма. Спяшалася ўранні, ляцела на аўтобус...

— Нічога страшнага,— пайшоў я на выручку гаспадыні.— Цяпер у вёсцы гарачая пара...

— Ага, ага,— заківала галавою жанчына.— І работы процьма, і часу таго няма, каб культурна ўсё было. Вы не саромцеся, сядайце, калі ласка...— Выцягнула з-пад стала жоўтае крэсла з чорным цыратовым сядзеннем.— Я зараз!..— Выбегла з хаты рухава, з прыгожай жаночай увішнасцю.

Дарэмна хвалявалася гаспадыня. Тут, у пярэдняй палавіне, было чыста, прыбрана. Ад парога да ашпаleранай дашчанай перагародкі ляжала зялёная, у аранжава-сінія палоскі, дарожка. Блішчала памытая падлога. Печ была нядаўна пабеленая, пахла вапнаю. Каля праходу на кухню стаяў буфет, за тоўстым зеленаватым шклом роўнымі рабрыстымі стосамі, як пшанічныя блінцы, бялеліся талеркі. На плеценай з палакіраваных лазовых дубчыкаў этажэрцы ляжалі кнігі і газеты. Я падышоў, каб узяць пачытаць газету, і ўбачыў праз акно на двары гаспадыню. Яна несла да хлява таз. За ёю белай лапатлівай чарадою беглі куры.

У хату яна вярнулася трохі растрывожаная.

— Павінен дождж пайсці, з громам будзе... Такая засуха!

— Ага, я таксама заўважыў.— Я круціў у руках газету, яна ўжо была мне непатрэбна.

— Трохі спастылееў, амаль кожны дзень...

Жанчына мітнулася на кухню. Пачуўся стук тупога драўлянага аб падлогу — пэўна, яна падставіла пад ногі табурэтку. Ляпнулі, тонка віскнуўшы, металічныя дзверцы юшкі.

— Але,— сказаў я,— як зачаў ужо, дык бесперастанку.

— Во-во! — Гаспадыня, спаласнуўшы пад мыцельнікам рукі, выцірала іх белым ручнiком — мне відаць былі з-за печы адно рукі і ручнік.— А тут жніво падпірае, сёння на бюро гаварылі... Жыта сёлета ўрадзіла, дарма што вымакла там-сям. Цяпер каб толькі ўбраць...

— Ды і сена не дае сушыць. Як на сянаж, дык не бяды, а сена...

— Вы, я бачу, правільна талкуеце,— здзівілася гаспадыня і аж паружавела за сваю адкрытую пахвальбу.— Мусіць, з вёскі родам?

— Не, з горада я. З Мінска...— Я не мог адвесці ад жанчыны вачэй — яна, з ружовасцю на шчоках, была прыгожая. Нейкая не па-вясковаму прыгожая. Твар быў роўна крануты загарам, на ім, здаецца, не было маршчын, толькі ад куточкаў вуснаў беглі ўверх дзве глыбокенькія разоркі. Над верхняй, як бы прыпухлай, губою срабрыўся лёгкі белы пушок, быццам жанчына піла пеністы сырадой і не выцерлася.— Працую ў газеце, дык трохі начуўся пра вясковыя справы. Вось і да вас прыехаў... Я ўжо ведаю, як вас завуць, а мяне завіце Павел.

Гаспадыня памкнулася нешта сказаць, але я здагадаўся, што яе турбуе, і заспакоіў:

— Нічога, нічога, проста Павел. Я ж па узросту для вас — сын.

— Ды ўсё роўна ж неяк няёмка. Вы чалавек паважаны, з рэдакцыі...— Яна падсела да стала, ледзь прыкметным рухам абцягнула на калені спадніцу.— Ну, дык як вас велічаюць?

Я ўжо даўно заўважыў, што карэспандэнт для вясковага чалавека ледзь не самы вялікі начальнік, амаль бог, які можа і караць, і мілаваць. Гэта мяне здзіўляла, і па вачах Веры Дзям'янаўны я бачыў, што яна не адстане, пакуль я не назавуся афіцыйна.

— Павел Васільевіч Кірыльчык,— прамовіў я хуценька, як бы між іншым, і каб загладзіць няёмкасць, тут жа сказаў: — Вось ён і хоча пра вас напісаць...

У Веры Дзям'янаўны зноў паружавелі шчокі, а вочы, сінія-сінія, як валошкі пасля цёплага дажджу, заблішчалі свежа і па-маладому.

— Я не адна перадавічка. Вунь Ева Рогаль, Надзя

Крушная ўжо даўно працуюць... Шмат у нас добрых даярак. Вось пра каго-небудзь з іх і напішыце...

— А вы, як кажуць, лепшая з лепшых,— не разгубіўся я.

— Нічога не лепшая. Гэта во якраз група ў мяне раздаілася, у самую сілу ўвабраліся кароўкі. Летась першацёлак прыняла, дык павалэндалася з імі, пакуль да ладу давяла.

— А як вы на ферму прыйшлі? — спытаў я, ведаючы, што гэтага традыцыйнага журналісцкага пытання ніяк не мінеш.

— Даўно, даўненька было...— Вера Дзям'янаўна ўздыхнула, глыбока, з усхліпам.

### Успамін другі.
### СУМНЫ ЖНІВЕНЬ

Маленькія, застаўленыя шклінаю акенечкі ледзь упускаюць у хату ранішняе святло. На дварэ ўжо, мусіць, узялося на відно, а тут, у хаце, густы змрок. Верка спіць на палку — дашчаным насціле, што між печчу і процілеглай сцяною, у якую ўпіраюцца Верчыны ногі.

Ранішнія сны — салодкія. Але Верка заўсёды прачынаецца разам з маці. Не, патрэбы ў гэтым ніякай няма. Проста яна прывучылася чуйна спаць. Як толькі маці заперхае, заварочаецца на печы, потым звесіць і паставіць каля яе галавы ногі, каб саступіць на дол, у Веркі самі расплюшчваюцца вочы. Маці не відаць, бо цёмна, але Верка ведае, адчувае, што гэта маці.

— Ужо на ферму, мама? — Голас у Веркі ціхі, млявы — дзіва што спрасонку.

— Спі, дачушка, яшчэ рана...— Маці папраўляе дзяружку, натыкаецца рукамі на Верчын твар. Рукі ў маці шорсткія і нясмачным пахнуць. Мусіць, гэта пахнуць тыя цёмныя трэшчынкі, што не вымываюцца нават у лазні. Але Верцы ўсё роўна падабаецца адчуваць ласкавую цеплыню матуліных рук — шчокамі, ілбом, вуснамі...

І сёння Верцы гэтаксама, як учора, пазаўчора, тыдзень, месяц, год назад, хочацца, каб маці патрымала трохі даўжэй свае рукі на яе твары. Але маці няма часу песціцца з ёю, трэба ісці на ферму. Верка разумее гэта і не крыўдуе.

Маці адзелася, апранула ватоўку — і Верка асталася адна. У хаце цёмна, і боязна, што хто-небудзь страшны ўбачыць яе ў акенечка, і яна нацягвае на галаву дзяружку. Дзяружка кароткая і на ногі яе не хапае, яны голыя. Верка сцішваецца. І сніцца ёй сон, яна нешта мармыча, водзіць рукамі.

...Шырозны, бяскрайні луг. Трава зялёная-зялёная, як маладая вясноўская рунь. Ярка асветленая сонцам, ажно рэжа ў вачах. Бліскучымі шклянымі пацеркамі рассыпана па траве раса.

Верка, лёгкая, у белым плацці, выбягае на луг — калючы холад апякае ёй ногі да самых калень. Яны дзеравянеюць і не хочуць бегчы. Яна стараецца з усіх сіл, але крокі запаволеныя, плаўныя, як у вадзе. А там, на далёкім краі, куды яна імкнецца, цэлае мора кветак, белых, чырвоных, сініх, аранжавых...

І жудасна Верцы, сцінаецца сэрца: а раптам хто-небудзь, злы, нахабны, апярэдзіць яе, пазрывае, патопча ўсе кветкі. Няўжо яна, васьмікласніца, прыйдзе ў школу першага верасня з пустымі рукамі, як хлопцы, без букета? Холадам напаўняюцца грудзі, Верку быццам падхоплівае вецер. Лёгка, як парушынку, нясе, нясе ўдалеч, туды, дзе неба спадае на ўквечаную зямлю...

Верка выпроствае ўперад рукі, усміхаецца цёпламу сонцу, ружовым, у чорныя кружочкі, мятлушкам, што пырхаюць вакол яе, казытліва кранаюцца мяккімі крыльцамі твару. Вось-вось яе рукі сарвуць рамонак, ужо бачаць вочы жоўтую «капеечку» ў акаймаванні роўных бялюткіх зубчыкаў, вузенькія, як школьнае пяро, мокрыя лісцікі. «Ага-а-а!..» — Верка апускаецца на зямлю і замірае ад страху: з усіх бакоў да яе сунуцца вялікія рагатыя пачвары, лыпаюць круглымі, што яблыкі, фіялетавымі вачыма.

«А-а-а-а!..» — аддаецца недзе далёка, за сінім небам яе жудасны крык.

Верка ўсхопліваецца, дрыжыць, як у ліхаманцы. Вочы залівае салёны пот. Накрывае дзяружкаю халодныя як ледзяшы ногі. Сагрэўшыся, думае-гадае пра сон...

Які страхотны прыплёўся. Сэрца ніяк не супакоіцца, грукоча. І трэба ж во перад самаю школай. Па кветкі на луг... Гэта ж даўней хадзіла, з дзяўчатамі. А цяпер яна свае гадуе ў агародчыку.

Яна пераводзіць позірк на акенечка і жмурыцца:

жоўтым квадратам лажацца на падлогу сонечныя прамні. На дварэ ясная, ціхая раніца, адна з тых, якія нярэдка выпадаюць у канцы жніўня.

Верка саскочыла з палка, апранула вялікаватую, матуліну, сукенку. Уходжвацца добра і такая, хто яе тут надта ўбачыць. Узяла з пячуркі і нацягнула на ногі цёплыя вязаныя шкарпэткі, а тады ўступілася ў шыракаватыя ў халявах буркі.

З маладою гнуткасцю, соладка пацягнулася, выпнуўшы тугія пагурачкі грудзей. У такой позе пастаяла, раздумваючы, за што ўзяцца. Але раптам, як пра нешта пільнае ўспомніўшы, рванулася да дзвярэй і вышмыгнула на двор.

Паветра было свежае, чыстае, сонца сляпіла Верцы вочы, і яна засланілася далоняю. Каля свіной пуньскі, збітай з аполкаў і старых дошак, скрозь дзіравай, стаяла на адной назе брудная белая курыца і, патрэсваючы галавою, глядзела на Верку. Крыху воддаль, дзе стыкаецца плот агародчыка з вуглом хлява, нахілілася сталюга з адламанай ножкаю, на адным рагу якой вісіць зялёны ад травы лазовы кош, а на другім — закарэлая ануча.

Верка звярнула ў агародчык; адхінуўшы дзве непрыбітыя ўнізе частаколіны, нырнула ў дзірку, але зачапілася сукенкаю за цвік. «От, няўклюдная!..» — абурылася сама на сябе, але вочы ўжо заіскрыліся ціхай радасцю: паўз хату буйна чырванелі раскрытыя парасоны гладыёлусаў, струменілі мядовы пах, акурат разумелі, што зусім мала асталося ім красавацца ў сонечным святле.

Верка прысела наўколенцы, дакранулася пальцамі да ядранага і шырокага, як пранік, ліста, потым пяшчотна, быццам лавіла пушынку, ахінула далонямі кветку. Заглянула ўсярэдзіну парасона: пялёсткі былі ў жаўтаватых крапінках пылку, каля іх пазбіраліся кроплі расы, пераліваліся і варушыліся, акурат жывыя. Навастрыла вочы: у кроплях грэбаліся, перабіралі, лапкамі дробненькія чорныя жучкі. Яна дзьмухнула на кветку — кроплі рассыпаліся, а мокрыя жучкі пацягнулі за сабою вільготныя нітачкі-сляды. Верка спахмурнела, быццам жучкі былі вінаваты, што ласуюцца пылком, а цяпер вось забруджваюць ранішнюю чысціню гладыёлусаў. Ёй прыгадаўся сон, і плечы сцепануліся, акурат на іх упалі халодныя пырскі дажджу.

Верка ўскочыла на ногі, паляпала далонямі па ружовых каленях, у якія ўплішчыўся пясок, карэньчыкі травы і дробныя былінкі. Стаяла задуменная...

Сёння ўвечары яна назразае гладыёлусаў, зробіць прыгожы-прыгожы букет, усім на заглядзенне. Паставіць яго ў гладыш з вадою, а заўтра з гатовенькім пойдзе ў школу. Верка ўявіла, як абрадуецца настаўніца, як расчулена заблішчаць яе вочы, калі яна, Верка, падпясе ёй букет.

Верцы ўжо не хочацца гаспадарыць, так надакучыла кожную раніцу рабіць адно і тое ж. Карціць пагойсаць па сонечным двары, па вуліцы, злётаць на выган, дзе цяпер аж чорна ад шпакоў, падурэць, памарыць у салодкай сцішанасці...

Галоднае, занудлівае ныццё парсюка ў пуньцы вывела Верку з задуменнасці. Яна пабегла ў хату. Хапіла на пяколку запалкі, усчыркнула адну, нахілілася над загнетам, ажно прыпаднялася на дыбачкі, і падторкнула агеньчык пад дровы. Маці яшчэ з вечара паставіла ў печ вялізны — Верцы не падняць — чыгун з пасечаным зеллем, склала клетачкаю дровы і падсунула пад іх жоўтую смаліну — на распалку. Смаліна ўміг затрашчала, спавілася чорным смуродлівым дымам. Дровы неахвотна бяруцца гарэць, сіпяць — нядаўна рэзаныя, сырыя, хоць і праляжалі ноч у печы.

У качарэжніку стаіць кош з бульбаю. Верка паднесла туды ўслончык, наліла ў алюмініевую, выплаўленую з абломкаў самалёта міску вады. Узяла нож з абламаным мысам і села абіраць бульбу. Тоненькай суцэльнай стужачкаю цягнецца з-пад пальцаў шалупайка.

Верка плёхае бульбіну за бульбінаю ў ваду — пырскаюць на ногі халодныя кроплі. Рукі ў яе мільгаюць імкліва, як ластаўкі.

«Хопіць»,— Верка перамыла бульбу, памяняла ваду і зноў перамыла. Пакідала бульбу ў невялікі закураны чыгунок і наліла свежай вады.

Дровы тым часам угарэліся, гнуткае полымя чырвоным языком лізала жарало печы, рвалася ў комін, аж стагнала. Раз-пораз на загнет выляталі вугольчыкі, на вачах цямнелі, дыміліся. Верка ўзяла вілкі і засунула чыгунок далёка ў печ — хацела, каб хутчэй зварылася бульба. У самой пад грудзямі смокча, і маці неўзабаве павінна вярнуцца з фермы.

Яна села на доўгую вузкую лаву, што цягнецца ад стала да самага кута, дзе абразы, угледзелася на трапяткое, вясёлае полымя. Вачам цёпла, і ад водбліску яны, мусіць, чырвоныя, як вуглі.

І чаму ёй такі сон прысніўся? Прыгожы і страшны. Здаецца, яшчэ ніколі не сніла такіх прыгожых, каляровых сноў. А тое страхоцце рагатае? Адзін жах!.. Верка закрыла далонямі вочы — твар гарачы-гарачы. Во, яшчэ ж не мылася сёння, нямыцька!.. Яна падбегла да цэбра, які стаяў у куце каля парога. Зачэрпнула konаўкаю вады, вымыла рукі, спаласнула твар. Доўга выціралася саматканым шорсткім ручніком.

Потым асцярожна, быццам украдкай, падышла да вялізнага куфра-сундука, што стаіць пад палком, на якім яна заўсёды спіць і на якім сніла сёння прыгожа-страшны сон. Ухапілася рукамі за рагі вечка, уперлася — куфар падаўся. Адкрыла яго і дастала белую, у буйныя сінія васількі, сукенку. Сукенка новая, неадзяваная, і Верка асцярожна трымае яе ў руках. Яна колькісь часу пяшчотна і стоена перабірае пальцамі гладзенькі, бліскучы крам, потым прымервае сукенку да сябе. Крутнулася туды-сюды, зірнула на ногі, ці доўгая. Хіба так убачыш? Яна сцягнула з сябе матуліну апранаху, споднюю палатняную сарочку і, захінаючы локцямі маленькія вастранькія грудзі, акунулася ў казытліва-ласкавы халадок адпрасаванай качулкамі сукенкі. Правяла рукамі па грудзях, жываце, колькі дастала — па спіне: «Якраз на мяне, у абліпачку!..» Яна зажмурылася, сашчапіла пальцы рук і захісталася ў салодкай летуценнасці...

Бразнула клямка дзвярэй — і Верка здрыганулася. У хату зайшла маці. Твар яе, загарэлы, учарнелы ад працы, быў зямліста-шэры, пабляклы, глыбока запалыя вочы цьмяна бліішчалі. Верка засаромелася, што маці заспела яе за такім заняткам.

Маці цяжка апусцілася на лаву, прыхінуўшыся плячом да стала, збітага з негабляваных шалёвак. Глянула як быццам мелькам у печ і паднялася — не хуценька, як заўсёды, а неяк бездапаможна, запаволена.

— Ну во-во, занялася гэтым плаццем, а бульба выкіпела!..— сказала глухім, надта чужым голасам, але без крыўды і злосці.

— Вой! — Верка зачырванелася.— Зусім забыла...— Кінулася да вілак.

— Вымажаш плацце,— апыніла яе маці.— Пераадзенься.

— Я асцярожненька.

— Не сунься, каму сказала!..— Маці палезла вілкамі ў печ, дастала чыгун. Верхнія бульбіны падгарэлі, узяліся чорнымі пенкамі.

— Мамк, дай я сцаджу хоць.

— Ідзі адгэтуль, а то во трапкачом зараз. Нешта ўседні табе няма сёння.

— Заўтра ж у школу, мама!..

— Заўтра?..— папярхнулася маці і быццам спалохана глянула на дачку.

— Так, мамачка!

— А-ага, заўтра, я і забылася... думала...— Вочы ў маці разгубленыя і не знаходзяць, за што зачапіцца.— А свіное варыва даўно кіпіць?

— Ужо ладнага, спарылася...

— Тады буду вымаць... Падсунь бліжэй ражку.

— Зараз во, толечкі перамяняю сукенку, а то ж сама сварылася, што вымажу.

Верка хуценька пераадзелася, схавала зноў у куфар сукенку. Выцягнула з-пад лавы цяжкую, з доўгімі прадзіраўленымі вушамі ражку.

Маці, вохкаючы, выняла з печы чыгун-вядзернік. Каб не апячы рукі, абкруціла яго чорнай, завэдзганай суконкаю і нахіліла над ражкаю. З гарачага чэрава чыгуна хлюпнула-вывалілася рудое перапрэлае зелле, ад якога густа, у самую столь, паваліла зеленаватая пара.

— Вой! — ціха войкнула маці і, не разагнуўшыся, узялася рукамі за паясніцу.— Нешта занемагла я, Вера... Млее так усяродку. Яшчэ на ферме адчула... І ўставала сёння няхоцццю...— Яна зморшчылася.

— Прыляж, мамка, я сама цяпер даканчу.

— Укусі чаго...

— Парсюку замяшаю, каб не знібеў, тады ўжо.

— Ну хіба што, а то сцяну як не прагрызе знібоцце тое.— Маці, згорбленая, пацюпала да палка. Трохі пастаяўшы, разулася, затым паволі ўскараскалася на ляжак. Глыбока ўздыхнула, ажно войкнула.

Стома, слабасць кружылі галаву, і столь, сцены хадзілі перад вачыма ходарам. Яна намагалася сцішыць

сябе, супакоіцца, але ў галаву лез розны тлум з перажытых гадоў, вярэдзіў сэрца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Насця выйшла замуж позна, калі ёй пайшоў трыццаты год. Засядзелася, хоць і была дзяўчына пекная, зграбная, заядлівая на работу. А што яшчэ трэба хлопцу? Гужавалі каля яе кавалеры, адгробу не было ад іх. Ды, як заўсёды ў жыцці, з вялікіх выбораў — лапці ды аборы. Хто занадта доўга выбірае сабе пару, той абавязкова або ў пятлю ўлезе, як кажуць у народзе пра няўдалы шлюб, позна спахапіўшыся, што шчасце праплыло міма, або зусім астанецца ў бабылях ці векавухах. Праўда, Насця адзінокаю не асталася і ў пятлю не ўлезла. Знайшоўся ёй добры чалавек, родам ажно з-пад Смаленска. Звалі яго Дзям'ян Прызнайцаў. На катэры, што цягаў па Сажы баржы, ён працаваў грузчыкам. Судна зрэдчасу прычальвала да берага, і каманда ішла ў вёску на вячоркі, пагарэзаваць.

Зграбная постаць, спружыністая, дужая паходка, блакітныя і трохі раскосыя гарачыя вочы адразу прысушылі малінаўскіх маладух да Дзям'яна. І адно катэр «тýкаў» — падаваў сірэну, што прычальвае, яны кідалі ўсё, хто чым займаўся, і, цікуючы ўкрадкаю адна за адною, выходзілі на бераг.

Дзям'ян ніколі не прамінаў, каб не зачапіць.

— Ну, кто хочет стать моей барышней? Считаю до трех — один, два, три!

Ніхто з дзяўчат, вядома, не называўся. А па густа чырвоных шчоках, сарамліва-кароткім позірку вачэй было цяжка здагадацца нават вушламу ў дзявочых таямніцах Дзям'яну, хто ж усё-ткі ўпадабаў яго больш.

Насця прыходзіла на бераг апошняя. Мусіць, з-за таго, што была самая старэйшая сярод дзяўчат і не хацела выстаўляцца перад імі: маўляў, і мне трэба жаніх. Паказвала, што ёй проста цікава, весела ў дзявочай гурме тут, на беразе шырокага і чыстага Сажа.

Аднаго разу пасля сваіх «один, два, три!» Дзям'ян перастрэў Насцю каля самай вёскі, яна толькі што пералезла цераз прасла, матава бліснуўшы з-пад кароткай сукні паўнаватай, ужо зусім жаночай нагою, і павольным крокам ішла да ракі. Убачыўшы «катэршчыка», як празвалі Дзям'яна дзяўчаты, хуценька звярнула ўбок, каб размінуцца. Але ён нахабна пераняў яе.

— Я всю жизнь искал тебя, а ты меня игнорируешь. Разве так можно? — Нечакана прывабны блакіт вачэй, белазубая ўсмешка «катэршчыка», а больш за ўсё незнаёмае «игнорируешь» збянтэжылі Насцю, і яна разгубілася.

— А-а, я не ўцякаю...

Дзям'ян далікатна ўзяў яе за локаць. Насця адчула цяпло яго далоні, што дрыготкаю хваляю пракацілася па руцэ, захліснула сэрца.

— Если не удираешь, завтра я обязательно приплыву к тебе.

Праз тыдзень Дзям'ян Прызнайцаў пакінуў катэр, астаўшыся жыць з Насцяю. Праўда, напачатку тадысяды адлучаўся на дзень-другі з дому — на катэр: не мог забыць сяброў ды і з вольным маладзецкім жыццём не так проста было развітацца. Насці гэта не падабалася, і яна плакала, калі Дзям'ян прыходзіў бледны, з чырвонымі стомленымі вачыма. Ён гладзіў яе па галаве, як бацька дачку, суцяшаў: «Какие же на катере девки?» Потым непрыкметна засынаў, але спаў нядоўга, гадзіны праз дзве-тры падымаўся і быў здаровы і вясёлы, як заўсёды.

Годам пазней у іх нарадзілася дачка, якую назвалі Вера. Дзям'ян вельмі любіў сваю Вяруньку-«голубоглазку». Жыццё іх набрала спакойнае, роўнае цячэнне. Але там, дзе шмат радасці і шчасця, нярэдка падпільноўвае і ўрываецца адтуль, адкуль не чакаеш, злая бяда. Гэтаксама бывае і ў рацэ: на мелі часам тояць небяспеку крутыя ямы.

Пачалася вайна.

З фронту Дзям'ян часта прысылаў абтрэпаныя, замасленыя трохкутнічкі. А потым доўга не падаваў ніякіх вестак. Насця трывожылася і блага спала, як што прадчувала яе сэрца,— жаночае сэрца заўсёды адчувае бяду роднага чалавека наперад.

І вось — прыйшоў вялікі сіні канверт і засланіў сабою святло Насцінага шчасця, якое і без таго вайна зацямніла. Загінуў бацька, ехаў з Прапойска на кані і лучыў на міну. Як яна, гэта міна, асталася, толькі дзіву можна было давацца, бо перад гэтым Насця з сяброўкамі цягалі па шашы бароны. Мабыць, сам бог адвёў ад яе, маладой маці, бяду.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Мам, а мам, хадзі есці.— Верка тармаснула маці за рукаў.

— Вох, ці гэта я задрамала?..— разгублена залыпала яна вачыма.— Толечкі ж во глядзела.— Маці дакранулася гарачай рукою да Верчынай галавы, пагладзіла па валасах.— Еш адна, дачушка, я трохі паляжу...

Верка глядзіць на схуднелы матчын твар, сухія, нясвежыя вусны і адчувае, як горла распіраецца нечым калючым і даўкім. Яна ледзь стрымлівае сябе, каб не заплакаць: «Бедная мамка, так стамілася... Няхай толькі вырасту, нічога не дам ёй рабіць, усё сама буду. І карміць яе буду толькі аднымі белымі булкамі...»

— Ну, пайшлі, мамк, я з табою хачу есці.— Верка пацягнула маці за руку.

Маці ўздыхнула, з натугаю паднялася і саступіла босымі нагамі на земляны дол. Падыбала няцвёрда, неяк уроскід, быццам упіраючыся. Падэшвам, мусіць, было холадна, бо яна, калі села на лаву, паставіла нага на нагу — акурат дзіця, што хавае збіты палец.

— Во і хата наша без падлогі, зусім благая, маленькая...— Маці апускае вочы, а Верка так і цэліцца, каб злавіць яе позірк і паказаць сваю спагаду і жаль да маці.

— Мы пабудуем сабе новую хату, праўда, мама?

— Праўда, праўда, во толькі грошай назбіраем. Ды каб здароўе паслужыла...

На стале дыміцца параю жоўтая бульба, стаіць гладыш з малаком і міска маласольных гуркоў. Над імі кружацца і садзяцца на сцяну мухі, зліваюцца са сцяною.

Верка хрумстае крамяны гурок з бульбаю, запівае малаком. Вочы ў яе задуменныя, але жывыя, блішчаць, як мокрыя ягады.

— А ці скора мы назбіраем тых грошай?

— Ты б як хацела?

— Каб скора!..— Верка, хмыкнуўшы, глянула на маці: «Як быццам ты не ведаеш?..» — Тады і плаццяў сабе накупляем, многа-многа...

Маці вяла, без смаку, жуе бульбіну з падгарэлым бачком, нават не запівае малаком. Глядзіць на стол журботна, у адну кропку.

— Цяжка адной, дачка...— Маці ўздыхае.— Баба я...

У Веркі балюча сціснулася сэрца, хоць ты плач. Але ж плачам таткі не вернеш. Верка ведае, што ён загінуў на вайне. А мёртвыя не ажываюць. Гэта ж адно дзеці думаюць, што мёртвыя спяць. Дзеда, які на міне падарваўся, хавалі, дык яна торкала яму ў вочы пальцам і гаварыла: «Дзедзя... спацькі... ма!»

— Я табе буду дапамагаць, мамка.

— Дык ты ж во ў школу...— Маці неяк сутаргава ўсхопліваецца з лавы, ідзе ў качарэжнік, перабірае там дрыготкімі рукамі вілашнікі — жоўтыя, як вялізныя васковыя свечкі з чорнымі недагаркамі на канцах. Потым прычыняе юшку і доўга глядзіць у печ, мусіць, выглядае, ці курыцца дзе вугольчык.

— Ага, мамачка, заўтра ў школу! Ці прыгожая я была ў новым плацці?

— Прыгожая, якраз табе...

— Яшчэ букет сабе зраблю, вялікі-правялікі. Настаўніцы падару...

Маці неяк спінаю да Веркі таропка выходзіць з хаты. Верка дзівіцца і слухае, як доўга і дробна брынчыць клямка. Дзверы няшчыльна прычынены, і сонечнае святло, якое пранікае ў хату, здаецца шырозным залацістым палатном, павешаным невядома на чым і невядома на што. Верка з сумам глянула ў акенечка — яно ружаватае ад гладыёлусаў, якія растуць пад ім,— і выкулілася на двор. Тут цёпла і светла, не тое што ў хаце.

Маці, прыгорбленая, стаіць каля прасла, абапершыся на нізкі пахілены слупок, і як быццам плача. Плечы яе тузаюцца, акурат пад блузкаю варушыцца нешта жывое.

Верка, спалохаўшыся, падбегла да маці.

— Што з табою, мама? Баліць дужа?..

Маці падняла на Верку чырвоныя, у слязах, вочы; вусны яе дрыжэлі.

— Ці я ж цябе, дочачка, збівала б з пуці, каб жывы быў наш татка...

— А што мамк?..— У Веркі гулка застукала ў грудзях сэрца — падказвала, што маці за нешта вельмі перажывае.

— Можа б, ты, дачушка, кінула школу ды... п-пайшла на ферму са мною... Падсабляць. Ужо ж не маленькая. Дзякуй богу, пятнаццаты гадок...

Верцы залажыла вушы, і што маці гаварыла далей,

яна не чула. Адно бачыла, як крыва варушыліся яе сухія вусны, а па шчоках цяклі бліскучыя, як раса ў тым страшным сне, слёзы...

* * *

Хмара якраз ішла на хату — чорная, густая, яна, здаецца, праз акно залівала цемраю і хату.

Мяне растрывожыў аповяд Веры Дзям'янаўны. Думкі бязладна мітусіліся ў галаве і не хацелі выстройвацца ў зграбны парадак. Я ўжо ведаў, што так бывае са мною тады, калі нешта моцна ўзрушвае, і каб супакоіцца, патрэбен час, за які выпадковае, дробязнае адлушчваецца, акурат гліна з няўмела зробленага гладыша, а застаецца тое істотнае, што журналісты называюць жывінкаю.

Вочы ў Веры Дзям'янаўны блішчаць, цьмяна і сумна. Потым, мусіць, ад нечаканага душэўнага прыліву, імгненна загараюцца — здаецца, што сінь выцякае з вачэй, плавае перад тварам, прасвятляючы яго.

— Цяпер не тое, што раней!.. Цяпер абы здароўе служыла, дык рабіў бы, здаецца, увесь век. Новы кароўнік у нас, тыпавы завецца. Усё ў ім механізаванае. Адно знай падключаць да вымя апараты.

Я выняў з кішэні ручку і блакнот. Вера Дзям'янаўна коратка і быццам з насцярогаю глянула на мяне. Лёгенькая чырвань кранула яе твар. Я падумаў, што дарэмна выцягнуў блакнот, але хаваць яго было ўжо няёмка, і таму дзеля прыліку чыркануў у ім пару слоў.

Яна палажыла на стол рукі, сашчапіла пальцы і, злавіўшы мой позірк, засаромелася. Рукі ў яе былі вялікія, а пальцы тоўстыя і кароткія, пазногці круглыя, як рыбіна луска, і такія ж белаватыя. Я, адчуваючы, як хваля расчуленасці плёскаецца ў маё сэрца, ледзь не сказаў: «Дарэмна хвалюецеся, Вера Дзям'янаўна. У вашых руках у сотні разоў болей прыгажосці, чым у далікатнай далоньцы якой-небудзь гарадской фіфачкі накшталт Ліды Цяцерынай...» Але стрымаў сябе, прамаўчаў, думаючы, што сваімі словамі яшчэ больш збянтэжу Веру Дзям'янаўну. А на яе шчоках і так з кожнай хвілінаю гусцела мяккая ружовасць, быццам на счахлым вуголлі, калі падзьме лёгкі ветрык.

— Можа, вам цікава, дык можаце схадзіць на ферму, паглядзець, што ды як там...

— Абавязкова схаджу,— сказаў я, ужо ведаючы, што пісаць пра чалавека і не пабыць на месцы, дзе ён працуе, нельга... Пра гэта я чуў не раз ва універсітэце, пра гэта мне гаварыў у рэдакцыі мой загадчык Пятрунька.

— Толькі во нахмарыла. Дождж пойдзе...— Вера Дзям'янаўна, мусіць, адно цяпер заўважыла, што ў хаце пацямнела, быццам хто завесіў акно сіняй плёнкаю. Стала неяк ціха і напята-трывожліва, як заўсёды перад навальніцаю. Яна падышла да выключальніка, што чарнеў у вушаку, націснула на чырвоную кнопку.

Раптам коратка-суха грукатнуў гром, быццам хто ссыпаў за сцяною груду камення. Задрыжэла ў буфеце шкло, тоненька зазвякалі шклянкі, нібыта хтосьці нябачны далікатна чокаўся імі. У шыбы глуха забурбацелі кроплі дажджу, жывымі крывулінамі пабеглі па шкле — як срабрыстыя мурашкі.

— Пакуль перагоніць хмару, мы паабедаем. Вы ж, мусіць, не абедалі? — Вера Дзям'янаўна глянула на мяне — як лінула з вачэй пяшчотнага блакіту — так мне здалося, бо я назіраў за струменямі дажджу.

— Што вы! Не трэба. Я не хачу яшчэ...

Яна ўсміхнулася — так, што было відаць: не адступіцца, пакуль не ўгаворыць.

— Як гэта ў народзе кажуць? Абед на абед — не тое што кій на кій. Быццам так. Не саромцеся, я зараз, хуценька. А вы пакуль ідзіце ў тую хату, тэлевізар уключыце... але ж навальніца. Словам, займіцеся чым...

З чыстай паловы хаты я чуў, як ляскаў посуд,— гаспадыня хадзіла борздка, ступаючы на пяткі, а не на пальцы, як гарадскія жанчыны. На сцяне сумна цікаў вялікі насценны гадзіннік — за авальным мутнаватым шкельцам бліскаў жаўцізною круглы маятнік. Лявей, між акон, вісела вялікая рамка-партрэт. Я адразу пазнаў: яна сама, Вера Дзям'янаўна. А дзе ж яшчэ адна рамка? У сямейнай галерэі партрэтаў я прывык бачыць побач з астатнімі і мужчынскі — гаспадароў. Выходзіць, гаспадара наогул у гэтай хаце не было?

— Ну, не засумавалі тут? — зайшла Вера Дзям'янаўна, была яна ў цёмна-сінім пярэдніку, трохі карацейшым за спадніцу.— Давайце, калі ласка, за стол, перакусім трохі.

Я здзівіўся багатаму сталу, пляшцы з чырвоным

пітвом, што стаяла сярод талерак і місак. Яна злавіла мой позірк:

— Не палохайцеся, гасцей заўсёды прывучаюць. Не я гэта выдумала, дзяды нашы...

— Яно так, але няёмка неяк...

— Во, гэта добра, што не прагнеце піць,— пахваліла Вера Дзям'янаўна,— а то маладыя цяпер... і п'юць, і кураць брыду ўсякую. Але нічога, нічога! Не крыўдзіце мяне. Па кроплі трэба, гэта ў мяне наліўка з ягад.

Я выпіў чарку густаватай, як сіроп, вадкасці. Вера Дзям'янаўна адно памачыла вусны, нават не глытнула. Але зморшчылася — паказала, што і яна шануе кампанію.

Я моўчкі жаваў і глядзеў у акно. Дождж ішоў густы і абвальны, што сцяна. Парывамі браўся вецер, і тады дождж зносіла ўбок хвалямі, як дым. Яблыні і ўся зяляніна на градах здаваліся ў гэтых хвалях бледна-жоўтымі, як, бачыў, пена на губах у каня, які скубе траву. Мне думалася: вось пройдзе дождж — і не стане ні гэтых яблынь, ні бульбоўніку, ні кустоў парэчак. Вада змые іх з зямлі, як можа змыць пену з мяккіх, саквітых конскіх губ. Дзіўна, але мне, падагрэтаму наліўкаю, цяпер так думалася. Я наогул люблю фантазіраваць. Можа, якраз гэтая фантазія і нарадзіла ў маёй галаве думку паехаць на працу ў раённую газету. І, мусіць, калі б не ўсё гэтая ж фантазія, я не палохаўся б так самастойнага жыцця, як палохаецца зялёнага лесу дзікая жывёліна, што вырасла ў клетцы.

— Бурбалак няма,— Вера Дзям'янаўна кіўнула галавою на акно, на лужыны, што наліў дождж на двары, затапіў сцежку.— Значыць, скора мінецца...

— Ага, вунь ужо яснее каля небакраю, светла...

Я хоць і вырас у горадзе, дзе да прыроды далучаешся толькі праз заапаркі ды цыркі, вельмі любіў дождж. Але не той, пад які трапляў сам. Мне падабалася сцішана стаяць у сухім, дзе-небудзь пад стрэшкаю, і бачыць блізка ад сябе серабрыстыя спіцы дажджу, як яны ўтыкаюцца ў зямлю, прыгінаюць траву, выпалескваючы яе да вострай яркасці, лапочуць па лісці дрэў. Асалоду, мусіць, прыносіла адчуванне сваёй бяспекі, уладнасці над прыроднай стыхіяй, ад якой хаваюцца людзі і якую можна вось так спакойна назіраць і нават падставіць руку, абмыць яе, падражніцца з вадою, а самому астацца сухім. Гэтая асалода давала мне час-

цінку той радасці, якая прыходзіць да чалавека, калі ён, пасумняваўшыся, усё ж упэўніваецца, што трэба рабіць для людзей нешта харошае, карыснае. Але — часцінку. А чалавек заўсёды і ва ўсім імкнецца да поўнай задаволенасці, надта эгаістычны і чэрствы душою — не ведае ніякіх рамак. Здаецца, раней і ў мяне не было ніякага супыну.

Дождж перастаў; з усяго, з чаго толькі можна было, капала, цурчэла. І раптам — быццам пляхнулася на зямлю, разбілася на маленькія друзачкі сонца — як навагодняя цацка, сарваўшыся з ёлкі. Кожная кропелька расы здавалася маленькім сонейкам, ад яе рассыпаліся наўкруг цененькія залацістыя праменьчыкі. Усё памаладзела, заіскрылася: неба, вішні, бульбоўнік, трава, вокны...

— Глядзіце, глядзіце — вясёлка! — нечакана ўскліанула Вера Дзям'янаўна з такою радасцю, што я здзіўлена схамянуўся і доўга — пакуль не адчуў, што яна вось-вось паверне да мяне твар — глядзеў ёй у вочы, якія гарэлі дзіцячым захапленнем.— Якая прыгожая вясёлка! А колеры якія выразныя, бытта намалёваныя.

— Рэдка такая бывае...— Я прынік да акна. І адно тады падумаў: «А чаму рэдка? Звычайная вясёлка. Гэта ж, пэўна, так хацеў пацешыць гаспадыню...» Я зноў злавіў сябе на думцы, што ніколі не зраблю і не скажу так, каб людзі бянтэжыліся, не папраўлю іх, хоць і адчую, што чалавек памыліўся. Наўпярок, імкнуся тут жа, пакуль не скемілі іншыя, загладзіць чужую прамашку, сказаць які-небудзь жарцік. Пачаў рабіць я гэта тады, калі, сустракаючыся ў камандзіроўках з людзьмі, зразумеў: кожны чалавек, асабліва вясковы, мае самалюбства, яно выяўляецца надта ў размове з тымі, хто разумнейшы, хто больш ведае і разумее.

Куры высыпалі на двор, пабеглі па пеністых лужынах, высока, як спутаныя, падымаючы жоўтыя, акурат абклееныя пялёсткамі вяргіні, ногі. Важна, фарсіста пахаджаваў сярод іх агністы певень, патрэсваючы зубчастым шматком грэбня, які прыкрываў яму правае вока, знаходзіў у зямлі спажыву і клохаў як квактуха — падзываў чубатак.

— Нехта ідзе...— Я заўважыў на двары жанчыну,

праўдзівей, белую хустку, якая праплыла ў акне, як месяц скрозь рэдкае воблака.

— А-а-а, гэта Луціха,— сказала Вера Дзям'янаўна і прыбрала са стала бутэльку.

— Добры дзень вам у хату! — Жанчына абхінулася на вушак, у руках яна трымала чыста вымыты шкляны слоік, які пераліваўся, што намаслены.

— Праходзь, Адэля, што ты ў парозе.

Адно цяпер я пазнаў жанчыну: тая, што гнала з унучкаю чараду белых гусей.

— Ета я малака прыйшла Люсічцы,— сказала Адэля, гледзячы на мяне і моргаючы прыплюшчаным вокам.

— Хіба што ранішняга,— паднялася Вера Дзям'янаўна. Узяла ў старой слоік і выйшла ў сенцы.

— Ды ўсядно, шчэ ж не скісла. Абедаеце? — Адэля пасміхнулася, але не з'едліва, не з асуджэннем, і мне гэта спадабалася. Я ўжо даўно прыкмеціў гэтую сімпатычную звычку вясковых людзей — пакарміць чужога чалавека, які зайшоў у хату.

Вера Дзям'янаўна ўнесла слоік, наліты малаком, сіняватым ад шкла. Старая ўзяла яго сваімі сухімі, жылаватымі рукамі.

— Ну, не буду вам мяшаць... Пайду двору, абедайце.— Адэля павярнулася неяк замаруджана, плаўна, акурат нехта павольна перакруціў пад нагамі масніцу. У акне зноў прамільгнула белая хустка.

— Трохі не падабаецца мне гэтая цётка,— даверліва, як сваяку ці добра знаёмаму, сказала Вера Дзям'янаўна, і гэтай сваёю шчырасцю падказвала мне, чаму забрала са стала бутэльку. А можа, яна не ўмела хаваць у сабе тое, што думала. Бываюць жа людзі: думае адно, а гаворыць другое. Зусім іншае — чалавек, які думае больш, чым гаворыць. Гэта добра, і так трэба.

— Яна і нядрэнная баба, паслухае заўсёды, выручыць мяне. А ў мяне ж дзялоў усякіх куча, дык часценька адлучаюся з дому. Тады яе прашу...

— Калі па сакрэту, як кажуць, чым жа яна не падабаецца вам? — Я адчуў, што магу ўлавіць у характары сваёй гераіні новую рыску.

— Які тут сакрэт, гэта ўсе ведаюць... Пранырлівая дужа яна, языкастая, язык той, бы калаўротак. Гэта во і прыйшла з-за вас.

— Ага, яна бачыла мяне.

— Ну во, я так і паўміла!.. Звычайна па малако яна пазней прыходзіць, адвечара, як толькі падаю.— Вера Дзям'янаўна мелькам глянула на мяне.— Муж яе, Лут, дык той дужа добры чалавек, доўга на ферме загадчыкам быў. Але не пашанцавала во людзям.— Яна ўздыхнула глыбока, відаць, перажывала.— Карова ў іх прапала нядаўна... Угнаення налізалася... Засталася кучка ад вясны, на краі поля. Якраз міма табун гналі, яна і хапіла. Соль жа каровы любяць... Ну, а яны дачку сынаву гадуюць, дык во і бяруць у мяне малако...— І раптам, глянуўшы на гадзіннік, спахапілася.— Во, трохі і загаварыліся з вамі. На ферму пара ўжо.

— Прабачце, што затрымаў вас,— павініўся я.

— Ну, што вы!..— Вера Дзям'янаўна ўсміхнулася, жартаўліва і проста. І як жа мне было брыдка за некаторыя свае манеры, наўмысна перанятыя ў пыхлівых інтэлігентаў з бацькавага акружэння.

Мы выйшлі з хаты. Было ціха-ціха. Адно звонка капалі са страхі ў балею буйныя, па гарошыне, кроплі. Пахла мокраю зямлёю і кіславата-гаркавай прэллю, пазелянелы частакол і сырыя мясціны сцен курыліся рэдзенькаю, што дыханне ў невялікі холад, параю.

Дождж абмыў зямлю, і на сцежцы, на дарозе жаўцелі прадаўгаватыя, бы языкі, пляміны пяску. Беглі, слабеючы з кожнай хвілінаю, рыжыя ручаі з белай пенаю. Мне хацелася разуцца і прайсці басанож. Я, здаецца, адчуў скрозь падэшвы туфляў ласкавае цяпло дажджавой вады. Усміхнуўся, прыгадаўшы, як дзівіўся не раз на галапятую дзятву, што бегала пасля дажджу па мутных пеністых лужынах: «Во, хутка і сам пабягу...» І, як часта бывае, ад радасці да суму адзін крок: успомніў, што мне ж трэба сабраць факты для нарыса. Непакоіла мінулае Веры Дзям'янаўны — аднаго дзяцінства і таго, як пайшла на ферму, было вельмі мала, каб напісаць добры нарыс.

Выйшлі за вёску, на паплавы — туды, дзе я праходжваўся. Здалёк было відаць, як сцякаюцца, бы тыя ручаі, да фермы людзі: хто бяжком, хто паціху, хто сярэднім крокам. Дзве постаці пасунуліся з фермы — нетаропка, зморана. Ззаду плёўся, апусціўшы па-воўчы хвост, жоўты сабака. Я здагадаўся: пастухі.

Двор вакол фермы быў шырокі, абнесены новым плотам у чатыры жэрдкі. Спрэс усыпаны торфам. Па-

сля дажджу чорная калатуша бралася, наліпала на туфлі.

— Вой, вы тут выпацкаецеся! Трэба было што іншае на ногі ўздзець...— Вера Дзям'янаўна, вінавата глянуўшы на мае туфлі, прыпынілася.— Я і не падумала...

— Калі ласка, не турбуйцеся,— з усмешкаю сказаў я.— Лепш запомню вашу ферму.

— Ну, глядзіце, а то папрашу загадчыка, каб даў боты. Так у нас суха, гэта пасля дажджу...

— Не трэба, нічога не трэба.

Даяркі ўжо даўно заўважылі нас, дваіх, і цяпер пераміргваліся, стоячы каля будыначка, які самі ж празвалі салдацкім словам «каравулка»: тут яны пераапраналіся, мылі вёдры, бітоны, ручнікі, цадзілкі.

— Я пакуль агледжу двор, а потым загляну і ў кароўнік...— Я ніяк не мог прывучыць сябе вольна пачувацца перад вясковымі людзьмі, лезці ім у вочы, як гэта ўмелі рабіць іншыя супрацоўнікі рэдакцыі, той жа Пятрунька, які вучыў мяне журналісцкай нахабнасці. Мне заўсёды здавалася, што вясковыя людзі надта востра і прыдзірліва працінаюць мяне позіркам. Можа, таму ў памяць маю чэпка западала любая драбяза, кожны мімалётны штрых і слова. Я сам непрыкметна пачаў ужываць сакавітыя, вясковыя слоўцы, яны мяне адначасна радавалі і хвалявалі.

Я павярнуў да воданапорнай вежы. Яна была высока, метры на два, абтрамбавана мохам — на ім буяла сакавітая лебяда, лісце ў якой было белае, як з алюмінію, і чырванелі тонкія сцяблінкі драсёну з кароткімі тоўстымі кутасікамі кветак. На металічнай лесвічцы, што вяла на самы верх, сядзела пара шызых натапыраных галубоў. Зморана апушчаныя крылы агалялі белыя, як у вапне, спіны.

За вежаю стаяў невялікі, але высакаваты, як цацачны, домік з бляшанаю заржавелаю трубою — кормазапарнік. Дзверы ў ім былі адчынены, і адтуль валіў у сіні дым, рассейваўся павольна, маленькімі воблачкамі: не было ветру.

Праходзячы міма, я заглянуў усярэдзіну. Там стаяў наўколенцах стары ў выцвілай клятчатай кашулі і падкідваў у топку каротка парэзаныя паленцы-барсучкі — гэта, мабыць, яны востра пахлі смалою.

— Што дзівішся, чалавеча? — буркнуў ён, зглэдзеўшы мяне краем вока. Падняў сівую галаву, твар быў няголены, закураны дымам, нос — у драбнюсенькіх чорных кропачках.— Унавіну табе ета дзела? Па факцічаскай лініі, карыспадзент?

— Добры дзень! — адказаў я на яго пытанні, здзівіўшыся здагадцы старога як самай нечаканасці.

— Адкуль вы ведаеце, што я з рэдакцыі?

— Адкуль ведаю? Ведаю!.. Тое, што баба мая сказала, я ў залік браць не буду. Па факцічаскай лініі, і без яе разабраўся б...— Стары глянуў на мяне чырвонымі слязлівымі вачыма.— Я вас, карыспадзентаў, за вярсту чую... Дзякуй богу, дваццаць гадкоў адбахаў начальнікам хвермы. У перадавіках хадзілі мае даяркі... Вось і не было адбою ад вас: таму стаццю, таму нарысць, таму... як яе? Інтарву... душу парву. А ты то цяпер, па факцічаскай лініі, з чым да нас? — спытаў Лут (я ўжо здагадаўся, як завуць старога) усур'ёз, як быццам я збіраўся раіцца з ім.

— Буду пісаць нарыс.

— Зноў ету нарысць... Тады, як быў начальнікам, маўчаў, а цяпер скажу. Ну і хлусіць жа вы ўмееце, па факцічаскай лініі!.. Так ужо распішаце, так разукрасіце... А праўдзівасці няма, бабе хоць на вочы не вылазь. Пра каго ета пісаць сабраўся? — Лут прыжмурыў чырвоныя вочы.

— Пра Веру Дзям'янаўну, Прызнайцаву...

— А-а-а, выбраў правільна, не памыліўся. Дужа спраўная кабета. Яна і на работу, і з людзямі ўмее жыць. Вось так і ўпішы мяне, па факцічаскай лініі, як казаў вецеран жывёлагадоўлі, былы начальнік хвермы Лут Хведар Ягоравіч, так і етак... вы ж умееце.

Стары выглянуў з дзвярэй, крутнуў туды-сюды галавою, на цемені валасы былі рэдкія і скрозь іх свіцілася далікатная, як у дзіцяці, ружовая скура.

— Па факцічаскай лініі, калі маеш час, магу больш расказаць пра тое-сёе...

Я абрадаваўся. Так, мабыць, радуе чалавека дарога ў незнаёмым лесе, хоць ён яшчэ і не ведае, куды яна выведзе. Я адчуў, што гэтая выпадковая сустрэча з Лутам шмат можа праясніць мне іменна з таго, далікатнага, пра што нельга спытаць у самой Веры Дзям'янаўны. Я ўпэўніўся яшчэ раз, што ў любой справе, нават у цэлым жыцці, чыстая выпадковасць можа зрабіць та-

кі паварот, якога ніколі не зробіць, здавалася б, самы надзейны разлік. Не прачытаў бы я той артыкул у часопісе, невядома, дзе я цяпер быў бы і ці была б гэта сустрэча з Лутам.

Стары Лут сеў на пакляваны сякераю парог, шырока расставіў ногі ў вялізных нячышчаных кірзачах; штаны на каленях зашмальцаваныя і блішчаць, як намазаная здорам патэльня. Сашчапіў адно кончыкі кароткіх, як абрубкі, тоўстых пальцаў, прасунуў між рук правае калена. Цяпер ён быў зусім не строгі і не бурклівы, якім здаўся мне спачатку. Нейкі сум ці спакой, лагодная даверлівасць асвятлялі яго бязладна пасечаны маршчынкамі твар.

— Ну, дык, па факцічаскай лініі, во што...— Ён уздыхнуў і з хвіліну маўчаў, быццам апускаў сваю памяць у глыбіні пражытых гадоў.

## Успамін трэці. АДНОЙЧЫ ВЯСНОЮ

Лутава хата стаіць у самым канцы Малінаўкі — з таго боку, дзе праходзіць шаша. Таму кожны, хто ідзе на шашу ці з шашы, аніяк не мінае Лутаву хату.

Надвечар майская духата спала. Каля балотца, што за сядзібамі, закурэў шызы, негусты туман, здалёк — як лёд. Адтуль пацягвала зябкім халадком, і паветра насычалася пахучай свежасцю, якая бадзёрыла стомленае за дзень-год Лутава цела. Ён наўмысна выпусціў з-пад папружкі падол кашулі, каб лаўчэй было махаць сякерою ды не вельмі пацела спіна.

Хвядос адкаціў ад разбуранага плота жардзіну, уціснуў камель у «лісіцу» — прораз у тоўстым палене. Каб жардзіна не крутнулася часам, загнаў між камлём і бакавінай проразі вузенькі, раструшчаны з тупога канца, клінок з бярозы-чачоткі. Пакратаў нагою жардзіну — ці трывала. Плюнуў на левую далонь; зашчаміўшы сякеру між калень, пацёр рукі, ажно зарыпела сухая агрубелая скура, і ўзяўся за прыгнутае на канцы тапарышча.

Цюкнуў пару разоў па жардзіне, зрабіў надсечыны, каб лепш адвальваліся трэскі, і роўненька, як пад шнур, пачаў часаць.

— Памагай бог! — пачуў ён вельмі зычны, мусіць ад зняцяйкі, голас у сябе за спінаю. Выпрастаўся і піль-

на ўгледзеўся ў чалавека, што стаяў перад ім: не мог пазнаць.

— Здароў быў...— у Хвядоса ўсё яшчэ няцямлівы позірк.

— Што ўтаропіўся, хадзяін? Не пазнае́ш? Не пазна́еш... Далёкі я.

— Ды ўжо бачу, што не нашанскі! — Лут удзяўбнуў у «лісіцу» сякеру. Прайшоў да лаўкі, сеў, закінуўшы нагу за нагу.— Сядай, чалавеча, калі не спяшыш, пакурым.

— Нямаш кудой спяшацца...— Незнаёмец прыставіў да плота старэнькі, абшарпаны чамаданчык з бліскучымі жалезнымі каўпачкамі на ражках. Патрэпаў пальцамі па запыленым калашынні памятых штаноў. Лут тым часам разглядаў падарожнага.

Веку ён быў немаладога, гадоў пад пяцьдзесят, ва ўсякім разе, хударлявы твар з глыбокімі прадольнымі маршчынамі на шчоках — як хто праціснуў вастрыём сякеры,— быстрыя, чэпкія вочы на больш не выдавалі. Не нізкі і не высокі — звычайны, адно плечы здаліся Луту шыракаватымі, як дзверы ў адрыну, ды кароткія ногі — дужымі, бо чалавек увесь час ставіў іх уроскід, як збіраўся барукацца.

— Адкуль і куды трымаеш пуць? — Хвядос дастаў з кішэні пачак «Беламору», вытрас дзве папяросіны: адну прыкурыў, другую зашчаміў за вуха — незнаёмцу.

— Адкедава, пытаешся? — Падарожны сеў на край лаўкі. Узяў папяросіну, намацаў у кішэні штаноў раструшчаны карабок з запалкамі.— Са свету і ў свет. Іду, хадзяін, кудой вочы глядзяць...

— Знацца, па факцічаскай лініі, турыст будзеш?

Незнаёмец крутнуў галавою, шырока ўсміхнуўся, паказаўшы буйныя, як фасоля, зубы са шчарбінаю ў верхнім радзе. Звузіў вочы, акурат збіраўся хітраваць, сказаў глухім голасам:

— І не пахне ад мяне турыстам. Сам я буду з-пад Старых Дарог. Чуў такія?

— Ета што за Бабруйскам?

— Яны.

— У сорак трэцім я на «трыццацьчацвёрцы» газаваў па Старых Дарогах.

— Там на ўездзе і цяпер стаіць танк на граніце. Мо

твой? — Падарожны зноў звузіў вочы, і Лута пеканулі з самых зрэнак вострыя іскрынкі.

— Можа, і мой,— сказаў Лут стрымана: зачапіла за жывое незнаёмцава падколка.

— Бачу, чалавек ты адкрыты,— незнаёмец падсунуўся бліжэй,— з табою можна варыць кашу.

— Гледзячы якую кашу...

— Ужо адразу ў кусты? Не думай нічога кепскага. Каша, яна простая... для цябе. А для мяне...— Падарожны крутнуў галавою, акурат даў зразумець тое, чаго не дагаварыў.

— Ну дык што ты цямніш... Гавары, па факцічаскай лініі.

— Дзела такое, што і прызнацца сорам. Бабу шукаю я...— і хуценька дадаў, як апраўдаўся: — Свае не хочуць за мяне...

У Лута падскочылі бровы, сабраўшы на лбе гармонік маршчын.

— Якую бабу? Знацца, па факцічаскай лініі, гаспадыню сабе?..

— Як у сук уляпіў, хадзяін!.. Удавіцу якую годзікаў на паўсотню падкажы. Малодка за мяне не пойдзе...

— Такі ўжо ты зломкі, што не пойдзе.— Лут падмірнуў, яго ўзбадзёрыла шчырасць незнаёмца, які адкрыў яму сваю, чыста мужчынскую, таямніцу.— На збыт мужчына — што трэба, хоць у плуг, хоць касу ў рукі... Ці ты як у той прымаўцы: калі худ, дык не лезь на кут?

— Толку таго, што пойдзе. Усядно прапрэ, калі выведае пра мае прадзелкі... А старыя — не такія датошныя.

— А што ты, па факцічаскай лініі?..— схамянуўся Лут, але тварам і голасам не паказаў, што ў душы прытаіў насцярожанасць.

— Ат!..— Незнаёмец сплюнуў недакурак сабе пад ногі, укруціў абцасам чаравіка ў зямлю.— Лепш не расказваць...— Глыбока ўздыхнуў, і з носа заструменіўся рэдзенькі дымок, відаць, аставаўся ў самай глыбіні лёгкіх.

— Табе, па факцічаскай лініі, відней.— Лут падняўся, сціснуў рукою падбародак, задумаўся: «Хто ён ні ёсць, па факцічаскай лініі, маё не дзела. А што чужы — дык ці мала чужых пераварочваецца тут. Затое радней за мяне яму ніхто ў Малінаўцы не стане... Са

мною і будзе вадзіць дружбу. Што ні гавары, па фактычаскай лініі, падтрымка, помач... Мужчына не хвор».— Заварочвай аглоблі!.. Бяры свой багаж, пайшлі ў хату, нешта прыдумаем.

Каля брамкі Лут прыступіўся, нахмурыў бровы.

— Як жа цябе хоць дражняць?

Незнаёмец неяк дужа прывычна і спакойна павярнуў левую руку тыльным бокам далоні.

— Чытай.

На руцэ вялікімі сінімі літарамі было вытатуіравана: СЦЯПАН.

— Ясна-а...— Лут піхнуў ад сябе брамку.

Адэля, Лутава жонка, неяк нялоўка знерухомела пасярод хаты; прыплюшчанае левае вока нервова міргала. Мабыць, жанчына толькі адскочыла ад акна, бо яшчэ варушылася фіранка — быццам аднекуль з-пад рамы сачыўся скразнячок.

— Добры вечар у вашу хату!

Адэля глянула на незнаёмага мужчыну, і ў яе прыплюшчаным воку насцярожана бліснула зрэнка.

— Сядай во, Сцяпан...— Лут паказаў на ўслон, што стаяў пры печы.

— Нічога, пастаю.

— За пастой не плоцяць... Адэля, збяры-ка нам чаго на стол. У чалавека во дзела ёсць, па факцічаскай лініі.

Жанчына нешта буркнула сабе пад нос, крутнула спадніцаю і падалася ў сенцы, мусіць, у кладоўку. Доўга там корпалася, чуўся з-за дзвярэй ляскат-стукат.

Лут, не ўседзеўшы, таксама выйшаў з хаты. У кладоўцы гарэла лямпа, сеючы скрозь шчыліны чырвоныя палосы святла, ад якіх мярэжылася ў вачах. Адэля працяла мужа вострым позіркам, засіпела:

— Вечна прыцягне набрыду якога-небудзь!.. Бегай тут каля яго, слугуй...

— Ну ціха, ціха, раскудахталася!..— Лут сказаў лагодным голасам, каб не распаляць жонку.— Трэба ж чалавека прысватаць.

— Што?..— У Адэлі акругліліся жоўтыя, у чорныя крапінкі вакол зрэнак, вочы.— Да каго прысватаць?..

— Ну не да цябе ж! — Лут пасміхнуўся.— Ото падумаем, па факцічаскай лініі. Знайдзі там кіслухі якой, каб кумпал лепш варыў...

Адэлю як хто падмяніў, адразу пажвавела, замітусілася.

За стол селі Лут і Сцяпан. Адэля адмовілася. Прыхінулася да печы і насцярожылася вушамі-вачамі, каб не прапусціць ніводнага слова і руху мужчын.

— Ёсць у мяне, па факцічаскай лініі, адна кандзідатура для цябе,— калі выпілі па другой чарцы, з робленай важнасцю глянуў у вочы госцю Хвядос Лут.— А я, брат, сказаў як звязаў! — І стукнуў кулаком па стале.

...Верцы асталося падаіць яшчэ пяць кароў. «Ну і маці столькі. Спраўлюся сама, няхай ідзе...» — Верка ўжо налаўчылася даіць кароў не горш сталых даярак, але, маладзейшая, спрытнейшая, стамлялася менш, чым яны, таму нярэдка падмяняла маці.

Верка наліла бітон малака, зашчапіла тугое вечка. Пайшла не да сваіх кароў, а завярнула ў «другое крыло» — так называлі даяркі далёкія ад выхаду стойлы. Там стаялі каровы, якіх даіла маці.

Насця заўважыла дачку і здагадалася (не першы раз!), чаму тая ідзе да яе. Маршчыны каля вачэй разгладзіліся, вусны, дасюль сцятыя, заварушыліся ва ўсмешцы: радасна было за дачку, такая старанная.

— Мамка, збірайся дахаты. Дадаю адна. А то во і стомы не чую! — Верка гарэзна ўсміхнулася.

— У мяне ж яшчэ семера нядоеных,— сказала Насця голасам, у якім былі і радасць, і шкадаванне. Нават трохі засаромелася, апусціла вочы. У вядры, якое трымала ў руцэ, белай, чыстай поўняю калыхалася малако.

— Дарма. Ідзі, мамк...

Насця паслухалася, пайшла дахаты, думаючы: «Добра, што пайшла...» Апошнім часам яна неяк балюча адчула, што знасілася, прыцягалася. Моцы той, што ў бурбалцы на вадзе, ледзь дадоіць кароў. А дахаты — хоць ты наймай каго, каб занёс. Рукі-ногі паслабнуць, зробяцца чужымі, крыж занямее — ратунку няма, хоць гвалт крычы, у вачах плаваюць ружовыя кругі. Насця ніколі і нікому не жалілася — ні дачцэ, ні даяркам, ні загадчыку фермы Луту... Нават самой не хацелася і боязна было згаджацца з сваёю слабасцю. Мусіць, нялёгка ўявіць чалавеку, што ён ужо няварты

таго, чаго быў варты год, два, тры назад, што трэба саступаць сваё месца іншаму. Не прывык і не ўмее чалавек саступаць, пускаць на сагрэтае месца таварыша. І цяжка яму згадзіцца, што з кожнай хвілінаю ён будзе аддаляцца ад той мяжы, пасля якой жыццё ідзе на спад. Толькі ж ён, чалавек, як той лісцік, трывучы і змагаецца за жыццё да астатняга, нават і тады, калі адарваны ад жыватворных сокаў, ён працягвае жыць і ваяваць за сваё месца пад сонцам.

«Яшчэ ж во нязломка, бяжком іду,— разважала Насця.— Ды і не старая, пяць гадоў да пенсіі. Дос прытварацца, баба! — узлавалася на сябе Насця.— Вунь Верку замуж аддай... Хату новую думна ставіць, дык пастаў. Унукаў нагадуй. Тады кладзіся і памірай...» Насця прыбадзёрылася, ногі цвярдзей затупалі па зямлі.

Вёску залівала густое сутонне, і хаты здаваліся чорнымі — як абгарэлымі. Дарога спрэс была ўскапычана — нядаўна гналі статак. Там-сям яшчэ дыміліся цёмныя пляміны зямлі. Над імі гулі-ляталі чорныя марудлівыя жукі, падалі на зямлю цяжка, як паміралі на ляту.

«Ці ўзышла ж карова на двор? Каб не ўбілася куды ў шкоду...» — Насця яшчэ паддала хады, але ісці было няёмка, пад нагамі коўзаўся сухі, што прысак, пясок: апошнія дні няшчадна смаліла сонца.

Карова была на двары, стаяла каля сянец і нюхала клямку, з ноздраў шумна вырывалася паветра. Пачуўшы Насціна тупанне, яна павярнула рагатую галаву і радасна мыкнула, лізнуўшы кончыкам языка ружовую, у чорную крапінку наздру.

— Зараз падаю, Красулька мая,— сказала ўголас, бы да чалавека, Насця. Узяла ў сенцах даёнку. Карова матляла галавою і сцёбала хвастом па крутых баках, адганяла камароў і машку. Першыя струмені малака ўдарылі ў дно даёнкі гулка і пругка — як жалезныя дроцікі. Потым, з кожным цуркам, білі ўсё глушэй і глушэй, нарэшце перайшлі ў шыпенне, падобнае на тое, якое бывае, калі едзеш на веласіпедзе па разагрэтым асфальце. У вячэрнім паветры разліўся пранізліватонкі пах сырадою, лёгкі водар лугавых траў. Ды Насця паспявае адрозніваць, як пахне панікніца, сярпуха, мышыны гарошак, чысцік... Знаць, каровы пасліся недзе на нізкім месцы, мусіць, у Лужку, што між Сажом

і Сінім возерам. «А хто ета сёння кароў ганяў? — успамінае Насця.— Малашонкавы? Ага, яны. Хутка нам ужо...»

Падаіўшы карову, Насця вобмацкам, памалу соваючы нагамі, каб за што не зачапіцца і не загрымець разам з даёнкаю, пайшла ў хату. Паставіла на ўслон даёнку. Запаліла карасінавую лямпу. Чырванаватае святло трохі рассунула цеснату хаты, цьмяна зальснілася на голых рудых сценах. Маркотнымі сляпымі вачыма глядзелі з бёрнаў бледна-жоўтыя пятакі сукоў. Насця ажно перасмыкнула плячыма: раней іх як быццам не заўважала. А можа, і заўважала, ды яны не здаваліся ёй вачыма.

Яна працадзіла ў гладыш малако. Не паспела спаласнуць даёнку, як пачула на двары крокі. «Верка ўжо?..» Але ў сенцах моцна задзугалі нагамі, ажно ў лямпе заскакаў агеньчык, пускаючы касмылікі куродыму, забубнелі мужчыны.

«Хто б ета?..»

У дзверы пастукалі — моцна, як толькі можа стукаць кулак вясковага мужчыны, які трымаў і сякеру, і плуг, і вілы.

— Заходзьце! — Жанчына насцярожылася: хто заявіцца?

— Добры вечар, Наста! — Парог пераступіў Лут, за ім — незнаёмы, чужы мужчына.— Я так і прыкідваў, што ты дома павінна быць, па факцічаскай лініі.

— Можна да вас у хату? — з-за спіны Лута бадзёра папытаўся мужчына і неяк адразу ўпіўся вачыма ў Насцю.

— Можна, можна...— Насця разгубілася: «Можа, што з работаю няладна? Можа, праверка якая...» Загадчык фермы заходзіў да іх рэдка, адно з пільнай патрэбаю, а тут — адразу ўдвух.— Праходзьце, сядайце во...

— Яшчэ насядзімся, праўда, Сцяпан? — неяк дужа спакойна, з важнай саліднасцю сказаў Лут, акурат даваў зразумець, што размова будзе доўгая і няпростая.

— Ды і сядзелі ж!..— згадзіўся мужчына, пераміналочыся на шырока расстаўленых нагах.

Насця адчувала, што ён глядзіць на яе, але падняць вочы не магла — ці то з-за нясмеласці, ці то з-за вясковай скаванасці, якая не дазваляе адразу, з наскоку,

быць даверліва-нязмушаным з чужым. У вёсцы ўсе людзі роўныя, бо кар'ера ў іх адна — ферма-поле. Таму ў ёй рэдка сутыкнешся з паддобрываннем ды падлізваннем да начальнікаў. Але спрадвечная сялянская практычнасць усё роўна вымушае ладзіць з тым чалавекам, да якога так ці інакш трэба звяртацца за дапамогаю. Насця шчыра пашкадавала:

— Такія госці, ды во няма чым частаваць...

Лут хітра прыжмурыўся.

— Правільна. Па факцічаскай лініі, такіх гасцей ты і ў сне не сніла... Але ж не заўсягды, як на дзяды.

— Не хвалюйцеся,— сказаў незнаёмы мужчына. Сеў побач з Лутам на лаву, раскінуўшы ўбакі ногі; левая нага стаяла на пятцы і злёгку падрыгвала.— Мы прадбачлівыя...— выняў са споднян кішэні пінжака бутэльку і паставіў, прыстукнуўшы краем донца, на стол: лішнія гукі людзі ствараюць тады, калі адносіны і размова між імі яшчэ напятыя.

— Дык ці ета ж пачостка чужою гарэлкаю...

— Не спяшы-тка, Наста, тваёй яшчэ пап'ём,— Лут падміргнуў масляніста-цьмяным вокам, напусціўшы на твар тую таямнічасць, на разгадку якой заўсёды цягне чалавека, асабліва калі ён нецярплівы ды нястрымны.— Але наперад пазнаёмцеся... Гэта — Сцяпан (мужчына надта ўгодліва боўтнуў галавою, стросшы на нізкі лоб рыжаватую пасму валасоў), гаспадыню мы дражнім Настаю, па факцічаскай лініі, Прызнайцавай...— Лут падышоў да Насці, узяў адной рукою за плячо, другой — за локаць, падвёў да Сцяпана.— Парукайцеся, ну!..— І падштурхнуў у локаць.

Насця заружавелася, бы дзяўчына. Як быццам зніякавеў і Сцяпан, вочы шустра забегалі туды-сюды — міма Насцінага твару.

— Вой, што ета вы прыдумалі?..— Яна неахвотна падала Сцяпану руку, адчула яго цвёрдую, бы капыт, далонь, дужы поціск.

— Ды вот хачу тваім хадзяінам стаць...— Сцяпан урэшце прытрымаў на Насці чэпкі, востры, як брытва, позірк.

Насця тарганулася ўсім целам, ажно разануў пад рэбрамі боль, але Сцяпан не выпусціў яе рукі.

— Якая ўжо з мяне барышня...— сказала яна панікльім голасам.

— Па факцічаскай лініі, такая, як і кавалер. Па пяцьдзесят — як лёду!..

Насціны вочы затуманіліся, у галаву палезлі цяжкія думкі, на душы ад іх рабілася балюча. Як сказаць ім, мужчынам, што нялёгка ёй адной ладзіць гаспадарку, даглядаць агарод, касіць сена... Што сама яна вытрапалася ўшчэнт, асабліва за апошнія гады... А тут хату новую трэба...

— Ну, дык як?— Лут гулліва шчыкнуў Насцю за бок.

Яна схамянулася, твар яе стаў бледны, доўга мыліла сухімі вуснамі, акурат падбірала словы, якія сказаць.

— Нечакана ўсё ета...

— Ну-ну!..

— Я ж, Ягоравіч, не семнаццатка, каб выкаблучвацца. Калі чалавек добры, няхай пажыве, мне палёгка... Каб толькі не п'яніца, не круцель які.

— Тады, па факцічаскай лініі, трэба замацаваць вашую згоду.— Лут ухмыльнуўся, бо так хутка і падобраму, нават трохі нечакана закончылася яго сватаўство.— За сталом!..

Гаворка наладзілася хутка, хто ды што, ды адкуль. Сцяпан расказаў, што ён чалавек нетутэйшы, далёкі, у свой час не сумеў зладзіць сям'ю. Ён хлусіў, у яго была сям'я, жонка — галоўны ўрач бальніцы. Сам ён працаваў у той бальніцы гаспадарнікам. Бальніца была незвычайная, у ёй лячылі душэўнахворых. Цягнуў што мог — і спірт, і яду, і бялізну, і нават лекі, прадаваў, а грошы прапіваў. Жонка асуджала, прасіла апомніцца, стаць чалавекам. Ён не слухаў, і тады яна, няглядзячы на дваіх дзяцей, заявіла ў міліцыю. Ён загрымеў у сцюдзёную Сібір на тры гады. Зарабляў добра, купляў за дзесятку пачак чаю і чыфірыў — яго выкрылі, дабавілі яшчэ два гады. Жонка напісала, што развялася з ім, выслала копію рашэння нарсуда. Назад вяртацца не было сэнсу, і ён пайшоў у свет як у капейку. Прыблукаў на Магілёўшчыну, адкуль былі яго продкі — дзед, якога ў час калектывізацыі таксама высылалі ў Сібір.

Вось такі яго, Сцяпанаў, лёс, але ж у душу чалавеку не залезеш. Лут з Насцяю слухалі яго, гледзячы ў вочы, і верылі. Ім нават здавалася, што Сцяпан дужа хвацка апавядае, як артыст. Яны не пачулі, як у хату

ўхапілася Верка. У яе з дзяцінства такая прывычка — не заходзіць у хату, а ўбягаць. Ад нечаканасці Верка прыстала ў парозе. Круглявы твар яе з мяккім падбародкам быў цёмны, мабыць, ад чырвані, у вачах — здзіўленне і не то спалох, не то гарэзлівасць.

— Добры вечар!..

Сцяпан неяк дужа працягла і ўчэпіста паглядзеў на збянтэжаную Верку. Ні Насця, ні Лут гэтага позірку не заўважылі.

— А вось і дачка!— сказаў Лут радасна-вясёлым голасам, па якому цяжка было зразумець, чыёй дачкою хацеў назваць Верку Лут — толькі Насцінай, ці ўжо і яго, Сцяпанавай.

— Хадзі, Вера, за стол во,— Насця адсунулася на край услонца, выслабаняючы месца і ляпаючы збоч сябе далоняю.— Паглядзі на новага чалавека... бацьку во.

— Ага, давай, давай!..— падхапіўся і мітусліва замахаў рукою Сцяпан.— Хоць весялей будзе нам, старым.

— Якога бацьку?— Верка спадылба зіркнула на незнаёмца: праніклівыя, вострыя вочы і вялікія, па лапцю, вушы як бы адпіхнулі яе, у грудзях гулка, як у бітон, застукала сэрца.— Што ты, мама, сказала?

— Во чалавека прыняла... Помач будзе нам.

— І табе зашчыта,— падказаў, тыцнуўшы пальцам на Верку, Лут.— Хоць і няродны, але бацька. Без мужчынскіх плячэй бабская ноша цяжкая. Так, Наста? То-та ж! Хадзі-тка сюды, Вера.

Верка разгублена перабірала пальцамі, ажно яны крохалі, як сухія струкі фасолі.

— Ай, дзядзька Хвядос, няма як мне. Во толькі з фермы... Яшчэ не мылася, не пераадзявалася. Пасля... я пасля...— Верка выскачыла ў сенцы. У грудзях было горача, пякло, як хто насыпаў туды прысаку. Яна намацала на ўслоне вядро, нахілілася над ім, каб напіць нагбом, але вада не пілася, перасядала ў горле.

На дварэ ўжо дабравата ўцямнела. Свежа пахла сцюдзёнай расою, цветам гарбузоў і сланечніку. Над галавою вісела міргатлівае, у зорках, неба — як вялізная хустка, што во-во ўпадзе на зямлю і акрые ўсё сабою. У нечай хаце, здаецца, зусім недалёка, спявалі песню. І пакуль Верка прыслухоўвалася — дзе, у вушах звінела жаллівае, жаночае:

Ой, ад роду, ад родачку —
Цяжка жыць мне сіротачкай.
Цяжка саду без зязюлі,
А мне цяжэй без матулі...

Яна пайшла да прасла, на тое месца, дзе стаяла і плакала маці тады, калі не пусціла яе, Верку, у школу. Верка села на верхнюю жэрдку, якая суха, як арэх на моцных зубах, хруснула пад ёй, але не пераламалася. Холаду Верка не адчувала. Недзе за пуняю, мабыць, на яблыні, заўзята трашчаў цвыркун.

«Як гэта яна надумалася? І ў мяне нічога не спытала... Эх, маці, маці!..— Верка цяжка ўздыхнула, не магла ўявіць, што з імі, у іхняй хаце, будзе жыць чужы мужчына — спаць, разам есці, гаспадарыць... І не дзень, і не два, а ўвесь час. Не, Верка ніколі не прывыкне да яго, не прымусіць сябе любіць яго так, як любіць сваю маці.— Бацька... Які ён мне бацька?— Верка вырасла без бацькі і ёй было непрывычна-дзікавата чуць і вымаўляць слова «бацька». Нават калі б гэта і быў сапраўды яе бацька, то ўсё роўна першы раз убачыўшы, Верка наўрад ці змагла б назваць яго таткам.— Чужы, з дзяркатымі вачыма, лапавухі...»

На Верчын твар міжволі выплыла ўсмешка — і ўміг растала: рыпнулі хатнія дзверы. З цёмных сянец вынырнула на двор, у цьмянае святло зорак, постаць Хвядоса Лута. Чалавек прыступіўся, цень ад яго быў кароткі і чорны як сажа. Палез рукою ў кішэню. Бліснуў каля твару жаўтлявы агеньчык. Лут прыкурыў і пайшоў з двара, не згледзеўшы ў цемнаце Верку.

«А ён застаўся!..— У Веркі пабеглі па спіне мурашкі. Яна сцепанула плячыма, узялася рукамі за калені. Яны былі халодныя і ліпкаватыя — на іх асела начная свежасць.— Застаўся ў нас... А як цяпер?.. А што?.. А дзе?» — Верка хапалася за пытанні, як тапелец за саломіну, і, чырванеючы, сарамліва моршчылася: думалася па-даросламу і пра дарослае.

З хаты выйшла маці — у фуфайцы наапашкі. Гукнула яе асцярожна, устрывожана.

* * *

...Дзверцы печкі, напаліўшыся да чырвані, пачалі цямнець, адсвечваць фіялетавасцю; у дзірках квола мігцеў сіненькі, празрысты агеньчык.

— Загаварыліся,— сказаў Лут і ўстаў.

У маіх вушах яшчэ гучыць ціхі Лутаў голас, а перад вачыма, бы ў каруселі, кружляюць твары людзей, падзеі, малюнкі...

Лут падышоў да печкі, праверыў, аблапіўшы з двух бакоў, ці гарачы бак.

— Халера, ніяк не нагрэецца,— незадаволена прабурчаў ён.

Цікавасць да аповяду старога Лута ў мяне не спадала, але я пачаў турбавацца, што, засядзеўшыся тут, у кормазапарніку, не ўбачу, як Вера Дзям'янаўна доіць кароў. Я сказаў пра гэта старому. Ён амаль непрыкметна ўсміхнуўся, мабыць, з маёй нявопытнасці, супакоіў:

— Яшчэ нагледзішся!

У ягоным голасе адчувалася ўпэўненасць, грунтоўнасць, якія ўжо не раз здзіўлялі мяне ў вясковых людзях. Гэта не тыя скокі-пераскокі, якія скрозь суправаджаюць нас і ў спрэчках, і ў размовах, і наогул у жыцці.

Лут схадзіў за домік, там была стрэшка, прынёс абярэмца сухіх бярозавых дроў. Кінуў іх каля печкі, и тады, з крэктам сагнуўшыся, пачаў класці ў топку. Бяроста затрашчала , курчылася, ахопленая агнём, і станавілася чорная.

Я стаяў у дзвярах, зіркаючы то на Лута, то на кароўнік, у які зайшла Вера Дзям'янаўна.

Паніжэла сонца, ляжала на няроўным версе алешнічку пунсовым лагодным шарам.

Па страсе кормазапарніка спаўзаў чорны дым, пры зямлі расплываўся і вісеў як туман.

— Па факцічаскай лініі, што далей было...— Лут пашараваў белымі ад бяросты далонямі.

## Успамін трэці (працяг). НОВАЯ ХАТА

Сцяпан Набрыда (так празвала Сцяпана Лутава Адэля, а ў вёсцы ж толькі пачапі на язык мянушку, так і панеслася з канца ў канец) сноўдаўся па агародзе. Нядаўна тут расла трава, а цяпер яе скасілі і, высушыўшы, знеслі. Пад нагамі хрупалі, згіналіся пруткія стрыжакі ад цімафееўкі.

Ён прамераў крокамі туды-сюды. Пастаяў, збіўшы

шапку на нізкі і вузенькі лоб, як не закрыў вочы, пашкроб патыліцу. Вярнуўся няспешнай хадою ў двор, выбраў роўнае сасновае палена, пашчапаў яго сякерай і вычасаў чатыры калкі. Там, дзе хадзіў-мераў, убіў іх у зямлю наводдалі адзін ад аднаго — размеціў памеры хаты.

«А ці варта распачынаць? Не простае ж дзела хату паставіць. Зрубіш, а табе скажуць: вымятайся, каб і духам тваім паршывым не пахла. Вунь людзі век жывуць мірам, а пад старасць разыходзяцца. А тут? Яна сама дык бытта нічога, ладзіць і не бурчыць. А дачка маўчыць, пазірае выдрыцаю. Таго і глядзі, што зубы запусціць...»

Але ведаў Сцяпан і другое — старэчую мудрасць: без свае хаты — не гаспадар, а зладаваў невялікі зрубчык — займеў правы. Ад гэтай думкі пацяплела яму ўсяродку, павесялеў.

«Не, калі будзе мая хата, з майго мазаля, ніхто мяне не вытурыць з яе. Недзе ж трэба асядаць ужо, хопіць, пагойсаў па свеце. Былая жонка на гарматны выстрал не дапусціць, дзеці за яе, канечне... А хіба ў гнілле гэтым дажываць век? Грошы — няважна, што Насціны. А хто, скажу, рубіў. Хто лесу дабіваўся, жылле рваў. А цяпер, канечне, як кажа Хвядос, на птушыных правах. Ледзь што не так, таго і глядзі... Трэба дагаджаць, раз прыбіўся што пуга да пугаўя...»

Сцяпан падышоў да маладой яблынькі, быццам адно цяпер убачыў, што яна расце ў той рамцы, якую вычарціў ён на падмурак. «Усядно цяпер не перасадзіш...— Сцяпан, махнуўшы сякерай, перацяў яблыньку каля самага кораня, кінуў яе пад прасла.— Зняўшы галаву, па валасах не плачуць...»

Так разважаў Сцяпан Набрыда раніцаю ліпеньскага дня, астаўшыся адзін дома. Насця з Веркаю былі на ферме. Ён сноўдаўся па агародзе і чакаў, пакуль яго гукне з вуліцы Адась Малашонак. Яны разам хадзілі будаваць зерняскладсклад.

— Набрыда! Гэ, Набрыда!— пачуўся басавіты мужчынскі голас. Нехта ляпаў па частаколе.

Сцяпан узяў на плячо сякеру і падаўся з агарода. Бакавіна абуха прыткнулася да паголенай пашчэнкі і прыемным сухім лядком студзіла яе.

Адась Малашонак, высокі, касцісты, стаяў і ўсміхаўся — буйнаватыя, як трохі вывернутыя, вусны (пра

такія, чуў, кажуць: лезуць на нос) расцягнуліся на ўвесь шырокі рот.

— Што ты ўсё кешкаешся, Сцяпан? Вечна цябе чакай. Мабыць, ніяк не налюбішся са сваёй Настуляю,— сказаў, хоць і ведаў, што Насця на ферме, бо і яго жонка, Варвара, працавала даяркаю.

— Хату надумаўся будаваць,— Набрыда прапусціў міма вушэй Малашонкаву падколку,— дык круціў, дзе і як ставіць.

— А што, для вялікай любві гэта малая?— Адась у мужчынскім гурце быў зачыншчыкам усякіх вольных размоў і адно лавіў момант, каб за што ўчапіцца.

— Кінь ты!.. Якая там любоў у выпетранай, хворай бабы.

— Дык іх жа ў цябе дзве!— Адась ядавіта падміргнуў вокам, але Набрыда гэтага не заўважыў, глядзеў на запыленыя, пакрэмзаныя стрыжакамі цімафееўкі мысы сваіх кірзачоў.— Другая ж тугенькая, бы вузельчык... Ы-ых!..— прыцмокнуў языком і шчоўкнуў пальцамі.

— Выдумаў...— ухмыльнуўся юрліва Набрыда. Да самага зернясклада ён не прамовіў больш ні слова. Ішоў задуменны і быццам нечым усхваляваны. Увесь дзень махаў сякераю безупыну, зацята, акурат яму доўгі час не давалі працаваць, а цяпер, урэшце, дарваўся.

...Густое, што воўна, вячэрняе марыва праз акенечка слаба пранікае ў хату. Адно і відаць, куды ісці, у якім баку дзверы. Насця сядзіць на лаве, але Сцяпан, лежачы на палку, яе не бачыць, а толькі чуе голас. Так упоцемках і размаўляюць.

— Заўтра, матка, паеду ў лясніцтва. Трэба лесу выпісаць на хату,— гаворыць Сцяпан.

— Дык мо яшчэ пачакаем да вясны, пабагацеем?

— А што цягнуць, пад ляжачы камень вада не цячэ, сама знаеш. Трэба патроху варушыцца... Я сёння ўжо прыкінуў, што ды як.

— Во, ведама, мужчына, і дзела пайшло зразу!..— У голасе ў Насці радасная нотка, відаць, што растаў лёд на душы ў кабеты. Расчуленая, яна падышла да Сцяпана, прысела на край палка. Колькі той ласкі было з ім, Сцяпанам, а вось падужэла яе сэрца і ў вочы

як хто падліў сінькі, памаладзелі, заіскрыліся. Відаць, і ў сталым узросце чалавек здольны вярнуць нанава да жыцця тое, глыбока-патаемнае, што паціху забіваў у сабе на адзіноце.

Насця, гулліва смеючыся, расшпіліла ў мужа на грудзях кашулю, залезла рукою пад цёплую паху, пазыталала. Сцяпан гыгыкнуў, вылузнуўся з-пад рукі.

— Ухопіцца зараз,— сказаў, як быццам пачуў на двары крокі. Бо тут жа дзверы адчыніла Верка. Пасля таго, як да іх прыстаў жыць Сцяпан, яна пачала пазней бавіцца на ферме і спакойна, грукаючы ў сенцах, заходзіць у хату. Яна, сагнуўшыся, скідала якраз насупраць акенечка боты, і Сцяпан бачыў у цемнаце яе белыя ногі.

— Што гэта вы без лямпы?— спытала суха, з незадаволенасцю.

— Эканомім, дачка, грошы, бацька вунь заўтра едзе выпісваць...— Верцы не спадабалася, якім галасам сказала маці.

— Запаліць?..

— Палі, палі, толькі пратры шкелку.— Маці ссунулася з палка.

— Верка,— азваўся з цемнаты Сцяпан,— прынясі мне, галубка, прыкурыць заадно...

«Добранькі які...» — падумала Верка і падала айчыму карабок з запалкамі.

— Дзякуй табе, Вярунька...

Насця ў душы парадавалася, што Сцяпан так любіць яе дачку, не дзічыцца з ёю.

У лясніцтве Сцяпан Набрыда прабыў гадзіны дзве. Пакуль дачакаўся ляснічага, пакуль выпісалі ў бухгалтэрыі акт, пакуль уплочваў грошы... Стаяў пад клёнамі, якімі быў абсаджаны будынак лясніцтва, і думаў, куды падацца. На душы скрэблі кошкі.

Заглянуў у забягалаўку — шкляны павільёнчык, што віднеўся непадалёку і каля якога тоўпіліся мужчыны. Выпіў кухаль пеністага кіславатага піва, купіў пачак «Беламора» і запалкі. Але ўсё роўна быў нейкі разгублены, як непрыкаяны. Турбавала адчуванне, што яшчэ нешта, дзеля чаго ехаў у мястэчка, не зроблена. Набрыда моршчыў лоб, але ўспомніць не мог; злаваўся на сябе, праклінаў свае «курыныя мазгі».

Пабрыў па цэнтральнай вуліцы, азіраючыся па баках, як малады верабей, што першы раз высунуў галаву з цёмнага гнязда. Насустрач яму ішла абняўшыся маладая пара: ён і яна. Набрыда чамусьці паспеў разгледзець адно яе. Нізкаватая, таўстаногая, у лёгкай блакітнай сукенцы, аздобленай на рукавах карункамі. Вусны густа нафарбаваны, на белай шыі вісяць ярка-чырвоныя буйныя, па жалуду, каралі.

Размінуўшыся, ён зрабіў некалькі запаволеных крокаў і спыніўся. У скронях маятнікам зацікала кроў. Як пра нешта пільнае ўспомніўшы, павярнуў назад. Збочыў да універмага, што стаяў на ўсаджанай кветкамі плошчы.

Пакруціўся, чытаючы, дзе які аддзел. Сунуўся ў адзін, другі і раптам пад шклом прылаўка заўважыў ярка-чырвоныя каралі. Ён пераняў вачыма позірк прыгожай, як лялька, белавалосай прадаўшчыцы і падзюбаў заскарузлым пальцам у шкло — як галодны певень у ганак.

— Мне от гэтыя дайце...— Палажыў на прылавак грошы.

Прадаўшчыца падала яму невялікі цэлафанавы пакуначак. Ён хапатліва, як крадзенае, запіхаў яго ў споднюю кішэню пінжака і выкуліўся з магазіна.

Ідучы на аўтастанцыю, па ходу «галасаваў» — спыняў спадарожныя машыны.

Толькім трэцім днём, калі Насця пайшла да Лутаў па малаток і бабку, Сцяпан Набрыда прыпільнаваў Верку адну ў хаце.

...Усю другую палову жніўня ішлі дажджы. Сонца не паказвалася з-за хмар ужо каторы дзень. Толькі зрэдчасу, калі пераставаў дождж, трохі святлела цёмнае неба і жаўцела на ім расплывістая, маслянiстая пляма, ад якой не было ні святла, ні цеплыні. Адно што — сонца. І весялела ў людзей на душы: думалася, што ўсталюецца пагода. Неяк надвечар на небе з'явілася вялізная прасветліна: з аднаго боку пяшчотна-блакітная, як шпачынае яйка, з другога — белая, як дым з сырога ядлоўцу, калі яго паляць на кастры. З яе густым веерам радасна выпырснулі ружовыя промні сонца, уткнуліся ў зямлю, здаецца, прыгнуўшы і забуялую траву, і распрасталыя дрэвы.

«Заўтра праясніцца...» — гледзячы на захад, падумаў Сцяпан Набрыда.

Падняліся рана. Сцяпан уступіўся ў кірзачы, адчуўшы голымі падэшвамі слізкі халадок скуранай падшэўкі, і выйшаў на двор паглядзець, ці няма дажджу.

Стаяла ціхая цёплая раніца. Вочы засціў туман, такі густы, што, здавалася, крыкні — і гук тут жа прападзе, як у ваце. За вёскаю, у Брындзіках — асушаным балоце, яхкалі сабакі, відаць, ганялі ласёў, іх апошнім часам развялося ў наваколлі вельмі шмат, выходзілі на поле, відаць былі з вёскі.

Верка, пакуль у хаце не было айчыма, саскочыла з палка, адзелася. Сёння на ферму яна не пойдзе, Лут даў адгул — айчым папрасіў дапамагчы яму валіць лес на хату. Кароў за яе будзе даіць Варвара Малашонкава, якая заўсёды падмяняе тых, хто захварэў ці ў каго нявыкрутка.

Верка ўжо прывыкла рана ўставаць, прачнулася ў чатыры гадзіны і больш не заснула. Ляжала, думала, як няпроста ёй будзе адзін на адзін з айчымам. Яна, хоць ужо і мінула нямала часу і ён вельмі прыязна ўсміхаўся ёй, не крыўдзіў, купіў нават каралі, усё яшчэ аніяк не магла прывыкнуць да айчыма. Ён не спадабаўся ёй адразу, а потым перайначыць свае адносіны да яго было цяжка. Так заўсёды: якім будзеш пры знаёмстве з чужым чалавекам, людзьмі, такім і астанешся з імі на ўвесь час, нават і тады, калі, знаёмячыся, ты быў няшчыры ў сваіх паводзінах. Тады гэтую няшчырасць будзеш паказваць і далей. Верцы іншы раз таксама здавалася, што яна не зусім шчырая ў сваёй непрыязнасці да айчыма.

Сцяпан нёс пілу і сякеру, Верка трымала ў руцэ клуначак з ежаю. Мяжа была расяная, пруткі з начы бульбоўнік даставаў да самых калень, балюча, як дубчыкамі, секся цвёрдым цырбуннем. Сцяпан ішоў першы, ног не падымаў, шоргаў кірзачамі па зямлі — збіваў расу. Верка гэта бачыла, і позірк яе неспакойна бегаў па шырокай айчымавай спіне.

За сядзібамі выбраліся на дарогу — гразкую, у мутных лужынах, у якіх плавала смецце.

— А можа, Верка, пойдзем праз лажкі? Так прамей будзе,— прапанаваў Сцяпан і кашлянуў: не пазнаў свайго голасу, такі ён быў ціхі і лагодны.

— Там канава. Пасля дажджу...

— Мы ж у ботах, пяройдзем. А кладак там няма? — Сцяпан прыпыніўся.

— Былі...— Верка сступіла з дарогі на дзірван.— Можна і лажкамі. Перабяромся ж як-небудзь.

Канава была шыракаватая, але не дужа глыбокая. Скрозь чыстую крынічную ваду бачылася жоўтае пясчанае дно, па якім цячэнне каціла затопленыя чорныя паленцы-круглячкі, дробнае карэнне і нават каменьчыкі. На схілах з абодвух бакоў расла густымі чубкамі рыжая перастаялая асака, тапырыліся шчаціністымі залаціста-жоўтымі галоўкамі ваўчкі і хіліліся да самай зямлі фіялетавыя кветкі змеегалоўніку.

Там, дзе былі кладкі, тырчала з вады гнілая, разбрынялая дошка, мусіць, нехта праламаўся на ёй.

— Ну, от!..— развёў рукамі Сцяпан і сцяў тонкія вусны, маршчыны на шчоках паглыбелі.— Вернемся?

— Пяройдзем!— Верка ступіла ў ваду, кругом нагі булькалі, лопаліся бурбалкі, патрывожаная, па вадзе папаўзла рудая муць, як пара з лазні, калі прачыніш дзверы.

— Чакай, Верка! Прайду першы, у мяне халявы вышэйшыя. Разведаю...

Сцяпан прайшоў канаву, на сярэдзіне ледзь-ледзь не набраўшы ў боты вады. Мяккім голасам, неяк клапатліва папярэдзіў:

— Начарэпаеш...

— Скіну боты...— Верка жвава разулася, узяла ў адну руку клуначак з ежаю, другой падабрала падол сукенкі. На сярэдзіне яна шамнула ў яміну, мабыць, лучыла ў Сцяпанаў след,— рука з падалом тарганулася ўверх. Сцяпан блізка ўбачыў ружаватыя Верчыны сцёгны.

— Вада халодная, Верка, каб не застудзілася,— са шчырай занепакоенасцю сказаў Сцяпан. Яго позірк акурат прыліп да мокрых Верчыных ног.— Абуйся і прабяжы, сагрэйся.

— Ці мне прывыкаць!..— не прыняла айчымавай спагады Верка. Праўда, калі б хто іншы гэта ёй прапанаваў, яна, можа б, і згадзілася падурэць, пабегаць, бо ногі сапраўды занямелі ад холаду і сталі як дзеравяшкі. А вялікі палец раз-пораз сцінала сутарга, і Верка апіралася на пятку, тады сутарга адпускала.

Яна села на купіну, пачала абувацца, высока задзі-

раючы ногі, бо іх, мокрыя, цяжка было ўсунуць у боты.

Сцяпан стаяў побач, чакаў яе.

— Ну, што, рушым? — спытаў, калі Верка паднялася, абцягнула з усіх бакоў сукенку.

Яна не адказала, пайшла.

Сонца тым часам адарвалася ад верхавіны высокай сасны, што ўвенчвала бярозавы ўзлесак, паярчэла. Ад зямлі падымалася лёгенькая пара, цёплае паветра шчодра пахла гаркавасцю перастоенай травы.

У Брындзіках усё яшчэ енчылі сабакі, але не так часта і хрыпла: мабыць, надарвалі глоткі. Жаласна стагнала над галавою белакрылая, ■ чубком-шпількаю кнігаўка: то падлятаючы зусім блізка, то аддаляючыся — як звала за сабою. Пэўна, разбеглася ■ гнязда і зашылася ў лазнякі яе цыбатая малеча.

Ішлі моўчкі, і гэтае маўчанне вярэдзіла Верцы душу: няхай бы ўжо лепш размаўлялі. Але айчым, унурыўшы галаву ў плечы, моршчыў лоб, нешта сваё мазгаваў; яго бровы варушыліся, як рыжыя калматыя вусені.

Верка круціла галавою то ўправа, то ўлева. Справа было поле. На ім рудзелі бабкі лёну. Які месяц назад лён яшчэ цвіў, і Верка ад сваёй хаты, стаўшы на прасла, любіла назіраць, як хадзілі-перакочваліся пад ветрам жоўта-блакітныя хвалі. Ёй то думалася, што гэта неба так адсвечваецца, то раптам мроілася далёкае-далёкае мора. Жывой марской вады яна ніколі не бачыла, але чытала пра мора і чула расказы тых, хто яго бачыў. І ўжо калі лён адцвіў, яна яшчэ доўга сніла блакітныя сны, такія прыемныя і салодкія, што аж замірала сэрца. Сніўся карабель, які плыў да яе на блакітных хвалях... Удзень сны не забываліся, але яна тужыла і нудзілася ад таго, што яшчэ ні з кім не цалавалася. Іншы раз плакала: з-за работы не выпадае і пагуляць, збегаць на танцы, проста пасядзець на лавачцы. Астаўшыся адна, цішком, з тамлівасцю ў вачах разглядала сябе, твар, вочы, стан і, шчаслівая, думала, як пойдзе калі-небудзь на вечарынку і ў яе адразу закахаюцца хлопцы...

Леваруч густа рос маладны лапушысты алешнік, у які Верка з маці ходзяць выжынаць сярпамі асаку і плюшч. Некалі тут была багна, глядзелі ў неба гонкія, без сукоў, алешыны і вялося процьма тлустых рыжых

камароў — у вёсцы іх баяліся, бо называлі малярыйнымі ці, яшчэ горш, казалі, што яны пасядзелі на вужацы.

Верка зазявалася і спатыкнулася на купіну. Палядела б потырч, каб не ўхапілася за крысо айчымавага пінжака.

— Давай сюды вузёл,— Сцяпан падаў ёй жылаватую распасцёртую пяцярню.

— Мне не цяжка, ужо блізка.

— Няёмка. Я ж мужчына, крапчэйшы...

Верка пачырванела: айчым сказаў апошнія словы так, акурат між ім і ёй не было розніцы ва ўзросце. Да самага лесу яна думала пра гэта: «Нешта ён дужа добры са мною, падлашчваецца... Каралі купіў. Вярунькаю, галубкай называе... Мусіць, баіцца, што падбухтору маці, каб прагнала яго. Бачыць жа, што не люблю яго, грэбую... А можа, і дарма?.. Відаць, не такі ён ужо і кепскі. Дапамагае ж во нам хату будаваць...» — Верка ўсіх шкадуе, шкадуе і айчыма: тут, у Малінаўцы, ён адзінокі, без радні, няма каму і заступіцца, слова добрае сказаць.

— Ну, вось і прытэпалі!— выдыхнуў Сцяпан, як быццам ім адно і трэба было зрабіць, што дайсці да лесу.— Тут наш квартал.

Зямля ў лесе была яшчэ зялёная — калі не прыглядацца. А пільнае вока прыкмеціла б, што верас мясцінамі парудзеў, акурат яго падпаліла агнём, у распасцёртыя парасонам кветкі дзягілю наўблытвалася жоўта-бурае лісце асін. Астраўкі моху ў сасняку густа ўсыпаны залаціста-бліскучымі шыпулькамі.

Яны спыніліся сярод стромкіх, выносістых сосен. Там-сям між іх віднеліся сукаватыя асіны ды пабліскваді крывымі парэпанымі ствадамі бярозы-недаросткі.

— Зоймемся?— Сцяпан пастукаў абухом па тоўстай сасне, зверху пасыпалася-замільгала ігліца.— Што звон!

Верка як не пачула, любавалася рабінаю, якая густа абкідалася ярка-чырвонымі гронкамі. Здаецца, ніколі ў жыцці Верка не бачыла такіх чырвоных ягад. І сама рабіна прыгожая, з акруглай каронаю, роўным ствалом, гладкім, як слюдзяным. А камель — ну, акурат у панчошцы!— шчыльна пакрыты шараватым налётам лішайніку.

Верка не стрымалася, паднялася на дыбачкі і ўха-

пілася за галінку, прыгнула яе. Кара на галінцы пяшчотная, у лёгкім пушку, ружаваценькая. Верка адшчыкнула гронку, нечакана важкую, як з медзі, сакаўную. Паднесла да рота — зажмурылася ад яркай чырвані. Вышчыпала вуснамі прыемна-халаднаватую буйную ягадзіну, раскусіла яе...

— Што, Маскву ўбачыла? — усміхнуўся Сцяпан. Ён, шырока расставіўшы ногі, стаяў крыху воддаль і не зводзіў з Веркі чэпкіх вачэй.

— Ой, дужа горкая!..— сказала, моршчачыся, Верка і павесіла гронку на выгнуты палазком сук асіны.— Няхай даспявае...

— Затое прыгожая, як...— Сцяпан папярхнуўся, коса бліснуўшы на Верку вокам.

Верка зразумела, што не дагаварыў айчым, і ёй зноў добра падумалася пра яго. Яна падняла з зямлі пілу, пачакала, пакуль айчым зрабіў на сасне надсечку — з таго боку, куды прымеркаваўваліць. Паветра напоўнілася тонкім, ледзь улоўным пахам жывіцы.

Яны сталі паабапал сасны і пачалі падразаць. Піла спачатку скакала па дрэве, не ўядалася, але Сцяпан падправіў яе левай рукою, і адразу мятна-пахучыя крупкі пілавіння жоўтым сняжком пасыпаліся на мокры Верчын бот. Верка пераставіла нагу — і на зямлі астаўся след, як на снезе.

— Дык ты, Верка, добра пілуеш.

— Навучылася...— Верка выпрасталася, здзела з сябе шарсцяную кофту і кінула яе на счарнелы, падзяўбаны жаўною пень. Асталася ў лёгкай сукенцы.— Будзе вальней.

— Ага, душнавата, уднелася ўжо...— Сцяпан распрануў пінжак, акуратна згарнуў яго падкладкаю ўсярэдзіну, паклаў на ягаднік.

— Во! Ажно піла весялей пайшла, а то як звязаны...— глянуў на Верку, і млявы халадок прайшоўся па целе: з глыбокага выраза Верчынай сукенкі пругка выпіралі яе грудзі.

Сцяпан ледзь дачакаўся, пакуль здрыганулася сасніна, дарэзаная да надсечкі. Занямелымі, дрыготкімі рукамі ўпёрся ў яе, скіраваў у прагалак. Сасніна ёмка гухнулася аб зямлю, ажно адазвалася тупым гукам далёкае рэха.

— Адна ест!..— Сцяпан выцер рукавом з ілба пот,

які заліваў вочы. Стаяць не мог, сеў на сасніну, прыцінаючы ў душы хваляванне.— Адпачнём...— Выняў з кішэні папяросы. Пакуль прыкурыў, зламаў дзве запалкі.

Да паўдня яны звалілі яшчэ тры дзеравіны. Верка расчырванелася, увапрэла, сукенка шчыльна аблягла яе, вось-вось раз'едзецца па шву. Сцяпан, наўпярок, з твару быў белы, як бы хваравіты, з ілба сцякаў пот, на бровы, на вочы. У роце сасмягла, не стрымаўся, прапанаваў:

— Трэба, мусіць, перакусіць...

— Нешта не хочацца, толькі піць...

— Ёсць і пітво...— Сцяпан, ухмыльнуўшыся, падышоў да пінжака, страсянуў яго і выняў са сподняй кішэні бутэльку піва.— Маці ўдружыла. Па такому дзелу, кажа...

— Я вады хачу.— Верка лізнула языком па перасохлых губах.

— Гэна штука тож праганяе смагу. Сілоў прыбаўляе.— Сцяпан разаслаў пінжак.— Садзіся, Верка.

— Я на кофту...— Яна прысела наўколенцы, развязала клуначак.

— О! А з чаго піць?..— Сцяпан ляпнуў рукою па лбе.— Трэба, мусіць, масла вымазаць на хлеб...— Ён выкалупаў са шклянкі масла, наскуб ягадніку і працёр яе, потым яшчэ раз — газецінай.— От і шклянка! Ажно гарыць, што крыштальная.

Верка кроіла на скібкі хлеб; было мулка каленям, але сцярпела: незнаёмы неспакой халадком сачыўся ў душу.

Сцяпан зубамі сарваў з бутэлькі жалезнае вечка, падаў Верцы шклянку.

— Трымай, Верка.

— Не хачу!

— Хоць кроплю...— У айчыма такі лагодна-расчулены голас, што хоць плач.

«А можа, і напраўду выпіць, раз так просіць... Вып'ю, дык і смага меней мучыць будзе. Усё ж пітво нейкае...» Верка ўзяла шклянку за вяршок, быццам збіралася чэрпаць з вядра ваду. Айчым наліў у яе крыху больш палавіны.

— Ну, на мілае здароўечка!..— Ён кіўнуў-крутнуў галавою. Сонца на імгненне прасвяціла яго вялікае вуха, і яно зрабілася крывава-чырвонае.

Верка выпіла піва, яно было гаркаватае, вострае, і яна зморшчылася, акурат зноў раскусіла ягаду рабіны. Сцяпан наліў сабе поўную як вока шклянку, ажно паднялася каптурыкам белая пена, і за тры глыткі выпіў. Крэкнуў, цярнуў далоняю па вуснах. Потым пацягнуўся рукою па сала і хлеб.

Верка сядзела насцярожана і моўчкі жавала сухую саленаватую лустачку паляндвіцы. Вачэй не паднімала, бо адчувала ўвесь час на сабе ўчэпісты позірк і баялася сустрэцца з ім.

«Што ён вытарашчыўся на мяне, як галодны кот на птушку?.. Вот зараз вазьму і сыду куды-небудзь у лес. Няхай адзін тады папаваліць...» Верка варухнулася, каб устаць на ногі.

— Куды, Верка? Ягадка мая, салодзенькая...

«От, разлашчыўся... Можа, дарма я на яго? Ён жа во добры, ласкавенька са мною так...» — Верка яшчэ ніколі не чула з мужчынскіх вуснаў такіх слоў, і сэрца яе салодка стаілася.

— Пасядзі са мною, галубка... Тут жа нікога няма, толькі мы з табою...— Сцяпан палажыў Верцы на плячо цёплую руку, вочы ягоныя гарэлі дзіўным, мяккім бляскам.— Дап'ём гэнае піўцо, каб нам хорашанька было...

У Веркі кружылася ў галаве, адчувала, не столькі ад піва, колькі ад айчымавых слоў: «Добранькі такі сёння...» І раптам — як што кальнула яе:

— Не хачу! Не буду піць!..

Сцяпан ажно адхіснуўся, прыціх, акурат цікаваў зблізку за птушкаю, якая корміць у гняздзе сваіх дзетак.

— Тады я адзін...— Ён выліў у шклянку недапіўкі і залпам асушыў яе. Шпурнуў бутэльку праз галаву.— Завязвай яду, Верка, натаптаўся...

Верка нахілілася над разасланай хусткаю, каб дастаць ражок, і адчула — аж здрыганулася,— як да нагі вышэй калена дакранулася нешта цёплае. Рука!.. Яна хацела ўсхапіцца, але не змагла: правай рукою айчым моцна трымаў яе за плячо.

— Верка!.. Золатка...— Ён прыгарнуў яе да сябе, сцяў, не паварушыцца. Верка крутнулася, але нялоўка, і завалілася на спіну на ягаднік. Адразу ўбачыла перад сабою чырвоны задыханы айчымаў твар. Вочы яе пасінелі ад спалоху: «Не саўладаю!..» Яна хацела

закрычаць, але ён зацiснуў яе рот гарачымi калючымi вуснамi.

— Верка... ну...

— Іых!..— выдыхнула яна i, напяўшыся як толькi магла, вылузнулася з-пад айчыма. Ускочыла на ногi, натапыраная, бы кошка, раз'юшаная.

— Я пажартаваў...— дрыготкiм голасам прамовiў айчым, вiнавата хаваючы вочы.

...У хаце цёмна, як у комiне. Сцяпан чуе, як цяжка з прыстогнам дыхае на печы Насця. Потым сцiшваецца.

«Мабыць, заснула...»

Насця злегла тыдзень назад. Самлела проста ў кароўнiку, перапудзiўшы да смерцi Верку. Несла вядро з малаком i раптам як хто падкасiў: брыкнула з усiх ног. Вылiла на сябе малако, выкачалася ў бруд.

Збялелую ў твары, цiхую, яе прывезлi дахаты — якраз на той час у Лута быў запрэжаны конь. Пазванiлi ў «Хуткую дапамогу». Доктар, сiвы, хударлявы мужчына, пакруцiў хворую са спiны на жывот, з жывата на спiну, уважлiва абслухаў трубкамi i сказаў: «Агульнае недамаганне. Катэгарычна забараняеццаператамляцца». На ад'езд пакiнуў тры цёмныя бутэлечкi лекаў, сказаў, што ды як пiць. I апошняе яго слова было: «Калi хворай пагоршае — неадкладна ў бальнiцу».

«Вiдаць па ўсiм, што не жылец ты, Наста, на гэтым свеце... Не пабачыш ты новае хаты. У той i будзеш жыць, якую зладуюць табе адной. Шкада цябе, гаротнiцу...»— Набрыда ўздыхнуў, павярнуў галаву. Ледзь адшукаў вачыма шыбку, мала святлейшую за чорную, што з галавешак, сцяну. Здалося, што на вулiцы забубнелi людскiя галасы.

«Скончылася кiно!..»

Набрыда нячутна ссунуўся з пасцелi, навобмацак абуўся i, сарваўшы з цвiка, убiтага ў вушак дзвярэй, фуфайку, выслiзнуў у сенцы.

Шырокае калашынне палатняных споднiкаў лёгка прапускала холад, i ногi за хвiлiну ззяблi. Ён намацаў у кiшэнi папяросы, карабок з запалкамi i закурыў. Цяплей не стала. Сцяўся каля выхаду. Яго праняла дрыжыкi, здалося, ногi абкручвае брыдкае цела змяi,— дробна заляскалi зубы, а ў вушах бiў такi звон, акурат нехта ляпаў за спiнаю па блясе.

Рыпнулі весніцы, скрыгнула засаўка.

«Ідзе!..»

Ён паказаўся на двор, кашлянуў, каб не злякнуць Верку, і перад самым яе носам шуснуў назад у сенцы.

У цемнаце залапаў Верку, дужа абхапіў цвёрдымі, як драўлянымі рукамі і падаў да шырокага ўслона, на якім звычайна стаялі вёдры з вадою. Дыхавічна зашаптаў ёй у вуха калючымі вуснамі:

— Верка... Красунька, кветачка... Не брыкайся, вельмі салодзенькая ты, Вярунька... Куплю табе яшчэ з-залат-ты...

Яна ўперлася рукамі ў яго худыя, рабрыстыя грудзі, зашкрэбала пальцамі. Натужваючыся, выціснула ціха сіплым голасам:

— Пусці-і-іце!.. Н-не хачу... Як вам не сорамна....

— Верка, цукерачка мая... Залаценькая мая... Уступі, ну не бойся...— калолі ў вуха ягоныя гарачыя вусны. І раптам — яму здалося ў гарачцы, што яна паслабела, стала не такая спружыністая і няўломная. Ён штосілы прыгарнуў Верку да сваіх грудзей. Яна здрыганулася, адчуўшы цеплыню ягоных голых калень, што цвёрда і востра прыціснуліся да яе ног. Ёй, з халоднага надвор'я, яны здаліся аж гарачыя, як цэгла на чарэні. Яна спружылася, спрабуючы вылузнуцца з-пад яго, але ён яшчэ мацней прыдавіў яе да ўслона, трымаючыся левай рукою за край дошкі.

— Кветачка... красунька...

Верка, сцяўшыся ў камяк, моўчкі змагалася з ім, дужым і цяжкім, пыхцела, задыхалася...

Раптам тупа звякнула ў хаце, мабыць, нешта скінулася з шастка каля печы. Набрыда ўсхапіўся, насцярожыў слых. Верка кумільгом шыбанула ў дзверы.

Пад раніцу Насці зрабілася зусім блага. Сцяло грудзі. Перасохла ў роце і паглыбелі каля вачэй маршчыны. Галава трашчала ад болю, быццам на ёй змалацілі ячмень.

Сцяпан схадзіў у калгасную кантору, якая была ў суседняй вёсцы, Таўкачоўцы, пазваніў у бальніцу, каб зноў прыехалі дактары. Па дарозе назад, мінаючы ферму, завярнуў да Веркі.

— З маці нядобра,— сказаў, тупячы ў зямлю позірк.

— Што?..— Верка адкрыла рот, і ў яе задрыжала ніжняя таўсмаценькая губа.

— Дыхаць няможна. У бальніцу хадзіў званіць...

Верка крутнулася, распранаючы на хаду халат, пабегла да Варвары Малашонкавай, якая цяпер падмяняла маці.

— Цётка Варка! З мамкаю дрэнна... Дадаіце ўжо маіх тут заадно, га?

Вузкія шэрыя вочы ў Варвары ўраз пакруглелі, іх заслала плёначка смутку.

— Во не шэнціць беднай кабеце... Бяжы, Верачка, шчэ пытаешся...

Чорна-сіняя хмара закрыла сонца, і на вуліцы раптоўна пацямнела— так бывае яшчэ тады, калі засынаеш завідна, а прачынаешся ўвечары. На шэры пясок важка ўпалі рэдкія буйныя кроплі дажджу — як разбеглася па зямлі мноства чорных даўганогіх павукоў.

Задыханая Верка ўляцела ў хату і на хвіліну як прымерзла каля парога.

Маці ляжала на палку белая, акурат палатно, з бяскроўнымі вуснамі. Пад вачыма чарнелі глыбокія ямкі.

— Што, табе дрэнна, мамк?..— кінулася да яе Верка.

— Нядужыцца, Вера, мне... Мусіць, памру я...— ціхім голасам, як не шэптам сказала маці.— Мірыцеся ж тут з бацькам. Дружыце...

У Веркі мігам навярнуліся на вочы слёзы, яна абняла маці рукамі і загаласіла, скаланаючыся ўсім целам.

Маці правяла рукою па Верчынай галаве, па твары — як і тады, калі Верка, малая, спала на палку, адно рука цяпер была халодная і нічым не пахла.

— Ну, дос, дос табе румзаць... Ты і напраўду паверыла, што памру. Ета я так... Смяюся.

— «Хуткая» бяжыць,— гледзячы ў акно, сказаў Набрыда, які толькі што ўвайшоў у хату, але ні Верка, ні маці не чулі стуку дзвярэй.

Дзядзькі ў белых халатах палажылі Насцю на насілкі і панеслі вонкі. Верка падалася следам. Набрыда астаўся сядзець на лаве, журботна сцяўшы тонкія вусны. Вочы ягоныя глядзелі тупа і засяроджана. У хаце зрабілася ціха і няўтульна, як быццам у ёй даўно ніхто не жыў. Адно было чуваць, як скрыгічыў у бервяне неўгамонны шашаль. Пахла сухою глінаю —

той, якая вышкрэбваецца з падлогі нагамі і падымаецца ў паветра пылам.

Верка правяла вачыма «хуткую дапамогу» ажно да павароту і яшчэ доўга стаяла нерухома: над дарогаю вісела жаўтлява-шэрае марыва, і ёй здавалася, што машына вось-вось вынырне з яго. Захліпала, пасунулася на агарод, у зацішак. Забрыла ў крапіву на ўзмежку, пастрыкала ногі.

І чаму столькі гора на яе? З айчымам гэтым... Мала што тады ў лесе, дык і яшчэ дамагаецца, прыстае, як блін той цяслявы... І сораму ніякага... Але, праўда, запалохала яго — сказала, што паскардзіцца маці,— дык пакляўся, больш не будзе «жартаваць». Ага, жартаваць...

А цяпер во з маці бяда... Што ёй, Верцы, рабіць? Хоць ідзі ды галавою ў Сож...

— Ну, што ты ўбіваешся, Верка? Не век жа яна будзе хварэць. Падлечаць і вернецца...

Верка здрыганулася: побач стаяў, нязграбна раскірэчыўшы ногі, айчым з сякераю на плячы. Мабыць, ішоў часаць дзеравіны і пачуў яе ўсхліпы. Яна прыкрыла рукою вочы і, угнуўшыся, прашмыгнула міма айчыма.

Знябытая за дзень, Верка спаць уклалася рана, нават не запальвала лямпы. Адно сцягнула «фермаўскія» боты, верхнюю апратку і адразу ў пасцель, балазе, айчым накарміў свіней і нават падаіў карову, чаго раней ніколі не рабіў. Засынаючы, чула, як за хатаю спакойна і размерана цюкала сякера.

...На двары глыбокая бязмесячная ноч.

Разграбаючы цяжкімі крыламі паветра, чарада варон праплыла над Малінаўкаю і знікла за стрэхамі крайніх хат. Мабыць, птушак спакусіла неўзаранае поле, на шчацiністай роўнядзі якога сплюшчанымі гарбамі панылa чарнелі сцірты саломы. Сюды ўначы выходзіла мышкаваць і асцярожная чуйнавухая ліса.

Паветра было калюча-празрыстае, як чыстае шкло, калі на яго лінеш вадою, і далёка прапускала позірк. У гэтай празрыстасці голыя, ані лісціка, клёны здаваліся непрывычна выразнымі і чорнымі. Зямля вакол іх была ўслана брудна-шэрым лісцём, якое зусім ня-

даўна яркім, залаціста-ружовым воблакам трымалася на галінах.

Мабыць, усяму ў прыродзе ёсць сваё месца і прызначэнне: варонам трэба спускацца на ржышча, каб знайсці там ежу, паветра павінна быць празрыстым, каб праз яго добра бачылі вочы, а лісцю трэба адрывацца ад галін таму, каб выжыў зімою клён і налета зноў закрасаваў зялёным сакавітым лісцём.

Чалавек нараджаецца для таго, каб плакаць і радавацца, кахаць і ненавідзець, а потым памерці, забраўшы з сабою ў нябыт цяжар перанесеных пакут і радасцей. І ці так ужо важна, які — вялікі, малы — гэты цяжар? Важней, мабыць, іншае: ці доўга чалавек нёс яго, цяжар, па белым свеце. Бо ўсё-ткі, калі б запытаўся ў чалавека, што лепш: жыць мала ды прыпяваючы ці доўга ды ў цяжкасцях, ён выбраў бы, пэўна, апошняе.

Набрыда цэлымі днямі, з прыхопам ночы поркаецца каля зруба: чэша, высякае, габлюе... На работу не ходзіць, узяў адпачынак, са скрыпам, але ўзяў: спаслаўся на хворую Насцю. Зразумеў старшыня калгаса Праснакоў, уважыў, хоць і аставаўся на восень, на дажджы не накрыты яшчэ зернясклад.

Набрыда кладзе вянец за вянцом. Жывіца — так кажуць у Малінаўцы пра мужчынскую сілу — у ягоным целе яшчэ ёсць, і ён адзін варочае бёрны, прывязвае да камля вяроўку, усцягвае яго, завязвае; потым усцягвае такім жа чынам другі канец бярна. Нарошчвае зруб — жоўты, як васковыя свечкі.

...Ціхай светлай раніцаю, калі сонца толькі пачало растапляць на траве, стрэхах прыціхлых хат, на плоце густую шэрань, прывезлі з бальніцы Насцю. Твар яе быў жоўты, як той новы зруб, і худы, абцягнуты зморшчанай сухой скураю. Вочы патухлі, сталі мутныя, акурат за гэтыя тры месяцы, якія яна праляжала ў бальніцы, адвыклі ад усяго, што было на двары і што знаёмым, родным пахам патыхнула ёй у нос, аж закружылася ў слабой, лічы, няцямлівай галаве.

Яна не пайшла адразу ў хату, завярнула на агарод. Убачыла там высокі, ужо з пастаўленымі кроквамі зруб і ўсміхнулася ціха, тужліва. Верка, якая падтрымлівала маці пад руку, убачыўшы гэтую ўсмешку, заплакала.

Праз дзень Насця памерла.

* * *

...Моцна ляскаючы крыламі, два галубы праляцелі міма кормазапарніка, зрабілі круты віраж над кароўнікам і ўзялі кірунак на падбарвянены сонцам захад. Мне стала сумна, бо ў тым баку быў Мінск.

На полі за фермаю траскатаў трактар, а мне думалася пра таксі, тралейбусы, аўтобусы... Здавалася, я сяджу ва ўтульнай кіназале «Цэнтральнага», гляджу фільм, які неўзабаве скончыцца. Я выйду на вуліцу і паплыву па напружанай людской рацэ...

Стары Лут уздыхнуў:

— Ось як, па факцічаскай лініі, пачынала сваю жытуху наша Вера-Аддалакавалера...

— Хто? Як вы назвалі Веру Дзям'янаўну? — здзівіўся я такой дзіўнай мянушцы.

Лут нахіліўся да топкі — твар яго стаў чырвоны, па ім скакалі бліскаўкі.

— Чаго, пытаешся? Тут, па факцічаскай лініі, тож доўгая песня...

«Калі ж яна скончыцца?» — падумаў я, адчуваючы хутчэй радасць, чым незадаволенасць. Бо разумеў, што не ўсё ўведаў, што і наперадзе мяне чакае шмат цікавага. Якія нечаканыя павароты! Мы проста мізэрныя, нікчэмныя ў сваёй мітусні, якая нічога не варта, а толькі забірае сілы, атручвае душу. Я спалохаўся, што так думаю. Мабыць, я павінен думаць іначай. Выходзіць, я кепска паддаваўся выхаванню, прынёс нямала пакут сваім бацькам. Мне стала іх шкада. Іменна іх, а не сябе.

— Але ўсё-ткі я загляну перш у кароўнік,— сказаў я Луту, чакаючы ад яго адказу.

Ён прамаўчаў.

Маўчанне — прымета згоды, падумаў я і хуткімі крокамі падаўся да кароўніка. З яго вылятаді звонкія, раскацістыя галасы даярак.

У кароўніку было святлей, чым на вуліцы: ззяў белы як снег неон. І каровы глядзелі на мяне белымі мяккімі, як галоўка адуванчыка, вачыма.

Я ўбачыў Веру Дзям'янаўну, але саромеўся падыходзіць да яе. У галаве тлумілася шмат супярэчлівых, непраясненых думак. Не прывёўшы іх у парадак, не супакоіўшыся, можна было выдаць сваё хваляванне, паказаць Веры Дзям'янаўне, што ўжо шмат чаго ве-

даю пра яе. Тады яна замкнецца ў сабе, замаркоціцца і нічога ў яе не дапытаешся.

Я спыніўся каля цаглянага, у гузаках цэментнага раствору, слупа, які падпіраў тоўстыя драўляныя перакладзіны,— на іх сядзелі галубы, патрэсвалі крыламі і неяк трывожна буркавалі.

Даяркі, занятыя сваім клопатам, не зважалі на мяне, ва ўсякім разе мне так здавалася, хоць у душы і не верыў гэтаму, бо ведаў ужо, што вясковыя жанчыны надта цікаўныя да новага чалавека, не супраць зачапіць яго словам, нават нешта параіць.

Вера Дзям'янаўна была, як і астатнія даяркі, у белым халаце, на галаве таксама белая хусцінка, з-пад якой выбіваліся каля скроняў тонкія цемнаватыя пасмачкі. Яна старанна вымятала дзеркачом і кармушкі аб'еддзе. Твар у яе быў засяроджаны і строгі, быццам нешта непрыемнае трывожыла, займала яе душу.

Каровы, гледзячы на сваю гаспадыню вялікімі белымі вачыма, аблізвалі языкамі тугія, як шапка маладога грыба, мызы.

— Зараз, зараз, красатулі мае!..— Вера Дзям'янаўна ўзяла белы ручнік, што вісеў на цвіку, убітым у драўляны слупок ад стойла. Прысела каля каровы, пачала масажыраваць набрынялае вымя.

Цяпер я бачыў Веру Дзям'янаўну адно краем вока. Трэба падысці бліжэй. Я ступаў асцярожна, выбіраючы мясціны, куды паставіць нагу. Ажно здрыгануўся, пачуўшы за спінаю звонкі, крамяны голас, які бывае толькі ў маладых вясковых жанчын, што выраслі на прыродзе і ніколі не скардзіліся на здароўе. І тут жа ўспомніў Ліду Цяцерыну і яе кволым, птушанячым галаском.

— Во вам, гарадскія! У туфельках усё. Гэта не кіно і не тэатр!..

Ад нечаканасці і крыклівага голасу я пачырванеў, разгубіўся. Ліхаманкава думаючы, што адказаць, я павол павярнуўся. На мяне глядзела не міргаючы маладая круглатварая маладуха і ўсміхалася — блішчалі белыя, прыгожыя зубы.

— А мы не з кіноў і не з тэатраў!..— аджартаваўся я, хоць кемлівасці, асабліва ў пачатку размовы, мне звычайна неставала.

Маладуха ўзялася ў бокі, трасянула высокімі грудзямі, якія туга напіналі халат.

— Усё адно інтэлігенцыя. Нябось, на такіх, як мы тут у гнаі калупаемся, не паглядзіцё. Па сабе шукаеце, модных, нафарбаваных!..

Так проста, жарцікам не адчэпішся, падумаў я, адчуваючы задзірысты нораў маладухі, але зноў сказаў жартаўлівым голасам:

— Трэба некаму і на модных жаніцца!

— Усе мужыкі хочуць жоначку-кралю...

Запас жартаў у мяне скончыўся, і я сказаў сур'ёзна:

— Галоўнае — душа, яе пад фарбу не схаваеш...

Маладуха хмыкнула.

— Што вам, мужыкам, душа...— Яна какетнічала, быццам падбівала мяне на жарцікі.

— А дарэмна вы лічыце, што нафарбаваныя ды модныя толькі ў горадзе. І вашы даяркі прыходзяць на ферму падфарбаваныя... вось вы,— усміхнуўся я, і маладуха апусціла вочы.— Так што і ў вёсцы можна знайсці сабе пару...

Я гаварыў і не верыў самому сабе, хоць разумеў, што ў маіх словах добрая доля жарту. Чамусьці быў упэўнены, хоць пакуль і не да канца, што раней я не змог бы паставіць душу вышэй за фарбу, за знешні бляск. У тым свеце, з якім я разлучыўся і па якім тады-сяды ў душы ажывала глыбокая туга, чалавека і сустракалі, і праводзілі толькі па адзетку.

— А сам жа во не ў вёсцы, у начальнікі выбіўся... Карэспандэнт! Мусіць, дапамог нехта? — звузіла вочы ў шчылінкі, быццам збіралася хітраваць.

Я быў ужо астудзіўся, але цяпер зноў пачырванеў: яна гаварыла праўду. Бацька пастараўся, каб я паступіў на журфак. Калі я прыходзіў на ўступны экзамен, супраць майго прозвішча ўжо стаяла «птушачка», якая несла мне ў дзюбцы пяцёрку.

— Дапамаглі,— сказаў я, адчуваючы, што гаварыць мне так цяжка, быццам варочаць камяні. Я заўважыў, што мяне вельмі часта апальвае сорам.

Маладуха не чакала ад мяне шчырасці, неяк ураз абвяла, вочы разгублена забегалі. Мабыць, ёй было няёмка, што прымусіла чужога чалавека пайсці на такую ганебную адкрытасць. Яна і блізка не падазравала, што я быў удзячны ёй. Яна была цяпер мой экзаменатар, я здаваў самы складаны і доўгі ў жыцці экзамен, якому, можа, наогул няма канца,— экзамен

на ачышчэнне душы. Спасцігаючы жыццё, людзей, я пачынаў разумець, што я не жыў, я проста быў. Нават не існаваў, а быў, бо існаваць — гэта ўсё-такі думаць. А я не думаў. За мяне думалі бацькі: куды паступіць, дзе працаваць, каго мець за сябра, з кім ажаніцца... Доўгі час мяне такое становішча задавальняла. Божа, колькі ж мне гадоў? Тры, пяць, дзесяць? Я не верыў, што ёсць на зямлі слёзы, боль, пакуты, няшчасці, пот... Мне замест соскі далі ў рот цукерку, і я не ведаў іншага смаку, пакуль, нарэшце, яе не выплюнуў.— Дапамаглі, а як вы здагадаліся? — паўтарыў я.

— Я наскрозь чалавека бачу! — пахвалілася маладуха, мабыць, здзівіўшыся, што на маім твары не зацятасць, а лагода, нават удзячнасць.

— З вамі цікава пазнаёміцца.

— Ева Рогаль мяне завуць...

— І па бацьку, калі ласка.

— Адамаўна... Дзявочае прозвішча — Малашонкава... Ідзёць? Мы з Верай Прызнайцавай разам працуем... Крышачку пастойце тут. Я толькі апараты падключу.

З шырокіх, падзеленых клетачкамі акон сумна глядзела на мяне бляклае, прытушанае неонавым святлом сонца.

## Успамін чацвёрты. АДЧАЙ

Еўка са злосцю шпурнула вядро ў кут. Яно забрынчэла восілкаю, стукнулася ў сцяну і адскочыла. У падстрэшшы кароўніка спуджана залопалі крыламі галубы і вылецелі ў адчыненыя дзверы. У паветры павісла, плаўна спускаючыся, некалькі маленькіх пярынак, насупраць дзвярэй, на скразняку, яны загойсалі, быццам матыль-капуснік.

— Гары ты гарам гэтая дойка!..— Еўка выскачыла на двор з поўнымі слёз вачыма. Была крутнулася бегчы дахаты, але спахапілася, што ў халаце. Павярнула да «каравулкі».

Распрануўшыся, наблізілася да круглага люстэрка, уробленага ў атынкаваную сцяну, глянула на адну шчаку, на другую, загладзіла пад хустку густыя, не ўбіць грэбень, валасы. Спадабалася сама сабе, і ад гэтага яе ахапіў яшчэ большы адчай. Зляклулася, пачуў-

шы за спінаю грукат: каля парога стаяў Хвядос Лут у цяжкіх запыленых кірзачах, халявы якіх пабраліся гармонікам.

— Усё сабою люб-буешся? Лю-любуйся, па факціцкай лініі, ёсць на ш-што... Я ўжо кы-казаў Варцы, што пы-прыгажэй яе дачкі ў Мы-малінаўцы нашай ніняма...

Еўка пачырванела: не чакала сустрэцца тут з загадчыкам фермы, ды яшчэ з п'яным. Гаварылі, паехаў у горад — выходзіць, ужо вярнуўся. Ружовенькі, бліскучы твар, вясёлыя вочы.

— Ды не, дзядзька Хвядос, заскочыла во...— і запнулася, у галаве ваўчком закруціліся думкі: «Яшчэ не ведае, што я... Ну і радасці, што не ведае... Усё роўна жанчыны перададуць. Лепш сама раскажу...»

— Бы-быстра ты пып-падаіла...— Лут, калі быў надта п'яны, заікаўся і замест «факцічаскай» вымаўляў «факціцкай». Гэта загана яго заўсёды выдавала.— Па фак-кціцкай лініі, ты-трэба даваць ды-дарослую групу...

— Мне і гэта не трэба! — падлавіла момант Еўка.

— Й-як не трэба?..— Вочы ў Лута памутнелі, а зрэнкі, акурат лінзы, настаўленыя на сонца, сабралі ўвесь бляск у пякучыя белыя кропачкі.

— А вось так, дзядзька Хвядос, не падабаецца мне даіць кароў. Вечна ў брудзе!..— Яна ўсхліпнула.

— Тут-т... ета, па факціцкай лініі, ш-што зробіш... Такая р-работа. Ты-твая матка ўсю ж-жызню пап... пр... пра-працавала н-на хверме і ні раз-зу не ж-жалілася...

— То маці, тады час такі быў... А цяпер, скажыце, хто з маладых у вёсцы? Еўка Малашонкава ды Маня прыдуркаватая...

— Т-ты ета... Еўка, не гы-глядзі на другіх. Ото чычуў я, што к-кароўнік у нас ны-новы буд-даваць стануць, ды-даільную п-паратуру ўстановяць. Т-тады і вёдзер е-етых цягаць не б-будзеш і халаты б-белыя будуць, як на хваб-брыцы... па факціцкай лініі, вот!

— Не хачу я ні халатаў белых, ні апаратуры вашай! Не дзявоцкае гэта дзела... Паеду ў горад! Усе едуць, і я паеду.

— Пы-падумай, па фікціцкай лініі, п-падумай, дзеўка,— сказаў Лут ужо ўслед Еўцы.

Кінуць ферму Еўка задумала нядаўна. На гэта яе падбухторыла Валька Агейчык, з якою разам канчалі

дзесяць класаў і разам паступалі ў бібліятэчны тэхнікум. Экзамены здалі, але не прайшлі па конкурсе, і Еўка вярнулася дахаты, а Валька асталася ў Магілёве, знайшла сабе работу — парадчыць на паштамце пісьмы.

Тыдзень назад Валька прыязджала ў Малінаўку да бацькоў. Не адна, з кавалерам. Ішлі ад шашы пад ручку. Валька ганарліва трымала галаву — носа тычкаю не дастаць, з нафарбаванымі вачыма і вуснамі. Яе выгляд так і крычаў: глядзіце на мяне, людзі, і зайздросце! Кавалер, высокі, з чорнымі вусікамі, нёс у левай руцэ маленькі Вальчын рыдыкюльчык, голасна размаўляў і ўсё пасміхаўся, бліскаючы позіркам на таемна-глыбокія вокны хат.

Увечары Валька пад ручку [redacted] кавалерам прыйшла да Еўкі. Паводзілася так, быццам дасягнула райскіх вышынь і толькі што спусцілася на зямлю.

— Чиво, Ефка, здес маринуешься? На ферме этой. Тьфу, какая гадость! Здес и рибят толковых нету. А ф городе? Ты же самая красифая ф класе была. Тибе парня отфатить — раз плюнуть. Как я фот кисаньку свайфо отбила ф одной там. Прафда, лапонька?

— Ой, я так зайздрошчу табе, Валечка!

— Ты разгофаривай по-городскому, а то мой Фладя не понимает.

Еўка разгубілася, глянула на хлопца.

— Ён замежны ў цябе?

Валька засмяялася.

— Да нет же! Магилёфский... Просто он не понимает дерефенскую речь. Ему здес фоздух нравится... сфежий. Ну, мы пойдем, нам нужно хорошо отоспаться... Гуд бай!

Калі зачыніліся дзверы за Валькаю, Еўка доўга не магла супакоіцца. Яна шчыра зайздросціла сяброўцы, перажывала, што не ў горадзе, што не ўмее так размаўляць, як Валька. Сэрца ў Еўкі то замірала, то гулка стукала. Кажуць, гэта нядобра сэрцу, калі сам, не прытульваючы да грудзей рукі, чуеш яго стукат.

З фермы Еўка прыйшла зажураная, вочы сумныя. Ні слова не гаворачы маці, бухнулася на ложак, тварам у падушку.

Варвара, маці, здзіўлена глянула на дачку: «Што з ёю?..» А потым, занепакоіўшыся, асцярожна наблізілася да ложка, кранула Еўку за плячо:

— З каровамі што няладна, дачуша?

Еўка брыкнула нагамі.

— Не пайду больш на ферму! — Павярнула да маці твар: у вачах было столькі пакуты і болю, што ў Варвары кальнула сэрца і перасохла ў горле.— Дзеўкам не трэба яна, а толькі мне. Адной!

— Дык без дзела ж... Як жа? — Варвара нясмела пярэчыла дачцы.

— З'еду вунь у Магілёў! Знайду работу...

— Ай, дачуша, не ведаючы, куды і што, у свет...

— Людзі ж уладкоўваюцца неяк і жывуць прыпяваючы. Хлопцаў пазнаходзілі, а тут...— Еўка глыбока, з надрывам уздыхнула.

— Глядзі, дзетка маё, глядзі, каб... Можа, яшчэ адумаешся...

— Нацярпелася, хопіць! Няхай другія месяць гразь...— Яна зноў уткнулася тварам у белую мякаць падушкі — як у вату.

...Вера бачыла, як мітульгою вылецела з кароўніка Еўка. Ужо трэці месяц ходзіць дзяўчына даіць кароў, а ўсё ніяк не прывыкне, не асвойтаецца. Скардзіцца: то рукі баляць, то карова брыкаецца, то смуроду не пераносіць. А школьніцаю ж дапамагала маці, тады маўчала. Кроў кіпіць маладая, вось і бунтуе дзяўчына. Замужжа непакоіць. Але, мабыць, не хоча выходзіць абы за каго, шукае ■ выгадаю жаніха. Разумее, што прыгожая, што спадабаецца любому хлопцу...

Вера падаіла сваіх кароў, справілася трохі раней, чым астатнія даяркі. Пайшла глянуць, як там Еўчыны кароўкі. От, гарачая галава ў дзеўкі, падумала зноў, капрызнічае, муштруецца...

Яна ўспомніла раптам свае першыя дні на ферме, і ёй стала няёмка за тое, што ўшчувае Еўку. Як ёй, Верцы, тады хацелася ў школу, вучыцца разам з сяброўкамі, але маці знемагла, патрэбна была дапамога. Горка, крыўдна ўспамінаць...

І раптам пачула:

А Л-лявоніху Л-лявон п-палюбіў,
Л-ля-лявонісе... чы-чаравічкі куп-піў...

Хістаючыся, беручыся рукою за кармушкі, да яе ішоў Хвядос Лут і спяваў. Вера здзівілася: п'яным на ферме загадчыка яна ніколі не бачыла, можа, зрэдку пасля свята ці гулянкі.

Крокі за тры да яе Лут спыніўся.

— Вы-выручаеш, Дзі-дзям'янаўна, п-падапечную?

«Во, ведае ўжо пра Еўку і хоць бы што...» — Веры не спадабалася, што Лута зусім не крануў Еўчын капрыз, ва ўсякім разе, вочы ніякай душэўнай трывогі не выдавалі. А тут жа не так усё проста і можа нядобра скончыцца.

Ля-лявоніха... ды-душа лас-скавая...
Чы-чаравічкамі пал-ля-скікала...

Лут зноў заспяваў, не дачакаўшыся адказу ад Веры. Даяркі сабраліся ў кучу, з цікавасцю пазіралі на Лута, украдкаю падсмейваліся.

— Ягоравіч! — як не крыкнула Вера. Твар яе запалымнеў.— Вы што?..

— Я-я, па факціц-цкай лініі, я...

— На вас жа людзі глядзяць..

— Я-я не ц-целявізар, каб на мі-мяне глядзець... Я-я тут начальнік!..

Апошнія Лутавы словы скрабянулі Веру за душу.

— Начальнік... таму і раблю, што хачу, так?

— Т-ты мы-мне, Д-дзям'янаўна, м-мараль чытаеш?.. М-мне, па факціцкай л-лініі, нач-чальніку!

— Чытаю, Ягоравіч, бо вінаваты.

— Т-ты, Дзі-дзям'янаўна, ці-цішэй... ета, на паваротах...— Лут яшчэ храбрыўся, надаваў сабе пыхі.— Д-ды я...ета, па факціцкай л-лініі...

— Добра-добра,— падлагодзіла Лута Вера.— Давайце падумаем, што з Еўкаю рабіць?

— Зі-з якою Еўкаю?

— З Малашонкавай, з якою ж.

— Ус-сё на мы-мазі! Я-я, па ф-факціцкай лініі, ужо адчытаў йя-яе...

— Эх, Ягоравіч...

— Пы-паспрабуй ты. Мы-можа, ц-цябе лепш паслух-хае...

У ліпені дні стаяць доўгія. Хоць і пазнавата, але на дварэ яшчэ светла, цепліцца вечаровы зацішак. На пра-

вадах уселіся радком ластаўкі, заўзята цвіргочуць, быццам у радасці па вясне. Затым нечакана зрываюцца, аж калышуцца правады, і ляцяць нізка над зямлёю, куляючыся ў густым паветры і мільгаючы тугімі белымі грудкамі. У Бряндзіках аддаецца гулкае крамянае рэха — цёх! цёх! цёх! — нехта клепле ў двары касу.

Вера ішла да Малашонкавых. Несла ў грудзях трывогу: а раптам Еўка, расхваляваная, сказане ёй: «Таксама прафесар мне знайшлася! Вучыш... Сябе павучы!» Ад гэтай трывогі сціналася сэрца, і, не саўладаўшы з ёю, Вера ступіла на Малашонкаў двор. Каля пуні стаялі новыя граблі і касільна, на зямлі ветрык варушыў жоўтыя стружкі і скручаную баранкамі сухую яловую кару. На ганку ляжала кучачка свежай, зялёненькай макрыцы. Дзверы ў сенцы былі прачынены.

— Здароўце вам, цётка Варка?

— Варка, Верка...— засмяялася гаспадыня.— Добрага здароўечка!

— А што гэта Еўка рана ўклалася? — знарок гучна спытала Вера, акурат не ведала прычыны.

— Ды во абрыдла, кажа, каля кароў,— адразу прызналася Варвара.

— І не пайду! — выскачыла з чыстай паловы хаты Еўка.

— Так ужо і не пойдзеш? — вымучана ўсміхнулася Вера.

— Няўжо ж буду марнавацца!

«Зацялася дзеўка і слухаць не хоча, каб выкінуць з галавы пустое»,— падумала Вера і сказала спакойным голасам:

— І мне во сорамна за цябе. Помніш, як Ягоравіч наказваў: «Прыстаўляю да цябе, Вера, добрую дзеўку, зрабі з яе першакласную даярку...» Успомніўшы Лута, Вера непрыкметна скрывілася, уздыхнула.— А выйшла... Курам на смех.

— А я не вінавата, што абрыдла мне на гэтай ферме.

— Яно з усімі, Еўка, так. Пакуль уцягнешся — адно мучэнне.

— І я помню, як пачынала, дык усё-ё-ё псіхавала,— падхапіла Варвара і асеклася: мабыць, задумалася. Можа, і праўда, не трэба ўгаворваць дачку. Навошта прысільваць? Адна асталася ў Малінаўцы... Ма-

ня, дык тая ж... Ці яна, Еўка, горшая за ўсіх, за Вальку Агейчыкаву? Але ж і пускаць з ветрам у галаве немаведама куды...

Вера глянула на Варвару, узрадавалася, ажно пасвятлела ў твары: «Во і маці не хоча, каб яна кідала...»

— Паслухай-ка, што я скажу табе, Еўка. Нікуды ты не рвіся. Во працуй, зарабляй стаж ды падчытвай кніжкі. Возьмеш у старшыні супраўвадзілаўку і паедзеш вучыцца... На агранома ці на заатэхніка. Глядзіш, і за студэнта замуж выйдзеш. Абодва вучоныя будзеце...

Вера бачыла, як Еўка ўсміхнулася аднымі вачыма, стрымала сябе, каб не паказаць, што пачутае падвесяліла яе, лінула ў сэрца радасці. Але розум пярэчыў.

— Як бы не было, а сядзець тут я не збіраюся. Нават пагуляць няма дзе. Клуб, і той у Таўкачоўцы, за тры кіламетры.

— А я пра што. От каб не сядзець тут, не накручваць каровам хвасты, і трэба вучыцца. А ты ўжо рукі апусціла, яшчэ маладая...

— Праўду, праўду кажа Верка,— асмелілася, падступіла бліжэй да Еўкі Варвара.— Паслухай...

— Вас толькі слухай! — крыўдліва кінула Еўка. Падышла да акна, узлакацілася на падаконнік.— А калі я прывыкну і не захачу нікуды ехаць?

— Усё, Еўка, можа быць...— Твар у Веры стаў сур'ёзны, сцяліся да пераносіцы цёмныя серпікі броваў.— Жыццё не ведаеш, куды паверне. Але не прападзеш...

— Го-о-ох!..— цяжка ўздыхнула Варвара, гледзячы на дачку.

— У нашай Малінаўцы ад суму можна павесіцца! — Еўка павярнулася, стала да акна спінаю.

— Самой трэба весяліцца, а не чакаць, пакуль артысты прыедуць весяліць цябе. Клуб вялікі, а вечна на замку. Давай канцэрт, песні, га? А нашага Ягоравіча запявалам... «А Л-лявоніху Л-лявон п-палюбіў...» — праспявала яна, смеючыся.

— Вам смешна...— ужо лагодна прамовіла Еўка.

— Ну, то глядзі, каб усё добра было,— павесялеў голас у Веры.— Трэба бегчы дахаты, а то я прама з фермы... Бывайце здаровы!

Выйшаўшы на вуліцу, Вера глянула на Малашонкаву хату: на шыбіне акна жаўцелі дзве плямы ад Еў-

чынага твару — лоб і нос. Сама сабе ўсміхнулася і, ціха, дробна ступаючы, пайшла сцежкаю, паўз самецькі плот.

* * *

...Натужна, з перабоямі гудзе малакапровад, у шкляных трубках пульсуе, б'ецца малако. Здаецца, яму там цесна, і можа лопнуць шкло.

Ева глядзіць на мяне, і ў яе вачах гэтак жа нястрымна плешчацца радасць, лёгкая ўзбуджанасць. Мне дзіўна, што чалавек мае ў душы столькі радасці, і трошкі робіцца не па сабе, што я надта доўга іду да Веры Дзям'янаўны.

— Чакайце! — раптам спахапілася Ева і кінулася да стойла. Пярэстая крутарогая карова вырвала з прыёмнікаў саскі — мабыць, рэзка матлянула вымем.

Я бачыў, як яна хвацка паддала прыёмнікі ў вымя, і яны прысмакталіся прагнымі цялячымі мызкамі.

— Во і ўсёй работы, трэба сачыць,— сказала Ева, вярнуўшыся. Было відаць, што ёй карціць расказваць, яна не хоча спыняцца на тым, што ўжо расказвала мне. Падобна, што ёй першы раз трапіўся чалавек, які ўважліва, не перабіваючы, слухаў яе, сакатуху і трошкі сапсаваную хараством вясковую какетку.

Нам усім у жыцці не хапае ўвагі, мы заняты сабою і не зважаем на астатніх.

## Успамін чацвёрты (працяг). СІНІ ПРЫВІД

У пакоі-бакавушцы цішыня, ажно звініць у вушах. А за цёмным акном шастае па вішанніку вецер, недзе каля вугла цвёрда шоргае аб сцяну галіна, нібы карова чухае рог. Па вуліцы праехала машына, і шпалеры ў пакоі спярэсціла міргатлівае святло фар.

«Кіно...» — сумна ўсміхнуўся Іван. Ён, задуменны, рукі за галаву, ляжыць на канапцы. Гэтыя дні ў калгасе, бадай, самыя сумныя ў ягоным жыцці. Ён рабіў скідку на новае месца, дзе заўсёды трэба прывыкаць, абжывацца, але была і другая прычына неспакою. Іван, праўда, пэўна яшчэ не ведаў, прычына гэта ці не прычына, але з галавы ў яго не выходзіла адна малінаўская даярка.

Прыгадалася, як прыехаў у калгас.

Старшыня калгаса, Праснакоў, адразу Івану не спадабаўся. Быў ён тоўсты, марудлівы і, на погляд учарашняга студэнта, няўважлівы да людзей. Смалячы адну за адной цыгарэты, няспешна, як у сне, абмяркоўваў з мужчынам у запыленым капелюшы план жніва. Пазней Іван здагадаўся, што мужчына ў капелюшы — галоўны інжынер. Можа, з гадзіну Іван сядзеў на нізкім табурэціку і чакаў.

— Дык, кажаш, папаўненне маладое... заатэхнік!— звярнуўся ён да Івана, калі запылены капялюш схаваўся за абабітымі дэрмацінам дзвярыма, на якіх Іван ужо не раз пералічыў усе белыя, у драбнюткіх пасачках кнопкі.— Давай, давай, трэба нам адзінка.

Старшыня ахвотна апавядаў Івану пра калгас, фермы, пашы, надакучаў з высокімі надоямі. Усё браў з галавы, не напружваючы памяць, не задумваючыся.

«Надае сабе цану,— здагадаўся Іван.— Але ж і я не такі прасцяк, акадэмія за плячыма...»

— Словам, акурат падаспеў ты, браток.— Старшыня ўстаў з-за стала, пайшоў у кут, дзе вісела на вешалцы-стаяку яго выпаленая сонцам бікешка.— Самая цяпер прадуктыўная пара... Ухопіш — на канец года будзе і малако, і мяса, так, га?

— А як у вас арганізавана пасьба жывёлы? — стараючыся надаць голасу лёгкасць, маўляў, вядомыя ісціны, спытаў Іван.

— Пастухі.

— Электра?

— Не, звычайныя, людзі...

— Састарэла! Цяпер для адкормнікаў прымяняюць прывязны спосаб, для кароў — электрапастухі.

— Гэта, браток, не для нас.

— На лекцыях нам гаварылі, што ўсе прызнаюць іменна гэтыя спосабы.

Праснакоў засмяяўся, шчыра, адкрыта, як і трэба чалавеку разумнаму, няз'едліваму.

— Лабараторыя — адно, а практыка, браток, другое.

— Не, я з вамі не згодзен. Навука — гэта наша перспектыва! — Іван, адчуваў, гарачыцца.

— Цуд, браток! Але ж спецыфіка пашаў, клімат, бал зямлі, узровень развіцця... Хіба ўсё ўлічыш за сталом? — Старшыня, наўздзіў Івану, які прывык спра-

чацца з сябрамі запальчыва, горача, гаварыў спакойна, нават крышку запаволена, акурат даючы засвоіць кожнае слова, адчуць яго цану.— Карацей, браток, пажывеш у нас — пабачыш. Хадзем-ка лепей кватэру табе пакажу... Пакуль бабуліну, а жэнішся,— хітра глянуў на Івана,— дадзім уласны фінскі домік. Вось так-та! Сёння, так і быць, адпачывай, а заўтра паездзім па калгасу.

Бабцы Арыне, да якой Івана прывёў старшыня, перавалiла за сёмы дзесятак. Жывая, вельмі ахвочая да слоў, яна цэлы вечар прасядзела з Іванам.

— У мяне сямёра дзяцей, усе ў вельміх гарадах... Толькі Хвядос тут у калгасе, ён на Малінаўскай ферме начальнікам. І я ўсё жыццё во гэтымі рукамі грэбала, на калгас старалася...— Яна падняла дрыготкія, аплеценыя карэньчыкамі жыл рукі.— І дабілася... заслужаная калгасніца я.

Іван уважліва, з цікавасцю слухаў старую. Яна адразу скеміла, што яе «хвацерант» уседлівы, і так засакатала, што ў Івана галава пайшла кругам.

— Што я, саколік, у цябе папытаюся... А чаго ета ізвесныя арцісты ў нашу вёску не заязджаюць? Ці мы б ета не паглядзелі на іх жывенькіх. Па целявізару так не ўгледзіш, як на свае вочы...

Іван спачатку не дапяў, што хоча ад яго старая, перапытаў два разы. Сумна і нудна пачаў талкаваць пра «сціранне граняў паміж горадам і вёскаю». Бабка Арына слухала яго, наставіўшы вуха, ківала ў знак згоды сівой галавою, а потым як адрэзала:

— Пра ета, саколік, я і па радзіву чула. А я не так думаю: грошы ім тута мала заплоцяць, таго і не едуць!

Уклаўшыся спаць, Іван доўга думаў і над гэтым простым, трохі наіўным адказам старой, і над спрэчкаю са старшынёй і мусіў прызнаць: жыццё вучыць пасвойму, іначай, чым вучылі яго падручнікі.

Раніцаю пад вокны хаты падкаціў «газік», новы, блішчасты, аж гарыць. Праснакоў зайшоў у хату. Іван наспех перакусіў, і яны паехалі ў Малінаўку, на самую далёкую ферму.

Сонца толькі бралася на цяпло, як след не прачнулася, вісела за густымі вершалінамі бяроз, што раслі каля дарогі, далёка наперадзе. Промні слаба прабіваліся скрозь мокрую лістоту, тады-сяды, вырваўшыся з

прарэхі, сляпілі вочы, акурат успышка магнію. Іван міжволі зажмурваўся, і на твар сыходзіла гарэзлівая дзіцячая ўсмешка.

Праснакоў пільна глядзеў на дарогу, але краем вока бачыў і Івана.

— Што, браток, пасміхаешся? Весела?

— Весела, як рыбцы на кручку,— уздыхнуў Іван.

— А чаму ж гэта, не спадабалася кватэра?

— Ды не!

— А што ж тады? — Праснакоў мелькам глянуў на Івана і, акурат прачытаўшы яго думкі, бадзёра сказаў: — Нічога-нічога, прывыкнеш!

— Паку-у-уль гэта.

— Усё не проста, у народзе кажуць: задарма і скулка не садзіцца.

Яны пад'ехалі акурат. Дойка толькі-толькі скончылася, і даяркі яшчэ не разышліся па дварах, згурціліся каля «каравулкі»: спаласквалі вёдры, зліваючы сівую ваду ў вялізны чан, замывалі халаты, чысцілі.

— Здаровы, браткі-бабанькі! —павітаўся старшыня.

— Добры дзень! — стрымана кінуў Іван.

Даяркі бязладна адказалі на прывітанне.

— Ну, вось прывёз вам самага важнага начальніка. Завуць яго Іван Лявонавіч. Чалавек адслужыў армію, скончыў акадэмію, накіравалі да нас... заатэхнікам.

Іван зіркнуў на даярак. Яны глядзелі на яго адкрыта, ва ўсе вочы, хілілі адна да аднае галовы, перашэптваліся.

«Прыгожанькі...» — улавіла Іванава вуха, і ён глянуў туды, дзе пачуўся шэпт. Глянуў і не адвёў вачэй, не мог адарваць позірку ад другіх вачэй. Такіх вачэй ён ніколі ў жыцці не бачыў. А можа, гэта былі зусім не вочы, а толькі сіні прывід — з тугі і суму. Бо хіба могуць быць такія вочы ў маладой жанчыны?

— Прашу любіць і жалаваць... і не крыўдзіць! — Старшыня жартаўліва плюснуў вокам, паківаў на даярак пальцам.— Каб слухаліся, дабро?

Даяркі засмяяліся, пачалі разыходзіцца, і тут Іван убачыў, што маладая жанчына з сінімі вачыма прыгожая ўся.

...Іван схамянуўся: за дашчанай перагародкаю пачуўся голас бабкі Арыны.

— Ці спіш там, саколік? Чуеш, дождж зашамацеў. Луг яшчэ не ўвабралі...

Яму трэба было нешта адказаць, каб не падумалася часам бабцы Арыне, што ён, яе «хвацерант», у крыўдзе на сваю гаспадыню.

— Можа, ненадоўга. Улье — і распагодзіцца.

— Дай бог!

Бабка Арына, мабыць, занялася вязаць: было чуваць, як мякка гопнуў на падлогу пачынак з ніткамі.

За акном ціха, закалыхваючы, шумеў дождж...

«Якія дзіўныя вочы... А позірк такі пакорлівы, сарамяжлівы, проста зачараваў... Здаецца, падышоў бы і пашкадаваў яе...»

З Іванавай памяці яшчэ доўга не выходзіў сіні сум вачэй маладой даяркі, і, патанаючы ў тлумны, нездаровы сон, ён падумаў, што заўтра абавязкова пабудзе на Малінаўскай ферме.

Дождж, дождж... Адчуванне: што гайдаюць хвалі...

...Вера дастала з печы чыгун, наліла цёплай вады ў вялікую алюмініевую міску. Саставіла ў яе талеркі, па адной беручы, перамыла. Потым — відэльцы і лыжкі. Выцерла анучаю масніцы.

Глянула на гадзіннік, і яе аж калатнула. Хуценька пераадзелася ў лёгкую, з кароткімі рукавамі сукенку і выйшла на вуліцу. Адно ў прыцемку разгледзела, што рукі да локця надта загарэлыя, ажно чорныя, а вышэй — белыя-белыя, як забінтаваныя. Усю дарогу дакарала сябе, што адзела сукенку з кароткімі рукавамі. Нават хацела з паўдарогі вярнуцца і памяняць сукенку.

Сход не пачыналі, чакалі іх, малінаўскіх камуністаў. Як толькі яны гурмою зайшлі ў кантору, усе заварушыліся, загудзелі. Заскрыпелі крэслы. Сакратар партарганізацыі, малады, чарнявы, з глыбокімі залысінамі, устаў з-за стала і папрасіў:

— Таварышы, хутчэй! Сядайце, пачынаем...

У кожнага чалавека, мабыць, ёсць інтуітыўны зрок, які падказвае вачам, куды зірнуць, каб убачыць таго, хто звяртае на цябе ўвагу. Вера зусім нечакана адчула, што за ёю нехта сочыць, не спераду і не збоку, а з-за спіны. Так і карцела павярнуцца, але ўсе ўважліва слу-

халі сакратара і яна не асмелілася рухам галавы парушыць парадак.

Сядзела сцятая, стрымлівала дрыготку ў грудзях.

«Задумкі ў нас на другое паўгоддзе трэцяга года пяцігодкі высокія і давайце, таварышы, сёння разам падумаем, як нам лепш з імі справіцца»,— закончыў сваё выступленне сакратар партарганізацыі.

— Хто жадае выступіць? — спытаў Хвядос Лут, якога выбралі старшынёю сходу.

Скрыганулі аб падлогу ножкі крэсла — нехта ўстаў. Цяпер можна было павярнуцца, але Вера пачула голас і адразу здагадалася, што на яе глядзеў чалавек, чый голас яна зараз чуе.

Выступаў новы заатэхнік, Іван Лявонавіч.

Голас у яго быў малады, крамяны, чысты, як у дыктара. Умее, як па-пісанаму шпарыць, падумала Вера. Ёй перацяло дыханне. Яна расшпіліла два верхнія гузікі. Яе апаліў сорам за сябе, за сваю няскладную, як лічыла, гаворку. Саромелася не ўсіх, а чамусьці яго, іменна яго, маладога заатэхніка. Боязна было здацца перад ім хоць у чым нявартай і бездапаможнай. А чаму боязна, яна не разумела сама, адно прыпамінала яго прыезды на ферму, яго словы, усмешку...

Яна пачакала, пакуль выступіць яшчэ адзін чалавек, трохі супакоілася і падняла руку. Адчувала, ён сочыць за кожным яе рухам, і таму не ведала, з чаго пачаць, на каго глядзець, куды схаваць рукі...

Сход скончыўся ўпоцемку. Усцяж па Таўкачоўцы гарэлі ў вокнах агні — як пападалі на зямлю зоркі. Аднекуль здалёку, з-за вёскі, даносілася мернае і як бы сумнае вуркатанне трактара.

Веру затрымаў на хвілінку сакратар, пытаўся, колькі жанчын з іх вёскі можа спяваць у хоры, і калі яна выбегла на ганак, то малінаўскія, мабыць, не заўважыўшы, што яе няма сярод іх, ужо далекавата адышліся. Іх галасы чуліся недзе каля моста, да якога было метраў дзвесце, а то і болей. Пакуль Вера намацвала нагамі сходкі, вочы прывыклі да цемнаты, і яна ўбачыла крыху воддаль у цяні пад яварам чалавечую постаць. Не так пазнала, як здагадалася: «Заатэхнік!..»

Адразу пайшла ходка, ледзь не ўподбег, каб нагнаць сваіх. Мінаючы заатэхніка, пачула:

— Прабачце, што без дазволу чакаю вас.

Яна адчула, як аслабелі ногі, перасталі ісці. Спынілася, злажыла на грудзях рукі. Вачам здалося: цемра зноў згусцілася, як хто развеяў у ёй сажу.

— Мяне?.. А што такое, Іван Лявонавіч?

— Хачу вам сказаць, мне вельмі спадабалася, як вы гаварылі на сходзе... «Працуем весела, а жывём сумна».

— Дзякуй за добрае слова, але няма за што хваліць.— Яна, не хаваючыся, глянула ў цемру туды, дзе была дарога на Малінаўку: «Няхай бачыць, што спяшаюся...»

— Не хвалюйцеся, я вас правяду. Заадно і пагаворым...

— Ой, што вы, Іван Лявонавіч!.. Ці варта вам біць ногі туды тры кіламетры ды назад столькі? — Вера сказала і не пазнала свой голас — здаўся чужым і няшчырым. Мяккі халадок скаціўся з патыліцы ў лагчынку спіны. Стала мласнавата: «Упадабаў... Няўжо? Мяне?.. Малады, такі прыгожы... Ды за ім жа любая дзяўчына пабяжыць...»

— Нічога, вытрымаюць. І дзеці не плачуць,— усміхнуўся Іван, і ў цемнаце бела, як бы падсвечаныя агеньчыкам, блiснулі яго зубы.— Дазвольце, Вера Дзям'янаўна, праводзіць вас,— папрасіў ён па-дзіцячы шчыра.

Вера, глянуўшы яму ў вочы, кіўнула галавою, і ён лёгенька дакрануўся да яе голага локця.

Нейкі час ішлі моўчкі, наструнена, без суладнасці ў кроках. Кожны думаў, як згладзіць няёмкасць, якая напачатку заўсёды бярэ ў палон тых, хто збіраецца весці важную для абодвух размову.

У высокім небе ярклі міргатлівыя зоркі. Свяціў чысты і жоўты, як разрэзаны спелы яблык, месяц. Ад ног наўскасы слаліся даўжэзныя цені. На траве халоднымі іскрынкамі блішчэла раса. На балоце ў канаве хрыпла «галасілі» жабы. Над галовамі прашастала мяккімі крыламі начная птушка — кугакаўка.

— Во і птушкі не спяць,— сказаў Іван адно дзеля таго, каб зрушыць маўчанне.

— У кожнага свой клопат...

— А можа, таксама на спатканне ці са спаткання,— усміхнуўся ён.

— А чаму «таксама»? — Яна ўсё яшчэ не верыла,

што спадабалася заатэхніку, прытойвала ў душы трапяткую радасць.

Іван пачуў тоненькі звон у вушах, да скроней шыбка прыліла кроў: «Што адказаць?..»

— В-ведаеце, я не проста праводжу вас... Мне так добра, калі я бачу вас...

— Няўжо добра? — не то жартам, не то ўсур'ёз здзівілася Вера. Мабыць, крышку вальней сябе адчула, уступілася на тую мяжу душэўнай смеласці, якая дазваляе пагарэзаваць з незнаёмым чалавекам.

— Я вам усё скажу, толькі дайце слова, што будзеце называць мяне проста Іванам і на «ты».

— Добра. Але і вы завіце мяне Верай... без усякіх Дзям'янаўных.

Іван падумаў, што сапраўды так яшчэ лепш, як быццам бліжэй адно да аднаго, і сказаў:

— Згодзен, буду называць.— Ён на паўкрока апярэдзіў Веру, каб лепей бачыць яе твар. Глянуў ёй у вочы і разгубіўся: «Што са мною?..» У яго былі дагэтуль знаёмствы і з жанчынамі, але ні з адной з іх ён не адчуваў сябе так нясмела і скавана, як цяпер. Ён лічыў, што ўжо даўно пераадолеў у сабе вясковую нехлямяжасць, навучыўся трымацца ў кампаніях, пры дзяўчатах з годнасцю, раскавана, падкідваючы то жарцік, то дасціпнае слоўца. Яму нялёгка было пераламаць сябе. Рана астаўшыся без бацькі, ён рос, лічы, без апоры і падтрымкі, не маючы каму паскардзіцца. Гэта забівала ў ім упэўненасць, згортвала душу, як згортваецца ў замаразак восеньскі ліст, замыкала ў недаверы і падазронасці. Ужо ў дзетдоме ён зразумеў, што сябе ў жыцці трэба адстойваць і абараняць, часам не баяцца здацца і нахабным, і нястрыманым, і нават жорсткім. Студэнцкі інтэрнат гэту ісціну пасля пацвердзіў.

— Гавары, я слухаю,— сказала Вера і сцепанула плячыма: навошта? Навошта ён будзе ёй гаварыць? І навошта ёй слухаць ягоныя словы? Гэта ўсё, мабыць, сон, няпраўда.

— Вера, ці ўражвала цябе хоць калі што-небудзь у чалавеку... так моцна, каб ты страціла спакой і думала толькі пра тое, што ўразіла? Вось ты скажы.

Вера паціснула плячыма.

— Можа, і было... Не памятаю. Здаецца, уражвала. У жыцці усяго бывала...— уздыхнула.

— А ў мяне стаяць у памяці твае вочы,— дрыготкім голасам сказаў Іван, быццам толькі што пераскыў вялікі страх.— Як глянула ты першы раз на мяне, так і застыў твой позірк перада мною. Ён сказаў мне ўсё, што толькі можа сказаць чалавечы позірк. Прабач, што я тлумлю табе галаву. Можа, залішне мудрагеліста гавару, але я вельмі хвалююся.

Вера хацела нешта сказаць, але, мабыць, доўга не знаходзіліся словы, і яна толькі чулліва і бездапаможна ўсміхнулася, злёгку прымружыла вочы, акурат ведала, пра што ён будзе гаварыць.

— Чаму ў цябе такія незвычайныя... тужлівыя вочы. Я не знаходжу месца, калі думаю пра іх. Можа, табе здаецца ўсё гэта падманам, лухтою, але я шчаслівы, што іду з табой. І я хацеў бы, каб...

— Усё так нечакана...— Вера працягла паглядзела на Івана: вейкі вачэй былі апушчаны, мабыць, у яго не хапала смеласці ў такім узрушэнні вытрымаць яе позірк, не паказаўшы сваю расчуленасць і тую ўнутраную слабасць, ад якой недалёка да слёз.— Нават незразумела...

— Я хацеў бы, Вера, час ад часу бачыць цябе.

І хоць яна была ўжо ўпэўнена, што Івана нічога не адштурхне, паспрабавала яшчэ раз перавесці размову на жарт. Яна ведала: кожным сваім пярэчаннем будзе апраўдваць сябе за ўсё тое, што можа быць у іх потым.

— Прыязджай на ферму, там і пабачыш мяне.

Яна сказала ўсур'ёз, хоць і мерылася на жарт, але ён усё роўна ўлавіў у яе словах насмешку: каханне, якое толькі выспявае і яшчэ не пераканала закаханых, што яны навечна разам, заўсёды робіць людзей бязглуздымі і раўнівымі.

— Не насміхайся, калі ласка, Вера. Я хачу бачыць цябе адну, быць з табою адзін на адзін,— сказаў ён ужо трохі як бы раззлаваным голасам, з тою капрызлівасцю, пасля якой чалавек крыўдзіцца.

— Іван, ты добра падумаў? — І ў яе пастражэў голас.— Пра ўсё?

— Я не хачу думаць, што і як будзе. Мне ўсё жыццё не хапала нечага такога, што я ўбачыў у цябе, у тваіх вачах. Можа, пяшчоты. Можа, дабраты. Можа, спагадлівасці... А можа, і першага, і другога, і трэцяга разам. Не ведаю, на доўга ці на мала мне гэта спатрэ-

біцца, але што трэба цяпер... Я страціў спакой, я ніколі не думаў, што так хутка разгараюцца пачуцці...

Сэрца яе захліпнулася ў салодкай трывожнасці, ёй унавіну былі і такія словы, і такая шчырасць. Думаць, што малады хлопец закахаўся ў яе, было і страшна, і радасна, і балюча да слёз.

«Няхай бы ўжо лепш які старэйшы, мужчына...» Яна не верыла таму, што гаварыла, і ўжо зусім неверагодным здавалася тое, што чула.

Хвойнік-самасейка расступіўся — як хто абрэзаў край зямлі. Паветра пасвятлела — раптоўна, на вачах, акурат чарніла, у якое лінулі вады. Зачарнеліся крайнія малінаўскія хаты — без агнёў, бо ад лесу людзі рабілі глухія сцены. Пасярэдзіне вёскі, акурат на заломе вуліцы, нехаця брахаў сабака, мабыць, у тых, хто праходзіў міма, пазнаваў сваіх, малінаўскіх. А можа, проста брахаў на месяц, яркі і вясёлы: кажуць, сабакі брэшуць на месяц.

— Вось і дома! — Вера з палёгкаю ўздыхнула. І толькі цяпер адчула, як занямелі складзеныя на грудзях рукі. Ледзь разняла іх, апусціла і зморшчылася: здалося, нехта, жвавенькі, лёгкі, пачаў казытаць скуру вострымі, як іголкі, ножкамі.

— Яшчэ не ўсё.

— А ты да самай хаты праводзіць сабраўся?

— Да самай.

— Можа, не трэба, Іван?

Івану хацелася як мага даўжэй пабыць з Вераю. Здаецца, яшчэ ніколі ў жыцці не даражыў так імгненнем, як сёння. Імгненне раўнялася вечнасці. І таму сказаў:

— Трэба, Вера...

— Ну вядзі...— У яе голасе чулася не то вінаватасць, не то пакорлівасць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Мой!..»

У Еўкі ёкнула сэрца, як толькі Праснакоў пазнаёміў даярак з новым заатэхнікам. Яна выграблася наперад, расшпіліла халат, адкрыўшы караткаватую ярка-зялёную сукенку.

Еўка ўсміхалася, бліскала вачыма, круціла галавою, акурат птушка на гняздзе, калі над ёю кружыць коршак, але як наўмысна заатэхнік глядзеў міма. Спачатку зусім не падымаў вачэй, а пасля скіраваў позірк

некуды ўсярэдзіну гурмы ды так і стаяў, пакуль не разышліся.

«Няўжо я не прыгожая?»

Яна паспела разгледзець яго русявыя мяккія валасы, якія спераду і каля вушэй пазакруціліся ў кудзеркі, чорныя і выгнутыя, як ластаўчына крылле, бровы і пад імі вочы — цёмныя, з ціхім, лагодным бляскам. Было нешта смешнае ў прамым, з неглыбока раздвоенай дзюбачкай носе.

Еўка ледзь трывала, хацелася блізка падысці да яго, крутнуцца на пятцы і сказаць: «Ну, паглядзі ж ты, хіба я не прыгожая?..» Ледзь не заплакала, калі заатэхнік, так і не глянуўшы на яе, павярнуўся і, задуменны, расчулены, ці што, палез у «газік». Дзверцы не зачыніў. Адно тады, калі «газік» сарваўся з месца, ён ухапіўся за бліскучую ручку, з сілаю тузануў на сябе.

Але хутка на крыўду сваю Еўка забыла, бо песціла сябе адною думкаю: як будзе кахацца-мілавацца з прыгожым заатэхнікам. Яна не сумнявалася, што заатэхнік толькі ўбачыць яе і адразу закахаецца. Радасная, імклівая, як сонечны зайчык, насілася яна па «каравулцы», не ведаючы, куды павесіць халат, за што ўзяцца, з кім загаварыць. Вочы іскрыліся як у дзіцяці, неяк бестурботна і няцямліва.

Выходил на поля
Молодой агроном,
Говорил, что земля
Вся в наряде цветном...

Бегала, спявала Еўка, размахваючы рукамі. Вера Прызнайцава, паглядваючы на яе, дзівілася: «Пакапрызнічала дзеўка і сунялася, ужо песні спявае... У маладых заўсёды так: сёння скачуць, а заўтра плачуць...»

Еўка прымчалася дахаты і яшчэ з парога крыкнула маці:

— Мам, давай вёдры, вады схаджу!

— Адпачні, дачушка... Ці ты яшчэ не нацягалася етых вёдзер?

— Ніколечкі не ўтамілася!

— Знаю, як на ферме, нядаўна адтуль...— Варвара не верыла сваім вачам: здаецца, першы раз дачка вярнулася ад кароў такая радасная, бадзёрая.— Нешта сёння ты як на небе пабывала. Таго і глядзі, што ў скокі пусцішся.

— Не выдумляй, мамуля, я заўсёды такая.

— Заўсёды...— усміхнулася маці, неяк вінавата, спагадліва.— Ці даўно-та слёзы ліла...

— Ліла, а цяпер не будзе! — Еўка крутнулася да трэльяжа. Паглядзела на сябе спераду, потым з бакоў, выгнулася, каб убачыць талію.

Раніцаю маці напаўсур'ёзна ці напаўжартаўліва спытала ў яе:

— Каго ета, Еўка, ты абдымала так у сне? Заснуць не дала мне...

Еўка пачырванела, хуценька шмыганула за шырму: яна сапраўды сніла, што заатэхнік прызначыў ёй спатканне. Каля Сажа, дзе на выспачцы стаіць высокі ракітавы куст. З-за далёкага балотца тырчыць пунсовы боханчык сонца, ад яго на роўнядзь вады, на чырвонае ракітавае вецце льецца ружаватае святло. Гэтае святло на чорнай вадзе здаецца ручаём, які коціцца, трапечацца, быццам тонкая стужачка на ветры; ракітавае вецце гарыць як жар.

Цёхкае салавей, час ад часу плёскае пад берагам рыба ці, можа, які вадзяны звярок.

Ёй хораша, прыемна, утульна ў абдымках заатэхніка...

Назаўтра, чысценькі, у адпрасаваных штанах і блакітнай кашулі з чорненькім гальштукам, заатэхнік зноў аб'явіўся на ферме, прыехаў на матацыкле. Хадзіў па кароўніку, пытаўся ў даярак пра надоі, часцей загаворваў з Верай Прызнайцавай.

«Канечне, перадавічка...» Еўка снавала перад ім і туды, і сюды, лезла ў вочы, а ён нават не зачапіў яе словам, здаецца, толькі адзін раз запыніў на ёй свой мяккі, лагодны позірк. Першай абазвацца Еўка не магла, не дазваляў гонар ды і страшнавата было: як-ніяк чалавек незнаёмы і старэйшы, чым яна.

Ішлі дні. Заатэхнік прыязджаў і прыязджаў... Усе дзіву даваліся: той, што быў раней, па цэламу тыдню не паказваў носа ў Малінаўку, а гэты... Еўка ўпотай радавалася, з кожным днём больш і больш: заатэхнік усё часцей запыняўся каля іх, у «другім крыле», там, дзе даіла кароў яна і Вера Прызнайцава.

Аднаго разу ён усміхнуўся ёй, Еўцы.

«Прыглядаецца...»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Еўка ўзяла з этажэркі падручнік па хіміі (у школе ёй цяжэй за астатнія прадметы давалася хімія), узлакацілася на стол і, падпёршы далонямі шчокі, адгарнула першую старонку. Сцішылася: каб добра запамінаць. Але дзе там! З галавы не выходзіў ён, заатэхнік. Дзівак нейкі... Што цялё. Ці ён чакае, каб яна першая сказала яму, што падабаецца. Ходзіць як непрыкаяны, быццам свет яму нялюбы. На Прызнайцаву ўтаропіцца, ажно тую ў чырвань кіне...

Еўка здрыганулася — зняцяйкі стукнулі дзверы. Прыйшоў [redacted] работы бацька. Брынкнула засланка — маці дастае з печы вячэру. Плёхаецца ў міску вада, стукаціць клапанок-цурболка ад умывальніка: бацька мыецца, шумна порскаючы носам.

З хвіліну стаіць цішыня, аж звініць. Мусіць, бацька выціраецца. Еўка быццам на свае вочы бачыць мяккі, махровы ручнік у яго вялікіх пазбіваных руках.

— Во толькі [redacted] Лутам размінуўся,— сказаў, нарэшце, бацька, мабыць, ужо сеў за стол.— Ці чуў ты, Адась, пытаецца, навіну? Якую? Адэля мая, па факцічаскай лініі, казала, бытта новы заатэхнік праводзіў учора Веру Прызнайцаву са сходу.

— Глядзі-тка! — здзівілася маці.

У Еўкі імгненна памутнела ў вачах, літары шэрымі мурашкамі папаўзлі па старонцы. Яна хацела ўстаць, каб пабегчы на кухню і сказаць, закрычаць, што гэта няпраўда, Адэліны выдумкі, што ён кахае яе, Еўку, але не змагла. Усю яе акурат скавала жалезным панцырам. Яна сашчапіла далонню рот. На вочы ёй паволі наплылі слёзы, скаціліся на кнігу.

«Няўжо праводзіў? Веру?..»

Здранцвенне доўга не праходзіла. Калі павальнела, Еўка ўсхапілася з табурэткі. Вечнасцю здаўся нейкі дзесятак крокаў да дзвярэй.

«Куды бегчы, чаго крычаць?.. Хіба ад гэтага што ўладзіцца? Усё ж чыстая праўда. Праводзіў ён яе. Праводзіў! Гэта ж снаваў па кароўніку днямі толькі з-за яе, Прызнайцавай, і глядзеў на яе, і ўсміхаўся ёй... А я думала... Дзівак! Дзівак закончаны!..»

Еўка выскачыла з хаты, каб не чулі бацькі яе плачу. Рукі былі як чужыя, не маглі намацаць зашчапку на весніцах. У садзе было ядрана і сыра. Начная свежасць халоднымі лапамі абняла Еўку за голыя рукі і ногі. У носе заказытаў гаркавы пах не ў пару апалага

лісця — стрэслі, здымаючы яблыкі. Еўка села на скрыню, збітую з вузенькіх планачак, прыхінулася шчакою да шурпатага, што тарка, ствала яблыні і заплюшчыла вочы. З-пад стуленых павек высачыліся слёзы, як ■ прасечыны на бярозе сок. Скрозь рэдкія галіны свяціў на твар месяц, і на шчоках у Еўкі блішчэлі два тонкія серабрыстыя шнурочкі.

* * *

...Здавалася, дрыжыць кароўнік і развальваецца, як ад землетрасення.

Ева была вясёлая з твару, а ў маіх вачах, мабыць, застыла трывога. Напружанне, у якім я трымаў сябе доўгі час, як бы пакрыла мае мазгі плёначкаю страху — за памылку, права на якую, мне здавалася, я ўжо страціў. Няўжо я не пазбавіўся яшчэ наіўнасці?

Пра чалавека мы думаем і так і сяк, зыходзячы з таго, што ён гаворыць і што робіць. Сутнасць чалавека астаецца адною, а ў размовах вакол яго часта чуюцца процілеглыя меркаванні. Мне здавалася ўжо, што ўвесь той лагічны парадак, які я выстраіў, разгадваючы мінулае Веры Дзям'янаўны перад сустрэчаю з ёю, рушыўся, ад яго ляцелі асколкі, якія мая свядомасць не магла сабраць.

Вельмі падобна, што ў маёй гераіні быў муж, і ніхто іншы, а Іван Лявонавіч. Але логіка аднаго чалавека разбіваецца логікаю некалькіх людзей, а праўдзівей, алагічнасцю людзей, якую прадугледзець нельга, толькі выпадкова, як у «Спортлато» нумары, адгадаць. Мне трэба было хуценька перакройваць задуму свайго нарыса. А можа, няварта спяшацца? Паспяшыш — людзей насмяшыш. Я з несхаванаю надзеяй глядзеў на Еву.

— О, шэфы! — раптам усклікнула яна. Каля расчыненых дзвярэй хлопцы ў балоневых куртках, з белымі шапачкамі на галовах, трымалі за вушкі бітон.

На двары стаяў запрэжаны ў калёсы гняды конь, матляў галавою і форскаў, бакі яго хадзілі хадуном.

Я не чуў, што гаварыла хлопцам Ева,— бачыў: яны ўсміхаліся, нібыта вінавата.

Яны пайшлі ў малочнае аддзяленне, за высокія блакітныя дзверы, і неўзабаве хлопцы вынеслі адтуль ужо пацяжэлы бітон.

— Толку з гэтых памочнікаў! — вярнуўшыся, сказала Ева — незадаволена, але без злосці.— Рабіць нічога не хочуць, а малачко папіваюць, цяляцінку ім падавай... Сіласную яму аблепяць, як мухі, саломы падсцелюць на абочыне і загараюць. А трактар падтопча, падтопча сілас, што прывязуць, у адно месца. Увечары магнітафон, танцы, ржуць да поўначы... Толку з іх! — махнула рукою Ева.— Я адна некалі арудавала віламі на той яме...

Што за дзіва? Адны нечаканасці, стрэсы... Так дугнула, што і сапраўды страсянуўся кароўнік, здрыганулісяя каровы, і я, і Ева...

«Самалёт, чарцяка!..» — здагадаўся я, хоць гулу не мог пачуць — гуў, ажно стагнаў, малакапровад.

Цывілізацыя даганяла мяне і тут, на далёкай ціхай перыферыі.

## Успамін чацвёрты (працяг). МУЖНАЕ СЭРЦА

Поўдзень. Самая спёка. Верка з маці гоняць на луг кароў. Шэраю сухою хмараю вісіць над статкам дарожны пыл, асядае на лісце лазняку і алешніку, і яно на вачах сівее.

Раптам ззаду пачуўся, аж застагнала зямля, гул. Маці павярнулася і збялела. Нізка над галовамі праляцелі самалёты з белымі крыжамі.

Тра-а-ах-тах-та!..

— Кладзіся на зямлю!..— вырачыўшы вочы, крыкнула маці і, падаючы ніцма, тузанула за руку Верку. Верка пляснулася на жывот, сцялася ў камячок — каб быць меншай.

Каровы ўсчалі шалёны роў, на злом галавы кінуліся назад у балота, з якога нядаўна выйшлі. Каторыя падалі на бок, нязграбна і бездапаможна дрыгалі прамымі нагамі.

Самалёты зноў зрабілі заход.

Тра-а-ах-тах-та!..

Верка ўбачыла, як блізенька ад яе галавы прабеглі роўным ланцужком маленькія гурбачкі пяску, дабеглі да кароў — і каровы пачалі валіцца, як быльнік, калі пацягнеш па ім вострай, адкляпанай касою.

Верцы стала страшна, яна ўткнулася тварам у стаптаную капытамі цёплую мураву і запарушыла пяс-

ком вочы. Вочы пачалі слязіцца, балюча шчыпалі, але яна не магла паварушыцца, ляжала, як скамянелая. Тады яе сутаргава затармасіла маці, мабыць, падумала, што нежывая. Верка павярнула да яе замурзаны твар з чырвонымі вачыма, але маці зноў прыціснула ёй галаву да зямлі.

Тра-а-ах-тах-та!..

Вера прахапілася: суха трашчаў на стале будзільнік. Яна вобмацкам знайшла яго і націснула кнопку. Сэрца шалёна калацілася, недзе пад самым горлам. «Во на што мне гэты будзільнік быў? — падумала яна, адчуваючы, што ёй тужліва.— Быццам так не прачнулася б...»

Вера ніяк не магла ачуцца ад сну, у вачах усё яшчэ стаялі тыя гурбачкі пяску, што прабеглі каля галавы. Бо яны не прысніліся ёй, а проста ўспомніліся ў сне. Чэпка трымае памяць тое даўняе, ваеннае...

Не ўключаючы святла, адзелася. Вокны паўзверх фіранак былі цёмныя — світанак не падаваў ніякіх прымет.

Яна выйшла ў сенцы, сцепанулася ад золкага паветра. Палапала рукою каля вушака, пстрыкнула выключальнікам. У кутку ляжаў увязаны хусткаю ахапак канюшыны, з яе сачыўся густы саладкавы водар. Прасунуўшы руку пад хустку, прыпадняла ношу, закінула за плечы.

Чым бліжэй падыходзіла да фермы, тым жвавей тупалі яе ногі. Па двары ўжо не ішла, а ляцела. Узмакрэла спіна, за каўняром востра калолася, муліла травіна.

«Як яна там, Вішанька мая?..»

Вера, адсунуўшы завалу ў варотах, убегла ў кароўнік, і позірк яе адразу мітнуўся туды, на «другое крыло». Вішня ляжала нерухома, нізка апусціўшы галаву з закручанымі абаранкам рагамі.

— Вішня,— пазвала Вера.

Карова ціха мыкнула; вочы яе, мутныя, як напоўненыя дымам, глядзелі на Веру сумна і як бы з разумнай пяшчотаю.

— Бедненькая...— Вера ўкленчыла каля каровы, памацала рукою мызу — яна была сухая, гарачая, як

спечаная ў прысаку бульбіна.— На, еш, еш...— Хапатліва развязала хустку.

Карова тыцнулася ў канюшыну шэрай мызаю і лена, без ахвоты пачала варушыць сківіцамі, ганяючы пад скураю тугія жаўлакі. З натугаю, выцягваючы шыю, праглынула.

— Во-во, та-а-ак...— Вера ўсміхнулася, быццам размаўляла з дзіцём.

У падстрэшшы мірна буркавалі сонныя тоўстыя галубы.

Можа, праз гадзіну прыйшлі даяркі, і ажыў кароўнік. Вера, глянуўшы на Еўку, ледзь пазнала яе. Твар змарнеў, пад вачыма сінелі кругі. І позірк маркотны, нейкі чужы, зацяты.

«Мусіць, зноў дурная муха ўкусіла дзеўку,— падумала Вера.— Гора з гэтымі дзяўчатамі... А можа, захварэла?» — Не стрымалася, падышла да Еўкі.

— Што з табою? Нейкая кіслая ты ўся...

Еўка апусціла долу вочы.

— Ай, Вера Дзям'янаўна!..— з плачам і стогнам выдыхнула яна, кончыкамі пальцаў сцерла пад вачыма слёзы, але яны зноў збегліся ў светлую вялікую кроплю.

Вера разгубілася: «Выходзіць, я вінаватая...» Яна заўважыла яшчэ раней: калі Еўка называе яе па імю і па бацьку, то крыўдуе на яе.

— Ты, Еўка, толкам скажы, што да чаго?

— Што казаць... Пасля...

Як ні карцела Веры даведацца пра Еўчыну бяду, але стрымала сябе, толькі спытала:

— Калі «пасля»?

— Пасля работы.

Раніца паказвала на ясны і ціхі дзень. Высока ў небе нерухома застылі рэдкія бялявыя аблачыны — як касячок уклеек на сонечнай мясцінцы. Здаецца, крыкні ўверх і пачуеш, як пругка адгукнецца на зямлю далёкае рэха, потым зноў, быццам мячык, падскочыць. І так — бясконца.

Вера з Еўкаю размаўлялі ціха, амаль пошапкам — уперадзе пылілі дарогу даяркі.

— Бацька як сказаў, дык мяне ўсю і затрэсла. Адразу не паверыла...— расказвала Еўка.

Вера спачатку пачувала сябе спакойна, ва ўсякім разе, твар быў засяроджаны, вочы адкрытыя. А хто ўбачыць сэрца? Яно то сціналася і замірала, то з сілаю штурхала кроў у галаву, і гаворка ў яе не ладзілася, як што замінала словам.

— Я таксама... не верыла, што... ён...

— А я ж як убачыла яго, то ўсё мне... Ночку напралёт не сплю, плачу, пра яго думаю. Нават...— Еўка глянула на Веру, сарамліва апусціла вочы.— Цалавалася з ім у сне...

— Ён прыгожы, добры...— Ад Еўчынай шчырасці ў Веры загаварыла чуллівасць.

— Як ён мне падабаецца!..— Еўка ледзь выдыхнула з грудзей спёртае паветра.— Каб толькі ведаў...— Яна нічога не ўтойвала, была шчырая, як на споведзі.

— Добра... Гэта добра, калі любіць... любіш...— Вера не магла болей трываць, расхвалявалася, гаварыла блытана, як у забыцці. Цяпер яна мала слухала Еўку і мала думала пра тое, што гаварыла. «Што мне рабіць?» — круцілася ў галаве пытанне, няўмольнае, неадчэпнае, жорсткае. Чаму не іншае, чаму толькі гэтае пытанне паўстае перад ёю ў жыцці? І нават тут, дзе, здаецца, нічога ад яе не залежыць, ёй трэба шукаць на яго адказ. Шукаць іменна тады, калі цяжэй за ўсё яго знайсці.

Яна звярнула на свой падворак, але ў хату не пайшла, а адчыніла варотцы на агарод. Хоць ішла як сонная, адлучаная ад усяго на свеце, але ішла туды, на агарод, свядома: хацелася пабыць адной у цішыні, супакоіцца, прывесці да ладу разбэрсаныя думкі. У яе з малых гадоў прывычка шукаць у цяжкія хвіліны адзіноты.

Пад страхою пуні ляжалі складзеныя дубовыя слупкі (збіралася пер态трасаць плот), і яна села на іх, на самы верх, а ногі падціснула пад сябе так, каб можна было абаперціся локцямі на калені. У такой нязручнай паставе і сядзела — доўга, аж пакуль не адчула, што сонца пераваліла цераз страху пуні і кранулася промнямі яе вачэй. Яна засланіла рукою вочы і глядзела з-пад рукі, быццам што выцікоўвала ўдалечыні — так, засланяючыся, звычайна глядзяць старыя, каб меней трапляла ў вочы святла, бо святло яшчэ больш прытупляе іх старэчы зрок. Раптам позірк наткнуўся на сланечнік, што рос недалёчка, адразу за градамі. Вера

яго там не садзіла, таму не прыкмеціла, калі ён вырас. А што не заўважала раней сланечнік, вінавата, мусіць, яблынька, якая, пэўна ж, засланяе яго сабою, калі глядзіш на агарод ад варотцаў.

Вера яшчэ не зразумела, чым яе ўразіў сланечнік, але нейкае няпэўнае, дваістае пачуццё захаланула ёй грудзі. Было нешта маркотнае, сумнае ў вялізным рудавата-спелым будыле, што ніца глядзеў у зямлю, ледзь не прыгінаючы бульбоўнік, і зварушліва-цнатлівае ў двух адростках, якія яшчэ цвілі невялікімі, менш за кулак, жоўтымі кветкамі. На адной кветцы варушылася цёмная плямка, мабыць, пчала збірала нектар. Каб упэўніцца, што гэта і ёсць пчала, а не што іншае, Вера пачала сачыць за цёмнай плямкаю. Але хутка вочы стаміліся, абрасіліся слязамі — і кветка расплылася ў жоўтую, з няпэўнымі абрысамі, пляміну, а потым і зусім прапала, растварылася ў зелені бульбоўніку...

...Іван, трымаючы перад сабою круглае люстэрка, спрабуе зрабіць на галаве прабор. Але валасы не слухаюцца расчоскі, адразу ж скручваюцца ў дробныя кольцы.

«Вось і смейся, што некаторыя нясоленым тлушчам прымазваюць...» Настрой у Івана лагодны, хоць спявай. Але за перагародкаю тупае бабка Арына, і ён саромеецца, толькі мармыча пад нос вясёлы матыўчык.

— Бабка Арына! — гукае Іван.

— Што, саколік?

— Вось вы век пражылі... Што трэба, каб цябе паважалі людзі?

Гэтае пытанне ў студэнцтве яго зусім не турбавала, а толькі цяпер, пасля таго як паспрачаўся на Таўкачоўскай ферме з даяркамі. Зрэшты, і спрэчкі ніякай не было, толькі размова.

Зайшоў ён у кароўнік, а там разгружаюць зялёны лубін. Падумаў: «Яшчэ абкормяць кароў...» Сабраў хуценька даярак, яны пасмейваюцца.

— Вы ведаеце, што свежаўкосны лубін небяспечны для жывёлы? Трэба памалу яго даваць...

— Ну, прывет табе ў шляпу, таварышок дарагі! — аж схілілася перад ім смуглявая да чарнаты, з пака-

тым ілбом жанчына па прозвішчу Крушная.— Які ж ён небяспечны, калі каровы папоўніцы яго хапаюць?

Ён пачырванеў, разгубіўся.

— Не рэкамендуецца перакормліваць кароў такім лубінам...

— Хто табе сказаў? — Крушная падміргнула сваім таварышкам.— У ім жа караціну шмат.

— Аб'ядуцца, уздуцце можа быць...

— Вучо-о-оны,— з'едліва прамовіла даярка, павярнулася і пайшла. Услед за ёю падаліся астатнія.

Бабка Арына перхае за перагародкаю, а потым гаворыць, але голас у яе ўжо прыглушаны, нараспеў — старую хіліць на сон.

— Разумець іх, саколік, будзеш, давяраць ім будзеш, тады і будзе ладзіцца. І сам давярайся!..— Бабка Арына пашоргала тэпцямі да свайго ложка, зарыпелі спружыны матраца.

Неяк цікава ўсё атрымліваецца, задумаўся Іван, і людзі цікавыя... Бач, як раўніва да мяне паставіліся даяркі, недаверліва. Нездарма экзамен учыніла Крушная. Вучыць сабраўся... Дзівак! Ды яны ўсё жыццё на гэтай ферме... І жывёлу не горш за мяне ведаюць. А чым карміць — і пагатоў. Ці той жа Праснакоў... Іван ажно зморшчыўся, так было няёмка за сябе.

Ён прыгладзіў чуб і адно цяпер — добрыя думкі заўсёды прыходзяць пасля — зразумеў, што дарэмна стараўся: як бы ён ціха ні ехаў на матацыкле, вецер усё роўна раскудлаціць валасы.

— Дзякуй, бабка Арына, за мудрыя словы! Пабег я.

— А куды ж ета, на ноч гледзячы? Мусіць, ужо якую барышню завёў сабе? — спытала бабка Арына вясёлым голасам і, чуваць было, захіхікала.

— Ёсць! — шчыра прызнаўся Іван і тут жа адчуў, як неспакой пранізлівым халадком пасачыўся ў душу: а ці меў ён права так сказаць? Хіба адных праводзін дастаткова, каб называць Веру сваёй? І наогул, ён не столькі думаў тады пра яе, як пра жанчыну, колькі пра тое, што яму добра з ёю,— побач ісці, бачыць вочы, твар, шыю, чуць голас... Ён бясконца радаваўся, як хлапчук, упершыню закаханы ў дзяўчыну. Гэтая радасць жывіла яго душу цэлы тыдзень, аж да сённяшняга вечара.

І цяпер, перад спатканнем, радасць успыхнула з

такою сілаю, што стрымаць яе было немагчыма: «Значыць, меў! Меў права назваць Веру сваёй!..»

Іван кулём выкаціўся з хаты. На ганку спатыкнуўся на ката, які сядзеў пад дзвярыма і чакаў, пакуль хто-небудзь адчыніць іх. Кот прарэзліва мяўкнуў і кінуўся цераз увесь двор да пуні. Там спыніўся і свяціў на Івана аранжава-зеленаватымі вуглямі вачэй.

«От, яшчэ!..»

Вера ўздыхнула: «Эх, Еўка, Еўка...» Пайшла ў другую палову хаты. Там прылегла на край ложка, прыціснула далонь да лба — рабіла так заўсёды, калі думала, перажывала лежачы. «Пэўна ж, і ён да мяне па-сур'ёзнаму. Ды яно відаць, што не дзеля забавы. Праступу не дае... І не адчапіцца як ад таго ценю. І гаворыць не смешачкамі, а просіць, з мальбою ў вачах... Мусіць, не трэба было згаджацца на сустрэчы з ім... Як не трэба? Хіба я не чалавек, не жанчына? І маладая ж яшчэ. Мала што раней не да жаніхоў было... Айчым...» У Веры балюча зашчымела ў грудзях.

Яна колькі часу ляжала сцятая як спружына, адганяла ад сябе думкі, але яны, неадчэпныя, балючыя, лезлі да яе назолаю, як заедзь да кароў у самы зык. «Здаецца, прытуліўся б да яго, палашчыў... Есці зварыў бы, на стол падаў, усміхнуўся б... А так, мусіць, добра было б чакаць яго з работы, стомленага, капрызнага як дзіця... Няўжо не ссумавалася душа?..»

Вера паднялася, пайшла на кухню, зачэрпнула з вядра вады, папіла халодненькай. Адчыніла акно ў сад. На яе патыхнула густым, мядова-салодкім пахам яблыкаў і груш. Яна глядзела на асветленую паласу палеглага бульбоўніку, на свой цень, выразны і чорны, на ярка-жоўтыя антонаўкі ў матавым лісці разгалістых дзеравін, і цяжкое думанне не давала ёй спакою. На святло ляцелі начныя матылькі, казыталі ёй твар, рукі, яна не адмахвалася ад іх.

«Хіба я раўня Еўцы? А яны абое маладыя, прыгожыя, чыстыя... Як гэта, проста дзіва, ён не прыгледзеў Еўку? І было б тады ўсё іначай, і не трэба было б крыўдзіць сваё сэрца...— Вера ўздыхнула.— А цяпер паспрабуй выкруціцца. Калі б толькі Еўка пакрыўдзілася, было б, як кажуць, паўбяды. Крыўда рана ці позна забываецца. А то ж дзеўка закахалася па самыя вушы.

Будзе пакутаваць, пераэкываць... З-за мяне, выходзіць... О, не! Гэта ж так нялёгка зажывіць рану на маладым сэрцы. А Еўка, яна такая, кіне-рыне ўсё і скруціцца ў свет. А я ж сама адняхайвала яе, угаворвала не кідаць фермы...»

Вера зачыніла акно, зноў падалася ў другую палову хаты. Надта гучным і чужым здалося цікание будзільніка, што стаяў на палічцы трэльяжа. Яна пераставіла яго на падаконнік, за фіранку, але і адтуль было добра чуваць, як працавала яго металічнае сэрца.

Хадзіла па хаце з кута ў кут як непрыкаяная, не знаходзячы дзе прыступіцца. У акно глядзела нізкая лупатая поўня і высцілала на падлозе каля ложка маленькі блакітны дыванок. Адно як учула матацыкл, мітнулася на двор, забыўшыся завязаць хустку, якую і павесіла так, каб кінулася ў вочы,— на вушак каля парога.

Згледзела высокую Іванаву постаць каля плота, насупраць лавачкі, і не змагла ступіць яму насустрач — адняліся ногі. Так і стаяла нерухома, як здань, каля весніц — чакала. Голыя рукі, шыю абляпілі камары, раз-пораз прыкра і неяк бездапаможна-пранізліва дзінькаючы, адляталі.

— Добры вечар, Вера! — Белазубая ўсмешка асвяціла яго твар.

— Добры вечар!.. Заходзь на двор, Іван...

«Што такое? Не так павінна сустракаць...» — мільганула ў Іванавай галаве.

— У цябе як быццам няма настрою? — У яго цёмных вачах загарэўся агеньчык насцярожанасці.

— Складана ўсё і ў мяне, і ў жыцці,— няпэўна адказала Вера.

— Я сам пра гэта сёння думаў.

— Пра што «пра гэта»?

— Ну, пра людзей, адносіны між імі, і ўсё такое...

— І да чаго дадумаўся?

— Што людзей трэба разумець, верыць у лепшае, якое ў іх абавязкова ёсць.

Вера здзіўлена глянула на яго, акурат ён прачытаў яе думкі і сказаў тое, што наважылася сказаць яна. На сэрцы палягчэла, бо адчула, што размова завязалася ўдала. А гэта не заўсёды бывае там, дзе адзін чалавек настроіў сябе на зусім іншую душэўную хвалю.

— Ну і як ты, разумееш іх?

— Ды спачатку не разумеў,— прызнаўся Іван.— Прыехаў, думаў, што цар і бог. Ажно...

— Гэта добра... Гэта добра. Менш памылак будзе ў жыцці,— сказала Вера і падумала: «Можа, зразумее і мяне... Хоць якое тут разуменне! Сэрцу не загадаеш, кажуць... А хіба Еўка загадае свайму? От, папалася ў капкан!.. Аднаму ўступаеш — другому робіш дрэнна. Праўда, што няма ліха без дабра...» — Цяпер паслухай мяне, Іван...

«Няўжо мае нядаўнія сумненні былі не так сабе? Няўжо я прадчуваў, што яна мне зараз скажа? А што яна можа сказаць... Ужо ўсё абгаворана». Іван разгублена глянуў на неба, на зоркі, быццам у іх шукаў падтрымкі, ці толькі таму, каб схаваць свой позірк і не сустрэцца з Верынымі вачыма, бо наперад адчуваў, што счытае з іх тое, ад чаго зробіцца яму балюча.

— Ці кахала цябе якая-небудзь дзяўчына?

— А-ага... Здаецца, не... Па-сапраўднаму, не. Бо калі б кахала, я з ёю жаніўся б. А чаму ты пытаеш пра гэта? Цяпер у мяне нікога няма, праўда, ты не хвалюйся...

— Чаму ж няма...— Вера праз сілу ўсміхнулася, ад чаго твар набыў такі выраз, які бывае, калі чалавек, асабліва дзіця, збіраецца плакаць.

Іван замарудзіў дыханне, наструніўся, імкнучыся сабраць думкі. І першая, якую выразна ўсвядоміў, была: «Ну назаві сябе!»

— Ты ж ведаеш, канечне... Еву Малашонкаву. Дык вось яна, наша прыгажуня Еўка! — сказала Вера, і голас яе задрыжаў, а ў вачах ярчэй зазззяла святло нізкіх зорак.

— Бачыў, ведаю... Але не разумею, пры чым тут яна? — Ён узяў яе за руку вышэй локця.

— Сохне дзяўчына... Па табе, Іван. Ажно глядзець балюча...— Вера ўздыхнула.— Кахайцеся, маладыя, чыстыя.. А мы што з табою, толькі прайшлі...

— Вера! Што ты трызніш?..— У Івана раздзьмуліся ноздры, ён засоп шумна, быццам пасля шпаркага бегу. Выгнутыя ластаўчыным крыллем бровы заварушыліся, і яна ўпершыню ўбачыла ў ім нешта злоснае і рашучае.

— Іван, зразумей мяне. Ты ж, кажаш, навучыўся разумець людзей. Не магу я стаць поперак дарогі дзяўчыне... Не ма-гу!.. Хоць душу разарві.

Іван маўчаў, а яго цёмныя вочы яшчэ болей цямнелі — ад бездапаможнасці і адчаю. Твар у кволым святле зорак здаваўся бяскроўна-белым.

Вера, глянуўшы на яго, таксама змоўкла. Панурая, доўга стаяла перад Іванам нерухома, перажывала: «Нечакана для беднага... Можа, трэба было сёння яшчэ не гаварыць. Але ж далей у лес — болей дроў...»

— Ты прыгледзься, Іван, да Еўкі. Яна вельмі прыгожая... Гэта адразу здаецца, што нельга прывыкнуць да чалавека, які не падабаецца. А затым прывыкаеш... Я да айчыма свайго доўга не магла прывыкнуць...— Яна сцепанула плячыма, апусціла вочы.— Вось пабачыш!..

— З'еду! Паеду адсюль!.. Я не змагу тут быць!..— Іван адвярнуўся і ступіў, каб ісці, але затрымаўся.

— Куды, Іван? Не трэба нікуды з'язджаць, ты будзеш шчаслівы... Дзеля гэтага застанься. Прашу цябе, застанься...

Голас у Веры ціхі і журботны, якім гавораць пра гора, бяду, чалавечую смерць.

* * *

...Я глянуў на блакнот: ён быў чысты, адно пярэсцілі ў вачах блакітныя ніточкі лінеек. Спачатку спалохаўся, што нічога не запісаў, але памяць у яркіх фарбах трымала ўсё тое, што пачуў ад Евы Рогаль. Не, такое не забываецца... Цяпер зразумела, чаму губляўся перада мною Іван Лявонавіч, чаму прасіў быць асцярожным з мінулым Веры Дзям'янаўны... Цяпер не трэба распытваць у старога Лута, чаму Прызнайцаву празвалі ў Малінаўцы Вера-Аддалакавалера... Усе мае турботы разам былі развеяны. Ды я проста яшчэ не ведаў, што самыя глыбокія перажыванні ўсе наперадзе, тыя перажыванні, з якіх пачнецца неспакой, а з неспакою — пераўтварэнне душы.

— Дзякуй вам, Ева Адамаўна!

— Глядзіце ж, толькі пра мяне нічога не пішыце, а то...— Ева запнулася, чырванню сваіх шчок дала зразумець, што «а то...»

— Не хвалюйцеся, сорамна не будзе!

Мяне як гараджаніна і журналіста заўсёды здзіўляла вось гэтая сялянская боязь незаслужанай славы, і я ўзяў сабе за правіла: лепш сябе недахваліць («пагўдзіць» — як кажуць у вёсцы), чым перахваліць, прыпі-

саўшы тое, чаго з табою не было або чаго не рабіў. Успомнілася, з якою прагаю, нават гонарам імкнуліся мае сябры надаць сабе ледзь не боскую ўсемагутнасць. Іх гэта не бянтэжыла, наадварот, радавала, узвышала.

Я пастаяў крыху ў задуменні, супакоіўся і пайшоў да Прызнайцавай.

— Ну, як вам працуецца, Вера Дзям'янаўна? — Голас у мяне быў надзіва бадзёры.

Яна выпрасталася, прылажыла руку тыльным бокам далоні да паясніцы.

— Як вы пішаце ў газетах, з натхненнем! — Яе паружавелы твар свяціўся лагоднасцю.— А вы трохі разгледзеліся тут?

— Разгледзеўся, з людзьмі пагутарыў...

— Людзі добрыя... Вы, я бачыла, з Евай размаўлялі. Даярка на ўсе сто, маладая, баявая!..— Вера Дзям'янаўна прымоўкла, затым ціха прамовіла: — Мая вучаніца.

— Я ведаю...— У мяне, калі хваляваўся, гаворка не ладзілася, словы браліся не жывыя, а сухавата-прэсныя. Мабыць, таму, што разважаць я прывык запаволена, услед за ручкаю, якою запісваў думкі, а ў размовах трэба было скемліваць імгненна. Вось чаму, думаў я іншы раз, журналісты ў размове больш бездапаможныя, чым у сваіх артыкулах. Тое, што я ўведаў пра Веру Дзям'янаўну, скоўвала мяне, і я зразумеў: усё-ткі нам лепш развітацца.— Ну, мне пара, Вера Дзям'янаўна... Да пабачэння!

— Дзякуй вам, Павел Васільевіч!..— Вера Дзям'янаўна глядзела мне ў вочы, акурат гэтым смелым позіркам хацела паказаць і сваю радасць ад сустрэчы са мною, і нейкую схаваную вінаватасць, маўляў, можа, з-за клопатаў ды сваёй вясковай абмежаванасці што і не так ці не тое гаварыла.— Дзякуй за ўсё!..

А што я ўжо такога зрабіў «усяго»? Толькі размовы і былі. Але ж во людзям не ўсё роўна, як ты размаўляеш з імі, як паводзіш сябе... Так думаў я, выходзячы на двор і кіруючыся да старога Лута. Ісціны, здавалася, былі простыя, можа, нават дзіцячыя, але мне даводзілася іх калі не адкрываць, то паўтараць нанава, і радавацца ў абодвух выпадках.

Стары сядзеў на парозе, смактаў пілку, часта пыхкаючы жоўтым дымам, відаць, засумаваў, чакаючы

мяне. Позірк у яго быў неспакойны, вочы праяснелыя, ніякай старэчай мутнаватасці.

— Прабачце, што прымусіў вас доўга чакаць,— павініўся я.— З Евай Рогаль размаўляў...

— А-а, з той сакатухай!.. Яе толькі зачапі, не адкараскаешся. Ева жонка нашага заацехніка, во і носіцца, як ластаўка на пакорме..

— Яна ўжо пахвалілася.

— Гэ, то і расказваць няма чаго, па факцічаскай лініі! Ты садзіся, што стаіш...— Лут паказаў на цурбак, які выкаціў, мабыць, са свайго прытулішча наўмысна — каб мне было на што прысесці.

— А дзе той Набрыда падзеўся?

— Набрыда, пытаешся? Не пажыў, бедалага, у сваёй хаце. Неўзабаве пасля Насты панькі адкінуў. Дужа на пуп браў мужык, падарваўся...

Лут пыхнуў дымам, які спачатку заклубіўся, а пасля спакойным воблачкам паплыў у паветры.

— Стараўся?

— Дзіва што, з маладою жыць хацеў, па факцічаскай лініі...

Я ўжо не чуў, што гаварыў Лут далей, адно бачыў, як варушыліся яго сухія вусны. Мне здавалася, што я сам пабываў у другім, далёкім свеце, у якім ніколі не жыў, але, падобна, апошнім часам імкнуўся. Штосьці незразумелае адбывалася са мною, адначасна радаснае і сумнае, я спачуваў і абураўся, любіў і ненавідзеў...

Мне зрабілася горача ад сораму, што дасюль душа мая была пустая, як порхаўка, крохкая перад жыццём, заслоненая ад самага неабходнага чалавеку, і што цяпер у ёй знайшлося ўсё-такі месца яму, гэтаму неабходнаму. Пакутліва думаў: «Дзе быў раней?»

Я перажываў цяпер і за сваіх продкаў. Успомніў маці, як яна плакала, хапалася за сэрца і два дні трымала пад языком валідол, калі нехта, паабяцаўшы ёй імпартную сукенку, дастаў яе, гэтую сукенку, але аддаў іншай жанчыне наўзамен за японскі чайны сервіз... Паплыў перад вачыма бацька з заклапочана-дзелавым тварам і тэлефоннай трубкаю каля вуха... А потым закруцілася размаітае кола знаёмых твараў: Ліда Цяцерына... Генка Буданец... Юлька...

«Стоп!»

Я спалохаўся, што не змагу напісаць нарыс. Не, такі, як пісаў звычайна, надуманы, скляпаны са штам-

паў, там-сям аздоблены слоўнай квяцістасцю, змагу. Балазе і сюжэт вымаляваўся: прыехаў у калгас, гераіні дома няма, пачакаў, пакуль прыйшла, і павялася задушэўная гаворка... Ну, а далей — адны захапленні: во працуе, во рупіцца, во дбае! Але ж ці так трэба пісаць пра жывога чалавека, пра Веру Дзям'янаўну? Дзе я вазьму столькі душы, каб не збядніць яе вобраз? На пустцы не расце высакародная трава.

— Ты, мабыць, не слухаеш? — Лут тузануў мяне за рукаў.— Нешта вочы ў цябе не туды глядзяць.

Я схамянуўся. Мяне сапраўды апанавала туга і было не да старога.

— Дабро, кажу, па факцічаскай лініі, не прападзе. Рана ці позна, хоць пад старасць, але адгукнецца нечым харошым...

Мая бездапаможнасць ва ўсім высвецілася цяпер асабліва яскрава. Я быў на мяжы ці то адчаю, ці вар'яцтва. Відаць, так, палохаючыся, кідаючыся ў бакі, паводзіць сябе ў зялёным лесе дзікая жывёліна, якая вырасла ў клетцы. І я быў сляпы, чэрствы, нікчэмны. Гэта быў выклік і прысуд не толькі самому сабе, бацькам, але ўсяму свету.

Перад маімі вачыма матлянулася жоўта-зялёнай плямай Лутава кашуля.

— Так што матай на вус, карыспадзент. Але,— махнуў рукою Лут,— прыдумаеш, нахлусіш... Я вас, пісак, ведаю. Пай-шлі-і-і!..

«Ці напішу я нарыс?»

Мы разам ішлі праз усю вёску. На канцы, каля Лутавай хаты, развіталіся, стрымана, па-мужчынску паціснулі адзін аднаму рукі. Я пайшоў на шашу.

Тое, што ўбачыў, здзівіла мяне. З левага боку, на травяністым узмежку жытнёвага поля, што выгіналася ўдалечыні цёмна-ліловымі ямамі, я ўбачыў не вельмі стары і не вельмі высокі дубок. Здзівіў не столькі сам дубок, колькі тое, што, павольна ідучы, сюды, у вёску, гэтай жа самай пясчанай сцежкаю збоч машынных каляін, я не заўважыў яго. Як я мог не заўважыць такога фарсуна?

Дубок быў дужы ствалом, цёмна-зялёны і густы, як капа свежага сакавітага мурагу, паднятая на волатаўскай руцэ. Ад камля, што распраставаў у зямлю ўчэпістае і моцнае карэнне, дружна браліся ў рост гнуткія і пяшчотныя атожылкі, лісце на якіх было вялікае,

кашлатае, мяккае. Здавалася, вазьміся за лісціну пальцамі і пачуеш, як у ёй пругка пульсуе сок, акурат у жылах чалавека кроў,— той сок зямлі, які адначасна поіць і магутнае дрэва, і маленькія жытнёвыя каласы, што нібыта спяваюць у ціхім, лагодным шуме.

Вакол дубка і на ўзмежку поля, у жыце, сінімі матылькамі гойдаліся васількі. Іх колер напомніў мне вочы Веры Дзям'янаўны, і сэрца маё, якое пачало супакойвацца, зноў агарнуў сум. Але калі я міжволі глянуў на дубок, то ўзрадаваўся, адчуўшы, што сум у маёй душы — светлы. Як жа добра, што на размеркаванні я папрасіўся ў «раёнку». Я ішоў не чуючы пад сабою ног, быццам зямля падставіла мне сваю магутную далонь і несла на ёй мяне, як тапалінную пушынку.

...Адзінаццаць месяцаў я не быў у Мінску, і вось цяпер, спякотным ліпеньскім днём, прыехаў у свой першы адпачынак. Прывёз мяне бацька на службовай «Волзе», на якой, дарэчы, разам з маці два разы адведваў мяне — на кастрычніцкія святы і ў першы выхадны мая.

Я расчуліўся, выйшаўшы раніцаю на праспект. Мне радасна было глядзець на асветленыя сонцам дамы, на патокі людзей, чараду машын, лавіць слыхам пчаліны шум магазінаў, свісткі паяздоў, магутны тупы ляск пнеўматычнага молата... І з цяжкасцю цяпер уяўлялася, што мог доўгі час жыць без усяго гэтага, да болю звыклага, хвалюючага. І зусім палохала думка, што неўзабаве зноў трэба расставацца з ім: я быў дзіця горада, і забыць яго, адарвацца назаўсёды я не мог. У каторы раз усплывала ў памяці пытанне, якое пачуў ад бацькі пры ўездзе ў Мінск: «Думаю, назад цябе верне толькі падача заявы на звальненне?» Я адказаў тады: «Не, не гэта»,— адказаў, хутчэй працягваючы леташнюю спрэчку, чым думаючы пра тое, наколькі шчырыя мае словы.

Цяпер, разважаючы, хацелася пагадзіцца з бацькам, ды толькі, мабыць, на нейкі момант, пакуль не пачынаў прыгадваць тое, што зведаў за час разлукі. Нават дзеля адной ісціны варта жыць, а мне іх адкрылася адразу некалькі.

Схамянуўшыся, я ўбачыў, што падышоў да кінатэатра «Цэнтральны», і цяпло радасці разлілося па

грудзях. Я спыніўся, гледзячы на вялізныя рэкламныя шчыты і ўспамінаючы, што тут заўсёды сустракаўся з Генкам Буданцом. Пабачыцца б з ім цяпер! Не раздумваючы, я зайшоў у тэлефонную будку, ужо без мяне старанна пафарбаваную ўсярэдзіне ў новы, аранжавы колер.

Генка званку абрадаваўся, як толькі можна абрадавацца доўгачаканай і прыемнай навіне.

— Дзе ты, бадзяга, адкуль звоніш? — спытаў нецярпліва.

— На старым месцы.

— «Цэнтральны»? Чакай, бягу!

Ён прымчаўся хутка, балазе, жыў непадалёку. Задыханы, збянтэжаны. У сініх вельветавых джынсах, у шэрай з кароткімі рукавамі і белымі гузікамі кашулі.

— Назусім? — страсянуў руку, стаіўшы дыханне і гатовы заскакаць ад радасці. Адчувалася: ён сумаваў, нешта псавала яму жыццё.

— У адпачынак,— адказаў я і ўбачыў, што засмучанасць на твары ў сябра пагусцела.

— А я думаў... Ды хоць во ўдала трапіў, алімпійскі футбол пабачыш.

— Пашанцавала. Я, дарэчы, ужо пра гэта думаў.

— Ну, дык расказвай, хваліся, як ты там... Я тваю Юльку замучыў, пытаючы пра цябе.

— Ведаеш, задаволены,— адказаў я, думаючы, кажу праўду ці проста манернічаю, каб не здацца Генку бездапаможным.— Упершыню адчуў сябе не студэнтам... перад жыццём. Помніш нашу апошнюю размову? Дык вось перыферыя добра паказала, хто я, што за фрукт выспеў. Прызнаюся, нялёгка, вельмі нялёгка мне было.

— Хацеў бы я ведаць: у каго жыццё лёгкае?

— Не ведаю, але і я з цяжкасцю прывыкаў да самастойнага жыцця. І пераканаўся, што мае разыходжанні з бацькамі былі не выпадковыя. Яны абрабавалі маю душу.

— Дзеці заўсёды лічаць, што бацькі памыляюцца. Я сваім таксама ўсё нешта даказваю.

— Нават вось гэты няпоўны год пацвердзіў маю праўду...

— А калі б ты гэты час пражыў тут, у Мінску? — Генка прыжмурыў вочы, чакаў адказу.

— Я многае згубіў бы.

Генка здзіўлена паглядзеў на мяне, пашчыпаў бародку, у якой былі прыкметны некалькі сівых валасінак.

— Цікава, што ты знайшоў там?

— Я пісаў пра адну жанчыну нарыс... дарэчы, магу даць прачытаць, казалі ў рэдакцыі, гэта мой лепшы твор... І перажыў да драбніц яе лёс, няпросты лёс, які раскрыў мне многае ў чалавеку. А мы тут усе аднолькавыя, як манекены, воблік чалавечы, а душы як бы і няма.

— Ты і загнуў, браце! Бачу, маеш настрой на гаворку. А мне тужліва... Давай завалім у бар шампанскіх він. Там і пагутарым. А раптам і я што карыснае для сябе вазьму.— Вочы ў Генкі неяк суха, хваравіта бліпічалі.— Праўда, на мяне заяўка з Мінска.

— Усё-такі ў Мінск? — спытаў я і нечакана востра адчуў, што ўжо не буду з ранейшай заўзятасцю расказваць, а Генка не будзе мяне з цікавасцю слухаць.

— У Мінск,— пацвердзіў Генка, і ад яго ўпэўненасці ў глыбіні маёй душы заварушылася прытупленая туга: «А мне трэба ехаць з Мінска...»

А над горадам, незалежна ад майго настрою, набірала вышыню гарачае ліпеньскае сонца.



# СУЧАСНАЯ ГІСТОРЫЯ

Жонка выйшла з ваннай у лёгкім ружовым халаце, галава была абкручана паласатым ручніком. Крылевіч сядзеў у крэсле перад тэлевізарам, на канапе ляжалі газеты, якія толькі што перачытаў.

— Заўтра паедзеш замест мяне на буракі,— заявіла жонка, падсоўваючы махровы канец ручніка недзе на патыліцы.

— А чаму-та я паеду? — Крылевіч з усмешкаю паглядзеў на жонку.

— Ты ж абяцаў,— усё тым жа амаль загадным тонам сказала яна.

— Калі я абяцаў? — Ён дні два назад, калі жонка загаварыла пра буракі, проста прамаўчаў, але жонцы было даволі, каб палічыць, што ён не проці паехаць за яе.

— Калі б ты мне сказаў зразу, то я і не запісвалася б — столькі на выхадныя спраў сабралася: бялізна, падлога, шыццё-мыццё...— Жонка не адступалася, гаварыла як пра даўно вырашанае.

— Раіса, колькі разоў цябе прасіў: не дамаўляйся за маёй спінаю, спачатку парайся.— Крылевіч таксама не хацеў лішні раз здацца жонцы рахманым, каб не папускацца і не даваць ёй садзіцца яму на галаву. Здаецца, яна і так няблага асядлала яго.

Маладая сям'я Крылевічаў была адна з тых, што трымаюцца на аднабаковай дыпламатыі, у даным вы-

падку — на дыпламатыі мужа. Калі б Крылевіч не ўступаў жонцы ва ўсіх яе дурасцях, прыдзірках і легкадумных інтрыгах, не вёў з ёю тонкую гульню ў кампраміс, у іх даўно б ужо зайшло, як кажуць, зуб за зуб, а самі яны ў адзін цудоўны дзень, знерваваныя, завіталі б у суд з заявою на развод. Іншы раз Крылевіч у гэтых сваіх паводзінах знаходзіў нават асалоду і радасць: усё-ткі гэта вялікае мастацтва ладзіць адносіны з жанчынаю, якая завецца тваёю жонкаю, і калі не ў бясхмарнай яснасці жыць, то хоць бы без перуновых грымотаў.

— Я раніцаю ўстану, табе каву звару, усё падрыхтую...— Жонка яўна падлізвалася, бо ніколі раней яна і пальцам не варушыла, каб сабраць мужа ў камандзіроўку ці сустрэць з работы.

— Не па-е-еду! Ты можаш зразумець? — Крылевіч, трацячы цярпенне, устаў, прайшоўся па пакоі. Ён быў вышэй сярэдняга росту, але з невялікім круглым тварам і як бы караткаватымі рукамі, якія прыдавалі ўсёй постаці бадай што нязграбнасць. А можа, яго такім зрабіла сядзячая работа. Бегаць жа, як заклікаюць дактары, ён яшчэ не пачаў.

— А мы са Светкай Яноніч ужо дамовіліся, што і яе муж паедзе.— Раіса заганяла Крылевіча ў кут.— Яна такая хваравітая, у яе сэрца... парок.

— А ў цябе што? З-за ляноты? Я сам чакаў выхадных як бога, каб пайсці ў бібліятэку ды пасядзець спакойна.

— Ну, Коля... Ты так мяне падвядзеш пад манастыр, я не ўяўляю. Яноніч такая пляткарка... Зразу разнясе па інстытуце, што ў Крылевіч муж такі...

— За сябе я спакойны! А за маё ўніжэнне сабе аўтарытэт ты не купіш.

— Якое ўніжэнне? Проста выручы жонку.

— Ты спытала ў мяне, перш чым дамовіцца? Во ў чым корань зла! — Крылевіч адчуваў, што недалёка да спрэчкі.

— Я нават і не падумала, што ты будзеш супраць. На прыродзе. Развеяцца...

Усё яна, жонка яго, разумее, усё улічвае, толькі вырашае заўсёды неяк не па-чалавечы, не адкрыта, а як бы прыхавана, таму ён і абвінавачвае яе ў няшчырасці, калі не сказаць — у хітрасці. Гэта яго болей за ўсё абу-

рала і нярэдка не давала яму ісці на ўступку. Якое ўсё-ткі недатыкальнае яно, чалавечае самалюбства!

Разабрацца, дык і праўда, не так ужо блага вырвацца з гарадской мітусні, лабірынта навуковай лабараторыі, кватэры, магазінаў, бібліятэкі... Жонка зразу ўлавіла гэту яго ўнутраную перамену, задуменнасць у вачах прачытала як прымірэнне. Падышла да тэлефона, набрала нумар.

— Алё! Светка? Ну як твой? — Яна маўчала, слухала, што гаварыла ёй сяброўка.— Ды ўпіраецца... І твой тады не паедзе? Коля, ідзі, Светка з табою хоча пагаварыць!

— Мне няма пра што з ёю гаварыць,— адрэзаў Крылевіч.

— Ну добра, Светачка... Пакедава! — нечакана абарвала размову жонка і пайшла на кухню.

Быў позні ўжо вечар, а перад ім — хмарны дзень. Паветра падсвечвалася толькі знізу — ліхтарамі, зоркі патанулі недзе глыбока ў густой імгле, і цемень шчыльнаю чорнаю ватаю клалася на акно. Крылевіч зашмаргнуў шторы, і кольцы на карнізе зазвінелі, як ледзяшы пад страхою, калі правядзеш па іх палкаю, і гэта асацыяцыя — памяць дзіцячых гадоў — вярнула яму лагодны, шчымліва-радасны настрой. Ён дастаў з паліцы кніжку і лёг на ложак пачытаць перад сном.

Не пачуў, як зайшла жонка: на галаве бігудзі, пояс у халаце быў развязаны. Яна прысела на край ложка і пачала гладзіць мужа па валасах... Заскакалі ў вачах радкі літар — сэнс даходзіў слаба, і ён палажыў кніжку разгорнутымі старонкамі ўніз на крэсла.

Калі б у яго спыталі і пасля таго, як жонка пайшла ад яго ў свой пакой, дзе спала і дачка, ці паедзе ён заўтра на буракі, то ён не змог бы пэўна адказаць.

Крылевіч прачнуўся раней, чым жонка хацела — наставіла будзільнік. Ляжаў, глядзеў яшчэ соннымі вачыма на шэры за шторамі квадрат акна і думаў, ехаць або не ехаць. Дзіўна, канечне, было, што і раніца, якая, як вядома, мудрэйшая за вечар, і гэта праўда, не дала яму пэўны адказ. Нешта як бы ўпарцілася ў яго ўнутры, стрымлівала, не пускала, быццам наперадзе чакала калі не бяда, то нейкая непрыемнасць. Але ж і справа была не настолькі важная, каб траціць на яе шмат эмоцый, хоць разабрацца, дык мы ўсё жыццё толькі і робім, што энергію сваю распыляем на дробязі. Санлі-

васць, нерашучасць ураз адляцелі, як толькі ён — раптам! — падумаў пра тое, пра што ні ўвечары, ні цяпер, як прачнуўся, не думалася: куды, што, як, з кім? Ён не ведае ні людзей, з якімі трэба ехаць, ні што адзяваць, ні куды ісці, і жонка не абмовілася нават словам: для яе гэта само сабой зразумелае, а ён жа ні разу не ездзіў з чужымі людзьмі на буракі.

Жонка была ўжо на кухні, ляскала пасудаю, і ён пайшоў туды.

— Куды ехаць, на вёску да дзеда? — сказаў ён не столькі з жартам, колькі з незадаволенасцю.— I так во? — паказаў на сябе, неадзяванага.

— Чаравікі старыя я з антрэсолей дастала... Адзенеш трыко, куртку.

Гэта было дзівам, што жонка, якая раўніва сачыла за сваім адзеннем, зусім не турбавалася, у чым заявіцца муж да яе супрацоўнікаў. Як быццам яна хацела паказаць яго не ў самым прывабным выглядзе, правесці між ім і сабою мяжу. Чым бы тут не пахла, было ў ім абразлівае і здзеклівае для Крылевіча, як і многае з ранейшых жончыных выхадак. Ён, канечне, пра гэта не сказаў, моўчкі пайшоў у ванную і памыў галаву. Жонка ўбачыла і ажно пляснула ў ладкі. Ён прамаўчаў, спакойна надзеў джынсы, красоўкі. Тут жонка ўжо не ўтрывала, напаўжартам, напаўсур'ёзна сказала:

— Ты і прыфранціўся! Як хлапчук.

— А што ты хацела, каб я першы раз паказаўся незнаёмым людзям зашарпаным?

— Глядзі, там будуць такія дзяўчаты!..— сказала яна як бы са шкадаваннем у голасе.— Светчын муж будзе чакаць цябе каля Чэрвеньскага рынка, каля кіёска.

Раніца была ціхая і туманная. Туман быў настолькі густы, што сцены дамоў за пяць крокаў здаваліся працягам гэтага туману. Бетонная дарожка пад нагамі была вільготная, на яе прыліплі жоўтыя кляновыя лісты і цьмяна блішчэлі, як і мысы красовак, што паспелі ўжо чырхануць па чэзлай, зблытанай, прыбітай даждждом траве.

Да вакзала Крылевіч паехаў на метро; адтуль да Чэрвеньскага на тралейбусе. Некалі, халасцяком, ён жыў на кватэры ў раёне Чэрвеньскага рынка, без цяж-

касці знайшоў газетны кіёск, пра які гаварыла жонка, купіў некалькі газет, каб у электрычцы пачытаць. Толькі разгарнуў газету, як убачыў, што да кіёска падыходзіць малады чалавек з авоськаю, у сіняй куртцы, цёмных штанах і чорных чаравіках з кароткімі халяўкамі. Здагадаўся: Светчын муж. Але малады чалавек як бы і не заўважыў Крылевіча, стаў па другі бок кіёска. Крылевіч сам падышоў. «На буракі? — Падаў руку.— Мікола». Малады чалавек назваўся Сашам.

Саша быў невысокага росту, з доўгімі русымі валасамі, на якія паспеў асесці туман, і яны былі як макраватыя; вочы маленькія, з тугою зеленаватасцю, глыбока пасаджаныя і апраўленыя густымі чорнымі вейкамі. Калі ўжо селі ў аўтобус, каб даехаць да станцыі Мінск-Паўднёвы, Крылевіч спытаў, адкуль ён родам, і здзівіўся, калі той сказаў, што з Мінска: Саша быў па натуры ціхмяны, у размове просты, можа, нават працякаваты, і Крылевіч падумаў, што ён аднекуль з вёскі.

Саша некалі працаваў разам з сваёю жонкаю і таму, сказаў, ведае ўсіх яе супрацоўнікаў, знайсці іх нават у вакзальнай мітусні яму будзе проста. Але яны прайшлі па перону, заглянулі ў станцыю, і Саша нікога не пазнаў. Тым часам падышла электрычка; людскі натоўп завіраваў, і цяпер зусім было цяжка каго-небудзь знайсці. Яны залезлі ў трэці вагон, прайшлі яго з канца ў канец — знаёмых Сашу не было. «Дзе яны ўсе падзяваліся? — ужо нерваваўся ён, але стрымліваў сябе, яму хацелася быць — бачыў Крылевіч — па-мужчынску ўпэўненым, спакойным.— Паехалі! Я ведаю куды, там сустрэнемся...»

Крылевіч сядзеў у электрычцы, глядзеў у мокрае акно, на панылыя голыя палі, жоўтыя таполі і вербы збоч палатна, на чорныя хмары шпакоў, што ляталі над лугам; калі надакучвала, чытаў газеты... Людзі ехалі з напакаванымі сумкамі — на выхадныя ў вёску; з пустымі кошыкамі і вёдрамі, апранутыя ў спартыўныя курткі і зялёныя брызентавыя штармоўкі — у грыбы. Нечакана пасля ранніх вераснёўскіх халадоў, якія вымусілі запаліць у горадзе раней часу кацельні, выдаліся цёплыя дні, свяціла сонца, і над зямлёю павіслі густыя грыбныя туманы. Лета было сухое, грыбоў амаль не было, і цяпер яны «як бы сарваліся з ланцуга» — так гаварыла маці, калі грыбы пачыналі расці

позна ўвосень,— пайшлі зялёнкі, радоўкі, таўстухі, курачкі і нават лісічкі з махавікамі.

«Раўнаполле!» — аб'явіў хрыпаты рэпрадуктар на столі вагона. «Наступная наша»,— сказаў Саша, і прыкметна ажывіліся яго вочкі: не памыліўся.

Яны ўсталі і выйшлі ў тамбур. Саша закурыў, зацягваўся раз за разам: ці каб хутчэй дакурыць, ці ссумаваўся па цыгарэце.

Крылевіч першы саскочыў з прыступак на перон. Мястэчка называлася Рудзенск — падказалі вялікія чырвоныя літары на фасадзе жоўтага старамоднага будынка. Людзей тут сышло многа, і Саша прыглядаўся, шукаючы сваіх. «А вунь яны!» — раптам з радасцю ўсклікнуў ён, паказаўшы ў хвост электрычкі. Хто там? Крылевіч убачыў дзвюх дзяўчын і мужчыну. Саша, зблізіўшыся, па-заліхвацку ляпнуў мужчыну па плячы: «Здароў!»

Крылевіч таксама павітаўся, але, здаецца, яму ніхто не адказаў: ці не пачулі, ці падумалі, што не да іх звяртаюцца.

Ішлі паўз рэйкі, потым звярнулі на дарогу, збоч якой у траве было насыпана многа зялёных дробненькіх груш, якія нападалі з ігрушын, што стаялі ў садах каля прыватных драўляных дамоў. Грушы — дзічкі — ніхто не збіраў, а дарэмна, падумаў Крылевіч, з іх, сушаных, можна варыць багатыя вітамінамі кампоты. Помніцца, у дзяцінстве гэтыя грушы не толькі сушылі, але і елі проста так, асабліва ўлежаныя. Што ў дзяцінстве, калі гэта было, цяпер не тое, людзі ганяюцца за далікатэсамі ўсякімі.

Крылевіч трымаўся крышку ззаду і таму добра бачыў тых, хто ішоў паперад. Мужчына, з якім Саша пазаліхвацку павітаўся, быў высокі, з абветраным, суровым тварам, размаўляў грубаватым голасам. Адна дзяўчына таксама была высокая, яна выглядала маладзей за бялявую сяброўку. Вялікі тоўстай вязі світэр, абвісаючы, завастраў яе плечы. У яе быў арыгінальны дробненькі тварык, абсыпаны канапацінкамі, з маленькім кручкаватым носікам, які ледзь не кранаўся верхняй поўненькай, як вывернутай, губкі; цёмныя валасы, спадаючы да плячэй, закручваліся каля шчок у крутыя «коскі». Высокі рост не рабіў яе няўклюднай ці сутулай, як гэта часта бывае з высокімі жанчынамі, якія з дзяцінства, саромеючыся свайго росту, угінаюцца і

псуюць сабе паставу; яна была зграбная, і паходка ў яе была лёгкая, нейкая нават, як недарэчы падумалася Крылевічу, адухоўленая.

Бялявая сяброўка, наўпярок, была па-жаночы мажнаватая ў стане, цвёрда ставіла ногі, валасы на галаве былі кароценькія, выпетраныя, іх матляў вецер, рассыпаў, і тады было відаць, што каля скуры валасы цёмныя.

Як толькі ступілі на школьны двор — каб спраміць дарогу,— высокі мужчына развітаўся і пайшоў у другі бок: знаць, прыехаў сюды па нейкай справе. Упёрліся, мінуўшы двор, у калгасны сад, там-сям на яблынях віселі жоўтыя яблыкі, блішчэлі і на зямлі ў траве, але то маленькія, то падгнілыя.

— Я замест Раісы Крылевіч,— сказаў Крылевіч, параўняўшыся з дзяўчатамі,— а то яшчэ будзеце гадаць, што гэта за хвост цягнецца ўслед...

— Мы ўжо здагадаліся,— бойка адказала высокая дзяўчына, цікаўна і какетліва бліснуўшы на Крылевіча маленькімі дзёрзкімі, але вельмі выразлівымі шэрымі вачыма.— Гэта Валя,— паказала на сяброўку,— а мяне завуць Іра...— Нейкая таварыская адкрытасць была ў яе паводзінах, і той жа час улоўліваліся скрытая незалежнасць і ўменне скіроўваць на сябе ўвагу.

— Мяне Мікола,— сказаў Крылевіч.

— Сашу мы ведаем,— сказала Валя. Саша ішоў крыху воддаль, выглядаючы на яблынях лацвейшае яблыка.

За садам пачалося поле — голае, пустое; на ім расла бульба, але яе ўжо скапалі, астаўся адно бульбоўнік — чарнеў на барознах. Далёкі канец поля хаваўся ў тумане, і нельга было здагадацца, што там далей. Дзяўчаты крута павярнулі і пайшлі па ўзмежку поля.

— Далекавата ісці,— не то спытаў, не то сцвердзіў Крылевіч, абы не маўчаць.

Іра палічыла, што ён спытаў, і адказала яму ўсё тым жа бойкім голасам:

— Два кіламетры.

Яны абагнулі густы маладых бярэзнік, задуменны, маўклівы і пануры, нягледзячы на ўсе свае светлыя ад нізу да верху колеры; цераз масток перайшлі меліярацыйны канал і папраставалі берагам, зарослым густой высокай зялёнай травою. На дне канала таксама расла

трава, жоўтая асака, у ёй бліпічэла вада, зацягнутая рудаватай раскаю.

— Вось і наша поле,— сказала Валя, паказваючы рукою ўперад.

Крылевіч і сам ужо ўбачыў буракі. Бацвінне было высокае, ядранае і на колер ледзь не цёмнае, над ім стаяла выпетраная густая лебяда, і было ўражанне, што гэта жоўты туман. «Відаць, не вельмі дбайны гаспадар у гэтым калгасе,— падумаў Крылевіч,— і зараслі пустазеллем буракі, і сваімі сіламі ўбраць не могуць.— Але тут жа знайшлося чым і апраўдаць старшыню.— Якія цяпер сілы на вёсцы... І мы, гараджане, хіба работнікі, хіба навырошчваем хлеба?»

Далёка ў тумане чуваць былі галасы людзей, ракатаў трактар, неяк натужна, быццам праз сілу.

— Нехта ўжо працуе,— сказаў Крылевіч.

— Мясцовыя школьнікі,— сказала Іра: яна, бачыў Крылевіч, лавіла кожнае яго слова і жыва адгукалася на яго.

Абрэзанае бацвінне ляжала кучкамі, і буракі былі накрыты бацвіннем, іх яшчэ не забралі.

— Ну што, мы з Колем рваць буракі, а вы абразаць бацвінне? — спытаў Саша, відаць, маючы ўжо вопыт у гэтай справе.

— А можа, усе разам зробім адно, тады другое,— прапанавала Іра,— а то я забыла нож.

Яны сталі рваць буракі. Зямля была мяккая, бы прысак,— чарназём, і буракі вырываліся лёгка. Хрусцела, ламалася, бы яно было з інею, сакавітае бацвінне, і дзе крышку глыбей сядзеў бурак, ён заставаўся ў зямлі, тады яго даводзілася выкручваць. Буракі не кідалі ў кучу, а клалі сцяною, акурат будавалі крэпасць — так зручней, стаўшы кружком, абразаць бацвінне.

Працавалі моўчкі, старанна, без лішніх рухаў і слоў, і недзе хвілін праз дваццаць агалілі дабраваты пляц, які стаў сумны і шэры, як і неба над ім.

— Ну і тэмпы! — сказала Іра; яна абвязала галаву лёгкай касынкаю, і гэта надало ёй дамашняй непасрэднасці.

— Што значыць свае з чужымі! — пажартаваў Крылевіч.

— А вы нам не чужыя...

— Я маю на ўвазе, з чужымі мужамі...

Валя засмяялася, а Іра сказала без ценю сарамлівасці:

— А што? Цікава.

У яе голасе Крылевіч улавіў ацэнку не таго, што між імі ўжо было, а таго, што яшчэ будзе. Яна, мусіць, і праўда спадзявалася, што ўсё цікавае наперадзе. І Крылевічу, каб падтрымаць сваю джэнтльменскую марку, трэба красамоўнічаць, інтрыгаваць, гаварыць кампліменты, ва ўсякім разе, не здавацца раўнадушным і зажураным, гэта дзяўчатам падабаецца, бо яны звычайна нават пасля макулінкі ўвагі да іх гатовы лічыць, што імі зачараваны.

Яны сталі «дружна ў рад» каля сцяны буракоў. Крылевіч браў бурак, чвахаў нажом па бацвінні — яно адлятала, пырскаючы на рукі барвовым сокам; кідаў бурак у кучу. Тое ж рабілі Саша і Валя. Іра адкручвала бацвінне рукамі хутка і спрытна, здавалася, бацвінне адпадала само, настолькі яно было кволае і ломкае.

Між імі панавала нацятая засяроджанасць, нешта не давала ім да канца разняволіцца, паводзіць сябе з тою свабодаю і нязмушанасцю, што бывае сярод людзей, якія добра ведаюць адно аднаго.

— Валя, ты ўранку бегаеш? — спытала Іра ціхім голасам, як бы не давяраючы мужчынам, але той жа час хочучы, каб і яны пачулі.

— Не. А ты?

— А я бегаю.

Крылевіч падумаў, што, можа, і не тактоўна ўкліньвацца ў размову, але не ўтрымаўся:

— Цяпер ясна, што табе памагае так добра працаваць.

Здаецца, Іра толькі і чакала ад яго гэтых слоў.

— Я не толькі бегаю, але і аэробікай займаюся.

«Яна ўсё-ткі больш непасрэдная, чым ганарлівая»,— падумаў Крылевіч. Непасрэднасць у людзях яго заўсёды вабіла, непасрэдны чалавек, здавалася яму, ніколі не можа быць ні подлым, ні злым у той меры, у якой можа быць чалавек хітры і зацяты. Непасрэдным мужчынам ён зайздросціў, а непасрэдных жанчын шкадаваў, шкадаваў таму, што гэтую іх непасрэднасць нехта жорсткі мог выкарыстаць у сваіх брудных мэтах. Гэтае пачуццё замілавання непасрэднасцю ў жанчыне, туга па ёй былі ў яго нерастрачаныя, паколькі жонцы

яго шчырасць ва ўсім «не была паказана», калі гавараць моваю доктара. Туга па нечым ці то вынішчае ў чалавеку частку яго душы, ці разбурае сцяну скаванасці, якая не давала далучацца да таго, чаго яму не хапала.

— Я рады, што пазнаёміўся з сучаснымі дзяўчатамі! — сказаў Крылевіч наўмысна іранічным голасам.

— Што гэта за знаёмства? — не разгубілася Іра.— Прыходзьце з жонкамі да нас на дні нараджэння, вечары...

— Абавязкова! — паабяцаў Крылевіч, хоць не быў ён аматарам ніякіх пацешлівых зборышчаў. Аддаваў сябе рабоце, а рэдкія вольныя хвіліны — дачцэ. Іншы раз са скрухаю думаў: чаму ён павінен марнаваць сябе, калі другія весяляцца? Адказу ён не знаходзіў. Часам яго ахоплівала прадчуванне, што ўсё жыццё так аднастайна цягнуцца не можа.

Да абеду яны нарвалі і абрэзалі яшчэ дзве кучы буракоў. Мінулы раз, прызналіся дзяўчаты, яны ўдзесяцёх адолелі крышачку больш пляц.

— Часцей бы вы падмянялі сваіх жонак,— сказала Валя. Яна трымалася сціпла, але і ў тых рэдкіх і кароткіх рэпліках Крылевіч знаходзіў праблескі розуму і дасціпнасці. Такія дзяўчаты бываюць добрымі жонкамі, але хлопцам не падабаюцца.

— А што, нядрэнна было б выбрацца сюды на тыдзень,— падтрымаў яе Крылевіч.— Спыніцца вунь у вёсцы, каб кожны дзень не ездзіць. Свежае паветра, месяц і зоркі...

—Я — за! — рассмяялася Іра, і калі яна смяялася, яе поўныя губкі хораша адкрывалі белы радок верхніх зубоў.

У гэтых іх размовах не было нічога пошлага, не было і намёку на нейкія далейшыя сувязі, і тым не меней было прыемна, што яны вядуцца з узаемнаю згодаю,— гэта як пажылы мужчына, дазваляючы сабе вольнасць у размове з маладою жанчынаю, атрымлівае асалоду, думаючы, што гэтым ледзь не схіляе яе на блізкасць.

Восеньскі дзень кароткі, і сонца ўжо паніжэла да зямлі, прыглядаючыся, дзе яму абначыцца. Дарогу назад трошкі змянілі: пайшлі каля могілак, а Саша, як і раней, праз сад. З авоські ён выняў рукзак. «Мабыць, жонка дала заданне назбіраць яблык,— падумаў Крылевіч.— Добра, што маёй не цюкнула ў галаву».

І праўда: на станцыю Саша прыпёр за плячыма цэлы рукзак яблыкаў. Спацеў, бедны. Паставіў рукзак на лаўку.

— Сёння ў майго сына дзень нараджэння,— сказаў ён.

— Колькі яму?

— Тры.

— Падарунак купіў?

— А як жа, купіў. І яблыкі во на стол будуць...— сказаў ён без макулінкі сарамлівасці, і Крылевіч здзівіўся: наколькі глыбока засеў у гэтым някідкім чалавеку практыцызм, а яшчэ глыбей, мабыць, у яго жонкі.

У электрычцы сядзелі нейкія ўсе паспакайнелыя, трохі нават хмурнаватыя: мабыць, стаміліся. Іра разлажыла на каленях кнігу і стала чытаць. Саша, выкурыўшы ў тамбуры цыгарэту, кляваў носам. Крылевіч глядзеў у акно: яму не тое што ў гэтым стукаце ды тузанні, а нават уначы на ложку кепска спіцца. Валя таксама задумліва ўставілася ў акно, і ў яе вачах, як у тэлевізары, беглі мініяцюрныя дрэўцы, слупкі, будыначкі, бліщчэла неба...

Надзеі ў чалавеку запальваюцца нечакана, азараюць думку святлом патаемных, а то і адкрытых жаданняў. Праўда, яны часцей гэтак жа нечакана і гаснуць, бо жыццё, абставіны крута ўсё мяняюць, як кажуць, ставяць на сваё месца, і сілы ў чалавеку хапае толькі на тое, каб ухапіць нешта абавязковае, патрэбнае, без чаго проста нельга існаваць.

Іра выйшла на станцыі Мінск-Паўднёвы, дзе яны і садзіліся, астатнія паехалі на канцавую станцыю.

* * *

— Ну, як з'ездзіў? — спытала жонка, не хаваючы сваёй цікаўнасці, убачыўшы, што Крылевіч у добрым настроі.

— Цудоўна! — Крылевіч таксама не хаваў задаволенасці ад паездкі. Ён і праўда адчуваў сябе бадзёра, лёгка, як быццам нехта ўдыхнуў у яго новыя сілы.

— Ды я бачу. А ты не хацеў...— сказала жонка, як бы ўжо шкадуючы, што змусіла мужа на паездку.

— Я не хацеў не таму, паўтараю, што ленаваўся, а таму, што ты вырашыла ўсё за маёй спінаю,— сказаў Крылевіч ураз пастражэлым голасам.

— Можа, там і закахаўся? — Жонка жартавала, але было відаць, што яе штурхае на гэта ўсё тая ж незадаволеная цікаўнасць.— Іра, яна паглядвае на мужчын...

— Добрыя дзяўчаты... Мне спадабаліся. Працавітыя, талковыя.

— У цябе ўсе такія, толькі адна я...— Вялікая крыўда паднялася з жончыных грудзей, яна гаварыла нібыта як з асуджанасцю ці з прызнаннем сваіх недахопаў. Як вядома, жанчыне пайсці на падобнае прызнанне — усё роўна што на віселіцу.

— Ад факта нідзе не дзенешся,— не саступіў Крылевіч, тым часам думаючы, што не трэба заядацца з жонкаю, бо ні да чога, акрамя спрэчкі, гэта не прывядзе. Трэба неяк выпрацоўваць абыякавасць да таго, што яго не задавальняе ў жонцы, і можа, не варта імкнуцца ставіць усё на месца, бо што ставіць і куды ставіць выбіраем усё-ткі мы, а значыць, памылкі тут непазбежныя.

Крылевіч распрануўся, зняў красоўкі і зразу пайшоў у ванную мыцца. Яму было прыемна ляжаць у цёплай вадзе, адчуваць, як салодкая млявасць расслабляе мышцы. Маленькія чалавечыя слабасці... З носіка крана капала ў ванную, на спакойную ваду, і за кожнаю кропляю з яе выскокваў маленькі празрысты чалавечак — з галоўкаю і плячыма, падобны на шахматную пешку.

Калі Крылевіч, апрануўшы махровы халат, прыйшоў на кухню, то здзівіўся: на пліце ў каструлях і на патэльні сквірчэла-шумела, на стале ўжо дымілася ў талерцы рыба — свежы карп. Жонка нечакана падрыхтавала яму сапраўднае свята, ці не ўпершыню за сумеснае жыццё.

Прыйшла на кухню і дачка, яна накручвала спружынку ў цацачным маленькім жоўтым сабачку, які трымаў за шнурок чаравік.

— Глядзі, тата, як я ўмею,— і пусціла сабачку на падлогу. Той закруціў хвосцікам і закруціўся сам, тузаючы за сабою чаравік.

— Во якая Людачка малайчына! — пахваліў Крылевіч і пагладзіў дачку па галаве. Ён любіў яе, яна была, як і работа, яго апораю ў жыцці. Дочка, задаволіўшыся бацькавай пахвальбою, павярнулася да маці, тузанула яе за халат.

— Мам, ну калі мы паедзем на поўдзень?

— Хутка, роўна тыдзень яшчэ чакаць,— сказала маці, і дачка, прыціснуўшы да сябе сабачку, пайшла з кухні.

— Можа, мне пазваніць Ірцы, спытаць, як вам там працавалася? — нечакана сказала жонка такім голасам, што Крылевіч зразумеў: яе ўвесь час не пакідала думка, які пайшоў розгалас ад таго, што яе муж пабыў сярод знаёмых па рабоце жанчын.

— Ты што? — сказаў Крылевіч, празмерным здзіўленнем паказваючы, што яе жаданне легкадумнае і ў ім няма ніякай патрэбы.

Пазней, ужо надвечар, жонка, зачыніўшыся ў пакоі, некаму званіла, але ён не прыслухоўваўся і потым не пытаў — каму.

Крылевіч, можа б, і забыўся на гэтую сваю паездку, на сваіх новых знаёмых, як гэта звычайна бывае, калі наплываюць новыя падзеі, людзі, знаёмствы, не меней значныя, чым тыя, што ўжо былі, калі б яму не прысніўся сон. Нібыта ён на поўдні, каля мора. Сонечны, ясны дзень і марская вада, незвычайна празрыстая, разбаўленая лёгкаю сінню, так і вабіць да сябе, у свой глыбокі тугі халадок. Ён бяжыць купацца, адыходзіць спінай глыбей у мора, падымае ўгору рукі... І з берага проста яму ў абдымкі кідаецца дзяўчына з арыгінальным тварыкам, і ён пазнае Іру. «Навучыце, калі ласка, плаваць мяне»,— гаворыць яна і чапляецца рукамі яму за шыю. Ён адштурхоўваецца нагамі, і яны разам, абняўшыся, плывуць у лёгкіх, празрыстых хвалях... Ніякага юрлівага пачуцця і блізка няма, толькі прыемны халадок хваль і пяшчотнага, маладога дзявочага цела.

Раніцаю Крылевіч прачнуўся з адчуваннем неймавернай радасці. Ясна, што нейкае пачуццё, закладзенае ў падсвядомасці, нарадзіла гэтую радасць. Ён хадзіў некалькі дзён пад уражаннем гэтага дзіўнага сну, і жонка з падазронасцю ўжо зыркала на яго. Дні былі змрочныя, сырыя, а на душы было светла, нешта як бы рассунула яе межы да бясконцасці. І загадчык сектара, які апошнім часам чапляўся да Крылевіча, утайне раўнуючы да размоў вакол яго навуковых распрацовак, не здаваўся ўжо такім зацятым, каварным інтрыганам. Яго можна было зразумець, ён ужо сядзеў на крэсле не важна разваліўшыся, упэўнена гледзячы ў будучыню, а сціпла прытуліўшыся на самым краёчку, ды акурат

на тым, пад якім хісталася ножка. Логіка жыцця няўмольная, і тармазіць яе няма сэнсу: абдзярэш душу сабе і другім.

Крылевіч быў чалавек стрыманы і не мог адразу згадзіцца, што ўся справа ў Іры, што ў ёй трэба шукаць прычыну і яго такога настрою, і іншага, нейкага новага, расчуленага погляду на людзей, на свет. Дзіўна, што і жонка аніяк не магла адкараскацца ад думак пра ягоную паездку на буракі. Во падзея для сям'і, пасміхаўся Крылевіч.

— Света пытала ў мяне, як ты ацаніў яе мужа, мабыць, падумаў: во нейкі вахлачок? — сказала жонка за вячэрнім чаем, які яны любілі піць, калі спала дачка: была воля ў словах, ніхто не цягнуў за руку, не прасіў піць, яблыка, дастаць з-пад канапы цацку.

— А чаму-та я павінен даваць яму ацэнку? Што вас усё хвалюе, якія ў вас мужы? — У голасе ў Крылевіча былі ўжо ноткі абурэння.— Майце сваю годнасць, тады не будзе вас турбаваць, хто што падумаў пра мужа!

— Ён у яе такі... Яна яму здраджвае, казала.

— Дурніца яна стопрацэнтная, магу даць гарантыю! Знайшла чым выхваляцца...— сказаў Крылевіч, адчуваючы, што ў грудзях закіпае абурэнне: і на жонку, і на яе сяброўку, і на ўсіх ім падобных жанчын. Выходзяць замуж, без кахання, абы толькі выйсці, не астацца ў перастарках; нехта, шчыры, клюне, не разгледзіць за маскіроўкаю сапраўдных намераў, добрую справу зробіць, возьме іх, а яны тады яшчэ пачынаюць куражыцца, мужоў прыніжаць, апраўданне сабе на здраду шукаць: маўляў, муж нягеглы, не кахаю... Даражэнькія, каханне — гэта праца, і лягчэй за ўсё, не маючы нічога за душою і ўшчэнт разленаваўшыся, пусціць сябе па слізкай горцы распусты.

— Ну, ты ж у мяне ў параўнанні з ім...

— Ідзі ты са сваімі кампліментамі!..— ужо зусім раззлаваўся Крылевіч. Адсунуў ад сябе пусты кубак, узяўшы з яго лыжачкаю скрылёк лімона і ўкінуўшы ў рот.— Упэўнены, што яна не вартая яго, вось і распускае чуткі, што ён у яе такі ды гэтакі. А сама такая мяшчанка, яблыкі з калгаснага сада змусіла яго браць. Жыццё з вамі... во што гэты недаспелы лімон! — Крылевіч рашуча ўстаў і пайшоў да ракавіны мыць кубкі. Ён, мыючы, і пасля, ужо ў ложку, у думках не працяг-

ваў спрэчку з жонкаю, як гэта рабіў раней, а зразу пераключыўся на Іру.

Уяўляў яе на пероне, на полі, у сне, вельмі выразна бачыў яе валасы, губы, ястрабіны носік, вочы... Чорт, няўжо і яму абрыдла сямейнае жыццё, так знелюбела жонка, што пацягнула да чужой жанчыны? Дык жа яна, гэта цяга, здаецца, жыве ў мужчыне ўвесь час, і толькі маральныя шчыты, выхаванасць ставяць перашкоду. А што тады яго пацягнула так моцна, неадольна? Можа?.. Крылевіч аж падняўся з ложка, паглядзеў у акно, якое адкрыла яму асветленыя вокны двух апошніх паверхаў дзевяціпавярховага процілеглага дома. Няўжо да яго прыйшло сапраўднае каханне? Тады гэта зусім іншая справа, чым уцёкі ад сям'і, сямейных абавязкаў... Ці ёсць тут мяжа паміж цвярозым разлікам, поклічам прымітыўнай пажаднасці і чыстым, юным заўсёды пачуццём, прыгнятаць якое ў сабе, бадай, кашчунна? Можа, усё стаіць на помслівай адплаце жонцы за яе ўпартасць, нахабства, мяшчанскую абмежаванасць? Тады гэта ўвогуле не па-чалавечы. Толькі каханне, чыстае, здаровае, можа апраўдаць чалавеку любы яго крок. Толькі чыстае святло кахання можа развеяць змрок усякай падазронасці, плётак і нагавораў.

З дня на дзень жонка не кідала размовы пра буракі, і ці прывучыла Крылевіча, ці яму самому было цікава, але ён ужо прагнуў пачуць што-небудзь пра тых людзей, з якімі быў на бураках, асабліва пра Іру.

— Мне дзяўчаткі кажуць: ну ты і прыфранціла свайго мужа,— нейкім прэсным, калі не сказаць раўнадушным голасам мовіла жонка.— Як на спатканне які хлопчык прыскакаў: у джынсіках, красоўках...

Што там ні было, зразумеў Крылевіч, жонка дае сваю інтэрпрэтацыю, як кажуць філосафы, ён ад яе гэта ўжо чуў, але паколькі быў у гуморы, то, усміхаючыся блазенскаю ўсмешкаю, адказаў:

— Ты, канечне, хацела б, каб я за пудзіла гароднае быў.

— Хочаш падабацца, я ведаю...— сказала жонка з ганарлівым, незалежным выглядам і той жа час баючыся, каб ён не западозрыў яе ў рэўнасці.

— Ты ж сама мяне штурхаеш на гэта, сілаю выпіраеш да незнаёмых сімпатычных дзяўчат.

— Гэтыя на цябе не паглядзяць: у Валі бацька га-

лоўны інжынер нейкага трэста, а ў Іры — кандыдат навук...

— Ну ў цябе і логіка! — сказаў Крылевіч, адчуваючы, што жончыны словы закранулі яго за жывое. Быццам недзе там, усяродку, стаіць у яго нейкі чуйны прыбор, які ловіць вось такія бязглуздыя жончыны падколкі, папрокі, падводачкі — што ён вясковы. І жонка тут была толькі як нязначны, кволы праваднічок між вялікай сілаю і тым прыборам: яна сама нарадзілася ў вёсцы, хоць школу канчала ў горадзе, куды пераехалі яе бацькі, але з якою ўсяленскаю пыхаю яна даводзіла, што яна гараджанка. І колькі такіх, сапраўды — вялікая сіла.

Нядаўна Крылевіч стаяў з сябрамі ў чарзе па піва, і яны размаўлялі, дык два франціке ззаду, чуе, шэпчуцца між сабою, ківаючы на іх: «Відаць, учора ад сахі...» Хацеў Крылевіч рэзнуць ім у вочы якую-небудзь абразу, але ж на такіх не крыўдзяцца, яны самі сябе пакаралі. Але адкуль такая фанабэрыя, нават грэблівасць? Крылевіч іншы раз думаў, што гэта ў іх, франціка́ў, абарончы рэфлекс, шмат у чым яны ўступаюць вясковаму равесніку, у той жа працавітасці, жыццёвай учэпістасці, вось і ствараюць вакол сябе арэол боскасці, перавагі. Ды арэол то ад запалкі, хутка згарае, дый згарэць не паспее, фукне вецер — і шукай, над кім той арэол свяціўся.

Наступіў акурат той момант, адчуў Крылевіч, калі ён павінен уступіць жонцы, іначай па такім балючым для яго пытанні, як горад-вёска, сварка зойдзе вельмі далёка. У першыя месяцы жыцця яны і сварыліся да хрыпаты, цяпер ён стаў мудрэйшы, набраўся вопыту.

— Праз пяць хвілін пачнецца футбол,— сказаў ён жонцы,— пакінь, калі ласка, мяне ў спакоі.

— Зараз, дашыю сукенку — мне няма ў чым на тым поўдні хадзіць,— адказала жонка крыўдлівым голасам. І толькі таму, што ён без усякіх агаворак, умоў і спрэчак адпусціў яе (няхай і з дачкою) на поўдзень, яна не папракнула яго, што ён, «няшчасны мэнээс», мала зарабляе грошай. А між іншым, гэта яго згода, лічыў Крылевіч, гаварыла пра многае ў іх адносінах, і пра тое, як ёй блага з ім жывецца: паспрабавала б яна ў другога мужчыны заікнуцца ехаць адной на курорт. Крылевіч не тое што апраўдваў такога мужчыну, кабалу жанчыны, як і ўсякую іншую, скажам, душэўную,

ён адвяргаў, але проста прыводзіў сам факт: што ёсць такія мужчыны, нават вельмі шмат іх.

Як бы ні было, Крылевіч ужо зразумеў, што жонка свае адносіны да яго не зменіць, хоць насі яе на руках і аблытай серабром і золатам. І самае дзіўнае, думалася яму, пастаў на яго месца каго іншага, будуць і да яго прычэпкі, можа, яшчэ большыя, хоць часам жонка і заяўляла, што калі б у яе быў другі муж, яна б яго і шанавала, і люляла, карміла і паіла. Крылевіч глыбакадумна пасміхваўся: «Дзяўчынка ты, дзяўчынка, хто б гэта цярпеў твае дамаганні ды прыдзіркі? А ты не створана для таго, каб ахвяраваць сабою дзеля некага... Не створана, і ўсё! А на каханне болей чым на што патрэбна самааддача...»

* * *

Крылевіч чакаў, калі астанецца адзін, ён ведаў, што і лепей будзе пачувацца, і праца спорыцца пачне, і ў кватэры болей чаго паспееш зрабіць, тую ж шафу для пярэдняй, як у суседзяў, змайструе. Яму проста смешна было ўспамінаць адзін выпадак, калі знаёмая жанчына, пасправачаўшыся з мужам, сабралася да маці ў прочкі, кінуўшы напаследак мужу: «Ну і здыхай тут галодны!»

Што ўтойваць, Крылевіч з радасцю праводзіў жонку на вакзал — не таму, што яму хацелася ёй дапамагчы данесці два вялікія чамаданы, а таму, што на нейкі час пазбаўляўся ад яе. Праўда, не хацелася надоўга расставацца з дачкою: па ёй, не сумняваўся, будзе нудзіцца, асабліва вечарамі, калі ціха, пуста і неяк стыла ў кватэры.

На вакзал прыехалі на метро. Каля касы людзей было зусім мала. Жонка ўзяла білет і села ў аўтобус. Дачка глядзела праз акно і махала Крылевічу рукою, як толькі яны сустракаліся вачыма. Крылевіч вырашыў пачакаць, пакуль аўтобус кранецца — такая завядзёнка. Побач з ім стаялі дзве жанчыны і мужчына; відаць па ўсім, ад'язджаў мужчына, а жанчыны яго праводзілі — старэйшая з іх, прыблізна аднаго з мужчынам узросту, мабыць, яго жонка, плакала, выцірала блакітнаю хусцінкаю вочы. Жонка з аўтобуса ўкрадне паказвала Крылевічу на жанчыну: маўляў, во так і табе трэба. Дык, па-першае, гэта ж жанчына, а па-другое,

яна не можа стрымаць пачуцці, тады як у Крылевіча да гэтага не дайшло.

Аўтобус крануўся. Крылевіч памахаў жонцы і дачцэ рукою, усміхнуўся: шчасліва!

Ідучы на прыпынак, адчуваў у душы пустату, нежаданне ісці дахаты. А куды пойдзеш? Можа, у кіно схадзіць — даўно не быў. Але, відаць, трохі пазней, дні праз тры-чатыры, можна будзе схадзіць, пакуль жа сум не такі і неадольны.

Прыйшоўшы дахаты, Крылевіч браўся чытаць, пісаць, аднак нічога ў галаву не лезла, не то незадаволенасць, не то чаканне выцеснілі ўсё з яе, а душу абязволіла непрыкаянасць, ці што.

З гэтай расслабленасці яго вывеў тэлефонны званок. Як ён дарэчы, чамусьці ўзрадаваўся Крылевіч.

— Алё! Гэта Мікалай Іванавіч, Крылевіч? — пытаўся незнаёмы жаночы голас.

— Ён самы,— адказаў Крылевіч.

— Гэта з дзетсада вас турбуюць. Скажыце, чаму ваша дачка не прыйшла ў сад, захварэла?

— Не, яны з жонкаю паехалі на поўдзень.

— Нават так! Трэба ж было папярэдзіць...

Тое здзіўленне, што ў дзетсадзе ведаюць яго па імю і па бацьку, якое ўзнікла ў ім зразу, змянілася абурэннем на жонку: «Што за дзівачка?!. Няўжо цяжка было сказаць выхавацельніцы, што ідзе ў адпачынак і Люда не будзе хадзіць у садзік? Вечна гэта яе безадказнасць ва ўсім!..»

— А жонка хіба не папярэджвала? — спытаў Крылевіч, усё яшчэ да канца не верачы, што жонка не папярэдзіла, што на час свайго адпачынку забірае малую з садзіка.

— Не, нічога не гаварыла.

«Дурніца!..» — не стрымаўся Крылевіч, аблаяў жонку, але сказаў у трубку як мага спакайней:

— Як гэта яна? Можа, забыла... Што цяпер рабіць?

І ў выхавацельніцы — цяпер ужо Крылевіч пазнаў па голасе Веру Ігнатаўну, Людзіну выхавацельніцу, трохі фанабэрыстую, чарнявую, заўсёды з пышнаю, высокаю прычоскаю жанчыну, быў голас надзіва спакойны, але ноткі абвінавачання ў ім гучалі.

— Трэба даведка з жончынай работы, што яна з такога-та па такое-та знаходзіцца ў адпачынку. Калі ласка, пастарайцеся хутчэй прынесці, а то нас загадчыца

ледзь не штодня правярае, на пальцах пералічвае дзяцей...

— Добра,— адказаў Крылевіч. Націснуў рычажок і кінуў на апарат трубку. Ну, хіба не дурніца! Ёй на ўсё пляваць — на парадак, нормы, дысцыпліну! Жыве толькі адным днём, адной хвілінаю, а далей — ні пра чога не думае, яе нішто не цікавіць. Як, мабыць, лёгка такім людзям жыць, іншы раз думаў Крылевіч, уражваючыся ў каторы раз, што наогул такія людзі жывуць на свеце. Але што абурацца, абурэннем тут не дапаможаш, трэба браць даведку. І наколькі гэта перш здалося неверагодна цяжкаю справаю, пасля, як успомніў, што на жончынай рабоце ёсць у яго знаёмыя дзяўчаты, усё спрасцілася. Каму пазваніць, Валі ці Іры? Жаданню пачуць Ірын голас нешта ў душы ўпарцілася — самалюбства абзывалася, нібыта ён, як той хлапчук, жыве таемнаю прагаю сустрэчы з ёю. І ён вырашыў пазваніць Валі. У трубку адказаў дзявочы голас.

— Мне Валю, калі ласка.

Адбылася дзіўная замінка — Крылевіч адчуў: дзявочы голас не рашаецца ці нешта сказаць, ці спытаць.

— А хто гэта? Крылевіч? — нарэшце спытаў.

— Так. Іра? — пазнаў Крылевіч, хто на тым канцы провада.— Гэта я хацеў папрасіць, каб Валя ўзяла даведку, што жонка ў адпачынку... Яна ж з Людай паехала на поўдзень.

— Я ведаю. Дык я вазьму.

— Ну, калі ласка. Буду вельмі ўдзячны.

— Я ваш тэлефон ведаю — як вазьму, тады пазваню.

Крылевіча абрадавала, што Іра з такою ахвотаю пайшла яму на выручку. Яна быццам хацела здацца яму добрай, спагадлівай, а заадно паказаць сваю прыязнасць да яго і тое, што таго знаёмства на бураках хапіла ёй, каб залічыць Крылевіча ў блізкія людзі, якім радасна дапамагаць.

Хвілін праз пятнаццаць Іра пазваніла.

— Я ўзяла даведку.

— Так хутка? Дзякуй табе вялікі! Я, відаць, буду ісці на працу і зайду да вас, пазваню ад вахцёра, і ты выйдзеш.

— Добра,— сказала Іра, здалося Крылевічу, панікłым голасам, быццам ён адабраў у яе нейкую мару.

— Ці ў цябе ёсць іншыя варыянты? — хуценька спытаў Крылевіч.

— Не, у мяне ніякіх варыянтаў няма...

— Ну, тады дамовіліся.

Крылевіч стаў збірацца на працу з нейкаю незвычайнаю ўрачыстасцю. Адпрасаваў штаны, выняў з тумбачкі новыя на высокіх абцасах туфлі; пагаліўшыся, папырскаў сябе замежнымі духамі, якія жонка падаравала яму на Дзень Савецкай Арміі. Узяў «дыпламат», глянуў у люстра, падміргнуў сабе і выйшаў з кватэры.

Жонка працавала ў «Гіправадгасе», які знаходзіўся непадалёк ад яго работы,— і ехаў ён прывычным маршрутам — на трамваі. Незвычайнае хваляванне — ці трывога? — завалодала ім. І калі выйшаў з трамвая, яно не пакінула яго. Некалькі разоў Крылевіч заходзіў ужо ў інстытут — забіраў у жонкі цяжкую сумку з прадуктамі ці якой іншай пакупкаю. За столікам, як і раней, сядзеў вахцёр — лысаваты пенсіянер з акулярамі-веласіпедам на носе. Крылевіч павітаўся і папрасіў пазваніць: сказаў Іры, што прыйшоў. Чакаць яе давялося доўга, нарэшце зацокалі абцасы, на прыступках паявілася Іра. Яна была ў блакітным плацці з белымі паяском і каўнерыкам. Яна ўсміхалася — і радасна, і сарамліва. Аддала паперку.

— Дзякуй вялікі яшчэ раз за клопаты!

— Няма за што.— Іра глядзела на яго, і ён з цяжкасцю вытрымліваў яе позірк.

Крылевічу здавалася, што будзе нетактоўна, калі ён аддзячыць толькі словамі, можа здацца і чэрствым, і неабыходлівым, і скупым. І ён сказаў, мала ўпэўнены ў цвярозасці таго, што гаварыў:

— Ну як жа! За такую паслугу нават кава — не адплата. Давай сходзім у кафэ.

— Можа, не трэба? — Яна гаварыла, бачыў Крылевіч, дзеля прыстойнасці, а душа яе крычала: «Згода!»

— А што? Пасядзім... як старыя знаёмыя.

У Іры блішчалі вочы, патузваліся нервова вусны.

— Добра...— Яна апусціла галаву, і валасы, рассыпаўшыся, схавалі вочы.

...Крылевіч стаяў перад кульманам, і дзве паралельныя лініі на чарцяжы то зліваліся ў адну, то драбіліся на чатыры; лінейка і аловак не слухаліся ў руках. Ён перажываў, што дарэмна запрасіў Іру ў кафэ, што па-

спяшаўся,— як яна падумае пра яго: не паспела ад'ехаць жонка, а ён ужо кінуўся да другой. Лавелас! Як кажуць: гэта было б смешна, калі б не сумна. Які ён лавелас? А вось жа пра незнаёмых людзей заўсёды мяркуюць па адным учынку. Ладна, бог з ім, што будзе дык будзе — адступаць няма куды. Увечары ён будзе чакаць яе званка — так яны дамовіліся. Можа, якраз усё будзе добра, можа, яна сама перадумае і адмовіцца ад запрашэння.

Пасля работы ён зайшоў у гастраном, купіў цукру, масла, батон, кавалак каўбасы. У штучным аддзеле спыніў позірк на рознакаляровай батарэі сухіх він і каньякоў, мільгнула думка, можа, узяць бутэльку, але тут жа адагнаў яе, бо піў зусім мала і вельмі рэдка.

Яна пазваніла. Ніякіх іншых прапаноў у яе не было. І яны сустрэліся каля філармоніі. Яна была ў джынсах, і ён утайне пашкадаваў — што не ў плацці. Твар у яе быў зажураны, вусны перасохлі. Крылевіч зразумеў, што яму трэба бадзёрыцца, іначай Іра панікне зусім. Яе, мабыць, турзала, што лёгка згадзілася на сустрэчу з ім.

Ён лёгенька, але з пэўнаю свабодаю крануў яе за локаць, паказваючы, што трэба ісці ў напрамку кафэ «На ростанях».

— Можа, я што не так раблю? — Яна глыбока перажывала і напраўду сумнявалася.

— Свае людзі! — толькі такі аргумент знайшоў Крылевіч. Ён ужо звярнуў увагу, што прыкрываецца толькі гэтым.

— А што Рая скажа?

— А ты лічыш, што ёй пра ўсё трэба гаварыць?

Іра спынілася, пранізліва глянула яму ў вочы.

— Скажы: вы кепска з ёй жывяце?

Крылевіч перш хацеў выкруціцца банальнаю фразаю: «А хто цяпер добра жыве?» — але палічыў, што гэта будзе несур'ёзна і сведчыць пра яго легкадумнасць, да якой у людзей разумных заўсёды вялікі недавер, таму вырашыў сказаць праўду.

— Ведаеш, не скляліся адносіны...

— Чаму? Вы такія абое харошыя людзі: і ты, і Рая...

— А харошыя людзі часцей за ўсё кепска і жывуць: яны самі хораша адносяцца да іншых і патрабуюць, каб і да іх гэтак жа адносіліся... Захацелі!

— Цікавая думка. Я думала — наадварот...

— Пра сям'ю меркаваць, не пажыўшы ў ёй,— рызыкоўна.

Яны перайшлі праспект, ішлі цяпер па дарожцы, абапал якой раслі маладзенькія бярозкі, светла-жоўтыя па восені, сумныя, акурат чалавек пасля хваробы. У азерцах стаяла вада, але і ў ёй не было той весялосці, якая вабіць і радуе вока, калі над ёю іскрацца фантаны. Гэты малюнак восені аніяк не спрыяў іх настрою, і яны абое ішлі прыцішаныя ў сумным, цьмяным бляску вечара.

Крылевіч адчыніў дзверы і прапусціў наперад Іру.

Густая кава, якую яны памаленьку адпівалі з высоканькіх белых кубачкаў, крыху падвесяліла іх. Людзей у зале, нягледзячы на вечар, было зусім мала, і гэта таксама раскоўвала Крылевіча, бо ён не любіў шумных, крыклівых застолляў. Іра, трымаючы кубачак каля рота дзвюма рукамі, неадрыўна глядзела ў акно, бляск з якога, адбіваючыся ў вачах, рабіў яе твар не то зласнаватым, не то разгубленым.

— А ты кахаеш... кахаў Раю? — нечакана рэзка спытала яна, і Крылевіч зразумеў, што яна напружана думала. Ён усміхнуўся:

— Спытай пра што-небудзь лягчэйшае.

Гэта яго няпоўная адкрытасць, а можа, і няшчырасць, зноў нагнала ёй на твар задуменнасць, і, баючыся, каб яна не пакрыўдзілася часам, Крылевіч сказаў:

— Каханне — пачуццё вечнае, але вечным не бывае тое, што не амалоджваецца... У нейкі момант чалавеку здаецца, што ён кахае, больш таго — закаханы без памяці і навечна, але праходзіць час — і... праходзіць каханне. Я не ведаю, чаму так адбываецца і хто тут вінаваты: ці той, каго кахаеш, ці той, хто кахае? Усё-ткі, мабыць, недахопы ў чалавеку, якія, асляплены першым пачуццём, ты не заўважаеш, пачынаюць потым вылазіць наверх і бязлітасна зацямняць той арэол святла вакол чалавека, які запаліла каханне...

Крылевіч адчуваў, што з аднаго боку ён апраўдвае сябе, а з другога — адганяе ўсякія сумненні ў Іры, як бы адкрываючы дзверы перад яе пачуццямі да яго... Наіўныя, мілыя дзяўчаткі, ім так проста ва ўсё верыцца, і, нават ідучы на злачынства, яны ніколі і блізка не задумваюцца, што чым можа абярнуцца. І ён, Кры-

левіч, як болей вопытны, павінен з Ірай быць адкрыты, ніякіх таямніц і ніякіх загадак: пачуццё, калі яно сапраўднае, не патрабуе маскіроўкі і тым болей няшчырасці, яно і без гэтага непераможнае. Фальш — гняздо слабых душ. Крылевіч ніколі не адкладваў няпэўнасці ў адносінах да людзей на потым, ён зразу імкнууся ўсё растлумачыць, каб не заводзіць людзей у зман.

— Іра,— ён глядзеў ёй у твар, яна не адводзіла вачэй ад акна,— глянь сюды, калі ласка...— Яна павярнула галаву, і ў яе вачах ён убачыў густую, балючую тугу.— Ты мне сніўся...

«Чорт! Навошта гэта сентыментальнасць?»

— Ты мне патрэбна... Я зараз не магу сказаць, колькі гэта будзе працягвацца, але ты завалодала мною і маімі думкамі...— Ён убачыў, як задрыжаў кубачак у яе тонкіх белых пальцах.— Я не магу саўладаць з сабою... Ні забыць цябе, ні адагнаць навязлівыя думкі пра цябе. Што мне рабіць?..

О, тайна жаночага сэрца! Іра, бачыў Крылевіч, глыбока ў душы радавалася: няхай будзе жанчыне прызнавацца ў каханні стары замшэлы валун пры дарозе, і сэрца яе будзе стагнаць і знемагаць. Ёй, можа, нічога болей і не трэба, толькі чуць гэтыя словы, што яе кахаюць.

Яна сядзела перад ім разгубленая і вартая жалю. І ён не ведаў, што рабіць, хаця... ён ужо вельмі многае зрабіў: прызнаўся ў каханні. А можа, закруціў, задурыў дзяўчыне галаву, як робяць некаторыя мужчыны? Не, ён ніколі не займаўся гэтым раней, у маладосці, калі безразважнасць і заліхвацтва не такія ўжо рэдкія, а цяпер — тым болей.

— Твая Рая такая харошая дзяўчына...

— А ты, Іра, высакародная, табе цяжка будзе ў жыцці.

— Мне мама ўжо гаварыла пра гэта.

Крылевіч разумеў, што непрыстойна было б зараз спрачацца з Іраю, даказваць, што яго жонка і няшчырая, і пляткарка, і ўдабавак да ўсяго — закаранелая мяшчанка. Ён вышэй гэтага і апраўдання сабе шукаць ганьбаваннем жанчыны ён не будзе. У яго хапае годнасці, вытрымкі, каб спадзявацца, што людзі самі правільна яго ацэняць.

— Людзі з аголенымі, балючымі душамі выклі-

каюць у мяне заўсёды самыя глыбокія пачуцці, а перад жанчынаю я гатовы стаць на калені...

— Ну што ты, Коля? — Яна, як спалохаўшыся яго рашучасці, што ён і праўда зараз стане перад ёю на калені, здаецца, упершыню за сённяшнюю сустрэчу назвала яго па імені. Выходзіць, ён пабліжэў, параднеў ёй.

— Я сумую па шчырасці. Людзі закрытыя, бы смаўжы панцырамі, яны радуюцца, што ўтаілі ад некага нешта харошае.

— Ёсць такія людзі, я іх не разумею...

Крылевіч падумаў, што ў яго з жонкаю за чатыры сумесныя гады, здаецца, ніколі не было такой паразумеласці, такога нязмушанага супадзення поглядаў, усё нешта на нешта натыкалася, крышылася, ламалася, перайначвалася.

Правёўшы Іру да яе дома, ён яшчэ доўга хадзіў па вуліцы, акрылены і прыгнечаны аднначасова. Яму не хацелася ісці дахаты, быццам і не было ў яго той хаты зусім: ні жонкі, ні дачкі... Нічога! Ён і не заўважыў, як прыйшоў на кватэру, адно калі пстрыкнуў выключальнікам і ўбачыў вакол сябе такія знаёмыя рэчы, даччынога сабачку з ключыкам у жываце, схамянуўся: «Гэта ж я дома!» І ўсё роўна дзіўна неяк было думаць, што недзе ёсць жонка, што многае іх звязвае, што яна, можа, нават сумуе па ім. Такое адчуванне, што ўсё ягонае ранейшае жыццё было сном і ён у тым сне быў адзін, а цяпер другі. Зусім малады, нястрымлівы, закаханы, у яго ўсё яшчэ наперадзе, ён як бы збіраўся нанова пераживаць сваё жыццё, не бянтэжачыся таго, што гэта зрабіць ні ў якім разе нельга.

З гэтага дня раніцаю ён уставаў бадзёры, снедаў і, напяваючы песеньку, ішоў на працу. Чарцяжы ледзь не самі лажыліся на ватман, быццам нейкі чараўнік, лунаючы над кульманам, нябачным чорным кіпцем праводзіў лініі. У канцы дня Крылевіч званіў Іры, яны дамаўляліся сустрэцца. Хадзілі ў кіно, на выстаўкі, у тэатр, забрыдалі ў парк Горкага, каб пакатацца на чортавым коле — чым вышэй паднімаліся, чым бліжэй і мацней прыціскаліся адно да аднаго, і гэта як бы вымушанае іх збліжэнне зняло з іх першую скаванасць і нясмеласць, і потым ужо, ходзячы па вуліцы, яны не саромеліся брацца за рукі, а седзячы на лаўцы — туліцца плячо да плача. Іра была ўся такая свежая, чы-

стая, далікатная, што кожная канапацінка на носе ззяла летнім сонейкам. Крылевіч быў шчаслівы — як цяжка ўспомніць, калі ён быў такі раней, яму ўжо здавалася, што ў ягоным жыцці не было нічога прыемнага і радаснага, адзін змрок. Ён, гэты змрок, асеў на яго вельмі рана, як памерла маці ад самай страшнай хваробы веку, а бацька прывёў сабе жанчыну з суседняй вёскі — і неблагую жанчыну, добрую, маўклівую, але ўсё роўна — не маці, адзіна ласкавую, клапатлівую, ні з кім непараўнаную. Пасля васьмі класаў Колька Крылевіч не ад дабра, як кажуць, пайшоў у прафтэхвучылішча; закончыў яго з адзнакаю і паступіў у тэхналагічны інстытут. Цяпер вось старшы інжынер у адным з навукова-даследчых інстытутаў, піша дысертацыю... Рэдка, вельмі рэдка ездзіць да бацькі ў вёску, хоць і цягне туды бы магнітам, у лес, у поле, на рэчку, да людзей і равеснікаў, сярод якіх рос і якія ўсе да аднаго былі тады добрыя, прыветлівыя, адданыя. На такіх людзей жыццё яго пасля абдзяляла, калі не сказаць — наогул адмяжоўвала. І вось Іра... З ёю, здаецца, вярнуўся да яго свет цяпла, ласкі і бясхмарнасці.

І пакуль прыляцела з поўдня жонка, загарэлая, поўная сілы, здароўя, і ад таго яшчэ болей нахабная і ўпартая, ён падаў ужо заяву на развод і ні макулінкі аб гэтым не шкадаваў. Наколькі страшнаю і цяжкаю справаю здаваўся яму развод раней, калі не ведаў Іры, настолькі цяпер — лёгкаю і нават неабходнаю. Жонка навіну сустрэла спакойна, прынамсі, знешне, рабіла выгляд, што ён паспрыяў, пайшоў насустрач перш за ўсё ёй, бо яна ніколі ім як мужам не даражыла, не лічылася з яго думкаю. «Паглядзім, як ты яшчэ заспяваеш!» — трохі скептычна ўспрыняў жончын форс Крылевіч. І праўда, ён бачыў, як жонку грызла самалюбства, як яна не знаходзіла месца, чаплялася да яго, і ўсе яе паводзіны чыталіся прыблізна так: «Няўжо мяне, такую ўдалую, прыгожую, модную, можна адкінуць?» Яшчэ болей не давала ёй спакою думка: на каго ж гэта ён прамяняў мяне? Яна ўсё-ткі скруціла сваё самалюбства і спытала:

— Можа, ужо і замену знайшоў?

— Скажу шчыра: я не асмеліўся б на развод, калі б не пакахаў,— адказаў ён ці не са шкадаваннем да жонкі.

— Нават так! Ты яшчэ можаш і кахаць?

— А ты лічыла, што ўсё высакароднае ва мне ўжо забіла?

— Я думала, што сямейнаму занятаму мужчыну не да рамантыкі было.

— Мы проста слаба ведаем чалавечую душу. Гэта дзіўны прыбор, які ўсё жыццё выратоўвае чалавека: трэба спакой — схіляе да ложка, трэба рух — штурхае на бег, хадзьбу, гімнастыку, трэба пачуцці — кідае ў каханне...

— Апраўдаць можна ўсё, нават злачынства...— Недзе ў глыбіні, адчуваў Крылевіч, жонку апаноўвае трывога, і менавіта яна надае размове дзелавы тон, так мала ўласцівы ёй.

— А я не апраўдваюся, проста душа не можа пастаянна жыць пад каўпаком, яна будзе рвацца з-пад яго туды, дзе воля, дзе будуць яе разумець, ва ўсякім выпадку, не будуць штодзень крамсаць.

— Такога раю не бывае,— сказала жонка, злажыла на грудзях рукі і ўпэўненаю паходкаю падышла да акна.

— Раю наогул няма, а вось каханне можа стварыць чалавеку сапраўды падобную на рай раскошу.

— Што ты зарадзіў: каханне, каханне! Ты што, і праўда закахаўся?

— Я не магу і не маю права гэта ўтойваць, бо суд спытае ў мяне, як у істца, чаму я касую шлюб,— сказаў Крылевіч і падумаў, што прызнаўся б жонцы не толькі па гэтай прычыне, а яшчэ і таму, што ніколі нічога не пакідаў недагавораным у сур'ёзных справах.

— Можа, і я ведаю яе? — Фразу жонка дагаварыла зусім ціха.

— Яна — твая сяброўка.

Жонка пабялела — Крылевіч убачыў гэта, хоць жонка і стаяла ўжо спінаю да акна і твар яе быў зацемнены. І каб не выпрабоўваць яе далей, дабавіў:

— Іра яе завуць.

Жонка глядзела на яго не мігаючы, потым зарагатала як звар'яцелая:

— Гэта смаркачка?

— Супыніся!— павысіў голас Крылевіч.— Яна тут ні пры чым. Ты не маеш падстаў у чым-небудзь яе паплракаць. Я пакахаў яе.

— Бурачкі... Ну й бурачкі!— пакруціла галавою жонка.— Людзі, чужыя мужыкі ездзілі — і хоць бы

што. Гэты ідыёт адзін раз з'ездзіў — і гатова.— Жонка і тут, у крытычную хвіліну, асталася сама сабой. Мабыць, ужо ніхто і нішто не маглі яе пераламаць.

— Раіса, не зневажай. У цябе ўсё на знявагах, а тады недаўмяваеш, чаму ад цябе пайшоў муж. Сама вінавата...

— Я вінавата, што цябе, дурня, угаварыла ехаць на буракі... Што сама, па сутнасці, звязала з дзяўчынаю. Так бы ты, цюхцяй, век бы нікога не знайшоў!

«Божа, якая святая наіўнасць!..»

— Як усё-ткі цябе твая гордасць асляпляе.

— Не сляпая, бачу... А тут яшчэ гэты мой адпачынак. Канечне! Воля, кватэра на аднаго...

— Ды яна тут ніколі не была. Ты кепска пра яе і пра мяне думаеш. Я цябе толькі аб адным папрашу: пойдзеш на працу — не падымай там бучу: Іра не вінавата...

— Ага, такая авечачка... А на мужыкоў зырыцца толькі так!

— А яна, між іншым, на цябе зусім не валіла, наадварот, гаварыла, якая ты харошая.

Жонка закусіла губу. Што і гаварыць, шчаўчка па носе яна атрымала добрага, але ж, нягледзячы на ўвесь яе пратэст, бачыў Крылевіч: яна і праўда не даражыць ім, а значыць, не кахала яго і не кахае, жыла, бо з мужыком заўсёды лацвей пачувацца, нібыта як і заган у табе няма, людзям у вочы можна глядзець з годнасцю. Якое ўжо там жыццё —гэта ніхто не ведае. І ён лішні раз пераканаўся, што крок зрабіў правільны, і гэта яго падвесяліла. Ён яшчэ малады, не п'яніца, не нейкі няўдаліца, абібок, і ў жыцці, і ў рабоце ў яго ўсё яшчэ наперадзе. А жонка? Няхай яна застаецца са сваёю праўдаю, справядлівасцю, ён болей не будзе ёй замінаць, а яна — яму.

У жонкі да работы заставалася яшчэ некалькі дзён, і Крылевіч быў неспакойны: як яна павядзе сябе, сустрэўшыся з Іраю? А разабрацца, што ўжо бушаваць, праз месяц суд? Не ўсякай жанчыне хапае разважнасці, каб усё было прыстойна, другая наробіць столькі піску, енку, што ў горадзе доўга не аціхаюць страсці-перасуды. У сваёй жонцы Крылевіч таксама не быў упэўнены, і ён папярэдзіў на ўсякі выпадак Іру, што яе можа чакаць, калі жонка запознена пачне «змагацца» за мужа.

Але ўсе яго апасенні аказаліся дарэмнымі, жонка ў першы дзень нічога не сказала Іры, а на другі пажадала ёй шчасця — голас быў надрыўны, губы перасохлі, у вачах стаяла трывога. І для нас, як і для галоўнага героя Крылевіча, застаецца загадкаю, ці раскайвалася Раіса за свае мінулыя паводзіны з мужам, ці адчайвалася перад невядомым ёй жыццём у ролі разведзенай.

Праз месяц суд, не даючы тэрміну на абдумванне, развёў іх, пакінуўшы дачку пры маці, а праз тыдзень Крылевіч, адмовіўшыся ад адсуджанай яму плошчы, пайшоў з кватэры.



# ТАЯМНІЦА ПТУШЫНАГА ГНЯЗДА

Турлачка расплылася на гняздзе, і я бачыў толькі яе маленькую плоскую, як у вужакі, галоўку і спіну. Галоўка і шыя былі шэрыя, з блакітнаватымі пёркамі, спіна светла-бурая. Другая турлачка сядзела побач на галінцы, выпнуўшы круглае ружаватае валлё. Яна часта і падазрона крывіла набок галоўку, і я баяўся, каб не заўважыла мяне за купінаю, ад якой зусім блізка да гнязда, толькі пераступіць сцежку. Турлачка супакойвалася і лёгенька клявала ў дзюбу сваю сяброўку на гняздзе, ласкава турчэла: тур-ррр, тур-ррр.

Потым адлятала, хвілін дзесяць яе не было, зноў прылятала, садзілася каля гнязда і пачынала кляваць сяброўку, прыпяваючы: тур-ррр, тур-ррр. Цуд, дый толькі: адна турлачка клюе другую і прыпявае.

Я знайшоў гняздо турлачак (так называюць у нас дзікіх галубоў) зусім выпадкова: надраўшы цэлую ношку лазы, я ішоў па сцежцы ўскрай балота і наткнуўся позіркам на елку. Быць не можа, каб гэту высокую густую елку сярод алешын не аблюбавала якая-небудзь птушка. І не памыліўся: на ёй было гняздо — з тонкіх сухіх галінак, так рэдка пакладзеных на сукі, што праз іх прасвечвалася неба, на той час яснае, аж белаватае. Чыё гэта? Я асцярожна палез на елку, ды ўсё роўна яна гайдалася, і на галаву мне сыпаліся рудыя бліскучыя шыпулькі; лапкі калолі твар

і рукі, але я мужна трываў, не тузаўся: баяўся, што парушу гняздо.

Зазірнуў у гняздо зверху: там ляжала толькі адно яйка — белае, як курынае, і крышку большае, чым у шпака. Я не ведаў, чыё гэта яйка. Пэўна, не сарочына і не вароніна, у іх і гнёзды не такія, і яйкі блакітнаватыя, у карычневых плямах.

Саскочыў з елкі, паддаў на плечы вязанку лазы; трохі адышоўшы, стаіўся за кустом дзікай смуроды і стаў чакаць: можа, прыляціць птушка, тады пазнаю, што за яна. Было ціха і душна. Адно гулі-басілі ў кусце паласатыя чмялі, падвешваліся да ліловых дробненькіх званкоў, ды непадалёк, на левае плячо, чулася тужлівае зязюльчына «ку-ку».

«Але ж чакай, я цябе ўсё роўна прысачу,— прыгразіў я невядомай птушцы і выйшаў з-за куста.— Калі-небудзь іншым разам. А цяпер няма мне часу цікавацца за табою...»

Сонца стаяла ўжо высока, акурат на макаўцы неба, няшчадна смаліла; хаця і не было ветру, ды лісце на вольхах варушылася, і з яго выступала клейкая, як мёд, раса. Сама што сохнуць лазе.

Я ўзышоў на пагорысты, зарослы чальчаком край балота, далей пачынаўся выган, а за ім — вёска. Яна была добра відаць адсюль, і я пашукаў вачыма сваю хату. Яе апрымечвала высокая ліпіна, вясною і пад восень цёмная, як закураная ўсё роўна, а цяпер — жоўтая: цвіла. Хата здалёк выглядала няўклюднаю і ніженькаю, бы лазня, і комін тырчыць чырвоным абгрызеным алоўкам.

Я раструсіў па траве лазу. Памацаў тую, што прынёс раніцаю: яна ўжо прывяла, знутры пачырванела і скруцілася ў тонкія тугія трубкі. Але ўсё роўна яшчэ сырая, магазіншчык такую не прымае, бярэ толькі тую, якая хрусціць, ламаецца, бы макароніны, тады плоціць дзесяць капеек за кілаграм.

Зіркнуў яшчэ раз на хату — вельмі хацелася есці,— але зноў павярнуў да балота. Тужэй падціснуў рэмень, штаны да калень былі заляпаны гразёю і ўсыпанываўчкамі. Не ўтрываў, дастаў з кішэні кавалак праснака і драбок цукру, што засталіся ад снедання; пакруціў у руках праснак, пашчыпаў і, не саўладаўшы з сабою, з'еў. У канаве, расхінуўшы зялёную бліскучую раску,

папіў прыгаршчамі вады. Вада пахла тванню, і ў ёй плавалі маленькія і рудыя, бы мак, «мікробы».

У лазу я хадзіў мала не кожны дзень. Драць лазу таксама трэба ўмець. Няўмека і ногці абломвае, і пальцы збівае, а то, глядзі, і па твары чмыхне каторая галіна. Я навуку гэту, здаецца, спасціг няблага. Зашываўся ў куст, выглядаў адросткі, атожылкі — зусім зялёныя, кволыя не чапаў, няхай яшчэ падрастуць; выбіраў спелыя, гонкія, таўшчынёю з чапялішнік. У самым разгалінаванні аддзіраў бакавы парастак, тады ўспорваў кару вакол ствала і злупліваў яе мехам, кідаў на зямлю; калі пры камлі заставаліся паскі, адрываў іх таксама. Голыя ствалы былі гладзенькія, слізкія і блішчалі, бы корань аеру, які вырывалі ў сажалцы і елі мы, дзеці, як і шмат іншае з расліннасці — бубкі і пупышкі з ліпы, кашку з сасны, дзікі часнок, званкі, укінуўшы ў іх некалькі сунічын, «ладачкі» — няспелае насенне вулічнай бярозкі, ягады крушыны, якія памылкова называлі воўчымі ягадамі, не кажучы ўжо пра мышыны гарошак, шчаўе, кісліцу... О, салодкае, кіслае і горкае наша вясковае дзяцінства!

Лазовых зараснікаў было многа, яны падступалі да самых сядзіб, іх не паспявалі высякаць. Яны заглушалі пожню, хавалі ў сабе не толькі хмары камароў, мошак-блошак, але і гадзюк, якія часам запаўзалі ў хлявы, паграбы, клеці, нават у лазні і грэліся на палку, «як барыні» (так казала маці). Лазнякамі падкрадваліся да свіней, што пасліся на выгане, ваўкі, кралі парасят, подсвінкаў, ад якіх гаспадары знаходзілі потым «рожкі ды ножкі».

Дралі лазу малыя і дарослыя, справа гэта на тыя часы лічылася патрэбнаю і карыснаю, заахвочвалася раённымі службамі. За крамаю заўсёды высілася гара высушанай лазы. Дарослыя звычайна неслі лазу ў ношках, як сена, а я зрабіў сабе каляску: у вялікую зубастую шасцяронку з камбайна ўсунуў вось, прыбіў па канцах дзве частаколіны, а перак іх некалькі дошчачак. Як-ніяк, тэхніка! Вязеш на ёй лазу і пасвістваеш. Рукі, канечне, усё роўна млеюць, але той бяды.

* * *

...Я назіраў за турлачкамі і ціхенька сам сабе смяяўся. Гэта — была мая маленькая радасць, і я што-

дзень вылучаў нейкую хвілінку, каб заскочыць сюды і, схаваўшыся за купіну, пацікаваць за турлачкамі. Здаецца, яны памалу прывыклі да мяне і не так насцярожана пазірквалі на купіну. І я ўжо разгадаў, чаму тая турлачка, што падлятае, клюе сяброўку на гняздзе, гэта яна так яе корміць, каб сяброўка не злятала з гнязда і не застылі яйкі.

Зварушліва, салодка ныла сэрца: чакаў не мог дачакацца, калі выведуцца птушаняты. Гэта ж так цікава будзе слухаць іх цененькі піск і бачыць над гняздом кволую хісткую галоўку з сінімі пухлінкамі вачэй і разяўленым жоўтым роцікам. Хіба параўнаеш са шпачанятамі, якія, ужо апераныя, высоўваюць гарластыя дзюбы са шпакоўні і прагна хапаюць чарвякоў, што прыносяць ім дарослыя шпакі. А вераб'і за падаконнікам — так зашыюцца ў мох, што іх зусім не відаць, толькі гарлапаняць, ажно з хаты чуваць; уранні я нярэдка прачынаўся ад іх галоднага цырыкання.

Не, што ні кажы, а з турлачкамі цікавей, і пабачыць іх на гняздзе ўдаецца не кожнаму і не заўсёды. Я першы раз у жыцці знайшоў іх гняздо і назіраю з такой блізкасці. Раней бачыў турлачак адно на правадах за вёскаю, над ружова-белым грачаным полем; чамусьці турлачкі любілі сядзець, падштурхоўваючы адна адну крыламі, на правадах, таксама слухалі радыё, якое нядаўна правялі нам у вёску, ці што. А можа, ім проста было даспадобы, што правады гушкаюцца, трымцяць ад ветру?

Я так задумваўся іншы раз, што забываў адганяць камароў, яны садзіліся на ногі пад калашыннем, на твар і рукі; калі ўспамінаў, што трэба ісці драць лазу, неахвотна ўставаў з-за купіны.

* * *

Спачатку пачуўся тупат і трэск, потым на сцежку вынырнуў Праг, чорны, як груган, з белаю грываю конь, на якім маці летась акучвала кукурузу і які ўбрыкнуў мяне, калі я бярозавай галінаю адганяў ад яго аваднёў. Усё адбылося імгненна, і я не помню, як апынуўся на зямлі, нават болю не адчуў.

Маці кінулася да мяне, вобміг збялелая, са страхам у вачах, і я не мог уцяміць, яна плача ці смяецца. Праг нават не глянуў у мой бок, махаў хвастом і скусваў во-

стрыя верхавіны кукурузы; жоўтая гладкая ляйчына ляжала на спіне ў лагчынцы яго крыжа — быццам след ад пугі. Потым, калі маці атрэпвала мяне ад пылу, Праг наставіў тырчком вушы і скасіў на мяне бліскучыя, цёмныя, здалося мне, ласкавыя вочы.

Я доўга насіў на сцягне чорную, як і конь, метку велічынёю з кулак; потым яна стала ружоваю, нарэшце пажаўцела і знікла зусім, быццам яе нехта злізаў.

За Прагам выбіліся на сцежку астатнія коні, і я зразумеў, што дзядзька Грыша гоніць калгасны табун. Раней конюхам быў мой бацька, але ўжо колькі гадоў яго няма, маці кажа — ён на заробках у Сібіры, суцяшае, што хутка бацька вернецца. Дзядзька Грыша быў у рыжым плашчы з капюшонам, які мы, дзеці, называлі «дзюбка», бо ён і праўда завостраны, як птушыная дзюба.

Я прыціснуўся да купіны і адчуў каленьмі халодную вільгаць. Твар мой быў так блізенька да цыбатае травіны, падобнай на кроп, што я ўбачыў на яе лісці маленькіх бліскучых сіненькіх блошак. Блошкі скакалі і варушылі вусікамі, там, дзе яны сядзелі, заставаліся дзірачкі — як ад іголкі.

Дзядзька Грыша пад'ехаў да елкі — такі высокі на кані, «да неба», мог дастаць гняздо рукою.

Заўважыць? Я стаіў дыханне і чуў, як шуміць у вушах, быццам іх заткнулі ватаю.

Гняздо дзядзька Грыша, можа б, і не ўбачыў, калі б не прыпынілася шчыпаць маладую асіну гнядая кабылка, якую звалі Найда: з год назад невядома адкуль яна прыбілася ў наш табун. Дзядзька Грыша махнуў на яе пугаўём і зачапіў за елку. Турлачка спуджана залопала крыламі, і я бачыў, як яна, слізгануўшы нізка над зямлёю, села на лазовы куст — акурат навідавоку. Ну і дурніца!

Дзядзька Грыша зашнарыў вачыма па елцы, разводзячы рукамі галіны-лапкі, і... пацягнуўся рукою да гнязда.

Я анямеў і не ведаў, што рабіць. Хацеў крыкнуць, ды не было голасу.

Дзядзька Грыша зграб яйкі ў жменю. Цюкнуў адным у пугаўё — скрывіўся і кінуў яйкі на зямлю, пад ногі каню. «Наседкі...» — прабурчаў ён і са злосцю выцяў пужкаю Найду, якая ўжо завінулася скубці паўз сцежку сакавітыя круглыя лісты падалешніку.

Я ачуўся ад здранцвеласці і вылез з-за сховішча; баючыся таго, што ўбачу, падышоў да елкі. Яйкі — адно разбітае — бялеліся на зямлі, як драбкі цукру. Прысеў каля іх. З разбітага яйка выплываў у ступку ад капыта чырвоны з жылкамі бялок, і было відаць птушанятка, маленькае, як авадзень, але ўжо з галоўкаю і круглым, бы шарык, жыватком.

Хістаючыся, я ўстаў на ногі і не бачыў нічога перад сабою: было мутна, як у вадзе, калі нырнеш у сажалку. Кінуўся бегчы ўслед за коньмі, ды зачапіўся пальцамі за патарчаку, пляснуўся на зямлю. Мяккая чорная зямля наліпла на рукі, твар. Вярнуўся, асцярожна выцер неразбітае яйка аб кашулю, залез на елку і паклаў назад у гняздо.

Турлачак нідзе не было відаць.

Засмучаны, не мог сябе прымусіць ісці драць лазу. Павярнуў дахаты. Не, мабыць, не будзе жыць турлачка ў гняздзе, пакіне... Адно яйка, і тое пачапанае. Турлачка асцярожная, доўга не магла да мяне прывыкнуць.

На краі поля ў жыце ядрана цыркаталі конікі. На васілёк села пчала, белая ад пылку, як камячок ваты, і незразумела ўвішная — быццам яе нехта падганяў. Бегла ўперадзе па дарозе пісклявая жаўтапузка, фыркала над зямлёю і хапала машку, а можа, проста гарэзнічала.

У канаве я абмыў ногі, з ран на пальцах сачылася кроў, і яны нясцерпна смылелі, ажно кацілíся з вачэй слёзы, цёплыя, мабыць, ад сонца, я размазваў іх па твары, і яшчэ болей шчымеў абадраны нос. На штанах і кашулі закарэла гразь, я пляскаў па ёй далонямі, і яна асыпалася; спераду ў кашулі была дзірка: упаўшы, прадраў.

У маёй стомленай, затуманенай адчаем галаве нараджаўся план, міжволі, сам па сабе, усё роўна як выплываў са сну. Цяпер мне здавалася: гэта ён, дзядзька Грыша, вінаваты ва ўсіх маіх бедах, у тым, што ў мяне няма бацькі; іменна яму трэба помсціць за ўсё, і за разбітыя турлаччыны яйкі таксама. Яму, злому, нядобраму дзядзьку з худою, маршчыністаю шыяй і непрыгожаю сівою шчэццю на твары. Што, выходзіць, толькі мне павінны рабіць балюча, толькі мяне могуць крыўдзіць, а я ўсё зносіць, перажываць? Не, хопіць.

Я таксама не проста жыву на свеце, усё разумею і магу пастаяць за сябе, за справядлівасць.

* * *

Я сядзеў за хлявом і чакаў, калі будзе вяртацца ад коней дзядзька Грыша. Мы жылі на скрыжаванні вуліцы і завулка ці, па-нашаму, закавуліны, у канцы якой стаяла хата дзядзькі Грышы. Якраз тут, на заломе, дзядзька Грыша вешаў на частакол свой плашч і ўжо тады памалу сунуўся дахаты: доўга чуваць было, як шоргалі аб зямлю яго боты. Ідучы зноў да коней, забіраў плашч з сабою.

Пасляабеддзем я ўбачыў дзядзьку Грышу. Ён падышоў да частаколу, стомлена, вохкаючы, зняў з плячэй плашч і зачапіў за частаколіну «дзюбкаю». З плашча курылася пара, акурат дзядзька Грыша забыў у кішэні недакурак, які яшчэ дыміўся.

Як толькі заціхлі крокі, я падкраўся, зняў з частаколіны плашч і схаваў яго на паграбні, пад старымі зляжалымі венікамі, такімі ж рыжымі, залубянелымі, як і плашч.

Можа, гадзіны праз дзве я ўжо наглядаў, як соўгаўся дзядзька Грыша ад вярбы да вярбы і задзіраў галаву, думаючы, што там плашч; нават здалёк было відаць, як у ямачцы пад вострым коўцікам блішчыць пот. У маіх вачах яшчэ доўга стаяў гэты кволы, як на ададранай лазіне, бляск...

Увечары маці, вярнуўшыся з поля, села за швейную машыну — старэнькі, з аблушчанай фарбаю «зінгер», каб застрачыць мне кашулю, і зламала іголку. Маці доўга сядзела, абхапіўшы рукамі галаву з пасівелымі каля вушэй валасамі. Нарэшце яна сказала мне, каб я збегаў да дзядзькі Грышы, адзінага краўца на вёску, і пазычыў іголку.

У мяне апала ўсё ўсяродку.

— Мне... мама, не трэба... Мне і так добра. Яно не відаць... Я во рукой захінаю.

— Ды ці толькі табе? Табе я і без машыны магу залапіць... Бачыш, колькі заказаў? — Маці кіўнула на лаву, дзе ляжалі адрэзы і скруткі.

Мне і паказваць не трэба было, сам ведаў, што маці шмат шые, слепіцца пры газніцы да самай поўна-

чы, і, здаецца, мне нават скрозь сон чуецца, як рупліва стукае машына: так-так-так...

— Я вельмі змарыўся, мама... Па балоце нацягаўся...— У мяне, мусіць, быў дужа маркотны выгляд.— І пальцы баляць во...

Маці падышла, прыхінула мяне да сябе, і я пачуў, як на галаву нешта ўпала, раз, другі, бы тыя хрушчы, калі страсянеш вярбу. Зазірнуў спадылба маці ў твар і ўбачыў тое, аб чым ужо здагадаўся,— слёзы на вачах: буйнымі гарошынамі яны каціліся па шчоках.

Маці супакойвала мяне, і гэта расчульвала яе яшчэ болей.

— Я, мама... Я, мама...— глытаў я словы і не мог толкам сказаць.

— Добра, сын, сяння ўжо адпачні, а заўтра збегаеш. У мяне на вечар ёсць занятак, выкрайку трэба зрабіць.— Яна разгарнула на стале старую жоўтую газету і пачала вадзіць па ёй алоўкам; ляскала нажніцамі, выразала кавалкі газеты.

Я доўга не мог заснуць — у маіх вушах стракатала, бы кулямёт, машына: так-так-так. Быццам і праўда маці шыла на ёй. Варочаўся, падмінаў пад сябе падушку і нават укалоўся шчакою аб пярыну, што выбілася праз наўлечку, войкнуў, і тут жа мацерына рука ласкава пагладзіла мяне па шчацэ... Дзіва-дзіўнае: я зразу патануў у сон, густы, цяжкі, быццам зарыўся з галавою ў сырую лазу.

* * *

...Я стаяў у парозе, але мяне ніхто не заўважаў. У дзядзькі Грышы быў сын, мой равеснік, і хаця мы з ім не сябравалі, у хаце, мабыць, падумалі, што я прыйшоў да яго. З печы я чуў голас дзядзькі Грышы:

— Ну, Маруся, хоп тваё чэрці, дай хоць бульбачкі.

— Я сказала, сядзі тама! — Цётка Маруся, тоўстая, з гладкімі шчокамі, падціріла каля загнета ваду — над духам вісела мокрая адзежа і з яе капала. На слончыку стаяў чыгун параных кукурузных кіёвак.— Не нажарэшся ты ніяк, каб цябе...

— Маруся...— стагнаў за комінам дзядзька Грыша.— Ну што я там еў? Наранкі толькі і выпіў шклянку глюкозы...

Пра гэтую «глюкозу» дзядзькі Грышы ведала ўся акруга, ведаў і я, не раз чуў, як смяяліся з дзядзькі Грышы мужчыны: «А я,— Грыша вунь кажа,— глюкозу сабе раблю... У шклянку халоднай вады сыплю паўлыжкі цукру, адборнага, кубінскага. Размешваю — і такі сытны прадукт палучаецца... Есці да самага абеду не хочацца. Носішся за коньмі што вецер!..»

Мабыць, не смяяліся б з гэтай «глюкозы», калі б не ведалі іншае, пра што дзядзька Грыша сам не расказваў, ды ад людзей хіба што ўтоіш. Бывала, дзядзька Грыша так слабеў, што калі наступаў нагою на асачыну, а другою чапляўся за яе, то з усяго маху пляскаўся на зямлю, ажно ляцелі з-пад яго пыркі. «І «дзюбку» сваю, мусіць, не можа дацягнуць да хаты, таму і вешае яе на частакол,— раптам цюкнула мне ў галаву,— і яйкі турлаччыны...»

— Ну, хоп тваю чэрці, дзеля дзяцей пашкадуй!..— маліў дзядзька Грыша жонку.— Ці хоць кіёўку дай пагрызці.

— Замры мне тама, каб зараз не чула! — Цётка Маруся стукала аб падлогу вілашнікам.— Людзі прыйшлі, а ён як дзіця малое канькае...— Нарэшце цётка Маруся звярнула на мяне ўвагу.

— Ты чаго, Паўлюк? — спытала яна.— Валодзька наш недзе бегае.

— Я... Мяне мамка паслала...— Я калупаў пальцам у прарванай на кашулі дзірцы.— Каб дзядзька Грыша пазычыў іголку ад машыны.

— Грышка! — крыкнула цётка Маруся.— Чалавек да цябе прыйшоў.

— Хто тама? А-а, балотны валацуга!..— засмяяўся дзядзька Грыша. Мне сцебанула па вушах гэтае як быццам і жартаўлівае «валацуга». Хоць і часта дзядзька Грыша абзываў гэтым словам малых, я ніяк не мог прывыкнуць. І цяпер наступіў праваю нагою на збітыя, распухлыя пальцы левай, каб болем заглушыць крыўду.— Ну праходзь, праходзь, Паўлюк... Што табе?

Я зрабіў некалькі нясмелых крокаў, каб убачыць на печы дзядзьку Грышу, павярнуў галаву і тут жа крутнуў яе ў другі бог: дзядзька Грыша сядзеў на печы амаль голы, падцяўшы пад сябе худыя валасатыя ногі. На палку гулялі трое ці чацвёра малых дзяцей, стрыглі вачанятамі на мяне.

— Хаця б акрыўся якой лахманінаю,— прысароміла яго цётка Маруся.— Ні стыду, ні страму.

— Не-е, хоп тваю чэрці, няхай бачаць людзі, як ты мяне шануеш, адны штаны і кашуля.

— На большае не зарабіў, гультай адпеты,— насядала цётка Маруся.

— Ты зарабіла, седзячы з дзявоччыны ў хаце! — агрызаўся дзядзька Грыша.— Можа, і выпаўзла калі раз у год...

— Маўчы, а то я табе пакажу «выпаўзла»!..— прыгразіла цётка Маруся, бліснуўшы на дзядзьку Грышу гнеўнымі вачыма.

— Маўчу-маўчу,— здаўся дзядзька Грыша, захінуўся ў саматканую пасцілку і злез з печы. Ступакі ног у яго былі шырокія, з адтапыранымі вялікімі пальцамі, ногці блішчалі, як гузікі на маёй кашулі. Ён узяў на паліцы-вугольніку маленькі карабочак, доўга порказся ў ім нязграбнымі, тоўстымі пальцамі.

— Цэлая толькі адна, астатнія...— цмокнуў.— Скура на кажухі цвёрдая, во і шпокаюць адна за адною.

— Мамка мая спадніцы ды блузкі шые толькі... Хацела мне кашулю залапіць, ды іголка — крэх! — хапатліва стаў тлумачыць я.

Дзядзька Грыша падышоў, доўга глядзеў на мяне, на дзірку ў кашулі, парэпаныя пазбіваныя ногі, потым пагладзіў па галаве. Я ажно здрыгануўся: валасы яшчэ помнілі бацькавы мазалі, цёплы дотык яго далоні...

Цётка Маруся стаяла каля печы і пільна глядзела на нас. Дзядзька Грыша забыўся, што трэба трымаць адной рукою пасцілку, і яна расхінулася, з'ехала з плеч.

— А-а, божачка!..— залямантавала цётка Маруся.— Як бізун голы! Рэхнуўся зусім чалавек пад старасць...— І перахрысцілася.

Дзядзька Грыша захінуўся зноў у пасцілку, пакудлаціў мне валасы, ляпнуў па плячы:

— Герой хлопец! Лётчык на ўсе сто!

Я здзівіўся, чаму раптам дзядзька Грыша пачаў мяне хваліць, толькі ж дражніўся. «Няўжо не пазычыць іголку?..» — трывожны халадок уюнком слізгануў па грудзях.

— На табе іголку, лётчык. Скажы маці, што насаўсім аддаю. Я сабе раздабуду... У мяне Гілька, знаёмы яўрэй у Прапойску ёсць, як-небудзь дасць.

Я падзякаваў і, заціснуўшы ў кулаку іголку, кульгом выкаціўся з хаты. У сенцах сутыкнуўся яшчэ з двума малымі, якія вярталіся, мабыць, з гуляння. Ужо на вуліцы пачуў, як зноў закрычала на дзядзьку Грышу цётка Маруся. Горача было ў шчокі, акурат я толькі што пакачагарыў каля цяпла і адбегся. Не падымаў галавы, глядзеў пад ногі, на збітыя пальцы, не таму, што баяўся зачапіцца імі, а таму, што здавалася: з акна за мною назірае дзядзька Грыша, і ў яго дакорлівыя, сумныя вочы...

Я не заўважыў, як убіўся ў гусіную чараду, спахапіўся адно тады, калі шэры здаравенны гусак ухапіў мяне за калашыну, дзіка, па-вужынаму шыпеў і біў крылом па маіх нагах. Вочы ў яго былі злыя, белыя, як сухія гарошыны; я даў гусаку пяткаю па баку, ажно той гыгэкнуў і адскочыў, апусціў нізка галаву і затрос крыламі.

Прыбег дахаты запыханы, бледны. У нас быў дзядзька Сцяпан; ён жыў адзін на канцы вёскі ў вялікай новай хаце, часта прыходзіў да нас і падоўгу аб нечым шаптаўся з маці, вочы ў яго былі нейкія патаемныя, ліслівыя, і ў маці, наўпярок, сумныя, маркотныя. Яны сядзелі каля радыё — чорнай кардоннай «талеркі», прыслухоўваліся і зрэдку перакідваліся словамі. Чамусьці я не любіў дзядзьку Сцяпана, можа, нават за тое, што ён лісліваць перад маці, і каб не сустракацца з ім, палажыў іголку на падаконнік, прымацаваў яе цяслявым кавалачкам сіняга гарохавага хлеба, які мы рэзалі не нажом, а ніткаю. Тым часам галасы ў маці і дзядзькі Сцяпана сталі гучныя, яны ўжо не слухалі радыё, нешта горача абмяркоўвалі. Я ўрыўкамі лавіў іх фразы. «Трыццаць пяты прэзідэнт ён у іх быў»,— гаварыў дзядзька Сцяпан. «З акна дома як пацэліў? Можа, снайперка ў яго была?»,— гэта ўжо голас маці, нерашучы, ціхі. «Дык жа бачыш, другая версія, што з люка водаправоднага білі ва ўпор...» — «Разбярэш іх там... Забойствы, крадуць на кожным кроку». «Джон Кенэдзі... Освальд... Далас... Штат Тэхас...» — лавілі мае вушы незнаёмыя, чужыя словы. Я зразумеў, што недзе ў свеце нешта стрэслася. Але ў мяне была свая бяда і здавалася яна мне самаю вялі-

каю, страшнаю, уражліваю, я перажываў, ужо не столькі за турлачак, колькі за тое, што зрабіў.

Я выскачыў з хаты, адчыніў паграбню, выцягнуў з-пад венікаў плашч. Плашч быў сыры і цяжкі, у пяску. Я распасцёр яго і палажыў на дровы пад сонца. Зіркаў на неба і, хоць яно было чыстае, без хмар, мне здавалася, што сонца слаба грэе. На плашч садзіліся мухі, пералятталі з месца на месца, кружылі, як здурнелыя.

Я ледзь дачакаўся, пакуль дзядзька Грыша будзе ісці да коней. Ён нёс пад пахаю скрутак мешкавіны, якую, мусіць, прыхапіў на выпадак дажджу. Ішоў спакваля, марудна перастаўляючы ногі ў цяжкіх гумавых ботах, і шоргат стаяў на ўсю вуліцу.

Я выскачыў з двара яму насустрач, і ў гэты момант нешта цяжкое, шорсткае перавярнулася ў мяне ўсярэдку, быццам ношка сырой лазы, з'ехаўшы з плячэй, слізганула і па душы. Я адчуў тварам, вачыма, рукамі, збітымі пальцамі, усім сабою цяпло сляпучага, яркага сонца, і свет стаў для мяне зусім-зусім іншым, быццам у гэтую мінуту адкрылася мне неймаверна важная ісціна, без якой наогул нельга ісці ў жыццё.

Нізка над зямлёю па вуліцы, мабыць, прадчуваючы дождж, ляцелі ластаўкі, крута ўскідваліся ўверх, бліскаючы тугімі белымі, бы яйка, грудкамі, і чым далей яны адляталі, тым усё менш напаміналі мне пра турлачак.



## ЗВЯЛЫЯ ВЯРГІНІ

Вячэрацъ Сяргей хадзіў у рэстаран ці, як тут кажуць, «на другі паверх» — унізе была сталоўка. Каб не ісці праз усю залу, садзіўся за крайні ад дзвярэй столік і чакаў, пакуль заўважыць яго афіцыянтка. Без ахвоты слухаў назойлівую музыку, якая ледзь не разносіла гэтыя аздобленыя керамікаю сцены, дзеля прылiку гартаў меню. Стравы доўга не выбіраў — прывычка са студэнцкіх гадоў — заказваў «што ёсць» і кубак кавы ці чаю.

Сяргей прымільгаўся афіцыянткам, і яны зусім не давалі яму часу для надакучлівага і заўсёды пакутлівага «роздуму» над меню, у якім рэдка мяняліся стравы. Асабліва старалася адна — Марына. На Сяргееў ківок («Добры дзень!») яна як бы спахоплівалася, потым усміхалася далёкай, прыхаванай усмешачкай і лезла ў кішэню па блакнот.

Запісваючы заказ, перапытвала — абавязкова па два разы — кожнае Сяргеева слова і, каб часам не прапусціць чаго, хілілася да яго вельмі блізка. Тады ён бачыў ружовую, у лёгкім пушку шчаку і спакуслівы банцік вуснаў.

Аднаго разу, калі Сяргей астаўся адзін у рэстаране, Марына наважылася загаварыць з ім не «па тэме». Мабыць, хацела пакакетнічаць: сагнула ў калене нагу, смела выставіўшы яе наперад, часта-часта заморгала вейкамі. Заўсміхалася. Але пытанне прагучала здрадліва — усур'ёз:

— Дакуль вы ўжо будзеце план нам даваць? Жаніцца трэба,— сказала, мабыць, не свае словы.

— Ніхто не любіць,— адказаў Сяргей банальнай фразаю — каб не здацца ганарыстым.

— Ну, я не сказала б. У нас на кухні толькі і гамонкі пра вас, маладога халасцяка.

— Чаму ж не паказваюцца нарачоныя мае?

Яна яшчэ больш збянтэжылася (ці то скончылася фантазія, ці то паварот гаворкі атрымаўся нечаканы), і ад таго быццам крыкнула ўсё ў ёй: «А хіба я не паказваюся!» Пачырванела — у мораку залы здалося, твар пацямнеў.

Сяргей пайшоў ёй на выручку, разыграў з сябе веселуна, хоць ніколі ім не быў.

— Ах, ох! Прабачце. Які я сляпы. Вось яна, нарачоная мая, перада мною.

Марына рэзка крутнулася, пайшла на кухню хутчэй, чым звычайна. Сяргей затрымаў свой позірк на яе зграбным стане: паходка плаўная і нібыта крыху п'янаватая, якая бывае ў тоўстых жанчын. «Мабыць, не так зразумела? — трывожна, з халадком падумалася яму. Сяргей зусім не хацеў пакрыўдзіць афіцыянтку.— За здзек палічыла.— І ўжо для сябе, для душы: — Што значыць хоць на момант стаць не тым, кім ёсць».

Марына прынесла каву. Не стала, як звычайна, побач з ім, а падала кубак цераз стол. «Ну, от! — ёкнула ўсяродку ў Сяргея.— Даскакаўся!»

— Прызнаю віну,— сказаў ён, чырванеючы, калі Марына, нахмураная, падышла разлічваць.— Гатовы каяцца.

— За што? — хмыкнула яна, вядома, не здагадваючыся, што зараз прапануе ёй наведнік, інакш бы не спытала.— Вы нічога благога не зрабілі мне.

— А насмешка? — чытаў Сяргей яе думкі, наўмысна выстаўляючы сябе вінаватым.— Хіба не...

— Ат! — абыякава махнула Марына рукою.— Дробязь...— І задумалася, апусціўшы галаву. Валасы закрылі ад яго твар, акурат густы мутнаваты лівень.

Сяргею стала шкада яе, і ён вырашыў ісці напралом.

— Я буду чакаць цябе ўнізе...— Сяргей хваляваўся і не заўважыў, як перайшоў на «ты».— Пасля змены... Згодна?

Яна лёгенька кіўнула галавою, страсянула ёй, ад-

кінуўшы за плечы лівень валасоў. Твар пасвятлеў, як ільдзінка на сонцы, і на ім выплеснулася шмат радасці.

...Марына жыла на ўскрайку горада ў вялікай, узорамі ашаляванай хаце. Гаспадары — маўклівы, вечна заняты дзядзька Павел, сантэхнік, і цётка Нюра, пухленькая жанчына з носам-гузікам — адвялі ёй ціхую бакавушку з адным акном, якое выходзіла ў ладнаваты гародчык. У гародчыку раслі вяргіні. Кветкі пляскатымі галоўкамі даставалі акурат да шыб. Сяргей заўважыў гэта пазней, недзе праз тыдзень, калі заначаваў у Марыны і, прачнуўшыся, разгублена зажмурыўся ад яркага, нечакана высокага сонца і жоўтага акна, нібыта завешанага лёгкай наміткаю: у хату глядзела безліч жоўтых, з рудою падвяласцю кветак.

«Як прыгожа!..»

Марына ляжала на спіне, з пахіленай да Сяргея галавою ў рассыпаных валасах. На бледных шчоках пяшчотна грала здаровая ранішняя ружовасць, крыху прыцененая жаўцізною вяргінь. Засмяглыя вусны квола паторгваліся ў сне, як быццам адчувалі дотык сонечных промняў. Сяргей асцярожна дакрануўся да іх сваімі вуснамі. Марына адплюшчыла вочы, спакойныя, цямлівыя,— быццам і не спала. Глянуўшы ў акно, гэтак жа спакойна прамовіла:

— Колер разлукі.

Што яна хацела сказаць, Сяргей так і не зразумеў. Толькі яму да шчымлівасці шкада стала Марыну — за яе дзявочую бескарыслівасць, за давер і дабрату. У першы ж вечар яна сказала Сяргею: «Я ведаю, мы ніколі не будзем разам. І ты ідзеш за мной проста так, за спадніцай...» Сяргею лічыўся ўжо дваццаць шосты год, і Марыніны словы яго не пакрыўдзілі, яны былі справядлівыя.

Сяргей ніколі не крывіў душою. Не карміў ён абяцанкамі і Марыну, як робяць гэта звычайна хлопцы, нахабна і няшчыра. Але каб яна доўга не раздумвала над іх адносінамі, Сяргей прыпаў да яе вуснаў і цалаваў з тою асаблівай страсцю, якая звязвае не закаханых, а людзей, якія сталі неабходныя адно аднаму часова і разумеюць гэтую душэўную ўступку, дазваляючы браць ад імгнення ўсё, што яно можа даць.

Амаль кожны вечар яны сустракаліся. Сяргей, як і Марына, спяшаўся пранікнуць у гэты ўтульны пакойчык, дзе была маладая свабода, пачуццёвая сме-

ласць і адзіны сведка — скругленьі з аднаго боку і пашкуматаны з другога грэбнік маладзіка, што нявінна і слепа цікаваў скрозь кісяю шторы, пакуль няўмольная поўнач не адцягвала яго за сцяну.

Прыходзіў Сяргей да Марыны адной дарогаю — галоўнай вуліцаю, на якой стаяў ягоны інтэрнат, праз кіламетр заломваў управа, у цесны і занядбаны — крапіва ды піжма — завулачак, што забіраў у левы бок і выпростваўся ў шырокую рабрыстую брукаванку, якая ішла паралельна галоўнай. На ёй, у самым канцы, жыла Марына.

У занядбаным завулачку Сяргей мінаў кожны раз старэнькую, пачарнелую ў бёрнах хатку. Заўсёды дзівіўся, што вокны ў ёй адкрыта зеўралі бураватай утульнасцю чалавечага жытла: на іх не было фіранак. Калі-нікалі Сяргей бачыў у крайнім ад сянец акне старую жанчыну — ціхую, нямоглую ў хадзе і журботна прыгорбленую за сталом. Насупроць гэтага акна, над пакрытым пазелянелай дранкаю дахам, узвышалася верхавіна грушы. Сяргей думаў: «Можа, памыла фіранкі, а зменных няма? Няўжо так доўга сушацца? Як гэта — ўсё ў хаце відаць?»

Мабыць, і засталася б таямніцаю гэта бабулька, як многія з дзівакаватых людзей, што сустракаюцца ў жыцці, калі б не выпадковасць.

...Восень наступіла рана, цёплая, залатая. Неба як хто вымыў, чыстае і глыбокае да бясконцасці. Здаецца, крыкні ўверх, і рэха разнясецца па ўсёй зямлі, ападзе толькі на самым краі, скаціўшыся ў касмічную бездань.

Даўно не было дажджу, пылілі дарогі, па якіх лена тупалі запрэжаныя ў калёсы коні. Людзі везлі на продаж садавіну. Больш ашчадныя і скупыя — на рынак. Тыя, каму «абы збыць»,— на прамкамбінат, на віно, якое пасля, купляючы ў магазіне, нязлосна называлі «чарвіўкай». Пыл асядаў на дрэвы, і яны рабіліся шэрымі, не такімі кідкімі ды яркімі, як тыя, што стаялі ў золаце лістоты воддаль дарогі. Ад гэтай штучнай перафарбоўкі восеньскага ўбору маркота заплывала ў сцішаную перад зімою душу.

З рынку цягнула густым, мядовым пахам яблыкаў, ігруш. Сяргей удыхаў яго і п'янеў: думалася пра

сваю вёску, Малінаўку, успамінаўся бацькаў сад, вялікі, дагледжаны, з гонкімі радасна-маладымі атожылкамі прышчэпаў. У ім добра было шукаць цянёк, пругкі халадок травы, што прыемна-казытліва чуўся пад босымі нагамі.

Ён звярнуў у шырокі праём дашчаных варот, адчуваючы з кожным крокам, як цяжэе і аддае гаркавасцю паветра. Людскі паток занёс Сяргея пад нізкую стрэшку ў прамежак доўгіх і няшчыльных гандлярскіх сталоў. Не паспеў ён і агледзецца, як яго шмарганула за рукаў пажылая жанчына ў выцвілай хустцы.

— Бяры во, дзядзька, яблыкі, ажно свіцяцца.

Сяргей не спыніўся, не паверыў у абманлівую ўвагу і спагадлівасць. Падышоў да суседкі, бабулькі, якая моўчкі, здаецца, абыякава сядзела над горкаю чырванабокіх яблыкаў. Падумаў: «Гэта дабрэйшая. І, здаецца, недзе ўжо бачыў яе...»

— Мне парачку.

Гандлярка падняла на Сяргея светла-сінюю, як сакавіцкі снег, каламуць старэчых вачэй, доўга ўглядалася яму ў твар і жмурылася — каля рота і пад вачыма кусцікамі збіраліся маршчыны.

— На здароўе, дзетка.— Бабулька выбрала два самыя крутабокія яблыкі. Аддала Сяргею.

Сяргей палез у кішэню па медзякі.

— Вой, не трэба! — замахала яна рудымі жылаватымі рукамі, як абгарэлым крыллем.— Бяры без капеек.— І як бы ў апраўданне: — Дужа на майго ўнучыка ты падобны.

— Ну, дзякуй вам! — Сяргей не пярэчыў, бо адчуваў шчырае жаданне бабулькі-яблычніцы аддаць свой тавар задарма.

— Мусіць, у арміі служыў? — пацікавілася бабулька, прыязна паліваючы яго патухлай сінню вачэй.

— Служыў... Так, служыў...— Сяргей адыходзіў. Незразумелае, як гіпноз, пачуццё падсцёбвала яго, адганяла прэч ад бабулькі.

Увечары кволае, белаватае маладзіковае святло жыва напомніла Сяргею бабульчын твар, і ён, ціха радуючыся ў душы, сказаў Марыне:

— Ведаеш, Марына, сустрэў сёння на рынку дзіўную бабульку. І такое адчуванне, што яна знаёмая.

— Ці мала ходзіць іх па горадзе? — Марыніну га-

лаву займала нешта важнейшае, чым бабулька. Яна ўздыхнула, цяжка, з перажываннем.

— Не такая, як усе. Кажа: «Дужа на майго ўнучыка ты падобны». І грошы за яблыкі не ўзяла. А потым зусім напалохала мяне, ні з таго, ні з сяго: «Мусіць, у арміі служыў?»

Марына рассмяялася, весела і раскавана, бадай, як ніколі дагэтуль.

— От здзівіў! Бабка Фрося то была. Свая яна нам. Мамінай маці сястра.

— Адкуль ты ведаеш? — не хацеў Сяргей верыць Марыне, што яна так проста ўсё растлумачыла.

— Яна ва ўсіх хлопцаў пытае, ці служылі. Унук, гадаванец яе, загінуў у Афганістане. Лётчыкам быў...

— Можа, не тая? — хапаўся Сяргей за апошнюю саломінку нязгоды, хоць і адчуваў, што Марына не памылілася.

— Магу паказаць, дзе жыве.— Марына яшчэ больш пажвавела. Вочы ажно заззялі.— Недалёка, у завулку. Сад за хатаю. Ты якраз ходзіш міма.

На Сяргея быццам шугнула полымя — стала горача твару. У памяці ўсплылі вокны без фіранак: «Яна! Вось дзіва...»

Як паднятыя віхорам паперы, клубіліся ў Сяргеевай галаве пытанні: «Можа, памыла фіранкі, а зменных няма? Як гэта — усё ў хаце аддаць? Няўжо так доўга сушацца?» Ён ачнуўся. Рашэнне прыйшло як бы само, выплыла з падсвядомасці, ці што: схадзіць да бабкі Фросі. У гэтым пыльным райцэнтры, дзе міжволі чарсцвее душа ад суму і аднастайнасці, сустрэча з бабулькай — цікавай — раптам стала для Сяргея той выратавальнай крынічкаю, якая цягне да сябе чалавека ў шэрую спёку і, дапаўшы да якой, чалавек радуецца.

— Марына,— сказаў Сяргей,— давай адведаем заўтра бабку Фросю.

— Трэба. Яна адна,— згадзілася Марына, як быццам і сама думала пра гэта. Яна ніколі, ні ў чым не ўмела пярэчыць. Магчыма, гэта і было яе бядою.

Бралася на вечар. Цёплае густое марыва ападала на будынкі, заблытвалася ў кронах разамлелых ад дзённага сонца дрэў. Роўным спакойным радочкам уселіся

на электрычным провадзе шчабятунні ластаўкі, якія яшчэ зусім нядаўна вёртка кружылі за горадам над пусткаю.

У цёмныя сенцы Марына ўвайшла першая.

— Асцярожна, тут сходкі,— папярэдзіла яна, ухапіўшыся за Сяргееву руку. Сяргей адчуў нагамі няроўную падлогу. Марына, няўпэўнена ступіўшы некалькі крокаў, шкрэбала рукою па дзвярах — шукала клямку.

Дзверы піхнулі з хаты — нечакана.

— Хто там? — пачуўся мяккі, знаёмы Сяргею голас.

— Я, бабка Фрося, Марына.

— А-а-а, Марынка... Заходзь, унучка, заходзь. Даўненька ты не была ў мяне. Мусіць, нешта здарылася? — задыхаючыся, прашамкала мяккім ротам бабулька.— А хто гэта з табою? Мусіць, кавалер? — І раптам пазнала Сяргея: — Ці не той гэта хлапечык, што яблыкі купляў у мяне? Ну ён жа, ён!

Сяргей не сабраўся з думкамі і не ведаў, што адказаць. Але бабка Фрося не лезла ў вочы, не перапытвала, як гэта звычайна робяць жанчыны.

— Сядайце во, сядайце. Бліжэй да стала.— Яна паднесла два старадаўнія, з высокімі спінкамі крэслы. Пацюпала ў сенцы. Прынесла і паставіла на стол алюмініевую міску мочаных яблыкаў у кісла-духмяным расоле.

— Бярыце во лыжкі, частуйцеся.

Бабка Фрося села на лаву, што доўжылася паўз сцяну ад нізкага тапчанчыка ўпрытык да стала.

— Як жа цябе завуць, унучак?

— Сяргей.

— Нянаскі, мусіць? Прыезджы.

— На работу прыслалі, у музычную школу.

— Мой унук, Генік, таксама на гітары граў. І спяваў добра.— У вачах старой сядзеў сум і прабівалася захапленне — дзве крыніцы чалавечага пачуцця, што так рэдка зліваюцца ў адну.

Сяргея ўвесь час, пакуль ішоў, і цяпер турбаваў ход размовы. І ён абрадаваўся, што бабулька сама скіравала яе куды трэба.

Яна з хвіліну сядзела маўклівая, задуменная, быццам вяртала з памяці мінулае. Марына грызла яблык, адкусваючы маленечкія кавалачкі, і моршчылася як

дзіця. Бабка Фрося папрасіла ў яе лыжку, зачэрпнула з міскі расолу, ціха сербанула.

— Дык вы дружыце... Гэта добра. Маладыя...— уздыхнула неглыбока, па-старэчы.— І Генік мой быў малады...

Яна памаўчала, паварушыла зморшчанымі губамі і пачала расказваць, нетаропка, стрымана, як расказваюць пра ўсё бязрадаснае, як успамінаюць пра балючае.

Сяргеева памяць трымае вось што.

Фросін муж Апанас вярнуўся з вайны інвалідам. Працягнуў нядоўга, неўзабаве памёр, не перанёсшы боляў, якія ўсчаліся ад ран.

Асталася ў Фросі адзіная радасць — Сонька, якая нарадзілася яшчэ да вайны, прыгожая, пекная дзяўчына з мяккімі, як вычасаная пянька, белымі валасамі. Яна быццам увабрала ў сябе ўсё лепшае, што мог даць Апанасаў і Фросін род.

Фрося працавала медсястрой у бальніцы. Ідучы дамоў, нярэдка заўважала ў прыцемку каля хаты дзве постаці, сярод якіх па высокай кукле — Сонька нязменна рабіла адну прычоску — пазнавала дачку.

А потым былі слёзы — Соньчыны і яе, Фросіны. Сонька чакала дзіця, а замуж яе ніхто не браў. Сцяпан, віноўнік «усяго», хлопец увогуле неблагі і на работу хваткі, заявіў, што жаніцца яму — на яго розум — ранавата. Вось даб'ецца пасады майстра («Каб мог свабодна пракарміць сям'ю ды яшчэ і на кніжку якую паўсотню кінуць»), тады іншая справа. А пакуль што ён толькі слесар.

Гонару ў Сонькі і на дзвюх хапіла б, таму ўпрошваць не стала. Нарадзіла сына, Генадзем назвалі, а для Фросі — проста Генік. Год-другі пажыла пры сыне ды маці і з'ехала ў свет: маўляў, тут, з дзіцём на руках, «зваляюся нізашто». Апасля, шчаслівая, пісала, што знайшла сабе чалавека, з кватэрай, машынай, і больш ёй нічога не трэба. А калі прыслала маці сямейную фатаграфію, то Фрося, як ні папраўляла на носе акуляры, не магла паверыць, нібыта вось гэты лысаваты зморшчаны дзядок, што па-дзіцячы даверліва і радасна прыткнуўся да белатварай, дужай у стане Сонькі, яе муж.

А Генік рос, не ведаючы матчынага цяпла. Яго і звалі на вуліцы Генік Фросін. Хлопец скончыў школу,

пастуліў у лётнае вучылішча. Адпраўны гулялі шумна і багата. Фрося, расчуленая, аніяк не магла нааддзяквацца людзям: і дырэктару школы, дзе вучыўся Генадзь, Сідару Аляксеевічу, сівагаловаму, з чорнымі вусамі ветэрану, і суседзям, якія самі справілі пышнае застолле. «А каб вы жылі ды радаваліся... І вашы дзетачкі цвілі як кветачкі...» — падбягала да кожнага разгубленая Фрося. А перад аўтобусам яна доўга плакала на грудзях у Геніка... Шафёр, пажылы чалавек у крыкліва-белай кепцы, ужо страціў цярплівасць і, апусціўшы вочы, некалькі разоў прасігналіў.

Тэлеграма ўварвалася нечым большым, чым слёзы і боль. Фрося гнала з хаты паштальёнку, быццам тая была вінавата, што не памылілася адрасам: «Ідзі, дзетка маё, ідзі. Думаеш, старая, дык падманеш — не прачытае... Не-не, дзетка, ідзі з двара».

Праз тыдзень пасля тэлеграмы з акон Фросінай хаты зніклі фіранкі.

«Ноччу самалёт ляціць па небе, як зорка — малюпасенькі: мірг-мірг-мірг. І здаецца мне, што Генік мой у ім... мне сігнал падае. І твар яго ўбачу. А то людзі ходзяць міма, і мне відаць. Мяне яны бачаць. Ажно павесялееш... А так бы звяла, звяла зусім».

* * *

Шмат часу прайшло, а бабулька і цяпер, як жывая, стаіць у Сяргея перад вачыма светла-сінім успамінам аб прамежку жыцця, калі яму лічыўся дваццаць шосты год.

Думаючы пра яе, Сяргей з болем прыгадвае, што было тады ў яго і мімалётнае захапленне — Марына, спакойная, пакорлівая, як звялыя пялёсткі вяргіні, дзяўчына.



# ВЕЧАРЫ НА БАЛОЦЕ

З двара было чуваць, як затарможваў каля торфабрыкетнага завода дызель — пішчалі пад коламі рэйкі, ляскалі буферы вагонаў. Яна тады міжволі павярнула галаву і ўбачыла, як падымаецца над вострымі каптурамі чорных тарфяных куч белаватае воблачка дыму, плыве да сонца — ужо нізкага, бледнавата-пунсовага і мяккага, бы перазімавалая журавінка. І ў гэтым кволым воблачку дыму, і ў рахманай нязыркасці закотнага сонца было нешта задумліва-сумнае, непазбежнае. Яна, аднак, саўладала з сабою, адагнала невясёлыя думкі, нават паспрабавала ўсміхнуцца.

Пачуліся галасы, сярод якіх яна вылучыла голас Паўла Трыножкі — дабрадушнага, але гультаяватага мужчыны, што некалі падбіваў клінкі і да яе, Мар'і. Ідуць! Не хацела, каб бачылі, што яна сустракае мужа,— хітнулася за сенцы. Зараз рыпнуць весніцы, зойдзе Раман. Яна прыгладзіла каля скроняў цёмныя густыя валасы; твар у яе быў па-вясковаму просты, цьмянаваты ад загару, можа, залішне на саракагадовую пазначаны маршчынамі каля вачэй, але была ў ім тая правільнасць, якая, калі да твару доўга прыглядацца, робіць жанчыну прыгожай знешне і нейкай загадкава-гуллівай у душы.

Галасы параўняліся з дваром, пачалі, аддаляючыся, заціхаць, а Рамана не было. Можа, прысеў на лавачку — была ў яго такая звычка: перш чым на парог — пакурыць. Мар'я выйшла з-за сенцаў, выгляну-

ла на вуліцу — лавачка была пустая, на ёй ляжала забытая Юркам цацачная машынка. Дык дзе ж гэта ён? Мар'я адчула, як халадок прабег па яе руках — яны быццам адняліся. Можа, што здарылася? Але наўрад, трактарысты абавязкова зайшлі б і сказалі ёй. Можа, на завод чаго забрыў, можа, сход зноўку? Ды ці мала што! Не дзяўчына ж яна і не на спатканне прыйшла, каб так перажываць...

Сонца яшчэ паніжэла і схавалася краем за тарфяную кучу, на абрысах якой ззялі малінавыя, бы на вясёлцы, паяскі. Тонкі халадок пачуўся ў шчокі, яна зябка сцепанулася, акурат раніцаю, калі выходзіла з хаты даіць карову. Разам з гэтым халадком прыплыў з гароду горкі і цеплавата-млявы водар зжатай абеднім часам на ўзмежку травы. Кудахталі і кэрхалі на седале ў пуні куры — усаджваліся нанач.

Яна пайшла ў хату.

Дачка сядзела за сталом схіліўшыся — нешта малявала ці пісала, а Юрка гуляў на падлозе ў кубікі.

— Тата зайцаў хлеб прынёс? — спытаў Юрка і ўставіўся на маці сваімі чорнымі цікаўнымі вачыма.

— Няма яшчэ таты,— сказала Мар'я, паднімаючы з падлогі шматок паперы — сагнулася, каб не паказаць сваю разгубленасць на твары.

— А дзе ён?

Во і паспрабуй адкажы, калі ў самой у галаве таўкуцца такія ж пытанні.

— Што, тата не прыйшоў? — павярнулася і Люда, але ні ў яе пытанні, ні ў голасе зусім не было хвалявання.

Мар'я радавалася, што дзеці любяць і чакаюць бацьку, а Юрка ўвогуле не ляжа спаць, а калі і ўляжацца, то доўга не засне, пакуль не пакаштуе «зайчыкавага хлеба». Гадкі тры яму было, дык усё дапытваўся: «А чаму гэта хлеб зайчыкавым завецца?» — «Таму што зайчык яго дае. Кажа тату: «На, аднясі свайму сыночку»,— адказвала яна, прыпамінаючы сваё далёкае дзяцінства, калі і ёй гаварылі тое ж самае. «А дзе ён, той зайчык?» — «У лесе на пяньку сядзіць і хлеб у лапках трымае, а тата міма ішоў...» Юрка ўсяму верыў і засынаў шчаслівы, заспакоены, з невыказнаю ціхамірнасцю на твары.

Вокны ў хаце сталі сінія, Люда ніжэй схілілася над

сталом, і Мар'я ўключыла святло — яно заліло ўсю хату і, здаецца, пранікла нават у душу.

— Будзем вячэраць, дзеці? — сказала Мар'я павесялелым голасам, адчуваючы, што ёй цяжка быць такою, няшчыраю і напятаю, бы струна. Люда, яна ўжо дарослая, канечне, і ад яе нічога не ўтоіш, стала прыглядацца да маці, але не рашалася спытаць — ложка вяла, як бы нехаця, апускалася ў талерку і паднімалася з ежаю да рота.

Палажыла Юрку спаць — ён бедны змогся за дзень на сонцы і заснуў, не дачакаўшыся акрайчыка хлеба з Раманавай сумкі. Люда яшчэ пачытала кніжку на канапе, нейкі час паляжала, гледзячы ў столь задуменнымі шырока адкрытымі вачыма, і таксама заснула.

Мар'і было не да сну, яна хадзіла як непрыкаяная па хаце, узяла ў парозе венік, белы пластмасавы савок і падмяла каля стала падлогу. Сеўшы ў крэсла, была ўзялася вязаць Юрку штаны, але хутка ўбачыла, што набірае лішнія петлі.

Яна пачала ўжо злаваць на сябе: чаго, дурніца, мэньчышся, хіба ўпершыню Раману запазняцца? Нідзе ён не дзенецца, шчасце такое,— спрабавала яна насміхацца нават, не столькі для таго, каб збэсціць мужа, колькі для таго, каб суцешыць сябе...

Яны пажаніліся, як на цяперашні час, пазнавата: ёй было дваццаць шэсць, а яму трыццаць. Але сябе яна ні за што не дакарала і вельмі не тужыла, бо не з-за нейкай заганы ці з-за дрэннага характару не выходзіла замуж, наўпярок, была дзяўчына паглядная, «пазарная», як у іх казалі, і жаніхоў хапала; таму і перабірала ды выглядала, адмятала прапановы, а гады цяклі, бы тое проса між пальцаў, і не ўгледзела, калі выбралася на ўзрост, за які маглі ўжо абазваць і дзеўкаю-перастаркаю. Ёй неяк нечакана ўсё гэта высвецілася, і нават апанаваў страх. І якраз тады яны сустрэліся з Раманам Кісялём: яна працавала на ферме даяркаю, а ён на падмену трактарысту, які захварэў, прыехаў з суседняй вёскі вазіць з поля лубін. Раман быў невысокага росту, шчуплы, але рухавы і надзіва зацяты ў рабоце; ён амаль не піў, і за ім цвёрда хадзіла добрая слава сярод пажылых людзей; але з маладых мала хто прыслухоўваецца, што гавораць старэйшыя. І ёй, безумоўна, хацелася мець за мужа калі не зуха-рыцара, то, ва ўсякім выпадку, хлопца росла-

га, дужага і прыгожага тварам. Наіўныя, узнёслыя мары яе, здаецца, пачыналі знікаць, а тут яшчэ і бацькі памаглі ім развеяцца. Ведаючы, што род Кісялёў працавіты, учэпісты да зямлі, яны настоялі, каб дачка выходзіла замуж за Рамана. Яна неахвотна згадзілася, але і як бы перастрахавалася тады: «Не складзецца жыццё — самі будзеце вінаваты».

За Раманам яна, як кажуць, не ведала гора; адно ўжо тое што не піў, колькі здымала лішняга клопату. А Раман жа не цураўся і хатняй работы, як іншыя мужчыны, што смяяліся з яго,— ён і вады наносіць карове, кабанчыку замяшае, двор падмяце, сабе, дзецям з адзежы што памые; і нават у ягады хадзіў, што лічылася ў Малінаўцы ледзь не ганьбаю мужчыны — даравацъ такога замаху на свой гонар мужчынскае племя не магло, пакеплівала з Рамана: «Трэба служыць, раз красуню ўзяў, а то выгане...»

Мар'і кабеты зайздросцілі, і толькі ёй самой у тым, што Раман стараўся, не хацелася бачыць нешта нечуванае, яна прымала ўсё проста, звычайна, быццам так і павінна быць.

Яна спахапілася, што перабірае ў памяці сваё сямейнае жыццё, і нейкі няпэўны глухаваты дакор накачваецца на сэрца: падобна, што Раман у яе пакрыўджаны, зацяўся і церпіць яе няласкавасць. Трывога каля сэрца ў яе пагусцела, і каб разагнаць яе, Мар'я накінула на плечы шарсцяную хустку і выйшла з хаты на ганак.

Цемень была густая, але ясная, і неба аж празрыстае, з зеленавата-жоўтаю падсветкаю зорак. Пругкае, малочнае святло месяца высвечвала бліскучыя часткі на матацыкле, які стаяў пад паветкаю, а фара ў прыцемненасці кута здавалася адбіткам самога месяца на вадзе. Недзе на канцы вёскі грымеў магнітафон, чуліся маладыя хрыплаватыя галасы, якія час ад часу праразаў дзявочы піск,— і ва ўсім гэтым шырокім, неахопным маладым задоры было столькі безаглядных надзей і салодкай, трапятлівай прагі жыцця, што сэрца ў Мар'і адпусцілася і сама яна быццам правалілася ў цёплую, жаданую бездань...

* * *

— Ты глядзі, Раман, а то да раніцы ўсё балота перавернеш уверх карэннем,— сказаў Павел Трыножка, і

ўсе мужчыны сакавіта зарагаталі — рэха ядрана панеслася, але крута абламалася, заглухла ў густой балотнай чмурэчы, сплеценай з малінніку, ажыны, смуроды, крушыны, крапівы...

— А я да раніцы не буду, сцямнее — і дахаты, услед за вамі,— Раман сядзеў на паваленай сухой, з рудым лісцем алешыне, сцёбаў хлудзікам па халяве кірзавага бота і глядзеў прыжмуранымі вачыма на свой аранжавы, як апельсін, «дэтэ», што стаяў на краі тарфянога кар'ера, задраўшы ўверх шырокую зубастую лапу-чарпалку. Раман днямі прыгнаў яго з капіталкі, ён безадказна служыў, лёгка слухаўся рычагоў, і працаваць на ім адна любата.

— Не-не, будзь ужо да паўночы, а я там да Мар'і тваёй загляну! — засмяяўся Павел, і на яго твары, цёмным ад тарфянога пылу, ядранай соллю блішчалі зубы.

— Маладым не адбіў яе ў Рамана, то куды ўжо цяпер,— падкалоў Паўла Ягор Самусік, самы старэйшы ў брыгадзе трактарыстаў, высокі, худы мужчына з выпуклымі вачыма, якія надавалі твару пастаянны выраз не то спалоху, не то здзіўлення.

— А што цяпер? Цяпер я ў самай сіле! — Павел сагнуў у локцях рукі і, выпнуўшы грудзі, страсянуў кулакамі.— Хочаш, трактар спіхну ў кар'ер?

— Сілач! Твая Зойка махне падалом — і ты з капыт! — Самусік гаварыў трапна, але зусім мала, можа, вось толькі пасля работы, і гэта было дзіўна, бо людзі, вострыя на язык, звычайна не закрываюць рота.

Мужчыны зноў зарагаталі, ажывіліся, было відаць — зараз пойдуць. І тут нечакана азваўся Пятрок Лукса — дзяцюк каранасты, круглатвары, з доўгім і сплюшчаным, бы сякера, носам, які надаваў голасу гугнявасць,— жыў Пятрок бабылём, нораву быў крутога, зацятага; у брыгадзе яго не любілі, але трывалі за абвостранае, можа, нават хваравітае пачуццё справядлівасці і смелыя выпады супроць начальства на сходах.

— Ды кіньце вы пра баб! Лепш падумайце сваімі дурнухамі, якую ножку нам падстаўляе Раман... Уперад лезе! Дырэктар скажа: а чаму б і вам, як Кісялю, не працаваць пазней...

Гэты нечаканы паварот гаворкі быццам аглушыў мужчын, яны неяк разам усе прыціхлі; Трыножка апусціў галаву, Ягор капырзаў ботам зямлю, яна ліпла

на мыс, і ён яе счышчаў аб траву. Усім стала няёмка, а больш чым каму — Раману, ён пачырванеў, але чырвані на замурзаным твары не была відаць, мляваю хваляю прайшло між лапатак цяпло. «Ну і загнуў Лукса! — адчуваючы, як прыкры звон запаўняе галаву, падумаў ён.— Быццам я падвесці іх хачу... Дурань!»

Гэтак жа моўчкі мужчыны павярнуліся і пайшлі прасекаю на сцежку, што вяла да «Прычала», дзе стаяў, дыхаў параю дызель, да якога былі прычэплены гружаныя торфам вагоны.

Раман коратка глянуў ім услед, і яму здалося, што неяк задзірліва, упарта ківаюцца іх плечы. Ён выняў з кішэні камбінезона змяты пачак «Беламору», закурыў. Пачуццё адзіноты агарнула яго, было яно моцнае і гнятлівае. Прыкры звон у галаве не праходзіў, і тады ён падумаў, што, можа, гэта звіняць камары. Іх тут, у балоце, процьма — рыжых, шэрых, белых і нават зеленаватых. Яны хмараю кружыліся над галавою, садзіліся на рукі. Раман зрабіў глыбокую зацяжку і дыхнуў перад сабою на камароў, ад чаго тыя зазвінелі яшчэ больш ядавіта і пагрозліва. Ён вырваў сцябліну паручайніку і пачаў адганяць ёю камароў. Цяжка было на нечым засяродзіцца, і ён адно пашкадаваў, што не паспеў наказаць, каб хто-небудзь перадаў жонцы, што ён астаўся на балоце. На душы, і без таго неспакойнай, заскрэблі кошкі...

Схамянуўся ад таго, што ў кустах пачуліся дзіўныя, падобныя на бычыны роў, гукі. Устаў і ўжо тады ледзь не рассмяяўся, што спалохаўся птушкі,— па голасе, па гэтым скрыпучым «а-ар-р-рк» ён пазнаў балотнага бугая. Днём яго не чуваць, а вось надвечар заўсёды абзываецца. Мабыць, недзе блізка ягонае гняздо, а можа, і зусім абяздомілі, асірацілі небараку, раструшчылі гусеніцаю трактара яго хатку; ва ўсякім разе, уламаліся ў яго ўладанні, занялі іх, адцясніўшы гаспадара некуды на ненадзейны ўскраек балота.

Дзіўная гэта птушка, балотны бугай. Вельмі скрытная, яе рэдка ўбачыш. Але Раману аднойчы ўдалося паназіраць за ёю, даўно гэта было, у дзяцінстве. Яны з маці хадзілі ў брусніцы, ён стаміўся і сеў пад бярозу адпачыць. Раптам бачыць, шыецца па траве нешта рабое — жаўтлявае, з цёмнымі плямкамі. Ажно ў пот кінула: падумаў, гадзюка. Паварушыўся, і гэта рабенькае імгненна выструнілася, бы свечка, і доўгая

вострая дзюба ўгору тырчыць. Птушка! І тут раптам на ўвесь лес: «А-а-ар-р-рк!..» Аж падскочыў — і птушка куляю; паляцела, нязграбна віхляючы між дрэў. Недзе далёка зноў «зараўла». Спытаў у маці — кажа: балотны бугай.

Бугай падаваў голас у адным месцы, як зарвала яму. Можа, там ягонае гняздо і нехта яму пагражае, норка якая ці тхор... Трэба паглядзець. Раман ступаў асцярожна, але ўсё роўна пад нагамі хрускала ядранае балотнае зелле, пырскала з трубак клейкай вадою. Бугай, мабыць, пачуў яго, заціх. «Абманеш яго...» — усміхнуўся Раман, ішоў далей, пільна ўглядаючыся ў траву, кусты і спружваючыся, каб не здрыгануцца, калі з-пад ног вырвецца бугай.

Бугая не было, адно скакалі па траве вільготныя рудыя жабкі, бліскалі белымі мяккімі нагамі. Ад балота застаўся вузкі перашыек, па ім цяпер ішоў Раман, мяркуючы выйсці на другі бок, а тады ўжо краем, па сухому, вярнуцца да кар'ера і сесці ў трактар. Да цемнаты сотні чатыры кубікаў паспее начэрпаць.

Ён і праўда хутка адчуў нагамі цвёрдае, выйшаў на лажкі. «Во, брат, няма табе чаго рабіць!» — здзекліва падумаў ён пра сябе, калі ўбачыў ускрай балота кучу свежанасечаных дроў — бярэзіны, альха, асінкі. Па высокіх пнях з амаль плоскім зачырванелым верхам, маленькіх трэсачках здагадаўся, што дровы секла ці то жанчына, ці то дзіця. «Нехта кляваў, як дзяцел»,— падумаў ён з пыхлівай мужчынскаю саманадзейнасцю. У асмужанай сіняватасцю далечыні, за рэдкімі кустамі ляшчыны відаць была вёска — Забалацце — бялелася шыфернымі дахамі, якія, здаецца, ляжалі на самай зямлі. «Адтуль, мабыць»,— здагадаўся ён.

Ужо як агінаў перашыек, ідучы да кар'ера, згледзеў за кустамі яшчэ адну кучу дроў. «Во, дык тут нехта добра пагаспадарыў!..» — здзівіўся ён.

У нізінах збіраўся лёгенькі сівы туман, трава бралася халоднай матавасцю; стаяла цішыня, якую нечакана зноў парушыў голас бугая, але ўжо не такі дзяркаты, а як бы асцярожны, украдлівы.

Раман адчыніў дзверцы; стаўшы на гусеніцу, лёгка скочыў у кабіну, трошкі пасядзеў, прывыкаючы вачыма да рычагоў і прыбораў, спінаю — да мяккай падушкі сядзення. Узяў вехце, працёр пярэдняе шкло, на якім звінеў цэлы рой камароў.

Трактар у надвячэрняй цішыні заракатаў з такім трэскам, што залажыла вушы,— Раман каўтнуў сліну; кабіна павярнулася, і чарпалка, бліснуўшы белым зуб'ем, пачала апускацца ў кар'ер... Загробшы торф, панесла яго наверх, да кучы, высыпала. У гэтым яе лёгкім паслушэнстве знаходзіў Раман невыказную асалоду, аж такую, што забываўся пра ўсё на свеце і не адчуваў, як бяжыць час.

Ссутонела, калі ён убачыў, што з кустоў, акурат з таго боку, адкуль і ён прыйшоў, вынырнула жанчына. Яна спынілася, глядзела на яго, жмурыла вочы, як бы пазнавала ці нешта хацела. «Можа, што здарылася?» — падумаў ён, заглушыў трактар і саскочыў на зямлю. Жанчына ступіла некалькі крокаў яму насустрач і зноў спынілася. І ў гэтых яе няўпэўненых рухах, і ў твары была нерашучасць. І Раман падышоў да яе сам.

— Што скажам? — спытаў ён лёгкім голасам.

Жанчына як бы недаверліва глянула на яго, потым на свае вялізныя гумавыя боты, заквэцаныя гразёю.

— Гэта мае дровы... там,— падняла высока руку, паказваючы на перашыек.— Думала, ужо нехта забірае...

— А-а, канешне!..— засмяяўся Раман.— Трактар чуваць...

— Дызель жа пайшоў, а нешта гурчыць і гурчыць...— З жаночага твару ўсё яшчэ не сыходзіла насцярожанасць — Раман бачыў гэта, як і сам твар паспеў ужо разгледзець: ён быў хударлявы, трохі шыракаваты, з кругленькім, як бы налепленым падбародкам. Цяжка было сказаць, колькі ёй гадоў, і трыццаць можна даць, і ўсе сорак — хударлявасць звычайна доўга падмаладжвае людзей.

— А я праходзіў, дык бачыў твае дровы,— сказаў Раман як бы з радасцю.— Сама секла?

— Сама... Мужыка ў мяне няма,— нечакана прызналася жанчына. У яе голасе была такая безаглядная шчырасць, што з Рамана зляцела зусім скаванасць, і ён, усміхнуўшыся, нядужа далікатна пажартаваў:

— Не можа быць, каб у такой кабеты не было мужыка.

Жанчына крыху прызадумалася і ціхім голасам сказала:

— Быў, ды памёр. Спіўся...

І тут Раман зразумеў, што перасаліў сваім жартам і, як бы вінуючыся, сказаў:

— Гаркуша гэта не аднаго ў магілу звяла...— Хацеў быў дадаць, што сам зусім не п'е, але падумаў: гэтым прызнаннем развярэдзіць жанчыну яшчэ болей.

— Таксама трактарыстам быў, ледзь што: чарка і і чарка... Характарам быў мяккі ён — нікому не адмовіць...— Жанчына, падобна, спавядалася яму.— А цяпер во самой не дапрасіцца дроў прывезці. Ужо даўно ляжаць...

— Трактарысты вашы дужа занятыя?

— Ды не! Гарэлку ў краму цяпер не возяць, самагонку я не ганю... Няма чым плаціць.

— А грошы?

— Прывыклі за бутэльку. Пойдзеш прасіць... «А бутэлька будзе?» — пытае.— Голас у жанчыны трэснуў, яна апусціла галаву — даўгаватыя валасы рассыпаліся, агалілі каля вушэй і на шыі белую скуру. Раман зачапіўся за яе вачыма, але тут жа адвёў іх: стала сорамна за гэты свой блазенскі нахабнаваты позірк, да сэрца падкаціў смутак, жаль да жанчыны — петаецца адна кабета ды яшчэ, можа, дзяцей куча ў яе...

Яны стаялі нейкі момант моўчкі, не ведаючы, пра што гаварыць, не зважаючы на камароў, якія населі цёмнаю хмараю, і з гэтай здранцвеласці іх вывеў блізкі раз'ятраны крык бугая. Жанчына здрыганулася і пахінулася да яго, глянула ўжо зблізку ў вочы. Было ў яе вачах столькі глыбокай тугі, нейкай яснай душэўнай збалеласці, што ў Рамана задрыжэла ніжняя губа, і ён прыкусіў яе.

— Птушка,— супакоіў ён жанчыну, усміхнуўшыся.

— Ведаю,— сказала яна, здзівіўшы яго, бо тады незразумела было, чаму яна як бы пахінулася да яго Смех, падумаў ён ужо праз імгненне, у любога зняцяйкі зрушыцца сэрца.

Ужо дабравата ўцямнела, хліпалі на небе першыя кволыя зоркі, і ён спахапіўся, што яго яшчэ чакае пешая дарога, і не такая малая, каля шасці кіламетраў, а ён жа не гуляў, а цэлы дзень рабіў.

— А ты што, уначную? — нечакана спытала жанчына, як бы павярнуўшыся ісці.

— Ды не, так, каб заўтра з раніцы запас быў, зразу грузіць пачаць...— адказаў ён, адчуваючы, што за гэтым пытаннем жанчыны хаваецца нешта яшчэ, і не доў-

га думаў — зразумеў: яна прапытвала, ці звязаны ён работаю і ці мае вольны час.

— Ну, пайду...— сказала жанчына, і яму стала непамысна ад таго, што яна панесла з сабою недагаворанае ці, можа, нават крыўду на яго.

— Пастой-ка,— сказаў ён. Яна павярнулася, быццам спалоханая.— Я прывёз бы дровы, але ж у мяне няма прычэпа...

Яна абрадавалася — адразу было відаць: вочы загарэліся.

— Прычэп не праблема, ля кожнага двара, лічы, стаіць.

— Сёння позна, а заўтра прывязу.

— Ну, глядзіце...— Яна раптам перайшла на паважлівае «вы».

— А што глядзець? Заўтра адвечара прычэп падчаплю і прывязём.— Раман гаварыў упэўненым голасам, ні макулінкі не сумняваючыся, што можа быць іначай.

— Тады я ўжо буду спадзявацца на вас...— Яна лыпнула спадылба на яго, і ў гэтым кароценькім яе паглядзе ён паспеў прачытаць і ўдзячнасць да яго, і сорам за нешта, чаго яшчэ не адбылося, і тую безабаронную, уніжальную самаахвярнасць, на якую здольна толькі вясковая жанчына-беларуска. Павярнулася і пайшла, нячутна, лёгка, бы па кончыках травы, а ён нейкі момант глядзеў ёй услед тужлівым позіркам.

* * *

У кабіну заляцеў і біўся на шкле вялізны тоўсты матыль. «Трапіў у тупік, а выйсця не бачыш»,— паўшчуваў матыля Раман, злаўчыўся і зграб яго ў жменю. Той трапятаў крыльцамі, пругка біўся ў далонь. Помніцца, у дзяцінстве гэтага матыля называлі вачысты бражнік — за тое, што на крыльцах у яго два блакітныя вочкі. Раман выпусціў матыля, і ён тут жа растварыўся ў цемнаце.

Падумаў, што ўжо позна, пара ісці дахаты — дна ў кар'еры не відаць, будзеш упустую, па карэнні грэбаць. Ён перакінуў праз плячо рэмень кірзавай школьнай сумкі, куды ладавала Мар'я абед і ў якой пакідаў заўсёды акрайчык хлеба сыну, замкнуў кабіну і з трошкі прыкраватаю незадаволенасцю пайшоў па сцежцы.

Неба паяснела ўжо, і зоркі павышэлі, наліліся яркасцю — цьмяны водбліск скакаў па ўбітай да глянцавістай цвёрдасці сцежцы. За спінаю, здаецца, чуўся халадок, а ў твар патыхала з жытнёвага поля прыемным, мятным цяплом — хоць расхрыстай кашулю і дыхай гэтым цяплом на поўныя грудзі. Лёгка ішлі ногі, але цяжкавата было на душы. Не папярэдзіў ён Мар'ю, што астанецца пазней на балоце, а як ты папярэдзіш, калі ўранні яшчэ сам нічога не ведаў — пазней ужо цюкнула яму ў галаву: астануся, пакідаю трохі, усё замінак менш будзе... А можа, справа і не ў замінках, ужо сумняваўся ён, можа, проста хочацца яму больш пабыць наадзіноце, у спакоі, калі хораша, ясна думаецца, неяк прыгожа і ўзнёсла, бы юнаку, марыцца... Учора так не было [illegible] ім, толькі сёння, а заўтра невядома як будзе. Чалавек на дні шмат разоў смяецца і засмучаецца, а жыццё — доўгае... Колькі духу трэба мець, каб яго з дня ў дзень адольваць ды яшчэ і радавацца.

Раман, засумаваны ад думак, не заўважыў, як упёрся ў высокую сцяну жыта; ледзь знайшоў прарэху, куды нырнула сцежка. Ідучы па жыце, чуў, як пругка білі па руках каласы, чапляліся ліпкімі вусамі за вільготную скуру і валаскі. Нізка над галавою жыгалі чорнымі маланкамі кажаны, і Раман дзівіўся іх выкрутлівасці і спрыту.

Над зямлёю стаяла ноч, ціхая, ласкавая, і тадысяды навявала такія імгненні, што аж плакаць хацелася ад радасці, што жывеш на белым свеце. Як бы адганяючы гэту радасць, лезла ў душу трывога — як сустрэне жонка. Не, яна не была ў яго ні злая, ні сварлівая, але ўсё рабіла так, што Раман пастаянна адчуваў яе перавагу над сабою. Як быццам ён залез да яе ў такі вялікі доўг, што не зможа выплаціць за ўсё жыццё; і ён выплочваў гэты доўг сваёй адданасцю, а яна павялічвала яго сваёй халаднаватасцю і непрыкаянасцю. Хвароба яго ведае, што між імі! Але не праходзіць пачуццё нейкай цягучай нутраной напятасці. Гэта — як пачнеш круціць-муціць, развважаць, а як забудзешся — жывеш бы тая рыбка ў вадзе, лёгка і бестурботна, і працаваць-спяваць хочацца не таму, што нехта цябе змушае, а таму, што душа іначай не можа.

З жыта ён выйшаў на шырокую пясчаную дарогу, паўз якую беглі рэйкі, на бліскучым версе якіх

час ад часу загараліся халодныя блакітнаватыя ўспышкі.

Вёска сустрэла цішынёю. Там-сям свяціліся вокны, але ценяў на іх не было — людзі не хадзілі, не маячылі па хаце — позна,— можа, хто хворы ці дзіця малое, дык гарыць святло. Вуліца зрабіла круты залом — і ён адразу ўбачыў сваю хату: адзінокім сіратлівым вокам свяцілася акно на кухні. Мар'я не спіць, чакае яго.

Ён убачыў, што твар у жонкі спахмурнелы: яна, канечне, незадаволена яго познім прыходам. Дзіва што, ад перажыванняў сэрца разарвацца можа.

— Дзе гэта ты дасюль цягаўся? — спытала яна, стрымліваючы сябе, каб не напусціцца на яго, але па голасе ён улавіў, што ў душы ў яе накапілася шмат сярдзітасці. Нечакана ён разгубіўся і не ведаў, што адказаць,— апраўдвацца не любіў, вініцца не было за што.

— На балоце быў...— буркнуў ён, чапляючы на цвік картуз.

— Дык жа мужчыны ў пару ішлі.— Яна спынілася перад ім, але вачэй не паднімала, засяроджана загладжвала за вуха пасмачку валасоў.

Ён усміхнуўся.

— Забыў перадаць, што застануся... Прабач.

— Грошы ж хоць табе заплоцяць?— Відаць было, што яе зразу адпусціла, яна палагоднела.

— Грошы? Грошы тут ні пры чым,— сказаў ён сухавата, злуючыся, што жонка вечна чапляецца з гэтымі грашыма. І не толькі яго жонка, усе бабы сквапныя, пілуюць мужыкоў, што мала зарабляюць. Як быццам толькі ў іх, грашах гэтых, шчасце...

— Есці будзеш?— спытала яна, мабыць, не хочучы перад сном распаляцца сваркаю.

— Толькі малака пап'ю,— адказаў ён і звярнуў на кухню.

Яна схадзіла ў сенцы, унесла гарлач малака і наліла ў кубак. Ён выпіў, выцер ручніком белыя «вусы».

Пайшоў у спальню класціся спаць, а жонка нечага яшчэ доўга тапталася на кухні: то бразгалі лыжкі ды відэльцы, то рыпелі дзверы, і ён, хутка засынаючы, паспеў падумаць, што заўтра ўранні, перад работаю, трэба змазаць завесы.

* * *

— Ты наварочаў тут, як крот!— усклікнуў Павел Трыножка метраў за сто да кар'ера. З туману выплывала, ясней вырысоўвалася насыпаная Раманам куча.

— Ды кінь ты!— адмахнуўся Раман: сорамна было, што хвалілі за нішто. Бо калі ўжо браць, дык не вельмі ён і настараўся: бугай той, а пасля жанчына... Успомніўшы пра жанчыну, ён як бы спахапіўся, што не думалася яму пра яе: ні ўчора доўгай начною дарогаю, ні як засынаў, ні сёння раніцаю, калі змазваў завесы ў дзвярах, а жонка пякла яму бліны... Так і на абяцанне сваё мог забыць. Лёгкі дакор азваўся ў грудзях: мусіць, дарэмна памеўся прывезці жанчыне дроў, не так проста ўсё гэта, як падумаеш,— і дровы, можа, нявыпісаныя, і бензін паліць, і дырэктару могуць данесці... Дзіўна, што ўчора яго нічога не турбавала, неяк усё само склалася: мабыць, бугай перавярнуў усе яго пачуцці, прытупіў іх, даўшы ім няправільны ход.

— Гэта ён для адводу вачэй накапаў кучу, а сам, нябось, удовушку ў Забалацці нагледзеў,— сказаў ахвочы на падколкі Ягор Самусік, скручваючы позірк выпуклых вачэй на запудраныя тлустым тарфяным пылам кірзавыя боты.

— Няхай ён хаця сваю Мар'ю ўдзержыць!— як заўсёды, яхіднаю пранізлівасцю секанув голас Петрака Луксы.

— Да цябе не пабяжыць!— агрызнуўся Раман, злуючыся, што хлопцы кружацца недзе каля праўды.

— Ды дзе там... ударніка кіне.

І Раману, як учора ўвечары пры расстанні, кальнула ў сэрца: «Папікаюць, бытта і праўда я выскачка!..» Але спрачацца, даказваць, што ніякай наўмыснасці ў яго няма, не стаў. Ім, хлопцам, абы пажартаваць, а каму і паздзекавацца — ёсць жа такія: табе добра — значыць, ім блага.

Разварушаны ўнутры, Раман не мог адкараскацца ад думак пра жанчыну, разумеў, ужо не зможа нічога папамяняць, трэба ехаць ёй па дровы. Дзень цягнуўся пакутліва доўга; колькі разоў Раман вылазіў з кабіны, адыходзіў убок, за кусты, садзіўся на купіну і з асаладаю, засяроджана курыў. Раўлі самазвалы, месячы рабрыстымі коламі чарназём, і гэта ад іх, здавалася,

дрыжыць прымлелае, нейкае жаўтаватае лісце на вольхах. «І сёння Юрка не дачакаецца мяне — засне...» — скрушліва падумаў ён.

Нарэшце насунуўся жаданы вечар, вынырнуў аднекуль з чорнай пашчы кар'ера, разліўся па балоце, затапіў сінім мроівам і дрэвы, і кусты, і трактары, і далёкі пабарвянены сонцам небасхіл. Павел Трыножка, можа, адзіны ў свеце чалавек, які не ведаў, што такое злая пыха, спытаў у Рамана: «І сёння?» Раман кіўнуў галавою, баючыся падняць на Паўла вочы, і невядома, як бы яны развіталіся, калі б не страсянуў вечаровую, нейкую ашклелую сцішанасць прарэзлівы голас бугая.

— Во дае! — сказаў радасна Раман, ківаючы на кусты.— І ўчора, і сёння раве, як здурнелы.

— Жывая душа хоць...— няпэўна прамовіў Трыножка і пабег даганяць хлопцаў.

Раман крута павярнуўся, спрытна, бы тхор, шмыгануў у кабіну і з неўтаймоўнаю пруткасцю ў руках сеў за рычагі. Чарпалка безупыну махалася, гойсала ў паветры, быццам дзеля забавы. Засяроджаны на ёй, Раман на нейкі момант забыўся на жанчыну; і ўжо ўбачыў яе тады, калі яна падышла да трактара, усміхнулася яму. Была яна ў светлым плацці і сіняй кофце, на галаве лёгкая, газавая касынка незразумелага колеру. Раман захіліў чарпалку ўверх — стукнуліся аб кабіну камякі торфу, адчыніў дзверы. Жанчына села побач з ім, абцягнула на каленях плацце і зацята глядзела перад сабою ў шкло.

Ён зганяў у вёску, з прызабытым маладым свавольствам тузаючы рычагі, падчапіў прычэп, і праз паўгадзіны яны зноў былі каля балота, на лажках, дзе ляжалі дровы. Спачатку кідалі ў прычэп проста так, потым ён змацаваў барты дротам. Раман станавіўся пад камлі, а жанчына брала за вярхі; камлі не сыходзіліся на шыла, як гэта сякуць мужчыны, а былі як бы абгрызеныя, шорсткія, бы шчоткі. Жанчына час ад часу папраўляла касынку, якая спаўзала ёй на вочы, абцягвала кофту, а потым, упрэўшы, і зусім зняла яе.

— Кінь у кабіну,— сказаў клапатліва Раман: павага да жанчыны зачапіла яму грудзі, бачыў — увішная жанчына ў рабоце, яго Мар'я, колькі і жыве з ім, не ведала, што такое дровы — і насячэ сам, і прывязе, і паража.

Некаторыя палкі Раман стараўся браць бліжэй да сярэдзіны, каб лягчэй было жанчыне, з сілаю штурхаў іх на прычэп. Кара на камлях была парэпаная, у цвёрдых вострых шышаках, і далоні яго ўжо гарэлі. У жанчыны зачырванеліся шчокі, яна аддзімала з твару валасы, і гэта яе зусім не старэчая гарэзлівасць, мяккі бляск млявых, ціхіх у глыбіні вачэй незразумела хвалявалі Рамана, паддавалі яму сілы, і ён, не чуючы стомы, хапаў і хапаў з зямлі палкі.

Ехалі ў вёску з уключанымі фарамі. Зямля пад коламі, пакуль выбіліся на дарогу, была мяккая — трактар натужна выў. У кабіне было душна, незнарок (на вавароце) жанчына дакранулася локцем да яго, і ён адчуў, што яна ўся гарачая, распараная. Раман адсунуў каля свайго акна шкло, глянуў, ці прычынена акно каля жанчыны,— каб не прахапіў скразняк.

Вокны ў хатах, якія абступалі з усіх бакоў сады, гарэлі, як светлякі ў траве.

— Едзь туды,— паказала жанчына ў завулак.

Ён не чакаў, што ў жанчыны будзе такая прыгожая ладненькая хатка: ашаляваная, пафарбаваная, з белымі разьбянымі ліштвамі, яна стаяла, як вяночак, у густых зарасніках бэзу, над якім уладнаю царыцаю ўзвышалася тоўстая бяроза, свяціла ў прысмерку матавай пярэстай карою.

З хаты выйшлі дзве дзяўчынкі — па ўзросту недзе на восьмы і пяты класы. Жанчына нешта, нахіліўшыся, сказала ім, і большая зноў пайшла ў хату — загарэлася яшчэ адно акно; меншая стаяла на ганку і з цікаўнасцю глядзела на трактар і, мабыць, на яго, Рамана. Ён скінуў верхнія палкі, перасек зубілам дрот, бо яго напяла і раскруціць было нельга. Дровы шухнулі, пакаціліся з прычэпа... Жанчына кінулася яму памагаць, але ён сказаў, што не трэба, а сам у гэты час думаў, ці ісці яму ў хату, калі жанчына запросіць. Было ўжо позна, і гэта яго непакоіла, але ж не хацелася крыўдзіць і жанчыну.

Ён зачыніў ужо барты, калі жанчына сказала:

— Ну зайдзіце ў хату...

Ведаў, што гэта запрашэнне будзе, чакаў яго, але прагучала яно як бы знянацку. Ён доўга пыхцеў, ніяк не могучы лучыць крукам у паз. Так і не знайшоў, што сказаць, ці як запрацівіцца, моўчкі пайшоў услед за жанчынаю ў хату.

Яна дала яму белы ручнік, мыла, падвяла да рукамыйніка. На кухні гарэла вялікая лямпачка, было светла хоць іголкі збірай. Стол быў накрыты, на ім стаялі талеркі з ядою, гліняны гарлач.

— Ці ета вы будзеце піць?— спытала асцярожна жанчына, ці то з цікаўнасцю, ці з бояззю гледзячы на Рамана, блізка стаяла каля яго.

— Не, я піць не буду,— сказаў рашуча Раман і ў гэты момант, можа, як ніколі, моцна пашкадаваў, што не п'е, не мае магчымасці зараз выпіць. Гэта ён адчуў асабліва тады, калі сеў за стол — не ведаў, куды падзець вочы, што ўдзяўбнуць на відэлец, есці зусім не хацелася, нешта цвёрдае падперла да горла — не пракаўтнуць.

— Во, без чаркі дык і яда не лезе,— неяк прастадушна паспачувала жанчына, і яму раптам прыйшла ў галаву дзіўная думка: што чалавек прыдумаў гарэлку адно каб расслабляцца іменна ў такія моманты, калі зводзіць людзей выпадак, за якім стаяць нязмушаная спагада аднаго і самаахвярная ўдзячнасць другога.

Ён устаў з-за стала, сказаў «дзякуй». Жанчына замітусілася, цірнула аб ручнік рукі.

— Дык вы адпачніце трохі, пагуляйце,— сказала яна.— Я тэлевізар уключу...

— Пакуль дайду...— стараўся гаварыць бадзёра, а непадуладнае пачуццё віны сціскала яму грудзі: зусім раскіс ці нешта не сказаў, а можа, не так ці не тое зрабіў. Дзіўны, нейкі невясковы парадак быў у хаце, яна ўся дыхала чысцінёю і свежасцю. На аранжавай фарбаванай падлозе ляжалі роўненька, як прыліплі, дарожкі, ложак засланы блакітным пакрывалам, акаймаваным на краі ўзорыстым карункам. Бакавіна печы, што вытыкалася сюды, на чыстую палову хаты, была снежна-белая, ніводнай плямкі, толькі дзверцы душніка як абведзены чорнаю рыскаю. У такой утульнасці і праўда, мабыць, добра адпачнулася б, на душу сышлі б спакой ды лагода, але ж не будзеш рассядацца, трэба ісці...

— Ну, бывайце здаровы!— сказаў ён, кіруючы да дзвярэй.

— Дык гэта...— Яна подбежкам дагнала яго.— Вазьміце...— Ён нават не глянуў, што трэба браць,— ведаў: грошы.

— Не трэба,— суха сказаў ён, затрымаўшы вялікі палец на клямцы.

— А як жа?..— Жанчына, здаецца, хацела павярнуць яго за плячо, каб глянуць у вочы і зразумець, жартуе ён ці гаворыць усур'ёз.— Прывезлі, грузілі...

— Ну і што ж такога?— Ён ужо гаварыў са смяшком, адначасова адчыняючы дзверы. Жанчына загрэбала рукамі па яго грудзях, шукаючы кішэню, але ён мякка, ды настойліва адвёў яе руку.— Як-небудзь другім разам разлічымся!— кінуў ён дзеля адчэпнага і дзеля таго, каб жанчына не вельмі перажывала. Ды ўсё роўна, мабыць, яе пакрыўдзіў, падумаў ён ужо на двары, дарма не ўзяў грошы — ёй бы не так рупіла, што, можа, чым не дагадзіла.

На дарогу ў святло фар ускочыў заяц, здаецца, бліснулі глыбокім чырвоным агнём яго вочы, і, высока падскокваючы над зямлёю, прыціскаючы да спіны доўгія мяккія вушы, пабег. Раман зменшыў абароты і трохі вертануў трактар убок; калі слупы ад фар зноў палеглі на каляіны, зайца на дарозе ўжо не было. «Панёс Юрку хлеб»,— усміхнуўся Раман. Ад святла месяца пярэдняе шкло зеленавата пераліваласся. Каля балота стаяў густы туман, і святло фар пачало рэзаць, крамсаць яго як гіганцкімі мячамі. Казка! А ён быццам герой нейкага мульціка. Нястрымная чароўная лёгкасць найшла раптам на Рамана, і так хораша было думаць, што ты ёсць на зямлі, што ты патрэбен сваім дзецям і яны чакаюць цябе... Але і сёння не дачакаліся, спяць, і шкада, што ён не зможа расказаць ім пра зайца і казку...

* * *

Ён заўважыў гэта абедннім часам — што хлопцы пачалі стараніцца яго; збіраліся ў купку, стрымана спрачаліся, пасміхваліся, а калі ён падыходзіў — змаўкалі. Што за сакрэты ў іх? Пэўна, што ён, Раман, у іх на языку. І нават Павел Трыножка глядзеў на яго не то са шкадаваннем, не то з вінаватасцю. Раман, канечне, засмуціўся, але ён не адчуваў вялікай крыўды і не меў такога нахабства, каб дапытацца, што ўсё-ткі здарылася і што за змова супраць яго. Мабыць, з-за гэтых ягоных вячэрніх аставанняў... Клопат, няхай пачэшуць языкамі.

У гэты вечар нешта асабліва заўзята роў бугай, зусім блізка ад кар'ера, і Раман падумаў, што той, мабыць, ужо прывык да людзей, [redacted] ахвотаю ўступае ў перапалку [redacted] трактарам, адзываецца на вуркатанне ды крэканне матора: можа, страшыць, выганяе з балота, сваіх уладанняў прышэльцаў. Птушка не скажа... Хто спытае ў вусеня, гадзюкі, жабы, божай кароўкі, матыля? Не зразумеюць яны, што хоча чалавек... Дык, можа, хоць чалавек павінен разумець, што хоча гэтая малеча? Не, чалавек не саступіць, не палічыцца з яе жаданнямі ды патрэбамі, ён — магутны і горды, ён пойдзе на ўсё, што будзе яму лесціць і цешыць самалюбства, надаваць годнасці і ўлады.

На адыход Раман паклаў недалёка ад трактара, на вылізанай ветрам мясцінцы торфу кавалачак хлебнага мякішу: удзень ён бачыў на ёй глыбокія выразныя крыжыкі-рыскі — сляды птушкі, хутчэй за ўсё бугая.

Над полем у небе вісеў месяц, і жыта ўсё было белае, як разасланыя на выгане каля сажалкі палотны; адно як браўся ветрык, жыта пачынала хвалявацца, шапацець каласамі, быццам сварылася на чалавека, што рэжа сцежкаю гэту цнатлівую, пахучую, набрынялую зярнятамі белізну. Некалі, гады чатыры назад, тут было глухое балота, змейкаю бегла праз яго канава, у глыбейшых мясцінах якой вадзіліся карасі і чорныя, як уюн, шчупакі; але прыйшла магутная тэхніка, усё растаптала, зруйнавала, «навяла культуру».

Жонка не спала, чакала яго. Ён убачыў, што яна як бы пакрыўджаная, не падымае вачэй, ступае важка і цвёрда. Звычайна ў такія моманты ён стараўся не зачапіць жонку, абыходзіўся без яе помачы: сам ставіў на пліту чайнік, браў з халадзільніка салату, мяса якое ці каўбасу, сырыя яйкі. Сёння, адчуваў, так не будзе, жонку нешта вельмі ўзрушыла. Ён, праўда, не баяўся яе наскокаў, бо даўно знайшоў процідзеянне — не адказваць ёй зусім, нічога не тлумачыць ці, ва ўсякім выпадку, адпусціць адзін-два жарцікі — глядзіш, і жончын запал паволі развейваўся, як дымок ад папяросы.

— Я думала, ужо зусім не прыйдзеш начаваць,— сказала яна, падступаючы як бы здалёку, але з такім намёкам, быццам ён, Раман, ведае, пра што гаворка; а ён якраз не ведаў і, палічыўшы, што жонка абурэецца яго позным прыходам, зразу павесялеў:

— Хацеў у кабінцы пераспаць, ды нязручна — мулка, ногі выцягнуць няможна...

— А навошта ў кабінцы, калі на пуховай пярыне лепш?— Голас у жонкі пацвярдзеў, але адчувалася, што яна стрымлівае яго дрыжанне.

— Пакуль што сядзенні ў трактарах цыратовыя...— Яму зусім стала весела.— Хіба што брацец твой пуховыя зробіць?— Ён асмеліўся нават на падколку: старэйшы Мар'ін брат працаваў на трактарным заводзе ў Мінску інжынерам-канструктарам.

— Пакуль мой брат, дык Рыпінка з Забалацця хутчэй зробіць!— Голас у жонкі сарваўся на крык, і не зразумець было, чаго ў ім больш: гневу ці слёз.

«Пры чым тут Рыпінка? І якая Рыпінка? З Забалацця...» — разгубіўся ён, ліхаманкава перабіраючы ў памяці людзей з Забалацця, якіх ведаў. Не, Рыпінкі сярод іх, здаецца, не было.

— Бач, прыстроіўся! Пад маркаю, што на балоце, да нейкай сучкі бегае!..

Раман стаяў пасярод хаты як аглушаны, лыпаў вачыма, не ведаючы, ці смяяцца, ці сказаць жонцы за яе лухту што-небудзь калючае.

— Цішэй ты, дзяцей разбудзіш,— сказаў ён, і ў ягоным голасе чамусьці праскочыла вінаватая нотка, і жонка яе ўлавіла.

— Хай і дзеці ведаюць, які ў іх бацька... Бугай блудлівы!

І тут яму цюкнула, яго быццам апарыла, млявасць пакацілася па нагах. Слова «бугай» перанесла яго да балота, а там — і дровы, і жанчына, і Забалацце — усё разам з неймавернаю хуткасцю прамільгнула ў памяці.

— Ты што, сачыла за мною?— спытаў ён, не гледзячы на жонку, а ў гэты міг думаючы, што жанчыну, якой прывозіў дровы і з якой нават не паспеў пазнаёміцца, завуць, мабыць, Рыпінка, Рыпіна...

— Ці я дурная бегаць за табою па балоце? Многа чэсці! Людзі бачылі... Ім вочы не завяжаш! — Твар у жонкі і шыя сталі чырвоныя, яе было шкада, бо колькі сілы яна патраціла, каб не паказаць, што раўнуе, а звесці ўсё толькі да аднаго, быццам ёй наогул прыкра прымаць у чалавеку гэтую загану — блудлівасць. Ну і баба, ёлкі-маталкі!

— Людзі і набрахаць могуць,— адказаў ён, дака-

раючы сябе, што прамовіў так, акурат вінаваты і апраўдваецца.

Жонцы паддала гэта яго зніякавеласць напорыстасці.

— Пра такое не набрэшаш! Дровы вазіў? Вазіў Рыпінцы!

— Ну, вазіў...— сказаў Раман, яшчэ толкам не разумеючы, што ў гэтым благога; а не разумеў таму, што перш хапіўся адгадваць, адкуль жонцы вядома, што ён прывозіў некаму дровы.

— Думаеш, проста так?..— Жонка панізіла голас, і ў ім прыбавілася з'едлівасці.

— Канечне, так...— спакойна сказаў Раман, ведаючы, што гэтым сваім спакоем не асадзіць, а яшчэ больш раззлуе жонку.

— І грошы не ўзяў?

— Не ўзяў...

— Во ён табе!— усклікнула з новаю сілаю жонка.— Ціхі-ціхі, а як да чужой спадніцы, дык спрытны!..

— Набрахалі...— Раман адчуваў, што адказвае вяла, без усякага жадання разупэўніваць жонку, як быццам і праўда ў чым-небудзь правініўся; жонка жонкаю, а хлопцы, суччыны каты, перастараліся: мабыць, ляпнулі Мар'і, што Раман не торф капае, а да баб ходзіць... Але ж не, не проста пажартавалі, а пэўна сказалі, што ён дровы вазіў нейкай Рапінцы. Толькі адкуль яны ведаюць? Ён жа нікому не гаварыў.

— Ты мне галаву не задурыш!— крычала жонка, а Раман не ведаў, чаго яна хоча: асуджае яго, сарамаціць або раўнуе... Але ж ніколі такога не было, каб яна яго раўнавала... Дзіва! Гордая баба, даравапь не можа, што прамяняў яе, такую красуню, на нейкую задрыпаную ўдоўку. Пакіпяціся, пакіпяціся, Марыйка даражэнькая, задумайся, што муж твой не нейкі атопак з нагі — зняў ды выкінуў. Прыемна стала Раману, быццам душа яго расцвіла макавым цветам: не ведаў, аказваецца, што яму такая цана будзе. Жонка лае, а яму радасна, душа так і просіць: ну яшчэ, ну яшчэ пару салёных слоўцаў... Бач, як ваюе за мяне — ледзь не скакаў Раман, і наогул, можа, быў бы ён на сёмым небе ад шчасця, калі б не дамешваўся ў сэрца сум, што нешта нячыста сыгралі з ім хлопцы, а хутчэй за ўсё, нехта адзін з іх.

Думаў пра гэта Раман і тады, калі спаць лёг. Сон не браў яго, недзе блізка хадзіў, а падступіцца, адолець не мог. Раман ляжаў і слухаў цішыню: не спала, мабыць, і жонка, варочалася, уздыхала на суседнім ложку. Во, і нічога і разлад, перажываў Раман, у нейкую хвіліну яму хацелася ўстаць, падысці да жонкі, абняць яе, прытуліцца шчакою да цёплага мяккага пляча і сказаць не смешачкамі, а сур'ёзна, як усё было і што ні на кога ён яе не прамяняе; але нешта, яшчэ неўсвядомленае ды, адчувалася, важнае, не давала яму, і ён зноў вяртаўся да невясёлых думак пра хлопцаў. Не турбавала б яго, што яны там сказалі жонцы, калі б рабілі гэта без намеру, а то ж відаць: нехта знарок падвухрыў Мар'ю, наплёў на яго. Не сам факт страшны, подласць страшная — звар'яцець можна. У жонкі пытаць, хто ды што,— рэч марная, раз сама не сказала ў запале. Не ўсе... Нехта адзін, раз не выдае. А хто? Трыножка? Помсціць, што забраў у яго Мар'ю — долю, як ён кажа... Ці Пятрок? Каб адбіць у яго ахвоту аставацца па вечарах у балоце... А можа, зусім Ягор Самусік — кажуць, у ціхім балоце чэрці водзяцца... Няма ўжо балота і чарцей, мабыць, няма.

У Рамана разбалелася галава, прыкры тонені звон праціў патыліцу. За сцяною ўсхадзіўся вецер — мабыць, на змену надвор'я,— галіны старой грушы шкрэбалі па шыферным даху, і гэта нудная, манатонная «музыка» яшчэ больш раздражняла. І Раман зразумеў, што не засне да раніцы. Кажуць, чытаў, быццам толькі ў вучаных там усякіх бывае бяссонніца, маўляў, у іх пастаянна галава ў рабоце... Смяяўся з гэтага Раман, і цяпер ён, не могучы заснуць, адчуваў: прычына ў тым, што ён не можа выкінуць з галавы думкі, яны лезуць і лезуць чарадою, навязліва, неадступна... Дык што ў яго зараз — галава не працуе? Працуе, ды яшчэ як. Колькі думак у ёй снуе-тчэцца! Жывы чалавек, ён і ёсць жывы, і раз жыве на свеце, то і свет гэты, хочаш таго ці не хочаш, укручвае цябе ў свае жорны і меле без канца, меле, быццам ад цябе не ўбывае. А ты ж такі маленькі, бяспомачны ў гэтым свеце.

Далёка за поўнач Раман усё-ткі змогся, і той прамежак ночы, які ён спаў, яму сніліся незразумелыя, дзіўныя сны; іх было столькі многа, што асталося ўражанне, быццам за гадзіну ён пражыў некалькі

жыццяў, у якіх уражліва пераплялося былое, ужо спазнанае ім, і тое, да чаго сягала часам хіба што таемная, непадуладная розуму бессаромная фантазія.

Снамі дзіва не скончылася: прачнуўшыся, ён убачыў, што жонка гаспадарыць на кухні, а на табурэтцы стаіць яго сумка і з дзіркі тырчыць заткнутае рыльца бутэлькі з малаком. Ён пайшоў у майцы на двор мыцца, адчуваючы, як гарачая хваля ўдзячнасці да жонкі адганяе прэч млявасць, святлее ў вачах і ў галаве. Ён браў прыгаршчамі халодную з начы ваду з рукамыйніка і плюхаў сабе ў твар — так доўга, быццам ён не мыўся, а як дзіця забаўляўся; глядзеў на рукі, з якіх курэла густая пара. Сонца яшчэ не ўстала, але промні яго ўжо асвятлілі неба на ўсходзе, можа, хвілін праз пяць яны крануцца верху тарфяных куч каля завода. Там ляскалі ўжо буферы вагонаў, абуджвалі вёску, звалі торфаздабытчыкаў на працу.

Раман не паказаў хлопцам выгляду, што нешта здарылася, і іх гэта, мабыць, здзівіла: яны, як і ўчора, таемна паглядвалі на яго, прынамсі, так здавалася Раману. Адно хацелася б ведаць, хто з іх зламыснік. Бяссонная ноч падказала яму такі варыянт. Нехта, можа, і выпадкова ўбачыў след трактара, які павёў да кучы дроў, а яшчэ раней бачылі, хто сек дровы... Вось і казка-звязка. Казак на свеце многа, і хто на якія казкі хвацкі, той тыя і расказвае. Дзіўна, як усё мяняецца ў чалавеку: нядаўна галаву распірала ад думак, хто з хлопцаў наплявузгаў жонцы, цяпер яе займала, бадай, адзінае: як быць з жонкаю, ці пераконваць яе, што ніякай бабы ў яго няма, нават і думкі не было яе займець, ды і якая дурніца паласціцца на яго, такога карантыша. «Бугай...» — з тужліваю ўсмешкаю ўспомніў жончыну абразу. Разам з дакорам, што ўтойвае, не гаворыць жонцы праўду, свяціў у душу прамень салодкай радасці, што жонка на гэты раз вельмі хутка скарылася і нават паступілася гонарам — сабрала яму абед. Выходзіць, нейкаю новаю сілаю завалодаў Раман, яна і цяпер, нягледзячы на трывожную ноч, рабіла Раманава цела лёгкім, спружыністым, як у рысі. Ужо ў трактары ён адчуў, што з ім нешта не тое, і ажно скалануўся, калі зразумеў: яму не хочыцца зусім курыць. Так цягнула ўсе гэтыя дні!.. Але прывычка была настолькі моцная, што адолець яе было не так проста, і ён разы два вылазіў з кабіны і без смаку курыў.

Хмарыла, паветра было цяжкае. На небасхіле ў ружовай каламуці завязваліся цёмныя тугія кудзелькі аблачын, яны таілі ў сабе пагрозу дужага ветру і залеўнага дажджу. «Дык, можа, перад нянасцем спалася мне кепска?..» — падумаў Раман, яму не хацелася звязваць бяссонніцу з недаверам да хлопцаў, не хацелася насіць на іх крыўду, падазронасць, абвінавачваць.

«А жонцы пакуль не прызнаюся... Няхай думае, што ў мяне ёсць кабета на старане»,— радасны, як хлапчук, летуценіў Раман.

Хмары прайшлі бокам, грымела, бліскалі сухія маланкі, але дажджу не было. Толькі страхатліва, глуха пашумелі вершалінамі вольхі — і стала ціха. Надвечар, ужо як была пара ісці на «Прычал», падаў голас бугай, акурат напомніў, што ён жывы, што па-ранейшаму вартуе балота.

Раман думаў, што, калі будзе дождж, сёння пойдзе дахаты разам з усімі, але раз'яснілася, захад пачысцеў, стаў матава-мыльны, цьмянаваты, і ён сказаў хлопцам, каб ішлі без яго. Здаецца, яны ўжо прывыклі, што ён кожны вечар астаецца на балоце, і не абстрэльвалі яго ні позіркамі, ні слоўцамі. І Раман быў задаволены: усё становіцца на сваё месца, што марна тузацца, ніхто не мае права адымаць ад яго такі чаканы спакой, чыстую і як бы трохі тужлівую радасць, няпэўную, але ласкавую надзею, якія агортвалі яго тут, у лёгкай цішы вечаровага балота.

У кабіне, а потым, як сядзеў на кукішках і курыў, здранцвелі ногі, і ён абышоў краем балота, зноў, як і ў той дзень, калі высочваў бугая, панаглядаў за маленькімі вільготнымі жабкамі з белымі перламутравымі нагамі, сарваў некалькі пуховак падвею, паказытаў імі, бы зайцавым хвосцікам, шчаку і вярнуўся да трактара абнадзеяны і ўсцешаны.



# МАДОННА БЕНУА

Свет яму здаваўся чэрствым. Ён ішоў рашучым, цвёрдым крокам і нават не чуў, як прыпячатваюцца да асфальту высокія літыя абцасы яго туфляў. І раптам убачыў — падаючы, крануўся галавы шырокі перысты ліст каштана — вугальна-чорную, густую хмару на небе. Яна напорыста, нават з вераломнасцю сунулася яму насустрач. Тады ён адчуў, што твар абдзімаецца ветрам, волкім і сырым.

Хлопец спыніўся і колькі імгненняў стаяў нерухома, звужаючы сінія, з шэрымі праменьчыкамі вакол зрэнак вочы,— каля правага брыва «стрэліла» ўверх тонкая прамая зморшчына.

Хлопец агледзеўся: на чорным, затоптаным тратуары светлай плямаю ляжаў жоўты ліст каштана, ён зусім выразна напамінаў літару «ж».

«Жэня, Жэня...» — паківаў галавою хлопец, як бы дакараючы сябе невядома за што ці паказваючы, які ён прымітыўна-просты ў гэтым свеце. Вярнуўся, падняў ліст, пакруціў яго за доўгі і пруткі хвосцік і адкінуў убок. Ліст мякка выгнуўся амёбаю і, ледзь крануючы пёрамі, зноў спланіраваў на брудны асфальт.

Далей Яўген ішоў ужо спакойна, ледзь перастаўляючы ногі. Яму было ўсё роўна куды ісці. Абы не стаяць, абы рухацца — і тады здаецца, што ў цябе ёсць нейкая мэта, няхай самая далёкая і няпэўная, але мэта; без мэты чалавека нельга ўявіць нават на хвіліну.

Яўген з гадзіну назад пасварыўся з гаспадыняю, у якой кватараваў. Пасварыўся ўпершыню, хоць прычыны для сваркі надараліся і раней, ды Яўген высакародна адмоўчваўся: як-ніяк, гаспадыня не равесніца, каб з ёю спрачацца; у яе сын такі, як ён, служыць пасля інстытута ў арміі. Але каб вада палілася з чашы цераз край, даволі бывае адной кроплі.

І вось сёння ён не стрымаўся, папракнуў гаспадыню, зрэшты, не папракнуў, а толькі сказаў: «Гэта вы, Аліна Іванаўна, загубілі майго карпа?» — і яна завялася...

— А ты падумаў, аматар прыроды, што ад тваёй рыбіны гнілы пах кватэру мне запрудзіў!

— Ніякага паху ад карпа няма,— запярэчыў Яўген, абурыўшыся нахабнай заяваю гаспадыні.— Гэта вам здаецца... Вы вельмі недаверлівая жанчына.

— А табе не здаецца, што ты можаш пайсці шукаць давер там...— кіўнула на акно, завешанае ў ніжняй палове белымі карункавымі фіранкамі,— на вуліцы?

— Я і сам збіраюся мяняць кватэру,— цвёрда сказаў Яўген.

Гаспадыня скрывілася ад такой дзёрзкасці рахманага дасюль кватаранта, у яе канвульсіўна заторгалася вуха і хваравіта пашарэў твар.

— Прашу доўга не збірацца.

— Прабачце,— сказаў Яўген і выйшаў з кухні, каб не весці далей непрыемную гаворку.

А было так. У магазіне «Свежая рыба» Яўген купіў два люстраныя карпы і ў цэлафанавым мяшэчку прынёс іх дамоў. Вытрас у ракавіну, каб аблушчыць, ды ўбачыў, што адзін карп яшчэ жывы: хáвае ротам і варушыць пярэднімі плаўнікамі.

Яўген, хоць і нарадзіўся ў горадзе, любіў прыроду, усё жывое, і яму стала шкада карпа. Наліў у зялёны пластмасавы тазік вады і ўпусціў туды карпа.

Карп спачатку ляжаў брушкам уверх, потым паварушыў кароткім крэндзелепадобным хвастом — і высунуў з вады тоўстую сіняватую спіну з доўгім плаўніком. Яўген дакрануўся да плаўніка пальцам, і — нечакана! — карп порстка тузануўся, стукнуўшыся тупымі губамі ў сценку таза. Яўген усміхнуўся і колькі часу наглядаў за карпам. Некалі, школьнікам, ён

разводзіў рыбак у акварыуме і клапаціўся пра іх з вялікай асалодаю.

Нанач Яўген накідаў у тазік хлеба і аднёс яго ў ванную. Карп ажывіўся; вылаўліваючы крошкі хлеба, гучна чмокаў губамі і моцна біў па вадзе хвастом, ажно ляцелі пыркі.

А раніцаю Яўген убачыў, што тазік перастаўлены ў іншае месца і ў ім няма вады; карп ляжыць на дне — мёртва блішчыць яшчэ вільготнае дымчатае вока і пасіроцку бякла адсвечвае палоска залацістай лускі.

Гаспадыня, зачыніўшыся на кухні, скрозь матавы пластык дзвярэй бачыла, як слізгануў цень з пакоя ў ванную. Яна знарок бязладна загрымела посудам, і было чуваць, як бразнула аб падлогу накрыўка з чайніка.

Яўген узяў мёртвага карпа і рашуча ступіў да кухонных дзвярэй. У ягоных вачах гарэла абурэнне.

...Пацямнела, і пайшоў густы дождж. Скамечаная фольга ад шакаладкі закраталася як жывая, і ад яе ішоў цененькі, ледзь улоўны вуху звон. Яўген глянуў на неба: хмара сваім краем ужо навісала над галавою. Ён прыспешыў хаду: уперадзе стаяў будынак з глыбокай, утульнай нішаю. Яўген схаваўся ў ёй.

Празрыстымі тонкімі ніткамі снаваў сваю вечную, аднастайную пражу дождж. Вочы ў Яўгена былі задуменныя, можа, нават з разгубленасцю ўглыбіні.

Ну, няхай гаспадыні не спадабалася, што ён, не спытаўшы дазволу, паставіў у ванную тазік з карпам. Але ці так, зняважліва, пад сурдзінку, каб зачапіць за жывое, маўляў, начхаць на твае прыхамаці, я — гаспадыня, трэба выказваць сваю пагарду? І ўвесь час ён гэта адчувае. Ды пра што гаворка, ён жа не патрабуе да сябе асаблівых адносін. Але ж ёсць звычайная чалавечая ветлівасць: так і так, маўляў... І ён зразумеў бы. Не можа быць, каб не зразумеў. Чалавек зразумее ўсё, што хочаш, і нават тое, што скляпае самая смелая фантазія. Толькі трэба пераканаць чалавека. Нічога не прызнаюць і ўсё адвяргаюць толькі круглыя ідыёты ці людзі з абвостранаю шкадобаю да сябе.

Хмару перагнала, і ўжо на далёкім яе краі светлым зарывам абазначыла сябе сонца. Яўген уявіў, як

зараз тонка разальецца яно па мокрым асфальце, вокнах дамоў, кары і лісці каштанаў, як ажывуць сумныя, змарнелыя на клумбе кветкі. Са святлом да чалавека заўсёды прыходзіць радасць, а ў радасці адно прызначэнне — нараджаць у людскіх душах любоў. О, каб ведала яна, яго сяброўка Ліда, якая паехала на выхадныя да бацькоў у гарадок, дзе яны нарадзіліся, скончылі школу, як яму сумна і адзінока, як не стае ласкі ці проста добрага слова. Ён адзінокі, зусім адзінокі... І ўсе людзі не прыкмячаюць яго, як, дарэчы, і ён не прыкмячае іх.

Дождж перастаў, і Яўген выйшаў з утульнай нішы, куды, здавалася, дождж загнаў з вуліцы і цяпло. Было светла і чыста ў паветры, адно понізу трымцеў сівы дымок. І гледзячы, як ён растае, знікае, Яўген набліжаўся да тралейбуснага прыпынку.

На прыпынку тоўпіліся людзі з прутка растапыранымі парасонамі ў руках. Яўген убачыў дзяўчыну, якая сядзела на самым краі лаўкі, апранутая ў чырвоную вязаную кофту і цёмна-сінюю спадніцу. Мокрыя светлыя валасы яе, прыліплыя да лба і скроней, не хавалі ліловы сіняк пад вокам. Дзяўчына трымала на каленях абшарпаную жоўтую сумку, перакідны раменьчык якой звісаў на левы бок і раз-пораз кранаўся простага, тупамысага, усё роўна як мужчынскага, туфля,— дзяўчына ківалася.

«П'яная?..— здзівіўся Яўген.— Вось так: у кожнага сваё гора...»

Дзяўчына, мусіць, адчуўшы на сабе ўпарты позірк, падняла галаву — адкрылася шыя, тугая, ды ў шнурках маршчын,— кофта была расплікнута на два верхнія гузікі. Глянула панурымі, ды надзіва ўчэпістымі вачыма на Яўгена. Ён вытрымаў яе позірк, а дзяўчына зноў вольна апусціла галаву.

Пад'ехаў тралейбус, скрыгнуў тармазамі. Дзяўчына тарганулася, каб устаць, але сумка выслізнула, як рыбіна, з яе рук. Яўген, не разумеючы, што яго падштурхнула, нагнуўся і падняў сумку, выцер яе далонямі ад бруду. Іх вочы сустрэліся зноў — усмешліва-вясёлыя ў Яўгена і задзірлівыя, нейкія плоска-застылыя ў дзяўчыны. У адно імгненне Яўгену нават здалося, што ў вачах у дзяўчыны ўспыхнула іранічная насмешка, тады, як убачыў, што вусны яе варухнуліся, крывой палоскаю агаліўшы верхнія зубы.

— Вазьміце сумку,— сказаў Яўген.

Дзяўчына не брала сумку, яе позірк быў і задзірлівы і спачувальны адначасна — здавалася, ад яго нідзе не схаваешся.

— Вазьміце сумку,— паўтарыў Яўген, думаючы, што рабіць, калі дзяўчына і цяпер не возьме сумку: ці то класці яе на лаўку, ці ўсё яшчэ трымаць у сваіх руках. Яго, прызнацца, пачынала цешыць такая гульня, і ён з дзіцячай непасрэднасцю ўтупіўся ў сіняк пад вокам дзяўчыны, падміргнуў. Але яна спакойна, нават нахабнавата разглядвала яго.

— Вам, малады чалавек, што-небудзь трэба ад мяне? — нечакана спытала дзяўчына і абцягнула ніжэй на калені спадніцу.

— Ды вы што! — жартаўліва сказаў Яўген.— Толькі сумку забярыце.

Дзяўчыне, мусіць, спадабалася яго непасрэднасць, яна неяк разам уся страсянулася і акурат разбудзіла сябе ад сну: вусны набылі мяккую, жывую акрэсленасць.

— А ты зусім не будзеш джэнтльменам...— зрабіла паўзу, правяраючы Яўгена на самалюбства.

— Чаму гэта?

— ...калі не паможаш мне аднесці гэтую сумку дамоў.

— З задавальненнем. І вас адвяду,— сказаў Яўген зноў жартаўліва, ды адчуваючы, што нешта патаемнае, глухое, як даўні ўспамін, прыцягнула яго да дзяўчыны і што зараз вось разысціся з ёю не зможа, бо, калі гэта зробіць, будзе доўга думаць і перажываць, маўляў, сутыкнуўшыся з чэрствасцю, сам стаў абыякавы да людзей.

Дзяўчына паднялася і кіўком галавы паказала, куды ісці. Яўген, апынуўшыся ззаду, незнарок глянуў на дзяўчыну са спіны і зачапіўся позіркам за рукаў кофты, спешна, няроўна зацыраваны белымі ніткамі.

Ішлі моўчкі доўгі час. У трэшчыны асфальту набіўся пясок, шэрыя запалкі і шалупіны ад чорных сямак. Паўз бардзюр роўненька і лёгка бегла вада, фіялетава-вясёлкавая зверху, і знікала ў вузенькіх шчылінах рашоткі над каналізацыйным падвалам.

— Ты падазрона маўчыш,— сказала, нарэшце, дзяўчына і, забраўшы з яго рук сумку, ускінула раменьчык на сваё плячо.

— Ну... так атрымліваецца,— адказаў Яўген.

— Толькі не прыкідвайся цялём, калі ўжо вырашыў...

— Мне шкада вас,— сказаў Яўген, не хітруючы.

— Гэта мяне абражае, дарагі,— голас у дзяўчыны стаў сухаваты, як бы злосны.

— Што ж тут абразлівага? — здзівіўся Яўген. Дзяўчына павольным рухам адкінула з ілба валасы, падправіла іх каля вушэй, ды яны, мокрыя, мала параўнелі.

— Ты забываеш, што я ўсё-ткі жанчына, і ў любым выпадку мой гонар заяўляе пра сябе. У лю-бым.

— Хіба я мала ўважлівы?

— Зачэпка — гэта не ўвага... Вох, да чаго ж вы, мужчыны, напрактыкаваныя ў сваім эгаізме!

— Вы, мадам, памыляецеся,— Яўгена пачынала ўжо нерваваць няпэўнасць гаворкі і катэгарычнасць дзяўчыны. Ён адчуваў, што гавораць яны аб розным, ды яго чыстая, нават наіўная настроенасць не дазваляла зразумець да канца дзяўчыну. Лепш ні пра што ўсур'ёз не думаць і нічога не даказваць, іначай можа з'явіцца адказнасць перад ісцінай, якую абавязкова трэба выявіць і даць ёй жыццё. Бо пакідаць ісціну ў зародку, непраяўленай,— тое самае, што пакідаць чалавека ў бядзе: усё роўна церпіць чалавек. Так падумаўшы, Яўген ужо спакойна сказаў: — А хутчэй за ўсё, я блытаю вас. Прабачце.

— Давай не будзем,— шматзначна і нечакана бяскрыўдна сказала дзяўчына. У яе голасе, які ледзь задрыжаў, у вачах, што млява заблішчалі, і ў красамоўнай рухавасці з'явілася гуллівасць, тая ўсемагутная жаночая гуллівасць, якая змушае на легкадумнасць нават самага глыбокага флегматыка.— А калі будзем, дык давай... Так? — засмяялася.— Вунь, дарэчы, і мая хата.

Яўген убачыў трохі наўскасы ад тратуара цагляны трохпавярховы дом. Адно акно, на другім паверсе, было расчынена, і вецер выпнуў з яго на вуліцу шэрую гардзіну.

— Маё акно,— прачытала Яўгенавы думкі дзяўчына.

— Думаю, што дапамога ўжо не патрэбна? — спыніўся Яўген і глянуў на дзяўчыну.

— Не жартуй! — сказала яна такім голасам, якому не запярэчыш таму, што не захочаш псаваць субяседніку настрой. Не захочаш — і ўсё: бывае такое ў чалавеку, калі раптам, невядома чаму, востра заявіць пра сябе, прачнецца спагадлівасць.

На другі паверх вялі вышчарбленыя, патрэсканыя прыступкі з гладкай драўлянай парэнчаю пад левую руку. Дзверы, перад якімі спынілася дзяўчына, шукаючы ў сумцы ключ, не былі абітыя, як астатнія на гэтай пляцоўцы, чорным дэрмацінам.

У кватэры, нягледзячы на адчыненае акно, пахла тытунём і вісела незразумелая цяжкая затхласць — такая, што бывае зазвычай у рабочых інтэрнатах, дзе жывуць адны хлопцы. На падлозе ляжала просценькая і тонкая, як радно, посцілка. Туліўся да сцяны стол, каля яго стаялі два крэслы і жоўты буфет з некалькімі талеркамі за шклом. Нешырокая канапа была засланая выцвілым клятчастым пледам. На дзвярах у кухню Яўген убачыў прыліплую сухую галаву кількі.

Дзяўчына паказала Яўгену на крэсла, сама пайшла ў ванную, і было чуваць, як там шумела вада. Яўген сеў на крэсла, блізкае ад буфета, на вузкай сценцы якога была прымацавана кнопкамі невялікая рэпрадукцыя,— яна спачатку невыразна праплыла ў вачах, а потым позірк запыніўся на ёй: нешта знаёмае... І Яўген успомніў: «Мадонна Бенуа» Леанарда да Вінчы. Маладая маці гуляе з сынам, дае яму кветку з чатырма белымі, чыстымі пялёсткамі. Дзіця ўпершыню адкрывае свет, яно прагна і дапытліва глядзіць на кветку... А ў маці — столькі жывога святла на твары, пяшчоты ў руках. І гэты лоб, выпуклы і точаны, як з мармуру, нясе на сабе адбітак трывогі — за сына і яго будучыню. Хто з яго вырасце і кім ён стане, чалавек? «З чым, з чым сутыкнешся ў жыцці, раднулька мой, такім і станеш, тое і панясеш у сабе»,— здаецца, шэпчуць мацярынскія вусны. Бо ведае ж яна, дарослая, разумее, што не толькі кветкі ўсцілаюць дарогу чалавечага лёсу.

Яўгену, які, ступіўшы за парог чужой кватэры, адчуваў сябе скавана, раптам зрабілася ўтульна і светла тут, у гэтым незнаёмым, змрочным пакоі, акурат сама рэпрадукцыя струменіла магічнае святло, цяпло пяшчотнае і чыстае, што запаўняла і сагравала душу трапяткою і вечна няўтольнаю прагаю жыць, цешыц-

ца і людской дабратою, якой заўсёды не стае, і сонцам, і дзіцячымі галасамі, і гулам чмяля над кветкаю... Яўген дзівіўся, адкуль у ім такая чуллівасць. Няўжо сустрэча з «Мадоннаю Бенуа» прынесла такое ўзрушэнне?

Выйшла з ваннай дзяўчына. Села на канапу, трохі адхіліўшыся назад і абапіраючыся на адведзеныя за спіну рукі. Сіняк, што свяціў з-пад нізка напушчаных на вочы расчасаных валасоў, прыдаваў ёй пануры і замкнуты выгляд. Яна перасмыкнула плячыма і спытала як бы між іншым, але з жаданнем пачуць пэўны адказ:

— Ну, што будзем рабіць, малады чалавек?

Яўген, не адрываючы вачэй ад рэпрадукцыі, сказаў:

— Я зараз пайду...— і здзівіўся, што ў яго спакойны голас.

— Вось выдаў! — раптам з'едліва засмяялася дзяўчына, паказаўшы шчыльныя роўныя зубы.— Ты доўга думаў? Адсюль яшчэ ніводзін мужчына не выходзіў... так.

«А яна цынічная»,— падумаў Яўген, але не разгубіўся:

— Хіба гэта значыць, што ўсе мужчыны на адзін капыл?

— Яшчэ не хапала мне над гэтым ламаць галаву! Позна ўжо... Я хачу выпіць,— сказала яна як бы трохі з капрызам.— Звычайна, калі нават даходзіла і да такіх слоў, пасля я нічога не тлумачыла...— Дзяўчына пільна сачыла за Яўгенам, ён гэта адчуваў. На нейкае імгненне Яўген прыплюшчыў вочы, як бы паглыбляючы ўвагу да рэпрадукцыі, і крута павярнуўся да дзяўчыны.

— Я куплю табе,— стрымана, але цвёрда сказаў ён.

— Купі чаго-небудзь мацнейшага... Вох, як я стамілася!..— Дзяўчына адкінулася да сцяны — на правай назе, вышэй калена, выразна цямнела рудая і круглая, бы кнопка, радзімая пляма, і вакол яе рассыпаліся дробныя, што проса, кропачкі.— Я бачу, ты не схлусіш — прынясеш. Магазін... павернеш налева, пройдзеш два кварталы — і на рагу вуліц.

Яўген выйшаў з кватэры. Цяпер была поўная, птушыная свабода: куды хочаш — ідзі, неабавязкова вяр-

тацца да дзяўчыны. Вунь у парк Чэлюскінцаў можна з'ездзіць, павіражыць на «халі-галі». Ці паспытаць удачы на «лішні білецік» і паглядзець спектакль, што прывезлі маскоўскія артысты. Адным словам, забыць і на гаспадыню, і на сваю новую знаёмую. Але нешта, усё яшчэ незразумелае, схаванае і абазначанае ў душы толькі скрабінаю горычы, прымушала яго думаць пра дзяўчыну. А што? Можа, яе давер? Не, гэта пасля... Заўсёды патаемнае і нізкае спадзяванне на лёгкую асалоду? Не! У яго ёсць Ліда, чыстыя адносіны і якой ён ніколі не стане брудзіць. Дый не з тых ён, што бяздумна ідуць на знаёмства з жанчынамі. Ну, а што тады? Самому пакрыўджанаму, не хочацца крыўдзіць чалавека?

Ад думак, здавалася, распухла галава. І раптам на рагу вуліц ён убачыў пажылую жанчыну. Каля яе ног стаяла чорнае пластмасавае вядро, з якога тырчалі белыя і сінія астры. Жанчына прадавала кветкі. «А што, калі?..— Яўген прыпыніўся.— Так! Куплю ёй кветкі...» Ён падышоў няўпэўнена да кветачніцы і купіў букет астраў. Спачатку абрадаваўся, а потым засумняваўся: «Ці трэба? Можа, усё-ткі і бутэльку прыхапіць?». Ён разгубіўся. Неяк не сумяшчаліся гэтыя дзве пакупкі — бутэлька і кветкі.

Дзяўчына чакала яго на канапе. Глыбока ў зрэнках гарэлі іскрынкі.

— Я была ўпэўнена, што ты вернешся...— Дзяўчына апусціла галаву, мабыць, сіняк не даваў ёй адкрыта глядзець яму ў вочы.

— Чаму гэта? — здзівіўся Яўген.

— Прадчуванне.

— Ненадзейная рэч.

— Магчыма... Але мне нічога не застаецца, як толькі верыць яму, свайму прадчуванню. Людзям я ўжо не веру...— Дзяўчына паднялася з канапы.— Хадзем на кухню.

— А ў мяне кветкі,— разгублена сказаў Яўген.— Вось, калі ласка, кветкі...

— Што? — Дзяўчына сутаргава павярнулася.

— Кветкі...

— Навошта купіў? У мяне іх у самой хапае... бачыш, флоксы,— кіўнула на акно. На падаконніку ў высокенькай бляшанцы раслі флоксы са звялымі цёмнабураковымі кветкамі і цьмяным, тлустым лісцем.

— Нешта ж тваё полымя слаба шугае,— сказаў ён, аддаючы дзяўчыне букет.

— Якое «полымя»?

— «Флокс» у перакладзе з грэчаскай «полымя»,— сказаў ён і засаромеўся.

— А-а... Забываю паліваць.— Твар яе ўвачавідкі пасумнеў.— Ты што, не купіў бутэлькі?

— Не. Прабач...

— Дурань! — сказала яна і села на табурэтку. Калені яе дрыжалі.

— Не зневажай.

— Ну, дзіўны чалавек... што адно і тое ж,— сказала яна і, падняўшы руку, хацела нешта пацвердзіць жэстам, ды, перадумаўшы, апусціла яе на стол. Бачыў Яўген: дзяўчыне карціць нечым набалелым падзяліцца з ім.— Скажы, прычым тут кветкі? Мне патрэбна бутэлька ці шпрыц. Што, не зразумеў?

— Які шпрыц?

— Бачыш? — Яна рашуча закасала рукаў. Каля локця рука была сіняя, у дробных, як радзімкі на калене, кропачках.

— Наркаманка?

— Усё паспытала. Але трымаюся... Галюцынацый няма, але могуць зараз пачацца... У цябе няма хоць звычайнай цыгарэты.

— Не куру.

— Сапраўдны дзівак...— Голас у яе паглушэў.— Ты, мабыць, ніколі не ведаў гора?

— А хіба ёсць такі чалавек на зямлі?

— Ёсць. Шмат шчаслівых людзей. Часам мне здаецца, што ўсе людзі шчаслівыя, апроч мяне... Мяне ўвесь час жыццё сутыкае з жорсткасцю. Я не буду ўспамінаць дзяцінства. Любое дзяцінства... гэта ўсё-ткі блакітны сон. А вось... Эх, так хочацца закурыць!.. Ад тугі я зараз, мабыць, звар'яцею...— Яна вадзіла па стале пальцам — збірала хлебныя крошкі, хочучы іх скачаць у шарык, ды яны рассыпаліся.

— Я схаджу на вуліцу і папрашу ў каго-небудзь цыгарэту,— сказаў Яўген, са шкадаваннем гледзячы ў вочы дзяўчыне.

Яна доўга і з недаверам вывучала яго, спрабуючы зразумець, жартуе ён ці гаворыць усур'ёз.

— Схадзі...— сказала няпэўна, баючыся пачуць у адказ насмешку.

Цыгарэту Яўген папрасіў у міліцыянера, які стаяў непадалёк ад дома і некага чакаў; пры боку ў яго вісела партатыўная рацыя і з яе чуўся голас: «Дваццаць пяты! Дваццаць пяты!»

Яўген, вярнуўшыся, убачыў у руках у дзяўчыны каляровую фатаграфію.

— Гэта мой былы муж,— сказала дзяўчына і ўзяла ў Яўгена цыгарэту.— У мяне і зараз ідуць па целу дрыжыкі, калі ўспамінаю яго... Ужо з самага пачатку было відаць, што шлюб наш будзе няўдалы. Цяжка паверыць: якраз у дзень вяселля памёр мой бацька... яшчэ зусім малады, яму было толькі сорак сем гадоў. Стол з вясельнага стаў жалобным... Я млела перад бацькавай трунoю, а мой п'яны муж цягнуў мяне на ложак. Я помню, як ён балюча сціскаў маё плячо... Помню яго шырокія, як у вар'ята, зрэнкі. І потым, як жылі з ім, я часта цярпела ад яго моцных рук. А недзе я чытала — што жанчыну нельга біць нават кветкай... Ён быў дэспат, мой муж...— расказваючы, дзяўчына ні разу не глянула на фатаграфію. Вочы ў яе суха зіхацелі, і голас быў нежывы.— Я нікому ніколі не скардзілася... вось толькі табе.

— А дзе ён цяпер, ваш муж? — спытаў Яўген, пераводзячы позірк з дзяўчыны на фатаграфію, з якой глядзеў, нахабна ўсміхаючыся, малады прыгожы мужчына; маленькія, рудыя, як у мядзведзя, вочы яго таілі ў сабе злосць.

Дзяўчына раз за разам зацягвалася цыгарэтаю.

— Яго няма,— сказала яна трохі спагадзя.— Ён пайшоў ад мяне назаўсёды. Смерць яго была жудасная і неверагодная... Пра яе ведаю толькі я... і больш ніхто. Я не раскажу нават табе. Няхай гэта будзе маёй самай вялікай таямніцай. Я ўпэўнена: у кожнага чалавека ёсць свая вялікая таямніца, якую ён ніколі не раскрые людзям і якая памрэ разам з ім...— У дзяўчыны пачырванелі вочы.

«Яна зусім не простая»,— падумаў Яўген.

— Супакойцеся,— ён дакрануўся пальцамі да яе пляча — яна схамянулася і заморгала вейкамі.

— Навошта я тлумлю табе галаву? Дурніца я... Ты ўжо, мабыць, даўно чакаеш мяне...— Дзяўчына расплікнула на кофце гузік.

— Паверце, мне нічога ад вас не трэба. Мне шкада вас,— Яўген стаў на ногі і засмучана глянуў на дзяў-

чыну: у глыбокіх ямінах пад вачыма знайшла сабе прытулак шматдзённая стомленасць. На імгненне задумаўся, і каля правага брыва ў яго вастрэй залегла зморшчына.— Я проста пабуду з вамі... У мяне таксама цяжар на душы.

У дзяўчыны няцямліва і жорстка забегалі вочы, пальцы правай рукі згрэблі на каленях спадніцу, агаліўшы высока белую нагу з густым высевам радзімак. Яна падхапілася.

— Абрыдла цябе слухаць, смаркач!.. Прэч! Прэч, я сказала!

Яўген адступіўся да акна.

— Прабачце, я...

— Не хачу цябе слухаць! Прэч адсюль! Госпадзі, як вы ўсе мне абрыдлі...— Дзяўчына раптам абмякла, акурат усярэдку ў яе нешта зламалася, села на табурэтку і заплакала, прыкрываючы рукамі твар.

Яўген колькі часу стаяў у разгубленасці, потым падышоў да дзяўчыны, правёў далонню па яе валасах, нечакана мяккіх і пяшчотных, як у немаўляці.

— Супакойцеся... Прашу вас...— Ён узяў яе за плечы і адвёў на канапу. Дзяўчына ўвесь час не адымала ад вачэй рукі.

Са сценкі буфета глядзела на іх мадонна Бенуа, і ў яе вачах было столькі цяпла і шчасця, што, здавалася, іх хапіла б на ўвесь свет.

— Адпачніце, а я пайду,— сказаў Яўген ціха.

— Я не ведаю, жанаты ты ці не... гэта не важна,— сказала дзяўчына так, быццам ёй было ўсё роўна, але і чакала, каб ён сказаў, жанаты ці не.— Але ты добры чалавек. Я бачу... Ты першы, хто шчыра мне паспачуваў. Мяне ўсе прыніжалі, а ты... Дзякуй табе! — З дзявочых вачэй выплылі на шчокі буйныя слязіны.

Яўген стаяў белы з твару і не ведаў, што сказаць дзяўчыне. Ён глядзеў ёй у вочы, а бачыў тонкі, ледзь скрыўлены храсток пераносіцы.

— Я нічога не цямлю,— нарэшце прамовіў ён.— У мяне шуміць у галаве... Ты даруй мне! — Ён не заўважыў, як перайшоў на «ты». Узяў у свае далоні яе халодную руку, пацалаваў і выскачыў з кватэры.

Яна выбегла за ім следам. Трымаючыся за локаць і блізка прыхінаючыся, пайшла побач. Нешта мармытала, бязладнае і пустое.

Ён ішоў хутка. На іх дзівіліся людзі. Вунь, здаецца, і міліцыянер прыглядаецца да іх. Адзін высокі мужчына з прамой, нягнуткай нагою прабурчаў:

— Ад такіх во і дзеці калекамі нараджаюцца...

Дзяўчына спынілася; стаяла з выпрастанымі рукамі, быццам толькі што выпусціла з іх голуба.

— Скажы хоць, хто ты? Як цябе завуць?

— Завуць мяне Яўгенам. Працую ў вучылішчы... Майстар я, разумееш? — спяшаючыся, прамовіў Яўген.— Што яшчэ?

— Дзякуй табе!..— сказала дзяўчына прачулым голасам.

— Да пабачэння! — Ён павярнуўся і пайшоў. Доўга не мог прымусіць сябе азірнуцца. Нарэшце азірнуўся: дзяўчына глядзела яму ўслед. Яе вочы блішчалі здалёк як шкельцы.

У густым паветры сцены дамоў здаваліся чорнымі. На небе ніводнай зоркі. Зноў збіралася на дождж, ужо адчувалася тварам свежасць.

Спакой, роўнае цячэнне жыцця сённяшнім днём парушыліся, і Яўген адчуў сябе беспрытульным і разгубленым. На кватэру ехаць не хацелася: ведаў, там не зможа добра падумаць, гаспадыня абавязкова зачэпіць яго і сапсуе настрой.

Ён сеў у тралейбус, і тут жа лінуў дождж. Кроплі глуха забарабанілі ў вокны, крывымі шнуркамі пацяклі ўніз.

«Ліда, Ліда, чаму ты не побач? — ледзь не шаптаў ён.— З табой бы я ні пра што не думаў, і мне было б проста і лёгка. А што мне рабіць аднаму?»

Згушчаўся змрок і станавіўся лілова-сіні. Асфальт раздрана пераліваўся густым святлом ад ліхтароў. Тралейбус абганялі легкавушкі, і лямпачкі стоп-сігналаў праз мокрыя вокны расплываліся чырвонымі лужынкамі.



# КРЫЎДА

Валодзьку напалохаў блізкі трэск матацыкла.

«Няўжо ён?»

«Ён» — так цяпер называе Валодзька дзядзьку Сямёна. Затойваючы дыханне, ён чакаў, дзе абарвецца трэск. Калі насупроць хаты, тады — «ён», панясецца далей — нехта чужы.

Каля хаты матацыкл гучна «стрэліў» — стала ціха. Валодзька заплюшчыў вочы: «Ён!..» Здалося, быццам за каўнер кінулі хрушча, лапкі якога казытліва задрапалі па скуры.

З двара, голасна пераклікаючыся, сыпнулі дзеці. Раней, хоць і апошні, Валодзька таксама выбягаў разам з імі. Учапіцца рукамі за шыю дзядзькі Сямёна яму ўжо не выпадала, але ўсё роўна ён цёрся, як кот, каля дзядзькавых ног, што заўсёды пахлі бензінам.

Валодзька выглянуў з-за вугла: дзядзька Сямён стаяў сярод дзяцей, не смяяўся, як у мінулыя разы, не прысядаў на кукішкі, каб быць нароўні з дзіцячымі тварамі, адно лыпаў вачыма па баках. Потым узяў на рукі Віціка («Знайшоў каго — самага бальшуна!»), пра нешта папытаўся. Той махнуў рукою ў Валодзькаў бок, на агарод.

Валодзька мячыкам адскочыў ад вугла. Расхінаючы высокі бульбоўнік, пашыўся глыбей у сад. За кустом парэчак стаіўся, як цецеручаня ў верасе. Бурыя, недаспелыя ягады востра духмянілі. Каб не чмыхнуць, ён прыкрыў далонню рот.

Валодзька чуў, як ляпнулі на агарод веснічкі, і яго пазвала бабка Надзя. Спачатку ціха гукнула: «Валодзя-я-а...» — потым крыкнула мацней: «Валодзька! Дзе там прапаў?»

Ён не азваўся, і яна, крыху счакаўшы, пайшла ў хату, нязлосна мармычучы нешта пад нос. Відаць, ушчувала яго, унука, што, не спытаўшыся, збег на канаву. А што, і збяжыць, калі на тое пайшло. Гэта ж «ён» загадаў бабцы Надзі, каб прыняла Валодзьку.

Дзядзька Сямён мыкнуўся насустрач бабцы Надзі, са шкадаваннем зіркнуў на яе распасцёртыя кашчавыя рукі, якія сказалі яму: «Мусіць, на канаве ці на выгане. Во-во ж быў на агародзе».

Калі Валодзька не заявіцца да самага ад'езду, дзядзька Сямён пакіне яму гасцінец, самы лепшы, і строга накажа дзецям, каб не бралі, бо гэта — Валодзьку. А сам будзе хадзіць па хаце, рыпаць масніцамі і раз-пораз шумна ўздыхаць.

«Ну і няхай,— падумаў Валодзька.— Няхай перажывае, няхай будзе балюча яму. Не трэба мне яго гасцінец...» Сэрца ў Валодзькі застукала, як у злоўленага вераб'я, што надоечы вылецеў з падаконня, і Валодзька ледзь выхапіў яго з кіпцюроў ката Маўмыры: а раптам дзядзька Сямён сам выйдзе на агарод, будзе шукаць яго і знойдзе. Валодзька папоўз па цёплай і пыльнай баразне ўздоўж пазелянелага частаколу да дзіркі — тайнага хода на выган, адкуль заўсёды цягнула ў вёску сырасцю, і таму нават пры слабым замаразку чарнеў на сядзібах бульбоўнік. Бабка Надзя не пускала туды Валодзьку, гаварыла, што там «ёдка і можна застудзіцца».

* * *

Дзядзька Сямён жыў адзін у горадзе, рабіў мулярам. Час ад часу наязджаў у вёску — «к дарагой цешчы», як ён сказаў аднойчы, калі быў на падпітку. Яго жонка, цётка Анюта, гады чатыры назад захварэла і памерла, так і не нарадзіўшы ніводнага дзіцяці. Дзядзьку Сямёна заўсёды з нецярпеннем і радасцю чакалі малыя дзеці, якіх назвозілі бабцы Надзі дочкі: ён частаваў іх цукеркамі ў каляровых абгортках, пячэннем і нават шакаладкамі.

Апошнім часам Валодзька пачаў заўважаць, што

і маці яго радуецца дзядзьку Сямёну. А сам Валодзька любіў яго, бадай, як ніхто. Бо ў яго, Валодзькі, няма бацькі (утапіўся, калі Валодзьку было ўсяго два месяцы), а яму так падабаецца церціся аб шорсткую, як тарка, шчаку дзядзькі Сямёна. І яшчэ — дакранацца да халоднай дзюбачкі вострага дзядзькавага носа. Валодзька бачыў, што дзядзька Сямён часцей і ахвотней забаўляўся з ім, чым з астатнімі дзецьмі. Нікога да матацыкла нават блізка не падпускаў, а яго пракаціў да шашы — туды і назад. Праўда, Віцік абсмяяў Валодзьку: «Катака з цябе! Зарумзаў ад страху». А ён і не думаў плакаць. Гэта ж яны так хутка мчаліся, што ажно слёзы выступілі на вачах.

Калі прыязджаў дзядзька Сямён, Валодзька кідаў усе свае забавы. Аднаго разу так разгуляўся з ім, што, ледзь не плачучы, пачаў прасіць-маліць дзядзьку Сямёна, каб астаўся ў іх назаўсёды. Дзядзька Сямён аднекваўся, як мог, і Валодзька папрасіў маці, самага надзейнага і блізкага чалавека, каб дапамагла яму, угаварыла дзядзьку Сямёна.

Маці, з загарэлым тварам і чорнымі, як вішні, вачыма, здаецца, яшчэ больш пацямнела і неяк сарамліва заўсміхалася:

— Дык што, сабе хочаш забраць дзядзьку Сямёна? Ну, добра, яшчэ раз адпусцім яго. А зноў прыедзе — няхай астаецца ў нас, так?

Валодзька радасна заківаў стрыжанай галавою і чубком-грыўкаю над ілбом, і ўхапіўшыся рукою за цвёрдыя і тоўстыя пальцы дзядзькі Сямёна, правёў яго да матацыкла.

Пасля гэтага дзядзька Сямён пачаў часцей бываць у іх і нават начаваць. Валодзька аднаго разу чуў, як яны размаўлялі з маці ўначы. Але раптам задажджыла, густыя ліўні расквасілі дарогу, і дзядзька доўга не прыязджаў. Валодзька не ведаў, за што ўзяцца, куды пайсці, і вельмі сумаваў. І хоць ён любіў гэтыя іскрыстыя дажджы, пасля якіх прыемна пахла і налівалася сакавітасцю зелень, а вуліца вабіла цёплымі, з белаю пенаю па краях лужынамі, яму хацелася вырасціць вялізнае-вялізнае, пад самае неба, дрэва, якое б магло затрымаць дажджы сваім кашлатым лісцём.

Ён пасадзіў некалькі ліпак паўз мяжу, у канцы агарода, і кожны дзень паліваў іх, хоць і далёка было хадзіць па ваду — аж на канаву, што за выганам. Балазе,

каб паліць саджанцы, хапала вядра, і яго за два разы не так ужо цяжка прынесці.

Ды ліпкі ўсё роўна слаба раслі, і лісцікі на іх былі маленькія, пакамечаныя, быццам на іх нехта пасядзеў, жоўта-зялёнага колеру. Тады Валодзька вырашыў зрабіць усё так, як там, на ўзлеску, адкуль ён прынёс гэтыя ліпкі. Ён навыкопваў каля канавы ўсякага зелля і перасадзіў на сваю градку, пад ліпкі. Паліваў цяпер свае саджанцы і зелле раніцаю і ўвечары.

Блізкім часам дрэўцы падужэлі, ажылі, раніцаю на лісціках ззялі кропелькі расы. Валодзькавай радасці не было мяжы. Шчасліва сцішаны, ён глядзеў на кропелькі, якія ў промнях ранішняга сонца пераліваліся ўсімі колерамі, быццам пупышка таго зіхоткага абадка, які бачыў Валодзька на пальцы ў доктаркі цёткі Лізы, што прыходзіла да іх, калі ў яго балела горла.

Цэлы дзень Валодзька бавіўся каля свайго, як казала бабка Надзя, «пітоўніка», адганяў курэй-назол. І, калі Валодзьку гукалі есці, неахвотна, спатыкаючыся, ішоў у хату. Яму думалася, што за гэты час, пакуль яго не будзе, куры абавязкова здратуюць ягоную градку, сашчыкнуць на ліпках лісце і ён не зможа тады суняць сваё гора. А так хочацца яму, Валодзьку, каб ліпкі вымахалі да неба, акрылі зямлю як гіганцкі парасон.

* * *

У той пачатак душнавата-млявага мая бабка Надзя і маці ўхадзіліся па гаспадарцы рана. Раскатурхалі Валодзьку (звычайна ён уставаў сам), каб ішоў снедаць. Ён шустра скочыў з ложка, выбег на двор да рукамыйніка, спаласнуў твар сцюдзёнай вадою і нават пакалупаў пальцам у вушах — «каб не было дзе рэпу сеяць».

Маці ператрасала ў качарэжніку старыя пыльныя мяшкі. Бабка Надзя заплятала свежым луццем дзіркі ў кошыку.

Яны збіраліся садзіць бульбу.

Прыехаў на матацыкле дзядзька Сямён, вясёлы, усмешліва-радасны. Даў Валодзьку шакаладку, паляпаў па плячы, сказаў: «Ну, як ты тут, лесавік?» — і заспяшаўся запрагаць каня. Валодзьку здалося, што

дзядзька Сямён гэты раз паляпаў яго неяк грубавата, непрыязна. Ён нават паторгаў плячом, ці баліць.

Спачатку садзілі бульбу на агародзе. Куры белай чарадою дружна высыпалі на свежае ворыва і дзёўбалі на ім тоўстых, як круглякі, чарвякоў. Са шпакоўняў пазляталі шпакі, скакалі па баразне, з асцярогаю паглядваючы на курэй.

Дзядзька Сямён ледзь паспяваў за плугам, хадзіў улукаткі, ступаючы то ў баразну, то на ворыва. Валодзьку не даверылі кошыка, і ён бегаў услед за дзядзькам Сямёнам, адчуваючы голымі падэшвамі прыемна-ліпкаватую і халодную, як увосень, зямлю.

— Не ўтоптвай! — апыніла маці Валодзьку.— Лепш вунь па хлеб збегай у краму. Можа, адчынена ўжо. А то на вячэру не будзе.

Валодзька заўсёды з ахвотаю ішоў у магазін, бо кожны раз пасля «абавязковай» пакупкі аставалася рэшта, і ён купляў на яе салодкія пернікі. Перш чым з'есці, доўга любаваўся на іх, у абрысах угадваючы то лісу, то зайца, то вавёрку...

* * *

Валодзькі доўга не было з магазіна. Ужо сабраліся ехаць на соткі, за канаву, і чакалі яго, каб наказаць, што не трэба адлучацца з двара. Конь з пачарнелымі ад поту бакамі лена хрупаў каля пуні падапрэлае, з днішча, сена, махаючыся ад надаедлівых, згаладалых за зіму мух кароткім, падрэзаным хвастом. Дзядзька Сямён сядзеў на бярозавым цурбаку спінаю да сцяны і адпачываў, палажыўшы на калені набрынялыя стомаю рукі.

— Глядзі ж, сын, хату,— сустрэла Валодзьку маці, трымаючы на сагнутай у локці руцэ пусты кошык.— А мы паедзем на канаву. Калі захочаш есці, дык шукай сам у судніку. Смятану бяры, малако з пернікамі еш. Нам няма калі.

— Добра,— згадзіўся Валодзька, і вочы яго міжволі напоўніліся сумам, які агортвае паслухмяных дзяцей, калі ім забараняюць рабіць тое, што яны хочуць. На канаве — столькі цікавага! У вадзе жабкі, трытоны, апалонікі. Растуць каля берага гарлачыкі, пухоўкі. Танцуюць у паветры мошкі і камары, над імі кру-

жацца стракозы. На рагаціне, што тырчыць з вады, заўсёды сядзіць пеначка і ценькае.

Валодзька панёс хлеб у хату. Там не забавіўся, перакусіў і выйшаў на агарод.

Хвілін колькі стаяў, як аглушаны, з вялікімі нерухомымі вачыма. Такім здранцвелым ён помніць сябе ў сне, калі ляцеў у глыбозную, як неба, яміну і ўсё чакаў, калі ўдарыцца ў дно...

Які жах!.. Ад яго градкі астаўся маленькі куточак з адною ліпкаю. Астатнія былі завораны разам з калкамі.

Слёзы сціснулі Валодзьку горла, і сэрцу стала цесна ў грудзях. Светлыя, як раса, кропелькі пасыпаліся цурком з яго вачэй. Ён глянуў на шпакоўні, але ўбачыў толькі цёмныя плямы і, рэзка крутнуўшыся, панёсся да канавы. Бег без пярэдыху, збіваючы аб каменні і патарчакі ногі.

Маці здалёк заўважыла сына. Выпусціўшы з рук кошык, трывожна-напятая, чакала, пакуль Валодзька прыбяжыць. Дзядзька Сямён таксама спыніў каня, заторкаў пугаўём у лямеш — счышчаў зямлю. Бабка Надзя паднесла да лба дрыготкую руку і жмурыла свае падслепаватыя вочы.

Валодзька, не дабегшы крокаў пяць, спыніўся. Чубок-грыўка раскудлаціўся, вочы гарэлі. Ён часта дыхаў і не мог вымавіць слова, адно аблізваў сухія вусны ды каўтаў сліну.

— Што з табою, сынок? — Маці кінулася да Валодзькі, укленчыўшы, абняла яго.

— Не чапай мяне!..— Валодзькаў позірк, як кіпцюрык, учапіўся ў дзядзьку Сямёна.— Гэта ён! Ён зрабіў!..

— Што, што такое? — Дзядзька Сямён разагнуўся, паляпаў крыж-накрыж далонямі, выцер іх аб штаны і звыкла выпрастаў рукі насустрач Валодзьку.— Ну-тка раскажы мне.

— Ты нядобры! Не хачу з табою! Гэта ты...— Кулачкі ў Валодзькі сціскаліся, быццам ён рыхтаваўся да бойкі.

— А-а-а, гадавальнік твой. Так бы і сказаў,— рукі ў дзядзькі Сямёна апусціліся, акурат дасюль ён трымаў, узважваў на іх цяжар Валодзькавых пакут.— Лухта гэта. Няма з-за чаго тут убівацца.

— Не трэба ты мне!.. І матацыкл мне твой не трэба, і цукеркі не трэба.

— Ну, даёш, казак! А яшчэ ў школу збіраешся. Хто ж цябе возьме такога плаксу?

— Ты злы, ты заараў... Не прыязджай больш да нас!..

— Валодзя, хіба ж так можна, га? — Маці тузанула Валодзьку за руку.— Дзядзька ж Сямён добры. Бачыш, ён нам бульбу падсабляе садзіць.

— Не люблю яго! І шчаку яго не люблю, і нос не люблю. І самога!..— Валодзька крутнуўся і хуткімі крокамі пайшоў прэч.

— І чаго так уз'еўся малы? — няўцямна паціснуў плячыма дзядзька Сямён.

— Няхай бы ўжо расла тая забава яго, калі расплакаўся так. Усё адно ніякага наеду з той бульбы. Адтопчуць баразну паўз мяжу,— няпэўна прамовіла бабка Надзя, дасыпаючы кошык бульбаю.

Маці прамаўчала.

Валодзька ўскараскаўся на гарышча хаты, прысланіўся там спінаю да халоднага няроўнага, у гузаках гліны, коміна і хліпаў носам, як быццам кашляў стары дзед слабымі і застуджанымі грудзямі, пакуль, знямогшыся, не заснуў.

Ачнуўся пад вечар. У праём франтона ліўся празрысты, сіняваты паўзмрок, які сваім колерам нагадаў Валодзьку лёд, што закоўвае ўзімку канаву. І бледныя зоркі здаліся Валодзьку тымі «капеечкамі», умерзлымі ў лёд, якія ён некалі адчайна выкалупваў, але там аказвалася пустата.

Знізу, з сянец, далятала гаворка. Размаўлялі бабка Надзя і маці. Відаць, шукалі яго, Валодзьку. Не, ён не злезе адсюль, не пакажацца. Будзе сядзець тут усю ноч, і яшчэ, і яшчэ — «колькі на руцэ пальцаў», пакуль не забудзецца на ліпкі. Валодзьку зноў зрабілася крыўдна і балюча, на вочы цёпла наплылі слёзы.

* * *

...Валодзька адхінуў убок дзве частаколіны, адбітыя ад ніжняй жэрдкі, і палез у тайны ход. Няхай

цяпер шукае яго дзядзька Сямён. А ён не прыйдзе дахаты, наўмысна, пакуль не паедзе ў горад той мёрзлы нос на калючым твары. І цукеркі няхай забірае, і шакаладкі — усё, Валодзька нават не дакранецца да іх. Цукеркі яго ні разу не прысніў, а кропелькі расы на лісці кожную ноч сняцца яму.

Валодзька выскачыў на мяжу, абапал якой ліловабелымі зорачкамі цвіла бульба, і шпарка паляцеў па ёй. Па збітых каленях балюча сцёбала калянае націнне, ды Валодзька не адчуваў болю.



# КАРАБЕЙКА

Вецер падняў пад страхою сухі, некалі вымыты дажджом пясок, хвастануў па шыбах, і Карабейка, які прылёг па абедзе на ложак, пачуў дробненькі, імглісты шум. Ён глянуў у акно: куст бэзу, быццам прылізаны, хіліўся на вуліцу, павярнуўшы лісце ніцым белаватым бокам.

З раніцы вецер дзьмуў упоперак вуліцы, цяпер браўся наўсцяж. Улетку, асабліва ў пахмурныя дні, прымеціў Карабейка, вецер часта мяняе накірункі, і адна і тая ж хмара можа раз і другі выплакацца над вёскаю. Падобна, што ўрэшце нацягне на дождж. Няхай бы ўліў, трэба акучыць бульбу, а зямля сухая, што прысак. Карабейка ўявіў, як нячутна плыве акучнік, без супраціўлення, быццам па лёгкім, птушыным пуху, і едкі пыл пудрыць вялае, ужо і так бледнае лісце бульбоўніку, на якім ярка блішчаць толькі каларадскія жукі. Халера, нічога іх не бярэ!.. Жонка, Ксеня, штодня ходзіць на сядзібу, збірае жукоў у вядро з бензінам. І цяпер пайшла, як яны жартуюць, «у ягады», а ён улучыў гэтую часінку, каб прыкархнуць, сабраць у спакоі думкі, у нешта пэўнае іх звязаць, не даўшы расцекціся за тую мяжу, дзе розум і душа не ў стане трымаць напор пачуццяў...

Усё жыццё ён некуды імкнуўся, гнаўся за ўдачаю, ці што, але і цяпер не ведае, што за яна, удача гэтая. Часта быў зусім блізка каля яе, ужо разводзіў шырока рукі, каб абняць сваю ўдачу, і ў гэты момант якраз

яна, як капрызная дзеўка, адварочвалася ад яго, і ён нейкі момант з жахам і неўразуменнем глядзеў на свае пустыя рукі.

Да вайны яшчэ, скончыўшы школу, надумалі з сябрам, Сашкам Люшчэнем, паступаць на мастакоў — даляцела да іх Малінаўкі чутка, што ў Віцебску на іх можна вывучыцца. Яго, Карабейкаў, бацька завёз іх на кані ў Прапойск, сказаў: «Далей глядзіце самі, не маленькія...» — і адвярнуўся, хаваючы вочы. Як ішлі, дабіраліся да Віцебска — адзін бог сведка: начавалі ў лесе і, як шчасце, у гумнах, пяклі на агні грыбы, збіралі птушыныя яйкі. Сасмяглыя, абарваныя — жабракі жабракамі — заявіліся на экзамены. Ён паступіў, а Сашку Люшчэню не прынялі: у даведцы, якую выдаў яму старшыня сельсавета, значылася, што яго бацьку раскулачвалі. І ён, Карабейка, адзін астаўся, хоць Сашка і ўгаворваў яго вучыцца: маўляў, быць не можа, здымуць усякія абмежаванні, і ён паступіць, можа, нават налета. Але хіба сябар уставіць мазгі, бацькава папруга яшчэ магла б, але яна, хоць і доўгая, не дастане — вельмі ж далёка. Страшэнна хацелася есці. Пайшлі шукаць базар, там заўсёды можна нечым пажывіцца, нават жа вераб'і ляцяць туды. Насустрач ім маршыравалі дзяўчаты ў чырвоных касынках і спявалі.

Базар называўся «Полацкі». Пад стрэшкаю на нізкім услончыку сядзеў рыжабароды мужчына, на ім вісеў цыратовы запырсканы крывёю фартух. Бабы ў шырокіх спадніцах, стоячы ў чарзе, давалі яму курэй, якім мужчына адсякаў нажом галовы і вешаў на калкі. Рыпелі калёсы — здаравенны біцюг з мяшком на галаве цягнуў буданчык, на якім было напісана белай фарбаю: ХЛЕБ. Яны пайшлі ўслед за ім. У невялікай цаглянай крамцы прадавалі хлеб. Яны купілі буханку і тут жа, сеўшы на запыленую траву, запіхалі яе ў свае жываты. Весялей глянулі на свет, нават заманулася праехаць на трамваі — дзіва, дый годзе! — бачылі, ззаду на буфер чапляюцца хлапчукі; калі падыходзіць праваднік, скачуць убакі, як зайцы. Пракаталіся да вечара. Начаваць прыбіліся на вакзал. А раніцаю горад страсянуў выбух, там-сям ажно ў дамах вылецела шкло. Між людзей пацёк трывожны шэпт: «Узарвалі Успенскі сабор...» Што ім да нейкага сабора, калі самі разбітыя, стомленыя, разгубленыя...

Потым — вайна... Шанцунак не шанцунак, але пісарам палка быць не тое што ў акопе. Праўда, ад кулі не ўбярогся, кулі небяспечнай, бязлітаснай — снайперскай, але смерць яна не прынесла, а толькі перабіла руку. Качаўся па шпіталях, і яшчэ раз смертухна прылятала па яго душу, мабыць, не ўсе рахункі з ім звяла, але выпадак (можа, адзін на мільён) выратаваў: снарад, прабіўшы столь у зямлянцы, удзяўбнуўся ў дол, але не ўзарваўся. Крыкі, стогн, мальба параненых... Хто мог, поўз на выхад, некаторых цягнулі медсёстры, і ўсе чакалі, лічылі секунды, калі рване снарад — і наступіць небыццё. Не рвануў — не наступіла.

Вайна яшчэ грымела, а ён, дэмабілізаваны, настаўнічаў у Джамбуле. Хадзіў па цесных вулачках, на якіх і засені хмелю чырвонымі чарапічнымі дахамі выглядвалі ўтульныя мураваныя домікі, і туга назубленым сярпом грызла яму сэрца. Не таму, што рука скалечаная, а таму, што неяк цяжка было згадзіцца, знайсці апраўданне, што крывёю заслужыў, маеш права адседжвацца тут, калі на фронце гінуць людзі. Тыя два гады ад ранення да перамогі былі для яго часам вялікіх душэўных пакут...

Пісьменнага (скончыў педвучылішча), пасля вайны яго паставілі старшынёю калгаса. Не сядзеў, стараўся, рваў жылы, і тую, перасечаную снайперскай куляю. Трэба сеяць — клунак жыта ці аўса на плечы і на поле; у касавіцу касу ў рукі і, калéкуючы, станавіўся ў адзін цуг з усімі. І той бяды, што — начальнік, старшыня. У працы душа святлела, выпроствалася, як травіна пасля бота, чорны боль выцякаў з яе, а замест яго нябачна ўлівалася радасць — жыць, любіць хацелася! Зямлю, народ, жанчыну... І прыйшла гэтая любоў, прыйшло каханне. Канцэрт у клубе ставілі, і дзяўчына адна, з суседняга раёна, так ужо выводзіла «дубо-о-очак зялё-ё-ёненькі-і-і, Іванка мало-о-одзенькі!», што сэрца апала, затрымцела... Начакаў выпадак, пазнаёміўся: Ксеня звалі пявунню. «Божа літасцівы!..— думаў ён тады, седзячы на лавачцы пад малочнай навіссю бэзу побач з Ксеняю.— Чым жа я перад табою выслужыўся, што ты адваліў мне гэтулькі шчасця? Як панесці яго, распарадзіцца, не захлынуцца?»

Малады, наіўны, дурны быў... Не ведаў, не перакануўся яшчэ, што ненадзейная, нясвойская гэтая птушка — шчасце. Прысела да цябе, прыгрэла сваімі пёрка-

мі — сэрца разлілося тваё салодкім морам, а птушачка пырх — і паляцела за тое мора шукаць іншага. Ехала вяселле з яго Малінаўкі да нявесты, лесам ехала, па карэнні і калдобінах. Шчупянуўся ён, лапнуў па кішэні — няма пісталета.Ываліўся ці, можа, нехта выцягнуў. Дзе ўжо там было да вяселля, да нявесты. Два дні хадзіў як аглушаны, учарнелы, сваты нават падумалі, што нешта разладзілася ў маладых, а потым пайшоў у райком партыі і прызнаўся. Мабыць, далёка не горшае пакаранне панёс ён — знялі са старшынь,— але ўсё роўна гэта была трагедыя. Доўга дапытваліся, цягалі, «капáлі» — дзе быў, што рабіў у вайну, чаму тыя два гады не ваяваў, хоць усё ж было відаць з дакументаў, нават на пэўны час трапіў у лік «падазроных».

І так заўсёды: за нечым гнаўся, да нечага імкнуўся, у нешта верыў, а потым усё гэта адным махам перакрэслівалася, і трэба было зноў пачынаць спачатку, з тою ж, калі не з большаю упэўненасцю, што нарэшце...

Стаміўся... Стаміўся ад жыцця. Гады ўжо не тыя, не маладзён, калі суцяшаць можна: усё добрае, прыемнае яшчэ наперадзе. У пятнаццаць гадоў — наперадзе, у дваццаць — наперадзе, у трыццаць — наперадзе, і ў сорак — яшчэ наперадзе... А калі табе пад семдзесят, то на што спадзявацца?

Можа, гэта і ёсць той узрост, калі выспела, нарвала ў тваім сэрцы праўда, вывераная не адным дзесяткам гадоў, адшліфаваная не адной наждачкаю нягод і памылак? Зноў-такі, хто ведае, хто пацвердзіць, што ён па правілах жыў. Хто даў яму, Івану Карабейку, права судзіць тое, што з ім было, што балюча ўкруціла яго, як сноп у малатарню?

* * *

...Калі Карабейка ачнуўся, сэрца гулка стукала ў грудзях, твар абрасіўся потам. З такою натугаю і адчаем падымаў ён са сховаў памяці цяжар сваёй долі. Рука замлела, быццам тыя пясчынкі, якімі вецер ударыў у шкло, уплішчыліся яму ў скуру і цяпер пакалвалі.

Стукнулі весніцы ў двор. Нехта ішоў. Мабыць, жонка — доўга не адчыняліся дзверы сянец — панесла на

агарод за лазню вядро з жукамі. Там, каб не смярдзела, яно заўсёды стаіць у кусце піжмы.

Карабейка ўстаў. Павяло галаву, як бы хто пацягнуў за валасы, ледзь устояў на нагах. Заплюшчыў вочы — і быццам закружыў яго вецер, панёс... Баючыся, што ўпадзе, скоранька адплюшчыў вочы. Во, цяпер, здаецца, дзебялей чуюцца ногі.

Выйшаў на двор. І Ксеня была ўжо якраз там. Ён убачыў, што яна засмучаная: не падымала вачэй, вусны перасохлі, у маршчынах чорнымі нітачкамі засеў пыл.

— Трэба нешта рабіць з бульбаю,— сказала яна надрыўным голасам, мабыць, толькі пра гэта і думала, пералівала. Баба і ёсць баба.

— Жукі?

— І жукі, і акучыць трэба.

— Дык няхай бы дождж прайшоў,— сказаў ён, каб супакоіць жонку, растлумачыць ёй, чаму не варушыцца, не клапоціцца.

— Ці дачакаешся таго дажджу?

— Хмарыць жа во... і прыпякае.

Жонка села на калоду пад хату, у цянёк, сказала незадаволена:

— Пройдзе, дык добра будзе, але трэба дамаўляцца пра каня.

— Ісці к Лявону?

Карабейка ва ўсякіх гаспадарчых справах (сена, дровы, бульба) лічыўся з жончынай думкаю, а можа, нават і аддаваў ёй перавагу. Здаецца, не меў ён ад прыроды кемлівасці, спрыту, каб весці ўласную гаспадарку, і калі раней гэта неяк сыходзіла з рук, то цяперашняе жыццё гэтую слабінку яго ніяк не хацела прымаць, не тое што плаціць за яе. Гэта яму страшэнна абрыдла, сасмурыжыла нервы, але ён не мог нічога з сабою зрабіць і проста дзівіўся, як гэта жонка яшчэ трывае, не папракае яго. Хоць яны, гаспадарка іх увесь час ад гэтага церпяць. Вось нядаўна раздавалі хларафос — іх абмінулі. Брыгадзірка каго ведала, хто ходзіць на працу ў калгас, запісала. А іх быццам і няма, і бульба ім не трэба, і дзеці не чакаюць у горадзе кумпяка. Праўда, што на «дзяўчонку» гэту, брыгадзірку, крыўдаваць. Другі месяц яна тут, у Малінаўцы. Толік Люшчэнеў, вярнуўшыся з арміі, прывёз яе аднекуль з-пад Горкага. Раней на пасаду брыгадзіра выбіралі аўтары-

тэтнага, талковага чалавека, цяпер ставяць абы-каго, каму няма чаго рабіць, хто ні на што не здатны.

— Схадзі,— сказала жонка.

Карабейка, каб не расслабляцца, не сеяць у душы сумненні, тут жа і пайшоў да Лявона, конюха. Лявон Запека жыў на самым канцы вёскі, засяліўся гадоў сем назад у хату малінаўскага шаўца Тараса Мецікава, які памёр, а жонка яго паехала жыць у Магілёў да сына. Свае родныя Кульмічы на Малінаўку Запека памяняў з-за жонкі. Яна ў яго настаўніца, працавала разам з Карабейкам у Малінаўскай школе. Маладзейшая была, ездзіла на веласіпедзе, зімою, у самыя снежныя і марозныя месяцы, кватаравала. З гадамі ёй станавілася цяжэй і цяжэй адольваць тыя шэсць кіламетраў лясной дарогі між Кульмічамі і Малінаўкаю. Лявон, як ні балюча яму было абсякаць дзедаўскія карані, не змог пайсці насуперак жаданню жонкі-інтэлігенткі.

Лявон быў дома. Плёў на верандзе, якую ўжо сам прыбудаваў да хаты, пяньковыя путы. Ён быў у сіняй, спалавелай на плячах кашулі, у гумавых ботах. Плячысты, худы, смуглатвары, толькі лысіна белая, як блін, і валасы, што асталіся на скронях і на патыліцы, ссівелі да жаўцізны. Лявон увесь час насіў цёмны картуз, і калі здалёку глядзець на яго са спіны, здавалася, што на шыі светлы шалік.

— Каня прыйшоў,— адразу сказаў, павітаўшыся за руку з Лявонам, Карабейка.

— Садзіся,— паказаў Лявон на канапу, каля якой стаяў нізкі столік, застаўлены слоікамі і бутэлькамі. Тут жа адчыніліся дзверы, і з хаты выглянула сама гаспадыня — у чырвонай кофце з закасанымі рукавамі, з лёгкаю блакітнаю хустачкаю на галаве.

— Добры дзень, Таццяна Ігнатаўна! — Карабейка прыпадняўся з канапы. Ён паважаў Таццяну Ігнатаўну, яны ладзілі між сабою, калі працавалі ў школе. Здаецца, кожны з кожным перасварыўся, а вось яны захавалі міралюбныя адносіны, прычыну якіх, як ні дзіўна, нельга было выявіць. Бывае такое: людзі знаходзяць адзін у аднаго нешта блізкае сабе, пра гэта не гавораць, але носяць у сэрцы прыязнасць; часцей за ўсё гэта людзі прыстойныя.

— Дай, дай Івану Дзмітрыевічу каня,— лагодна сказала гаспадыня. Голас у яе быў мяккі настолькі,

што часам, асабліва пад час хвалявання, зрываўся на прыемную хрыпату.

— Ці я ж імі распараджаюся! — засмяяўся Лявон, і пад сіняй кашуляю, здаецца, закалыхалася ўсё яго цела.— Раней было... А цяпер старшыня строга-настрага загадаў: «Никакого произвола». І брыгадзірцы, нявестцы Люшчэневай, забараніў... Колькі гэтых коней, кажа, і тых зацягаеце.

— Дык што, да яго трэба? — спытаў Карабейка, адчуваючы ў душы раздражненне невядома на каго.

— А няхай возьме,— хрыплаватым голасам сказала Таццяна Ігнатаўна,— можа, як-небудзь...

— Мне што... я...— патузаў плячыма Лявон — адзін канец пута, сплецены, ён прыціскаў локцем да боку, ззаду тырчэў хвосцік.

— Ды навошта! — запярэчыў Карабейка.— Я ніколі не парушаў парадку... праўда, Таццяна Ігнатаўна? Заўсёды рабіў тое, што патрабавалі. Схаджу і цяпер да старшыні...

Ён хуценька падняўся і неяк бокам, няўпэўнена, як баючыся крысом пінжака скінуць са стала слоік ці бутэльку, выйшаў з веранды.

Хмары на небе пагусцелі і пабольшалі — кудзелькі аблачынак, што плылі, як гусі-лебедзі, тады, калі Карабейка ішоў да Лявона, зліліся, зблыталіся адна з адною, падаўшы тым самым і надзею на дождж. У маі буйна цвілі сады, а цяпер між вялага лісця добра было відаць белыя вузельчыкі яблык. На градах сагнуліся пёркі цыбулі, хвалямі павыгіналіся, толькі стрэлкі высока і бадзёра трымалі свае яршыстыя белыя галоўкі; наструніліся, распаўзліся, як зялёныя шнуркі, вусы гуркоўніку, пазакручваліся на канцах у спружынкі. Гаспадыні ўжо абставілі калкамі кусцікі памідораў. Бачыў усё гэта, ідучы па сцежцы, Карабейка, і незразумелая тужлівасць халаднаватаю хмаркаю атульвала яму сэрца.

— Ну што? — сустрэла яго жонка. Яна выпусціла з хлеўчука двух беленькіх чысценькіх, як забінтаваных, парсючкоў, і яны цяпер, няўклюдна падкідваючы тоўстыя азадкі і матляючы хвосцікамі, гарэзліва насіліся па двары.

— Трэба ісці да старшыні,— сказаў ён зусім упалым голасам, што жонцы, мабыць, стала ўсё зразумела, і яна адно спытала: «Пойдзеш?»

Яму і праўда не аставалася нічога іншага, як ісці да старшыні на паклон. Праблема з канём перад ім заўсёды стаяла: настаўнік, не калгаснік. Раней часта выручаў далёкі сваяк, які жыў на хутары, кіламетры за два ад Малінаўкі; працаваў ён леснікам, і ў яго быў свой конь. Але з леснікоў яго пагналі, забралі і каня. Неяк прасцей было і тады, калі за брыгадзіра быў Сашка Люшчэня. Сустрэнуцца, пагаварыць «пра жызь» (так гаварыў Сашка), Віцебск успомняць, калі і чарчыну кульнуць — глядзіш, і пра каня дамовяцца. А цяпер чорт ведае што творыцца! Коней пазвялі, на каўбасу пусцілі. Бульбу пасадзіць — няма чым. Трактарам хіба ўзарэш агарод? Хату за вуглы расцягнеш, садавіны павывернеш...

Але коні конямі, старшыня такі пайшоў — што ўздумае, узбрыдзе ў галаву, тое і робіць. Ніхто яго не паправіць, не спыніць, не пакарае. Сам сабе начальнік, панок гэтакі. У ранейшыя далёкія гады такога не было. Любая пастанова — закон. Паспрабуй не выканай. А цяпер... Летась пайшоў да гэтага самага Куземчыка, старшыні: «Сцяпан Іванавіч, як бы сена на карову разжыцца».— «Калі ласка, але ў мяне няма»,— адказвае. «Дык жа ёсць спецыяльная пастанова: забяспечваць інвалідаў вайны сенам, палівам...» — «Хто яе прымаў, няхай вам і дае». І вачэй не падымае, нешта ўсё піша і піша, быццам ён, Карабейка, і просьба яго — такая ўжо макулінка, што ад яе толькі і варта, як ад мухі, адмахнуцца. Вось і гавары з ім. Нават у райвыканком хадзіў скардзіцца. «Не можа такога быць!» — выслухаўшы, адказаў Карабейку старшыня райвыканкома. «Канечне, хіба можа такое быць,— разгарачыўся Карабейка,— каб кіраўнік, камуніст не выконваў пастановы партыі? Вось,— ён выняў з кішэні пінжака складзеную выразку з газеты,— чорным па беламу напісана, што мясцовае кіраўніцтва абавязана забяспечваць усіх ветэранаў сенам. А як бывае? Куземчык згаджаецца: «Так, абавязаны, але ў мяне няма». І хоць у лоб яму страляй. А як няма — я ж ведаю. Не на корані, гатовае цэлымі стагамі сплаўляе налева... радні ды хаўруснікам.» Выслухаў уважліва старшыня райвыканкома, паабяцаў разабрацца, пазваніць Куземчыку. Але сена яму Куземчык усё роўна не даў. Дзівіўся, проста губляўся Карабейка: як гэта так, старшыня райвыканкома не можа загадаць ней-

каму Куземчыку? Не ведаў Карабейка, што Куземчык сваім адказам абяззброіў старшыню райвыканкома: «Не падабаецца, як я кірую, здымайце, я не дзяржуся за пасаду...»

* * *

І цяпер Карабейка ішоў у праўленне з трывогаю на душы. Яна, гэтая трывога, сядзела вельмі глыбока ў ім, і воляю сваёй, розумам ён не мог прымусіць яе рассеяцца. Яна заяўляла пра сябе не заўсёды, а толькі тады, калі прадчуваў, што задуме яго нешта пашкодзіць здзейсніцца. Ён ужо даўно збэсціў бы сябе, абазваў бы і дурнем, і падазроным, і блазнам, калі б хоць раз памыліўся. Але ў тым і штуковіна была, што ён не памыляўся. Жыццё настолькі апрацавала ягоную душу, зрабіла тонкімі, як павуцінка, адчуванні, што ён апынуўся ў даволі цяжкай, проста невыноснай сітуацыі: прадбачваць свае няўдачы. Гэтыя няўдачы пераносіліся лягчэй, чым пакутлівае чаканне іх.

Куземчык быў на месцы — каля праўлення стаяла яго «Волга»; але адразу не прыняў, бо «нейкі начальнік з раёна правяраў нейкія паперы» (сказала Карабейку сакратарка — меншая Люшчэнева дачка). Карабейка з гадзіну прасядзеў у прыёмнай, выходзіў і на ганак, курыў, тупа гледзячы на небасхіл, дзе чорнай сінявою наліваліся хмары і неяк перламутрава адсвечвалі. Балючая гадзіна! Нарэшце «начальнік з раёна» выйшаў, Куземчык правёў яго аж за весніцы, пасадзіў у сваю «Волгу». Яго, Карабейкі, спярша быццам не заўважыў, але ўсё-ткі павярнуўся, спытаў:

— Да мяне?

«Як быццам не зразумела!» — ледзь не выпаліў яму ў вочы Карабейка і зайшоў у кабінет.

Куземчык не садзіўся сам і не запрашаў Карабейку, хоць Карабейку хацелася сесці, і тады, здавалася, размова завяжацца сама сабою. Старшыня стаяў каля фікуса і, лёгка кранаючыся, вадзіў пальцам па бліскучым мясістым лісце. Ён быў у новым касцюме, зашпіленым на ўсе гузікі, пры гальштуку; пруткі каўнерык белай кашулі ўпіваўся ў шыю.

— Я па такому дзелу...— сказаў Карабейка, гледзячы ў патыліцу старшыні.— Пара акучыць бульбу...

— Пара-пара! — выгукнуў Куземчык, і Карабейка здзівіўся, што ў яго не строгі, а вясёлы голас.

— Ну вось... Каня трэба...

— У конюха быў? — Ліст прагнуўся пад старшынёвым пальцам. Ногаць блішчаў, як ліст.

— Быў.

— Малайчына!

Карабейка не зразумеў, хто малайчына: ён ці Лявон. Сказаў:

— Без вашага дазволу ён не можа...

— Я і кажу — што малайчына.— Куземчык паківаўся спераду назад, пераступаючы з пяткі на насок.— Справа такая, што яшчэ не ўсе калгаснікі паакучвалі бульбу, а вы, пенсіянеры, маглі б і пачакаць.— За кожным словам весялосці ў старшынёвым голасе станавілася менш і менш.— Ім жа на працу трэба...

— Мала хто і не паакучваў... Толькі ж і я...

— Ну-ну! — падбадзёрыў Куземчык.

— Толькі ж і я не з неба зваліўся. Куды ж мне ісці прасіць?

— Усё правільна! Вы — пенсіянер, настаўнік, інвалід... Мы клапаціліся і будзем надалей клапаціцца пра такіх, як вы...— Куземчык глядзеў у ліст, як у люстэрка, але бачыў не свой адбітак, а толькі цьмяны абрыс, як у мутнай забраснелай вадзе. Ён любіў разглядаць сябе ў люстэрка дома, асабліва калі брыўся, і тут, у кабінеце, не мог пазбавіцца гэтай дзіўнай прывычкі; пакручваў галавою, падстаўляючы лісту то адну шчаку, то другую, то падбародак, і тады спераду на шыі нацягвалася скура, а на карку складка сплывала аж на каўнер пінжака, і на складцы той выразна была відаць пунсовая барадаўка.

— Дзякуй вам...— не стрымаў радасці Карабейка. Дарэмна, выходзіць, крыўдаваў на старшыню, мала што раней было, можа, чалавеку настрой сапсавалі, і ты паткнуўся акурат са сваёй просьбаю.

— Вы заслужылі, вы нам перамогу заваявалі...— лашчыў Карабейку слых Куземчык.

Карабейка стаяў і не верыў сваім вушам, яго так захаланулі пачуцці, што ён не чуў, што гаварыў далей Куземчык, адно калі праяснілася ў галаве, улавіў словы: «...наш абавязак!»

Куземчык павярнуўся, яго твар быў ружовы, блішчаў, гарэлі вочы прамяністасцю і лагодаю.

— Ну, дзякуй вам, Сцяпан Іванавіч... Дык я тады перадам вашу згоду Запеку,— сказаў Карабейка.

— Нічога супраць не меў бы, але пакрыўдзяцца людзі... скажуць, пакуль мы на калгасным полі, дык іншыя сваё ў парадак прыводзяць.— Куземчык гаварыў, як пячаткі ставіў — цвёрда, выразна, непахісна.— Не, так нельга, несправядліва будзе! Я за справядлівасць.

«Ды што ты ваду тут муціш!..» — хацеў крыкнуць Карабейка, але змаўчаў, сціснуў пашчэнкі, вочы забегалі: так імгненна, бы стралою, пранізала расчараванне. Што, спрачацца з Куземчыкам, даказваць, што і ён жа чалавек, што ніхто, акрамя зайздросніка, хціўца, не папікне ім, Карабейкам, старшыню? Спрачайся не спрачайся — толку мала.

— Дык што, мне не спадзявацца? — Карабейка трымаўся, не хацеў, каб задрыжаў голас: навошта расслабляцца, хлапчуком выстаўляць сябе перад нейкім Куземчыкам. Не такое пекла прайшоў, згінаўся, але не поўзаў, спатыкаўся, але не падаў. А колькі поўзала і колькі падала, прадаючы ўсё — розум, душу, сумленне...

— Пасля ўсіх. І то па заяве,— сказаў цвёрда Куземчык,— пішыце заяву. Ты адзін з сваёй бядою, а ў мяне такіх сотні. І пра гэтыя сотні трэба думаць! І пра поле, і пра луг, і пра лес, і пра бес трэба думаць...

«Добра цяпер думаць,— хмыкнуў у душы Карабейка,— сеў у «Волгу» ды паехаў. А ў маю бытнасць старшынёю?»

Куземчык падышоў да акна, прыгнуўся, каб убачыць над запыленымі кустамі вішняку неба.

— Хэ! Зараз такі дождж ліне — усё роўна акучваць не будзеш...— На твары ўсмешка, бяскрыўдная, шырокая і незразумела ўрачыстая, як пралысіна між чорных хмар.

«Яму жартачкі...» — з сумам падумаў Карабейка, адсунуўшы ад сябе заяву, але ўжо не чакаў і не хацеў спагады ад Куземчыка, хоць было да няўцерпу крыўдна.

* * *

Дождж ліў сыта, радасна, абрынываўся цяжка, як свінцовы. Карабейка пастаяў пад стрэшкаю ганка, пад-

ставіў далонь пад струмень — вада была прыемна-ласкавая, цеплаватая і празрыстая, як сляза. Ён ступіў з ганка ў дождж. Ішоў, адчуваючы, што яго аблівае, асвяжае тугая прахалода, адганяе непрыемныя думкі, як бы змывае іх. Па дарозе беглі ручаі, імкнуліся да спадзін, у нізінкі; каля беражка, дзе ручай уліваўся ў лужыну, распаўзалася жоўтая муць, а насярэдзіне вада адстойвалася, і было відаць дно.

Лівень не пераставаў, ён быў зеленаваты ад таго, што ў ім адлюстроўваліся дрэвы і трава, адразу пачысцелыя, яркія; калі Карабейка задзіраў галаву ўверх, на неба, пасмы вады здаваліся хісткія і белыя, як капронавыя ніткі. «Ах, як жа добра прамочыць зямлю!..» — радаваўся ён.

Свой падворак Карабейка гады тры назад зацэментаваў, цяпер на ім таксама стаялі лужыны, меленькія, чыстыя. З шыфернай страхі праз роўныя прамежкі цурчэлі струмені. «Трэба падставіць балею — налье вады ў лазню,— падумаў ён, беручыся за клямку дзвярэй,— не трэба цягаць з калодзежа...» Звычайна гэтая дробязь — «лёгкая вада», як ён гаварыў, яго радавала, цяпер у сэрцы сядзеў боль; ён знарок прытупляў гэты боль, стараўся пра яго не думаць, як бы адгарадзіцца ад яго зусім, бо, здаецца, упершыню стала ясна, неяк нязмушана і лёгка высвецілася ў свядомасці, што, калі даць разрасціся, загуснуць гэтаму болю, сэрца не вытрымае...

— А божа ж мой!..— пляснула ў далоні Ксеня, убачыўшы мужа.— Адкуль ты?

— З пекла...— буркнуў Карабейка. Ксеня ведала, што ён быў у старшыні, але яе ўразіла, што муж такі растрэпаны, мокры, белы з твару.

— І так кволішся — заляжаш яшчэ...— ушчувала жонка. А ён яшчэ «паддаў жару»:

— Мошна мне, матка...

— Дзіва што, змок як курыца.

— Дождж цёплы...— І нешта яшчэ хацеў сказаць, ды, сціснуўшы пашчэнкі, толькі паківаў галавою.

Ксеня збегала ў чыстую палову хаты, прынесла ручнік, сухое адзенне.

— На во, пераадзенься, а я чай пастаўлю.

— Чай кіпяці, а сама не кіпяціся,— кісла ўсміхнуўся Карабейка. На яго і праўда ўжо каля самай хаты накацілася слабасць, тужліва, абыякава думалася.

Пераадзеўшыся, ён прылёг на ложак, дзе адпачываў і перад абедам.

— Ну як ты? — падышла жонка, палажыла яму на лоб руку. Рука была лёгкая, мяккая, пяшчотная, якою запомнілася ў маладосці, на той лавачцы пад бэзам, і ад яе дотыку адразу пацяплела. І ён асмеліўся спытаць:

— Можа, і праўда, матка, я памру?

Яна паглядзела яму не то са страхам, не то з недаверам глыбока ў вочы, як не ў самую душу. Яму здалося, што так глядзяць на нябожчыка, і ён, абамлелы, памкнуўся ўстаць. І сапраўды: ён быў у тых гадах, калі думкі пра смерць прыходзілі часта.

— Ды ляжы ты! — лагодна націснула на лоб далонню Ксеня.— Як дзіцёнак нешта...

А яму ўжо затрывожыла, засмылела ў грудзях. Ён быццам слізгаў з горкі ўніз па гладкай паверхні і не меў за што ўчапіцца. Было такое адчуванне, што там, унізе, ён не ўпрэцца ні ўва што нагамі, а зваліцца ў цёмную глыбокую яму.

Ён ашчаперыў жончыну руку, прыціснуў да сваіх грудзей і сказаў ціха, задуменна:

— А мне ж яшчэ і ордэн не выдалі...

— Які ордэн?..— спалохалася Ксеня, бо падумала, што мужык пачаў трызніць. Не, вочы ў яго былі ўцямныя і позірк ясны.

— Так бы неслі на падушачцы з медалямі і ордэн...— як бы сам з сабою размаўляў Карабейка.

— Пра які ордэн ты мармычаш? — не ўтрывала, павысіла голас Ксеня.

— Ну, да саракагоддзя ж Перамогі. Усім давалі, і мне паложана...

— Мала ў цябе гэтых цацак! — з незадаволенасцю, але такім тонам, каб мужу было прыемна, сказала Ксеня. І яму сапраўды было прыемна, што заслугі яго незаўважаныя не асталіся.

— Ордэн гэта першы...— І таму, што ён напраўду першы, і таму, як з ім атрымалася, ордэн гэты, ордэн Айчыннай вайны, не даваў Карабейку спакою, не-не дый усплываў на памяць, толькі не радаваў, а засмучаў. У прызначаны дзень ён паехаў у ваенкамат яго атрымліваць, надзеў новы касцюм з «калодачкамі», а ваенком, малады, спісаны па стану здароўя з арміі маёр, сказаў яму, што ўсім ордэнаў не хапіла, трэба

пачакаць, калі прышлюць новы камплект. «Дык як жа так?» — хацеў абурыцца Карабейка, але стрымаў сябе, аб чым шкадаваў потым, калі дачуўся, што некаторыя начальнікі нахапалі сабе ордэнаў — падаставалі нейкія даведкі, што і яны маюць права. А яму і яшчэ некалькім ветэранам не хапіла. Клопат, пазней уручаць, але ж во можа павярнуцца так, што і не дачакаецца, не ўбачыць ордэна свайго. Зацёрла яго неяк жыццё, усё яму выдае ў апошнюю чаргу: сена, каня, дровы, ордэн. А хто ж тады і за што стаіць у чарзе першы? Калі не ён, то хто? Калі не яму, то каму і за што? Можа, сынам і дачцэ яго? Можа, яны, іх пакаленне дарогаю прамою пойдзе, дзе слупы адмяраюць толькі шчаслівыя кіламетры? Пажыць бы яшчэ, паглядзець... Але наўрад ці ўдасца. Сэрца б'е трывогу, сігналіць: «стоп, машына!»

— На во чай! — ачуўся ад жончынага штуршка. Прыпадняўся, узяў кубак. Сербануў чаю, раз, другі. З кожным глытком, адчуваў, у душу прылівае бадзёрасць, і незразумелая, новая рашучасць з'яўлялася ў ім. А што яму губляць? Пенсіі не адбяруць, у турму не пасадзяць. Хопіць насіць у сабе, зацінацца.

Карабейка і раней не раз парываўся выбухнуць гневам, расказаць, напісаць пра ўсё-ўсё, што бачыў вакол сябе, непрыстойнае і бруднае, але нейкі страх унутры скоўваў яго волю — за сябе, а пасля за дзяцей турбаваўся. А можа, і не страх, можа, упэўненасць, што нічога сваім выпадам не зменіць, а сабе і дзецям збаламуціць жыццё. Такіх прыкладаў ён ведаў колькі хочаш. Неяк на жнівеньскай нарадзе настаўнікаў загадчык райана заклікаў: «Мы вас крытыкуем, а вы крытыкуйце нас, мы ж таксама не святыя». Дырэктар іх малінаўскай школы, Кавальчук, і выступіў, кажа: «За мяжу ў дар перадаём цэлыя класы, кабінеты, а ў нашай васьмігодцы нават карты добрай няма, клеім шкуматы...» Праз пару месяцаў ён быў ужо не дырэктар, а проста настаўнік, і не сваёй, а далёкай, глухой школкі ў суседнім раёне.

Разумеў, адчуваў Карабейка: калі не зможа цяпер выліць з душы ўвесь свой боль, абурэнне, незадаволенасць, то не зможа ўжо ніколі. Проста не будзе часу. Так і пойдзе з гэтага свету разгублены, заблытаны, раздроблены на кавалачкі, а значыць, і ніякі. І толькі дзеля гэтага яму не хацелася яшчэ паміраць — не ўсё

сказаў, не ўсё зрабіў, не ўсё аддаў, патрэбны ён яшчэ і вёсцы, Малінаўцы сваёй, і дзецям, і шчасце яго не прывіднае, а зямное — у барацьбе, з сваімі заганамі, з чужымі, з усім брудам, у якім чалавек прывучае жыць сваю душу.

Проста дзівосы адбываліся з мужыком на вачах у Ксені: то паміраць сабраўся, то раптам ажыў, наструніўся ўвесь, памаладзеў: хоць пад вянец. Чай так памог, ці што? І яна асцярожна спытала:

— Ты ў праўленні быў, што там з канём?

— І з канём, матка, і са мною ўсё нармальна... не перажывай. Ці пан, ці прапаў! Пайду і скажу яму, гаду: ты — бюракрат, Куземчык!

— Ты ўсё жыццё гразішся!..— засмяялася, як на дзіцячы жарт, Ксеня.

— Не верыш? — Яны і праўда выдурняліся, як дзеці.— Ты мяне яшчэ не ведаеш! Пераламалася мая душа, матка...

Ксеня дабрадушна засмяялася, узяла з мужавых рук пусты кубак.

— А вось і не ведаеш! — цвёрда, нават трохі раззлавана сказаў Карабейка і ссунуўся з ложка.

У акно было відаць, што дождж перастаў, на лужынах танцавалі рэдкія бурбалкі. Выбеглі з-пад павеці куры і, не баючыся дажджу, хадзілі па двары — мокрыя, хвасты спусціліся, як у пеўня. А тым часам і сонца выбліснула, павольна выплыла з-за хмары, акурат разаслала на зямлю тонкі празрысты абрус — Карабейка бачыў, як край яго матлянуўся каля хаты, на падворку і перамахнуў праз пуню — туды, дзе расла бульба.

Зямля паравала, дрыжала незвычайна празрыстае паветра, і ўсё ў ім ламалася, гнулася — дрэвы, слупы, частакол... І бульбоўнік стаяў радасны, жывы. Карабейка не сумняваўся, што хутка пусціць па ім акучнік. Сёлета ўжо са спазненнем, а налета ў час, без нягод і без нерваў.

Яму так лёгка стала на душы, што раптам, успомніўшы пра сваіх дзяцей, пашкадаваў, што іх няма побач. Люшчэневы вунь дык тут аселі, а яго ў свеце. Шкада... Паглядзелі б на бацьку, і ён на іх паглядзеў бы. Але — не бяды. Во пойдуць ягады, грыбы — прыскачуць, прывязуць дзяцей «на вітаміны».

У шпакоўні, што тырчала над пуняю, падавалі хрыплы голас маладыя шпачкі, высоўвалі ў дзірку жоўтыя дзюбы, шырока разяўлялі. Каля фермы звонка ляскала сочная ад вады пуга — Лявон выганяў у начное коней. Коні гучна форскалі. Раз-пораз на іх галёкаў Лявон. Карабейка ўявіў, як каля яго хаты ён вінавата апусціць вочы і праедзе па тым баку вуліцы. Так ужо не раз было.



## У ЦІХАЙ БУХЦЕ

Сёння ў Ціхую бухту Крывеня выйшаў трохі пазней. Лёгка паснедаўшы ў сталоўцы, якая належала турбазе, ён заглянуў на базар.

Базар быў невялікі, пяць радоў лавак. На іх ляжалі пляцёнкі ягад — прывязаныя ніткамі да палачак барвовыя вішні і бледна-жоўтыя, з ружаватасцю чарэшні; мясістыя ліловыя памідоры; бела-фіялетавыя галоўкі маладога часнаку.

Умельцы прадавалі склееных з ракушак марскіх чорцікаў з празрыстымі і чырвонымі, бы ягады касцяніц, вачыма, зайцаў, птушак, кажаноў, лягушак, іншыя забаўкі.

Крывеня выбраў і купіў бледна-пунсовую ружу з перламутравым бляскам у выемках пялёсткаў.

Ішоў па вуліцы, дамкі на якой былі нехлямяжыя, маленькія, і двары засмечаныя, зарослыя травою. Здавалася, што гэта нейкае паселішча, у якім ніхто не жыве. Для чужых людзей на весніцах белай фарбаю было намалявана тое, чым можна пажывіцца ў дамку: мядзведзь з сотамі і роем пчол азначаў, што тут прадаюць мёд; карова — малако; свінка — сала. У агародчыках буйна цвілі чырвоныя ружы, стаялі высокія, лісцем і карою падобныя на таполі, дрэвы, усыпаныя крупчастымі чорнымі, як ажына, ягадамі.

Вулачка вывела Крывеню за горад, на дарогу — цвёрда ўбітую, патрэсканую; яна то спадала ў нізіну, то падымалася на ўзгорак, то забірала ўбок. Калі ары-

ентавацца па ўзгорках, то да бухты зусім блізка, а існі — доўга, кіламетраў пяць. Ён ужо не раз дзівіўся з гэтай асаблівасці гор: здаецца, вось яна, гара, рукою дастанеш, а на самай справе да яе тупаць і тупаць.

З-за гор наплывалі і спадалі ў седлавіны папялова-шэрыя густыя хмары. Адна, самая большая, наткнулася на піку гары і, зачапіўшыся, павісла, як папера на алоўку.

Крывеня хадзіў у Ціхую бухту штодзень. І ўжо не першы раз прыехаў на адпачынак у гэты невялікі крымскі гарадок на тры тысячы жыхароў. Многім, хто бачыў гэтага маладога мужчыну, ён здаваўся загадкавым і незразумелым. Было ўражанне, што ў яго твар і вочы навечна ўпісаліся не то роспач, не то невыказная туга.

Хадзіць кожны дзень па адной і той жа дарозе было нуднавата, і Крывеня ўважліва вывучаў свае крокі. Ён заўважаў пад нагамі і раздушаную рыжую мядзведку, і жоўтых мурашоў у трэшчынах глінянага долу, і вялага даўгенькага цвыркуна-багамола.

Мора злёгку штарміла. Хвалі, крута выгнуўшыся, хлёпалі аб бераг, выгрызалі гальку. Пырскі ляцелі аж на пясок, здаецца, кіпелі як на патэльні.

Крывеня раздзеўся да плавак і сеў на броўку сухой, пажухлай травы. Калі пырскі даставалі і да яго, ён уздрыгваў як ад уколаў.

Людзей у бухце было мала. Наогул сюды хадзілі толькі аматары прыгод ды тыя, хто дзеля забавы ці сувеніра шукаў у гальцы камень, аранжавы сердалік.

Мужчына ў сініх плаўках і сіняй масцы з трубачкай ныраў метраў за пяць ад берага ў ваду і даставаў рачкоў і маленькіх, як карабок з-пад ваксы, крабікаў. Крыху воддаль стаяў па грудзі ў вадзе хлопчык і высока падымаў налітыя вадою цэлафанавы мяшэчак. Насупраць іх на беразе ляжала загарэлая жанчына.

Крывеня назіраў за імі трыма і сумаваў ад таго, што ён тут адзін. Ён ніколі не прыязджаў сюды з жонкаю, хоць і пражылі яны з ёю каля сямі гадоў,— у жонкі была сасудзістая дыстанія, і поўдзень ёй дактары не раілі. Адзін раз ён меў магчымасць пабыць тут, на моры, у гэтай Ціхай бухце з дзяўчынаю, але не змог, не рызыкнуў, не паехаў, і вось цяпер ужо каторы год пакутуе, перажывае. А калі б паехаў, можа б, і не

было таго, што здарылася. Ва ўсякім разе, яму думаецца, што смерць Аксаны — не выпадковая.

Яны пазнаёміліся на трэцім годзе яго сямейнага жыцця. Жончына малодшая сястра прыехала ў госці з сяброўкаю. Яе звалі Аксана. Швагерка, мабыць, нешта ўжо расказала Аксане пра яго, маладога кандыдата навук, бо калі яны зайшлі ў пакой, яна з нейкай незразумелай працягласцю ўставілася ў яго. І ён у той першы міг, у які заўсёды вызначалася яго сімпатыя ці антыпатыя да чалавека, адчуў, што дзяўчына яму падабаецца. Яна была смуглая, з тонкімі рысамі твару, вочы вузкія і як бы трохі касавата пасаджаныя. Яму здалося, што ён даўно яе ведае,— такое ўражанне на яго аказвалі разумныя людзі. Аксана сапраўды была інтэлектуалка, сціплая і выхаваная — спалучэнне, якім далёка не кожная сучасная дзяўчына можа пахваліцца.

З жонкаю Крывеня жыў добра, паважаў яе, дапамагаў на кухні, выбіваў дываны, мыў падлогу, хадзіў у магазіны. І жонка была ім задаволена, лічыла яго прыкладным сем'янінам, прыстойным чалавекам. Суседзі і тыя, хто ведаў, зайздросцілі ім яўна і ў душы.

Але ніхто не ведае, чаму ў сэрцах двух людзей зараджаюцца ручайкі кахання і цякуць насустрач, каб зліцца.

Калі Аксана прыехала ў другі раз, Крывеня не сумняваўся, што — дзеля яго. І жонка, мусіць, гэта зразумела. Ён чуў, як яна на кухні адчытвала сястру, каб тая «больш не цягала сюды сяброўак». Аксаны не было якраз, яна пайшла ў магазін, і ён перажываў, што яна намокне пад дажджом, які раптам зашумеў густа і важка, біў у цынкавы брылёк падаконніка, як у бубен. Не вытрымаўшы, схапіў жончын парасон і выскачыў на вуліцу, а ўжо тады пачаў думаць, што сказаць жонцы, каб не выклікаць лішняй падазронасці.

Аксана засаромелася, калі ён падняў над ёй парасон. Ён упершыню бачыў, як у дзяўчыны чырванеюць мокрыя шчокі; яе чорныя вочы гарэлі, бліскучыя валасы шчыльна прылягалі да галавы. Яму хацелася яе абняць, прытуліцца, сагрэць.

Потым ён два разы браў камандзіроўку ў той зялёны, утульны гарадок, адкуль была родам жонка і дзе жыла Аксана. Яны сядзелі ў кафэ, цеснаватым ад экзатычна выкладзеных камянямі сцен, хадзілі па гара-

дзе, некалькі жыхароў якога ведалі Крывеню, і ён адчуваў сябе не вельмі ўпэўнена, калі не сказаць — разгублена. Ён нічога талковага не мог ёй ні сказаць, ні прапанаваць і з дакорам думаў пра сябе, што яго няма за што кахаць, нейкі нецікавы ён, стрыманы. Яна хадзіла побач маўклівая, адчуваючы сваю віну.

Прывёзшы дзяцей на экскурсію ў Мінск (працавала піянерважатай у школе), пазваніла яму на працу, і ён сказаў ёй, каб пісала яму на Галоўпаштамт «да запатрабавання».

Яна ў першым жа пісьме паскардзілася, што сумна жыве, вакол няма чулых, душэўных людзей, з якімі можна было б параіцца, падзяліцца патаемнымі думкамі. Ён зразумеў падтэкст: няма такіх, як ён, а значыць ён — выбраннік. Яму было прыемна так думаць, бо гэты час яна не выходзіла ў яго з галавы, ён не мог адрэзаць яе ад сябе — нават дзеля жонкі, дзеля сям'і і сына. Навязлівасць думак — сведчанне кахання.

У адказе сваім ён напісаў, што добрыя людзі на свеце ёсць, толькі іх трэба сустрэць, а яшчэ — мы жывём так, на што сябе настройваем: яму, напрыклад, здаецца, што ён «лунае ў доўгім сне».

І яшчэ доўга яму будзе здавацца, што Аксана прыснілася, у сапраўднасці яе няма.

А потым прыляціць тое пісьмо з поўдня, куды з'ехала Аксана «ад тугі» (пасля, каб меней што напаміняла пра Аксану, ён парве яго). Яна пісала: «...Тут сонца, і я не здымаю чорных акуляраў, каб не было разладу паміж тым, што на душы і што вакол мяне. Без каханага жыццё — пакута, і смерць не здаецца самай несправядлівай на зямлі караю». У яго стукала моцна, як чужое, сэрца, ён не знаходзіў сабе месца. Не было сумнення: яна звала яго да сябе, і калі ён апынецца там — для іх абодвух будзе самая вялікая ў свеце радасць. Ён уяўляў яе ў сябе на руках, свежую, чыстую, загарэлую, халаднаватую ад марской вады. Ён скрыпеў зубамі і, прывязаны домам і работаю, кідаўся, як зацкаваны звер.

Ніхто не ведаў і не бачыў, як яна ўтапілася, ці, можа, хто ўтапіў — была і такая версія. Ён не мог дараваць сабе, што не паляцеў да яе хоць бы на два выхадныя дні. Ён з жахам думаў, што і ніколі не зможа дараваць, усё жыццё будзе насіць цяжар віны.

...Здаецца, мора супакойвалася, ніжэлі хвалі, а воддаль на вадзе як бы расцягнуліся шлейфы — сіні, белы, бледна-зялёны; яны мяняліся месцамі.

Крывеня падняўся і пайшоў у мора, несучы ў руцэ купленую на базары ружу. Буёк быў далёка — зыбаўся на вадзе як вялікі чырвоны капялюш. Каля берага вада была мутная, і Крывеня спатыкаўся на слізкія, аброслыя зялёнай цінаю камяні; далей пайшло роўнае пясчанае дно, на якім акуратнымі цёмнымі авальчыкамі ляжалі цені ад медуз.

Калі вада ахапіла яму грудзі, ён адштурхнуўся ад дна і паплыў, дужа выкідваючы рукі. Даплыўшы да буйка, ён ухапіўся за яго рукою, здзівіўшыся, што гэты металічны кокан на звычайным дроце, а не на ланцугу, як яму увесь час думалася. У другой руцэ ён трымаў ружу, адчуваючы вострыя краі пялёсткаў.

Крывеня тужлівымі вачыма глядзеў на зыбістую магутную роўнядзь мора, край якога патанаў у ліловай смузе. Гэта стыхія стала магілаю дзяўчыне, якая яго кахала і якую кахаў ён. Гіганцкая пліта вады хавала яе, і чарнакрылыя чайкі, тады-сяды апусціўшыся на яе паплаваць, пісалі сумную эпітафію іх каханню.

Адпачыўшы, ён паплыў далей у мора. Канечне, блізка ад берага Аксана не магла ўтапіцца. Можа, з адчаю заплыла далёка, а сілы вярнуцца не хапіла. Можа, палезла купацца ў шторм, і яе накрыла хваля. Хто ведае...

Крывеня плыў і плыў, ён быў добры плывец. Яго заўважылі на выратавальнай вышцы, і ён пачуў гучны пагрозлівы голас у рупар: «Увага! Плывец за буём, вярніцеся ў зону купання!» Плыць далей, зразумеў, не было сэнсу — калі не паверне назад, да яго памчыць белая маторка з надпісам: СПАСАТЕЛИ.

Ён закружыў на месцы, грэбаючы левай рукою, а правай мякка, плаўна, як пушынку на вецер, пусціў на ваду ружу. Яна як быццам затрымалася на паверхні, а тады, пахістваючы і адлюстроўваючы сонечныя промні, апусцілася ў марскую бездань.

Крывеня вярнуўся на бераг. З яго цякла вада, пакідала на пяску цёмныя шнуры. Нейкі час ён стаяў і глядзеў у мора, потым сеў, браў рукою пясок і сыпаў каля сябе. За гэтым дзіцячым заняткам ён правёў мінут дваццаць. Некалькі вострых пагурачкаў вырас-

лі каля яго. Ён устаў, каб глянуць, што ён вырабіў з пяску. Перад ім ляжаў сілуэт жанчыны — галава, грудзі, ногі... Здаецца, каб падняў, была б зграбная скульптура. Крывеня доўга ўглядаўся ў гэты пясчаны сілуэт, потым упаў побач з ім, зарыўшыся тварам у пясок...

Ён ляжаў ледзь не ў бясцямнасці, здалося, вечнасць, пакуль не адчуў, што пайшоў дождж. У спіну пругка ўдарылі кроплі.

На броўцы травы ляжала адзенне. Крывеня ўзяў яго і пайшоў пад «грыбок», дзе ўжо сядзелі мужчына ў масцы, загарэлая жанчына і хлопчык з цэлафанавым мяшэчкам, у якім капашыліся чорныя рачкі і крабікі. Усе трое былі вясёлыя, смяяліся і не зважалі на Крывеню.

Дождж ішоў спорна, але нядоўга, мабыць, толькі з той хмары, што была зачапілася за піку гары. Паветра пасвяжэла, у ім плавала лёгкая асмугласць.

На макавых пялёстках ляжалі вялікія чыстыя кроплі.

Да адурэння трашчалі цыкады. Спявала нейкая птушка — як бы хтосьці стукаў тоненькімі дроцікамі. І над усімі гэтымі незнаёмымі гукамі лунала мілае сэрцу кваканне лягушак. Адкуль яно неслася, Крывеня не ўлоўліваў, але перад самым гарадком ўбачыў зялёныя астраўкі аеру і падумаў, што, мабыць, там сядзяць лягушкі. Яму пацяплела на сэрцы, што і тут, далёка ад Беларусі, ёсць гэтыя бяскрыўдныя вадзяныя істоты.

З травы, з-пад кустоў агрэсту проста на тратуар выпаўзлі вялікія, як грэцкі арэх, цяжкія сакавіта-вадзяністыя слімакі, варушылі доўгімі рожкамі.

Па набярэжнай адзінокія, парамі і групкамі хадзілі людзі, і Крывеня згубіўся сярод іх.

У гэты дзень Аксане было б трыццаць гадоў.



# ЧЫСТАЯ ВАДА

Гэтую лукавіну ракі назвалі Чыстая вада. Віцька штодзень прыходзіць сюды лавіць рыбу. І хоць тут пясчанае буравата-жоўтае дно — акурат для печкуроў,— на кручок бярэцца розная рыба. З тонкім звонам заносяць напятую лёску пад куст акуні-гарбылі, бунтуюцца і тузаюцца на глыбіні вірлавокія яршы і лянівыя, маларухомыя бычкі.

Тут, у лукавіне, кажуць, шмат крыніц, таму вада ў ёй нават летам халодная, празрыста-шкляная. Удзень, калі промні сонца пранікаюць да дна, відаць, як падплывае да кручка рыбіна, варушыць шчэлепамі, заглытваючы прынаду.

Сёння Віцька выбраўся на рыбу пазнавата: маці даліся ў знакі яго частыя «ранкі», і яна не пабудзіла. Калі Віцька ўсхапіўся з пасцелі, сонца ўжо купала цёплыя промні ў шызай, як юшка, расе.

Захапленне рыбнай лоўляю да Віцькі прыйшло вельмі даўно, ён ужо і не помніць — калі. Прыйшло непрыкметна, міжволі, як прыходзіць да чалавека ўсё тое, што становіцца потым патрэбаю душы. Дзе б ён ні быў, што б ні рабіў, у галаве — рыбная лоўля. Кладучыся спаць, думаў пра яе, рыбную лоўлю. А ў позднія, салодкія сны прыплывала ружовая раніца — як чаканне радасці. Рэчка... Жывая роўнядзь вады... Срабрыстай лускою пераліваюцца на сонцы драбнюткія хвалькі. Чырвона-белым чаўначком снуе між іх востры

паплавок. Аж замірае сэрца — так пільна сочаць за ім вочы. І раптам — рывок! — чаўначок нырае пад ваду...

Віцька выхапіўся з гусцяжу бледна-зялёнага вербніку і, ашаломлены, замёр на месцы. На пакручастай вербалозіне, дзе ён заўсёды прымошчваўся з вудачкаю, каравўжылася незнаёмая дзяўчына і шырока адкрытымі вачыма здзіўлена глядзела на яго. Каб не паказаць, што збянтэжыўся, Віцька смела пайшоў да яе.

— Ой, ты так напалохаў мяне!..— Яна скочыла на бераг, гайданууўшы вербалозіну так, што ніжнія галіны макануліся ў ваду і з гладкага вузенькага, як лязо сцізорыка, лісця пасыпаліся вясёлым шротам кроплі.

Віцька разгубіўся яшчэ больш, кінуў кароткі позірк на заляпаныя глеем штаны, памкнуўся зашпіліць на грудзях кашулю і не намацаў гузіка. Адышоўся крыху ўбок, спытаў:

— Вы... вы таксама тут ловіце?

— Ды не. Проста так, гуляю.— Дзяўчына, не саромеючыся, пільна разглядала яго — светлыя, акурат зблытаныя з промнямі сонца валасы, цёмны пушок над верхняй губою, тугія мышцы на загарэлых да чарнаты грудзях.

— А я на гэтым месцы...— Голас у Віцькі прыцішана-жаласны, быццам такой інтанацыяй ён хоча выклікаць у незнаёмкі спагаду да сябе.

— Можна мне з табою рыбку палавіць? — спытала яна.

Такога пытання Віцька зусім не чакаў, а калі б і чакаў, то ўсё роўна адказаць на яго было б цяжка. Вудзіць з некім, а тым больш з дзяўчынай-дачніцай (ён ужо здагадаўся, адкуль яна: непадалёку ад ракі, на пагорку, дзе рос лапушысты ляшчыннік уперамешку з бярозамі, стаяла некалькі палатак дачнікаў — так называлі ў вёсцы прыезджых), Віцька не любіў, не ўмеў. І перамяніцца ўраз ён не мог, бо чалавеку не так проста стаць іншым, чым ёсць, калі быць шчырым не на хвіліну, а ўвесь час.

— В-ведаеце... я сёння так прыйшоў... толькі праверыць.

— Ну, навошта ты маніш? — лагодна ўсміхнулася дзяўчына. Яна, здаецца, бачыла яго наскрозь, і пра гэта сведчылі яе бесклапотныя, як ціхая вада, вочы.— Скажы, што не хочаш лавіць разам са мною.

Тое, што дзяўчына разгадала яго патаемныя думкі, збянтэжыла Віцьку ўшчэнт, ён спахмурнеў, панік, быццам апынуўся тут, на беразе, не па сваёй волі, а прымусам.

— М-не няма ніякай розніцы... з кім лавіць. Абы рыба клявала,— прамармытаў Віцька, адчуваючы, як на лбе і носе здрадліва выступілі кропелькі поту. Дзяўчына падышла да яго і, даверліва гледзячы ў вочы, быццам яны даўно і шчыра сябравалі, спытала:

— А заўтра прыйдзеш сюды?

— Ага... Толькі, мусіць, пагода сапсуецца...— Ён павярнуўся, каб ісці, але яна падала яму руку. Віцьку здалося, што ў пальцы ягоныя трапіў кавалачак шоўку.

— Мы так доўга размаўлялі і не пазнаёміліся. Мяне завуць Люсьен.

— Віцька...

— Ну, добра, затрымліваць цябе не буду, Віктóр. Ды і мяне ўжо чакаюць, відаць...— Люсьен няспешна, дэманструючы стройныя загарэлыя ногі, пайшла. Плаўна неяк, спаважна. Віцька не ведаў, што яна хадзіла так звычайна тады, калі хацела, каб хлопцы звярнулі на яе ўвагу.

«Вось і налавіў рыбкі,— уздыхнуў Віцька, і было цяжка здагадацца, ад чаго: ці таму, што з пустымі рукамі давядзецца ісці дахаты — такога з ім ніколі яшчэ не было,— ці таму, што, нарэшце, разняволілася душа.— І чаму яна прычапілася да мяне як той глей? Дзіўная! Нават імя нянаскае — Люсьен. Мала, дык і маё памяняла на свой манер — Віктор. Але — прыгожая, баявая... Не тое што Зіна...» Віцьку раптам стала шкада сябе, Зіну. Яны абое рабое: ён — циляпень, маруда, а яна, Зіна, і яго акаснула — баязлівая такая, што нават вяснушак сваіх саромеецца. Ледзь што не па ёй — зачырванеецца, усё на твары напісана. Яны і не пасябравалі б, мусіць, калі б не жылі па-суседску, калі б не бачыліся кожны дзень.

Помніцца, у дзевятым класе ледзь упрасіў ён Зіну прыйсці на першае спатканне. Яна прыйшла сумная, зажураная, быццам на пакуту. І ён, баючыся, што сваімі словамі давядзе яе да слёз, не асмельваўся загаварыць. Моўчкі зрываў з клёна халоднае лісце, што бухматым брылём навісала над лавачкаю, абыякава лічыў калючыя зоркі, якіх у тую ноч было вельмі

шмат. Можа, нават таму, што ўпершыню глядзеў на цёмнае неба доўга і сумна, знаходзячы сабе хоць нейкі занятак, які апраўдваў яго,— што ён не ішоў дахаты, а сядзеў тут, пад клёнам, разам з Зінаю.

А нядаўні вечар, пасля дня нараджэння, дык зусім сорамна ўспамінаць, хоць і была тады Зіна пасмялелая — прыгубіла калінавай настойкі за «свае семнаццаць». Яны падаліся за вёску. Соладка, хмельна-радасна было ад пачуцця, што яны асталіся адны, у гэтай таемнай цемры, далёка ад хат. Свежа пахла расою і кветкамі чаромхі, водар якіх нараджаў у душы светлае, дзіўнае замілаванне.

Каля ракі было сыра. Сцюдзёны, здалёк сівы, туман вакол іх рассейваўся, асядаў вільгаццю на рукі і твар. Прыпыніліся каля тоўстай навіслай над вадою вербалозіны.

— Ведаеш, як называецца гэтае месца? — спытаў Віцька таемна: яму хацелася чым-небудзь выклікаць у Зіны захапленне і паказаць, што тут, на рацэ, ён свой, усё яму знаёмае.

— Не-а.

— Чыстая вада.

— Добра нехта назваў. А я не ведала.

— Рыбакі назвалі,— сказаў Віцька з тою радасцю ў душы, якую нараджае пачуццё гонару: маўляў, і я ж рыбак. Свяціў месяц, і вочы ў Зіны адсвечвалі цёмналіловым безабаронным бляскам. Віцька адчуў у сабе смеласць (а можа, здзіўленая, Зіна не паспела абараніцца) і пацалаваў Зіну. Так хутка ўсё гэта адбылося, што ён нічога не запомніў, толькі мільгнулі ■ вады ў неба дужа буйныя, як ліхтары на слупах, зоркі.

Потым, лежачы ў ложку, бясконца радаваўся ад шчасця, што пацалаваў Зіну.

У Віцькі пасля гэтай прыгадкі балюча зашчымела ў грудзях, затахкала сэрца, вельмі гулка, як у пустое. Сумны, ён пацёгся дахаты. Шэрай вілюжынаю слалася пад ногі вузкая пясчаная сцежка.

Назаўтра, ледзь толькі пачало займацца на дзень, Віцька быў ужо на рацэ. Над паверхняю вады клубілася белая, злёгку сіняватая пара, такая густая, што аж не было відаць паплаўкоў і здавалася: ты знаходзішся ў нейкім вільготным дыме, ахутаны таямнічасцю і загадкамі. Рыба добра клявала, і міжволі ў Віцькі пацяплела на душы. Ён пачаў нават пасвістваць. Але

ўспомніў, што гэты лішні гук можа насцярожыць буйную рыбіну, і тут жа заціх, стаіўся.

Летнія раніцы, асабліва пад час рыбнай лоўлі, надзіва кароткія. Не паспееш як след расставіць вуды, а сонца ўжо разагнала туман, мірыядамі ружовых бліскавак заперaлівалася ў траве і на лісцях. Захліпнуўся ад спеваў салавей у крушынніку над ручаём, што са звонам збягае ў раку, заблытаўся ў густой мятліцы і заціх сумны плач гаротніцы перапёлкі.

Ведае Віцька: самы клёў ці, як кажуць рыбакі, жор прайшоў. Толькі невялічкія, па цыгарэціне, акунькі ды калючыя, як асот, яршы па-ранейшаму не будуць даваць аддухі. «Да сняданку пасяджу...» — Ён закідвае далей вуду — на дзень рыба адплывае ад берага.

Лёгкае шорганне падэшваў па сырым пяску прымусіла Віцьку азірнуцца: [illegible] кнігаю ў руцэ да яго ішла Люсьен. «Зноў...» — толькі і падумаў ён.

— Эй, рыбак, салют! — гукнула яна яшчэ зводдалі, шырока ўсміхнулася белымі, як пялёсткі ў рамонку, зубамі.— Як рыба?

Віцька паправіў на зямлі куртку, прыпадняўся.

— Добры дзень.

— А я ведала, што ты будзеш тут.— Люсьен падала яму руку. Адчула гарачую цвёрдасць яго шырокай, як у мужчыны, далоні і затрымала свае пальцы ў ёй.

— Ну і рука ж у вас,— сарамліва сказаў Віцька, выпускаючы вузкую і белую, як укляя, далоньку.

— Як у кожнай гарадской дзяўчыны.— Люсьен пакруціла руку перад сабою, быццам выпрошвала ў Віцькі яшчэ адну пахвалу. Калі шчыра, ад сваіх сяброў-першакурснікаў інстытута замежных моў яна прывыкла чуць толькі добрыя словы, захапленні. Тут, у вясковай глушы, ёй ніхто іх не гаварыў, і яна сумавала.

Віцька і сам не заўважыў, як залюбаваўся яе іскрыстымі, як цыганскі дождж, валасамі, што падатліва-чуйна краналіся плячэй. Падумаў: мусіць, яны вельмі мяккія і пяшчотныя. Аж нядобра пахаладзела ўсяродку, калі спахапіўся, што глядзіць на сінія, працёртыя да белых плям, джынсы, якія рабілі Люсьен вельмі зграбнай. Балазе гэтага позірку не заўважыла Люсьен: яна дзівілася на Віцькаў улоў, што ляжаў каля куста пад альховым венцам.

— Малойчык, Віктор! Не дарэмна прыйшла да

цябе. Хоць пагляджу на сапраўдную рыбу. А то нашы рыбакі, апроч печкуроў, нічога злавіць не могуць. Можна сесці?

Віцька кіўнуў галавою. Яна села на ягоную куртку.

— Гэта яшчэ не ўлоў.— У ягоным голасе чуўся гонар, які сказаў больш, чым самі словы.— Вось пазаўчора! Адзін лешч тры кіло заважыў.

— Вой-я! Рыбак экстра-клас! — Люсьен не хавала свайго захаплення.— А я табе не перашкаджаю? — як быццам спахапілася яна.

— Не-е, я ўжо збіраюся дамоў.

— Так хутка?

— А я тут з самых ранак.

— Што-што? — не зразумела Люсьен.

— З чатырох гадзін...— Інтуіцыя падказала Віцьку направіцца іменна так.

— Ну, гэта іншая справа. Тады ёсць рэзон спяшацца. Віктор, ты чытаў Гі дэ Мапасана? — нечакана спытала дачніца, стукаючы па калену рабром кнігі.

— Каго?

— Мапасана. Пісьменнік французскі.

— Здаецца, не чытаў...

— А дарэмна. Наш курс ад яго ў захапленні.

Віцька патайком зіркнуў на дачніцу: «От яшчэ!..»

— Хочаш, я дам табе пачытаць?

— Дзякуй, не трэба.

— Хм, дзівак! — Люсьен ніколі не магла і сасніць, што сустрэне чалавека, які вось так, абыякава, паставіцца да яе любімага аўтара.

Віцька паспешна змотваў вуды. Яму хацелася як хутчэй расстацца з дачніцаю. Ён адчуў, што, адмовіўшыся ад кнігі, выклікаў у яе непрыязнасць да сябе.

— Гэта ты ад мяне так уцякаеш? — Яна какетліва прыкрыла нафарбаванымі вейкамі пякучы блакіт сваіх вачэй.

— Пры чым тут вы. Проста пара дамоў ужо.

— Ну, глядзі, тваё права... гэта раз.— Люсьен не хацела так проста губляць знаёмства. Ёй спадабаўся гэты вясковы юнак. Пасля гарадской мітусні, тлумных студэнцкіх вечароў яго скаванасць і нясмеласць былі ёй унавіну. І гэта загадкавасць, мусіць, больш за ўсё распаляла ў ёй жаданне займець, кажучы моваю сяброўкі Ірыны, студэнткі-фізічкі, кантакт.— І два — дакуль ты будзеш «выкаць»? Мы з табою ўжо другі дзень

знаёмыя. Вось я, напрыклад, запрашаю цябе да сябе ў госці. Прыходзь, калі час будзе. Тут жа недалёка. У мяне магніт ёсць з добрымі запісамі... Карацей, чакаю! — Люсьен гаварыла спакойна, націскаючы на словы, якія лічыла важнымі. Калі чалавек з абвостраным успрыманнем усяго непахвальнага ў свой адрас, чуючы непрыемнае, астаецца спакойны, значыць, ён мае хітры намер дасягнуць нейкай мэты.

Віцька зусім разгубіўся — не ведаў, за што ўзяцца. Здаецца, сабраўся, можна ісці.

— Пайшоў я,— зрабіў некалькі нясмелых крокаў, адчуваючы, што не ўсё сказаў, як, зрэшты, і не ўсё пачуў ад Люсьен. Яна ўсміхнулася:

— А куртку мне пакінуў?

Віцька пачырванеў.

— І праўда... Ледзь не забыўся.

Яна пругка, як вылётвае спуджаная з гнязда перапёлка, усхапілася на ногі, страсянула куртку і падала яму.

— Вазьміце...— І так пяшчотна паглядзела на Віцьку, што ён не вытрымаў яе позірку і адвёў убок вочы: ці то ад сораму, ці то ад удзячнасці, якую чамусьці не хацелася паказваць.

Віцька пайшоў, не азіраючыся, той няўпэўненай паходкаю, якая бывае ў сарамліва-ціхмяных людзей, калі глядзяць ім услед.

Люсьен яшчэ з хвіліну стаяла нерухома, праводзячы яго радасным позіркам. Потым лёгка сарвалася з месца і памчалася да палатак, смешна адстаўляючы ад сябе выгнутыя рукі — як балерына. Ад шчасця хацелася танцаваць. Яна ўяўляла, як будуць, заміраючы ад захаплення і зайздрасці, слухаць сяброўкі яе расказ пра незвычайнае каханне, якое давялося ёй перажыць гэтым летам...

Віцька ішоў спакваля. Першы раз у жыцці, вяртаючыся з рыбнай лоўлі, галаву сабе тлуміў не рыбацкімі прыгодамі, а іншым: ён думаў пра Люсьен, яе запрашэнне. Думаў не так, як звычайна думаюць хлопцы пра дзяўчат. Яго душу кроіла тое няўломнае мужчынскае самалюбства, якое з'яўляецца ў кожнага юнака на парозе сталасці: «Не пайсці — выходзіць, збаяцца... І каго — дзяўчыны. Назаве малакасосам, будзе здзекавацца тады з мяне, гэтая дачніца».

Віцька быццам нанава адчуў яе мякка-пякучы по-

зірк, пяшчотны халадок далонькі. І раптам яму падумалася пра тое, што прымусіла яго пачырванець і ўсхваляваца. Ён напружыўся ўсімі нервамі, каб вярнуць у памяць прыкрыя моманты, калі зрывалася буйная рыбіна, і заглушыць наплыў чужых, незразумела-спакуслівых думак. Але перад вачыма скакала яна, Люсьен, нахабнаватая, уважлівая, ■ незвычайна белым тварам...

...Дрымотна-сіняе сутонне запоўніла, заліло вёску. Вуліцаю гналі кароў. Яны ляніва брылі, нізка апусціўшы рагатыя галовы і ледзь пераастаўляючы масластыя, нягнуткія ногі. Каля варот стаялі гаспадыні, нецярпліва перабіраючы ў руках фартухі, а заадно і адганяючы імі камароў, якіх нанеслі на крутых баках каровы.

Над зямлёю павісла вячэрняя сцішанасць.

Віцька агародамі падаўся да палатак дачнікаў. Чуваць былі музыка, смех, галасы — раскацістыя, крамяныя, як у звонкім і чыстым бары. Ён адчуваў сябе ніякавата, але ішоў, увесь час баючыся, каб не пераадолела цяга павярнуць назад. Падумаў, што было б лепш, калі б запрасіў з сабою каго-небудзь з хлопцаў.

Над галавою мяккім крыллем прашастала начная птушка — кугакаўка, потым узвілася ўгору і штопарам пайшла ўніз, пэўна, выгледзела сабе ахвяру. Яркай іголкаю чыркнула на небе камета — і ў вачах доўга стаяла роўная зялёная палоска.

Наблізіўшыся да палатак, Віцька ўбачыў, як ад цёмнага полага ляшчынніку аддзяліўся доўгі цень і закалыхаўся яму насустрач. «Яна!..» — ёкнула сэрца.

— А я ўжо з паўгадзіны чакаю цябе. Была ўпэўнена, што прыйдзеш. Я вас, мужчын, ведаю.

Віцьку не спадабалася гэтае «мужчын». Ён прывык чуць ад маці іншае: «Ты ж у мяне — мужчына». Так маці яму гаварыла тады, калі пасылала на цяжкую работу — касіць сена ці капаць торф на паліва.

— Ат, усё роўна няма чаго рабіць вечарам,— сказаў Віцька словы, якія акурат спатрэбіліся б тады, калі б захацеў укалоць самалюбства Люсьен. Але яна разумела, што ён сказаў іх проста так, без злога намеру. І ўсё роўна крыху зазлавала:

— Даўно знайшоў бы, калі б трохі жывейшы быў.

— Што знайшоў?

Яна здзіўлена глянула на Віцьку: жартуе ці не? Сказала:

— Ды гэта я так проста... Ну, што, можа, музыку паслухаем?

— А хто там? — насцярожыўся Віцька.

— Бацька з маці, суседзі нашы...

— Ну, калі ненадоўга.

— Вечна ты спяшаешся! — капрызна кінула Люсьен, быццам ужо мела права яго папракаць.

Яны выйшлі на палянку, сціснутую з усіх бакоў густою цемраю і кустамі. Невялічкае цяпельца баязліва змагалася [redacted] цемраю трапяткім чырвоным язычком. Каля яго за самаробным столікам сядзелі трое мужчын у сініх спартыўках і дзве жанчыны з высокімі прычоскамі.

— Знаёмцеся,— падвяла Люсьен Віцьку да цяпельца.— Мой новы знаёмы... Віктор з вёскі.

— Вельмі прыемна,— спагадліва забуркавала кампанія, акурат патрывожаныя галубы.

Люсьен нахілілася да аднаго з мужчын — каторы быў паўнейшы і цямнейшы з твару за астатніх — і штосьці шапнула яму на вуха.

— А-а, калі ласка, калі ласка, бярыце... Нам ён не патрэбен.

Яна ўзяла з-пад століка магнітафон і кіўком галавы пазвала за сабой Віцьку. Калі ён падышоў, яна ціха сказала яму:

— Не магу са старымі... Замінаюць толькі і нічога не разумеюць.

Віцька [redacted] радасцю пайшоў услед за ёю — цяжка было адчуваць на сабе паўдзесятка ўчэпіста-праніклівых позіркаў.

Спыніліся каля старога, гнілаватага зверху, вываратня, да якога ўпэўнена, не супыняючыся, каб агледзецца, прывяла яго Люсьен. Вакол раслі маладыя бярозкі, галіны ў якіх пачыналіся ад самага камля, густыя кусты арэшніку. Над імі ўзвышаўся стройны, як фарсун, кучаравы дубок.

Люсьен паставіла магнітафон на зямлю, уключыла яго і сама прыхінулася плячом да шурпатага вываратня.

— Нейкі ты маўклівы, Віктор?

— Музыку слухаю...— Віцька пакрывіў душою: музыка яго не зацікавіла, хоць і была зусім новая,— ён не ведаў, пра што гаварыць.

— А ў вас моладзь... дзяўчаты ў вёсцы ёсць?

— Лічы, няма. Раз'язджаюцца. Дзесяць класаў скончаць — і ў горад: хто вучыцца, хто працаваць, а хто зусім лынды біць. Мы з Зінаю думаем у політэхнічны пастунаць...

— Прабач, а хто яна такая, Зіна? — перапыніла Віцьку Люсьен.

Зінчына імя выскачыла ў яго міжволі, і ён сумеўся. З дзяўчатамі, асабліва незнаёмымі, размова ў Віцькі наогул не ладзілася, і ён заўсёды шчыра зайздросціў тым хлопцам, якія мянцілі языком як завадныя і, здаецца, гладка.

— Зіна? Сяброўка мая... Аднакласніца.

— А-а... Дзе ж яна цяпер, калі не сакрэт?

— Паехала ў Мінск, на падрыхтоўчае аддзяленне.

— А чаму ты не паехаў?

— Маці дапамагаць трэба. Бацька хворы, не падымаецца з ложка. А я на трактары.

— Разумею. І табе не сумна... аднаму?

— Які тут сум! Мне не сумна,— сказаў Віцька,— рэчка пад бокам.

— А я не вытрымала б...— Люсьен глыбока ўздыхнула.

Віцька зірнуў на яе і адно цяпер заўважыў, што яна ў лёгкім халаціку. Хоць ноч была цёплая, з расою, ўсё-ткі з рэчкі цягнула волкай прахалодаю, і адзенне, бы той лёд, халадзіла цела.

— Вам... табе, мусіць, холадна?

— Так, крышку...— Люсьен даверліва і радасна падсунулася да яго — ушчыльную. Віцька адчуў, як яна ўся калоціцца, як стала яму цёпла ад гэтага яе дотыку. У галаве тоненька зазвінела, бы пчала, у якой адарвалі крыльцы. І раптам, бы паратунак,— здагадка: Люсьен хоча, каб ён пацалаваў яе. Тут жа ўспомнілася Зіна, і ён нясмела прапанаваў:

— Можа, хопіць слухаць музыку? Ядрана і камары...

— Хадзем да мяне ў палатку, Віктар. Такая ўтульнасць і камароў-мошак няма,— пажвавела Люсьен.

— Пазнавата ўжо...— Вочы ў Віцькі даверліва-сум-

ныя і насцярожаныя, як бутон сон-травы, якому не хапіла аднаго дня, каб расцвісці.

— Ты ж, можа, не дзіця?

«От жа, умее падкалупнуць»,— падумаў Віцька.

— Ну, яшчэ трохі, канечне, пабуду,— пагадзіўся ён.

Люсьен выключыла магнітафон, падала яго Віцьку, і яны пакіраваліся да палатак.

Крайняя ад ракі была яе палатка — невялікая, колеру хакі, яна тулілася да дзвюх крывенькіх бярозак, якія ўгары спляталіся ў адну цёмна-густую кучомку.

— Вось мы і дома. Нашы ўжо спяць...— Яна адхінула крыло брызенту, што закрываў уваход. Віцька стаў на калені і нырнуў як у прорву, за ім — Люсьен.

Нейкі момант сядзелі моўчкі. Віцька чуў, як грукоча пад самым горлам яго сэрца, як не можа суняць дрыготку Люсьен. І ці то ад хвалявання, ці то ад холаду яго таксама пачынае ліхаманкава трэсці.

— Холадна. Сунься бліжэй,— шэпча Люсьен і прытульваецца так блізка, што яе валасы кранаюцца Віцькавага твару, чапляюцца за вейкі. Ён не ведае, што рабіць. Памкнуўся зручней усесціся і наткнуўся на голую прыемна-халаднаватую нагу Люсьен. Адхіснуўся, як ад напаленага металу. Тут жа адчуў яе твар, гарачае, перарывістае дыханне. Адхіліў галаву назад, не ўтрымаўся на руках — яны чамусьці хутка замлелі — і тут жа цёплае, мяккае цела абвалілася на яго, да вуснаў дакрануліся чужыя вусны. Рукі яго несвядома ляглі на плечы Люсьен, і яны адразу паслабелі. Ён памацаў валасы, шыю, шчокі — ненаўмысна: Люсьен угадвала сабой яго рухі. І тады Віцька зноў падумаў пра тое, пра што думаў, калі вяртаўся з рыбнай лоўлі. Яго ахапіў нясцерпны сорам, такі пякучы, што Віцька адчуў, як да твару шыбка прыліла кроў, застукала ў вушах.

Люсьен, адчуўшы на сваім твары яго рукі, прыпаднялася, пранізаная здзіўленнем: «Адпіхвае?..» Сядзела моўчкі, раўнела яе дыханне. Віцька ляжаў ціха, у млявай абыякавасці. Сон ці не? Калі сон, то чаму ён ніколі не прысніў сябе з Зінаю? А вот з нейкай незнаёмаю дзяўчынаю... Які сон, якая незнаёмая? Гэта ж Люсьен! Дачніца.

Ён варухнуўся.

— Люсьен, я пайду?

Люсьен, не гаворачы ні слова, абвіла яго за шыю і надоўга прыпала да вуснаў. Потым лёгка падштурхнула яго да выхаду:

— Ідзі, мой хлопчык.

— Да пабачэння! — Віцька вылез на прастор і схамянуўся ад нечаканасці: вакол было светла хоць іголкі збірай. У небе нерухома стаяў танкарогі жоўценькі маладзічок — міма яго не праплывала ніводай хмурынкі. Ад кустоў і дрэў кладіся на зямлю чорныя халодныя цені і выдавалі за глыбокія яміны. Віцька абыходзіў іх, пераскокваў.

Ён адчайна выкідваў з галавы думкі пра Люсьен, сённяшняе спатканне з ёю. І раптам яны ўраз разляцеліся, бы гарошыны з пераспелага струка: «Зіна!..» Яму стала хораша і прыемна, вельмі карцела вярнуцца ў той зорны вечар каля Чыстай вады і нанава перажыць першую трапяткую радасць, што валодала ім тады.

Вёска ляжала ўдалечыні цёмнымі, прывіднымі гарбякамі. Насустрач Віцьку мутнай плёнкаю плыў туман. Дзве бліскаўкі, як светлячкі, скакалі на мысах чаравікаў. Ззаду на траве заставаліся цёмныя сляды, і Віцька ўсё кручэй забіраў управа, каб лучыць на сцежку.



# МАРОЗНАЙ РАНІЦАЮ

...Ёй не спалася ў гэтую доўгую зімовую ноч. На фіялетава-цёмным, крыху асветленым каля гарызонта небе выспелі іскрыстыя, што бываюць толькі ў мароз, зоркі. Выразны, як вычарчаны, серпік месяца маркотна заглядваў праз настылыя шыбы ў прыцішаную хату, кідаючы на падлогу плямы белага, як аркушы паперы, святла. Думаючы, хацелася глядзець на іх, быццам там можна было нешта прачытаць.

Кацярына ўжо каторы раз занач уставала з ложка, нячутна ступала босымі нагамі па мяккім варсістым дыване, ішла на кухню і піла ваду — крыху яснела ў галаве. Вяртаючыся назад у цёплую пасцель, прымушала сябе заснуць. Надоўга, да болю ў павеках, заплюшчвала вочы, уяўляла белыя воблакі ці вялікую малочную раку, але сон усё роўна не прыставаў. Звычайна яна пакутавала ад бессані тады, калі нешта яе моцна ўзрушвала, займала думкі. Калі абавязкова — у той жа міг! — трэба было знайсці выйсце, а яно не знаходзілася, а калі і знаходзілася, то палохала сваёй няздзейсненасцю.

Кацярына сцепанулася, неспадзеўку зірнуўшы на шыбы: яны адлівалі шэранню, рэдзенькім няпэўным колерам, далёкім да ранішняга, але тым, які з'яўляецца ўжо за поўнач. «А можа, пара і на ферму? — Яна ўзяла са століка наручны гадзіннік, які ўручылі ёй на раённай нарадзе перадавікоў. Проста з ложка дастала

ім да месячнага святла: было а палове чацвёртай.— Рана...»

Пякучая, незразумелая крыўда перахапіла, сціяла дыханне. Кацярына, бадай, упершыню адчула, што няма той радасці, жадання, з якімі кожнае дасвецце збіралася на ферму, бегла да сваіх цялушак. Учора загадчык фермы Пімен Канапля, вывесіўшы на дошку вынікі спаборніцтва, не тое каб з'едліва, ды ўсё ж падкрэслена абвясціў:

— Ну, Кацька, мінулі дзянькі тваёй славы. Нахадзілася ў перадавічках. Вольга Румынка на першае месца ў гэтым квартале выбілася. Па валу на цэлы пуд у яе больш.

Тыя даяркі, што былі недалёчка, гуртам падаліся да белых, акуратна расчэрчаных аркушаў паперы. Уголас чыталі, ківалі галовамі, спрачаліся, у каторых твары хмурнелі, у каторых загараліся радасцю. Кацярына як стаяла ўбаку з белым ручніком, якім падмывала каровам вымя, так і засталася стаяць. Толькі загарэлыя шчокі яшчэ больш пацямнелі, мусіць, ад чырвані, і дробненька, бы лісцінка на ветры, заторгалася ніжняя губа.

...Усё пачалося месяцы чатыры назад, з механізаванага даення. Той жнівеньскі дзень быў святочны, радасны і сонечны — як на заказ. Тэхнікі закончылі манціроўку даільнай устаноўкі. У чырвоным кутку сабраліся на сход даяркі. Старшыня калгаса Захар Сцепанчук, худы, высокі з сівымі валасамі, гаварыў шмат, пафасна і не зусім зразумела. Скончыў тым, з чаго і пачынаў:

— Таварышы! Навукова-тэхнічны прагрэс з кожным днём усё больш і больш уваходзіць у наша жыццё, замяняе ручную працу машыннай. Вось жывы прыклад. На вашай ферме з сённяшняга дня пачынае дзейнічаць даільная ўстаноўка, малакапровад «Даўгава». Яна будзе абслугоўваць каля двухсот кароў, транспарціраваць малако ў малочнае аддзяленне, астуджваць яго і зліваць у цыстэрну. Гэта ж такая палёгка вам, дарагія жанчынкі. Працуйце на здароўе!

Усе дружна запляскалі ў ладкі, бязладна забубнелі між сабою.

— Цяпер хоць манікюр навадзі, бабы! — надрывалася Вольга Румынка, якая сядзела перад самым сталом,— паджылая жанчына з буйным тварам і маленькім, востранькім, як птушыная дзюбка, носам.— Гэта ж цяпер ні даёнкі, ні бітонаў цягаць не трэба. А то во!..— Распасцерла шырокую, як у мужчыны, парэпаную чырвоную далонь.

— А ліха іх ведае, Вольга, што то за цацкі! Паспытаць трэба. Можа, яшчэ цяжэй будзе,— піскліва азвалася аднекуль з глыбіні залы юркая, гарбаценькая Тонька Параскіна.

— Не панікуй, Тонька! Не такія, як нашы, галовы думалі, так што... Давай лепш вунь інструкцыю грызі.— Зацёрся спінаю аб грубку Пімен Канапля. Ён любіў стаяць, прыпёршыся да чаго-небудзь плячыма, таму фуфайка ззаду была заўсёды запэцканая, з пучкамі жоўтай ваты.— Гэта табе не вечкам у бітоне шчоўкнуць.

Кацярына сядзела маўчкі. Апошнім часам, бываючы на сустрэчах, нарадах, выстаўках, яна шмат чула і пра машыннае даенне, і пра механізаваную раздачу кармоў, і пра ўсякія транспарцёры. Па праўдзе сказаць, больш зайздросціла: і гэтым белым, быццам у бальніцы, халатам, і такім жа белым, здаровым рукам даярак. Але недзе ў душы, у самых глыбокіх кутках, нясмела, як зайчаня ў траве, варушыўся страх, перамешваўся з няўпэўненасцю перад новым. Кацярына больш давярала сваім рукам, цвёрдым, збітым, як у цесляра, спадзявалася на іх вынослівасць. Яны не здраджвалі, не апускаліся нават тады, калі даіла кароў гадзінамі — за сябе і за хворую Тоньку Параскіну.

Цяпер апараты стаяць на іх ферме. Як яны будуць працаваць, уяўляла цяжка. Адно сэрца падказвала: гэта — перамена, перамена ў працы, у жыцці, у паводзінах даярак.

Канапля ўбачыў на твары ў Кацярыны заклапочанасць. Хацеў быў прамаўчаць, але, падумаўшы, зачапіў:

— Што гэта, Кацька, ты як быццам і не радая?

— Песні пець, а не гараваць трэба! — падхапілася Вольга Румынка. Яна заўсёды старалася дагадзіць загадчыку фермы.

— З чаго вы ўзялі? Проста так я...— Кацярына ўсміхнулася, каб паказаць, што ў яе добры настрой,

але ўсмешка атрымалася кіслая, няшчырая, толькі накрэсліла маршчынак пад вачыма.— Задумалася...

— Давай, давай, абмазгоўвай перадавыя метады гаспадарання.— Нягледзячы на нехлямяжы выгляд, за які з яго кпілі даяркі, Канапля быў чалавек начытаны і нярэдка здзіўляў сваёй «навуковасцю».— Тэхніка, яна розум любіць, чыстыя рукі... знаць, і сумленне.

Прывыклі да новых апаратаў даяркі хутка. Нічога мудрагелістага ў іх не аказалася. Усяго і клопату — падключыць да саскоў трубкі ды сачыць, каб чыста выдойвалася малако. Пасля паглядзець на чорненькі прыборчык і сказаць Канаплю, колькі малака надаілася ад кожнай каровы. Тут, праўда, заўсёды пачыналася блытаніна. Даяркі наперабой гаварылі, хто колькі надаіў, і калі Канапля падбіваў бабкі, малака ў цыстэрне аказвалася менш, чым па яго падліках. Не намнога, але кілаграмаў на пяць-шэсць была розніца.

— Вы, бабы, таго... не хітруе часам хто з вас,— ссоўваў з макаўкі на лоб шапку Канапля і глядзеў на саскобленыя мысы сваіх нячышчаных кірзачоў.

— Ты што, Піменка, зусім сумніцельны стаў? — першая абараняла даярак Вольга Румынка, падтыкаючы за пояс край пярэдніка.— Скора і Маньцы сваёй скажаш, што дзеці не твае.— Бадай, упершыню спрабавала паднімаць Канаплю на смех, але яе ніхто не падтрымаў.

— Ото-то! — збіваў на патыліцу шапку Канапля.— Ды я не ўлічаю вас, для прафілакціці раблю. Лепш на прыборы зрэнкі свае ляпіце.

— Ну, Парфенавіч, ужо і тэхнікі нам не давяраеш,— крыўдзілася Тонька Параскіна, крутнуўшы доўгай, да пят, спадніцаю.— Хадзем, Кацька, спраўляцца.

Даяркі разыходзіліся. На тварах у іх была разгубленасць.

...«Апараты, апараты... Што далі яны, гэтыя апараты-акселераты? — не спала, варочалася з боку на бок Кацярына.— Была лепшая на ферме, цяпер Вольга абагнала, а там і яшчэ хто... Як тут ацэніш кожнага. Апарат не скажа. А рукі — усё ясна. Калі не вартыя, дык не суньця ў перадавічкі.— У Кацярыны прачнуўся, загаварыў на поўны голас той прыхаваны ў душы

страх перад «жалезкамі».— Няўжо такая бездапаможная? Ці дурнейшая за гэтую Румынку? А можа, і праўду бабы кажуць, што яна прыпісвае сабе літры? Вельмі ж хутка надоі пачалі ў яе расці. Славу набыла...»

Кацярыне стала цяжка дыхаць, і яна ссунула ў ногі коўдру. Ёй не столькі было шкада свайго страчанага першынства, колькі прыкра ад таго, што яго не заслужана прысвоілі, што яна, Кацярына Безбародзька, уступіла не стараннью, а звычайнай зайздрасці. Крыўда ў душы разрасталася. Яшчэ нейкая секунда, і яна, Кацька, заплача... У горад не паехала з сяброўкамі, кароў даіць яшчэ са школы палюбіла. Нялёгкая гэта праца, але што зробіш — ёй падабаецца. Цялушак даглядаць падабаецца, пах травы і малака цешыць яе. У радасці і на горад той пачала забываць. І вось гэты ўдар... Цяжка было трываць.

«Хіба гэта справядліва?! — Кацярына села на край ложка, ногі ахапіў халадок. Зіркнула на адзенне. Не, яна не была пыхліўка, і поспех ніколі не кружыў ёй галавы. Але, як і кожнаму б на яе месцы, было прыемна, калі яе называлі перадавічкаю, майстрам жывёлагадоўлі.— Столькі было ўвагі, гонару... Не магу!» Яна пачала ўпохапкі адзявацца, акурат баялася, што хто-небудзь можа адгаварыць яе ад намеру, які нечакана ўбіўся ў яе налітую стомаю галаву. Намер быў страшны, але другога яна не магла прыдумаць.

Знадворку ў хату цадзіўся мяккі, мярэжлівы паўзмрок. «Як сырадой...— Кацярына здзівілася, так падумаўшы, і спалохалася: — А можа, усё-ткі не варта? — Нерашуча села на табурэтку, глянула на канапу, дзе спалі маці і малодшая сястра.— Даведаюцца людзі — не толькі мне, але і ім праступу не дадуць. Будуць тыцкаць пальцам. Што рабіць?»

Вялікім намаганнем яна змусіла сябе не думаць пра маці і сястру, пра тое, што будзе. Раз наважылася ўчыніць, трэба даводзіць да канца. Дробязь не дробязь, але і страшнага нічога няма. Зрэшты, можна і схлусіць, сказаць, што аступілася, незнарок атрымалася. І ёй даруюць. Не злачынка ж яна.

Кацярына ўспомніла даўнішні выпадак, калі кантралёры выявілі, што Вольга Румынка, тады яшчэ нявопытная, падлівае ў малако ваду. Ну, і страху таго, нават не аштрафавалі, толькі прысаромілі ды пакрыты-

кавалі на сходзе, узяўшы ад Вольгі заруку, што такое не паўторыцца.

Гэты ўспамін уміг надаў Кацярыне смеласці, яна ні пра што больш не думала, не разважала. У галаве кляпала адна думка: «Хутчэй! Хутчэй! Трэба прыйсці першай...»

Дарога ў прысмерку была чорная, а збоч яе — сіні снег. Далей, за палоскаю поля, шарэлі аснежаныя кусты лазняку. Марознае паветра апякала Кацярыне грудзі, яна задыхалася, быццам прабегла не сотні метраў, а некалькі кіламетраў.

На ферме не было ні душы. Вартаўнік стары Ахрэм, відаць, яшчэ не вылез са свайго зацішнага і цёплага прытулішча, якое аблюбаваў у кормазапарніку. Кацярына асцярожна, каб не рыпнулі цяжкія дзверы, адчыніла кароўнік, азірнулася па баках. Цішыня. Вокны замуравала намаразь, толькі холадам паблісквала шкло. Каровы абыякавымі, соннымі вачыма глядзелі на яе і жавалі жуйку. Позірк зачапіўся за вілы, што стаялі каля сцяны, імі даяркі разгортвалі ў кармушках сянаж. У дрыготкіх руках яны здаліся надта цяжкімі, нязручнымі. Кацярына адступіла бліжэй да выхаду, дзе не было кароў, і ўдарыла віламі па шкляной трубцы малакаправада...

Здалося, раскалоўся ўвесь кароўнік.

«Божа! Што я нарабіла?..» — закрыла яна далонямі твар.

Роўна ў пяць гадзін прыйшлі даяркі. Падняўся гармідар, крык, гам: хто, што, калі? Каля рота ва ўсіх клубілася густая пара. Асабліва старалася крычаць Вольга Румынка. Яна першая і заўважыла пабіты малакаправад.

— Гэта ж урадзіцельства, бабы! Судзіць за гэта трэба. Такая палёгка была ручачкам бедным... І на табе! Вой, што гэта будзе?

— Няйначай, хтосьці са сваіх... А можа, карова хвастом? — не то ўсур'ёз, не то жартам задуменна прамовіла Тонька Параскіна, выціраючы кончыкам хусткі прыпухлыя вочы.

Пімен Канапля прывёў манцёра, хадзіў вакол яго сам не свой, уздыхаў, камячыў у руках шапку.

Паслалі шукаць старшыню — жыў ён у другой вёсцы, за тры кіламетры. Такое не замоўчыш.

Захар Сцепанчук прыляцеў віхорам. Піскнуўшы тармазамі, чорная — белая ад інею — «Волга» спынілася акурат перад самым Канаплём, ледзь не аддавіўшы яму ногі.

— Ды што гэта робіцца ў цябе, Парфенавіч? — Сцепанчук стараўся надаць свайму тонкаму голасу басавітасць і ажно чырванеў ад натугі.

— Атрымалася от, Захар Паўлавіч...— Канапля ўзяўся за шапку, напусціў на вочы.

— Збірай народ, будзем разбірацца! — Старшыня вылез з машыны, заклаўшы рукі за спіну, прайшоўся туды-сюды. Ён быў у белых катанках, хадзіў няўклюдна.

Канапля як бы нехаця пасунуўся да кароўніка — склікаць даярак.

Народу ў чырвоны куток сабралася шмат. Прыйшлі нават, пачуўшы пра здарэнне, людзі з вёскі. Усім карцела даведацца, хто гэта замахнуўся на апараты.

— Так, таварышы... Ціха! — Сцепанчук стаяў за сталом злосны, увесь нацяты, ажно трымцела на шчацэ жылка.— Давайце толькі без хлусні. Чые гэта рукі свярбелі? Каму і для чаго гэта спатрэбілася?

Усе маўчалі. У Кацярыны пад хусткаю гарэлі вушы, быццам там ляжалі вугалькі.

— Я чакаю.— Старшыня абводзіў кожнага чэпкім, як дзядоўнік, позіркам. Кацярыне здалося: крышку даўжэй, чым на астатніх, ён затрымаў свае вочы на ёй. У грудзях нядобра пахаладзела, застукала мацней сэрца, пачала торгацца ніжняя губа. Адно паспела падумаць: «Ці ж я пайшла б на такое, калі б усё чыста было? Ні пад якой прынукай! А раз знайшліся хітруны, то няхай... няхай цяпер рукамі дояць. І сама буду. За справядлівасць я... Так і скажу. Праўду скажу...» Яна рашуча ўсхапілася з месца, размахваючы рукамі, выйшла наперад, да стала. Прыцяла зубамі ніжнюю губу.

— Хочаце ў турму, хочаце, куды хочаце! — сказала цвёрдым голасам.

У памяшканні стала ціха-ціха, нібыта ўсё вымерла. Толькі журчаў электралічыльнік у куце пад столлю.

— Я пабіла трубку, сёння раніцаю пабіла...— Голас у Кацярыны задрыжэў.

Ад здзіўлення старшынёвы бровы папаўзлі на

маршчыністы шышкаваты лоб. Ён разгублена глянуў на Пімена Канаплю, потым на Кацярыну.

— Што такое, таварыш Безбародзька? Не разумею...— Сцепанчук ведаў і цаніў Кацярыну як старанную працаўніцу.

— Таму што... што несправядлівасць ад яго пайшла. А я не магу... Можа, Парфенавіч і не заўважае. Але нядобра так...— Кацярына гаварыла няскладна, дужа хвалявалася.

— Як, у чым справа, Кацярына? — не мог дабрацць толку старшыня.

— Тут не толькі мая справа. Няхай вунь жанчыны скажуць.

Сярод даярак быццам праляцеў узвей. Яны разам заварушыліся, закруцілі галовамі. Коратка, украдкаю зіркалі ў кут, дзе сядзела Вольга Румынка. Вольга спачатку нават і вокам не павяла, вопрама глядзела на старшыню. Але ў нейкае імгненне зніякавела і зашморгала востранькім носам. Яе выручыў Канапля.

— Эх, бабы-дзеўкі...— заморгаў ён чырвонымі павекамі.— Гора з вамі. Вінаваць тут каго хочаш, толькі не Кацьку. Яна тут ні пры чым...

Са старшынёвага твару ўсё яшчэ не сыходзіла здзіўленне, і лоб глыбока прарэзалі некалькі доўгіх маршчын.

— Душы свае мы не падрыхтавалі да такога дзела,— голас у Канаплі жывеў.— А без гэтага... махні рукой. Вось вам Вольга Румынка. Зноў малако прыпісвала сабе. Адсюль і... А мы вочы закрываем... моў, свае людзі.

— Ну, досыць, досыць! Зразумела! — Захар Сцепанчук перапыніў Канаплю: палічыў, што гэта ён павінен расказаць даяркам пра навукова-тэхнічны прагрэс. І ён пачаў:

— Таварышы жывёлаводы! Энтээр з кожным днём настойліва стукаецца ў нашы дзверы...

Даяркі не разумелі і не хацелі слухаць старшыню. Раз за разам яны паварочвалі галовы да Вольгі Румынкі. Чакалі ад яе слова. Яна сядзела натапыраная, шморгала носам: «Што я буду гаварыць... Каму я буду гаварыць... Вы бачылі, што я буду гаварыць?»

Высыпалі на двор, як чужыя, ніхто першы не загаворваў. Як быццам кожны адчуваў сваю віну. Кацярына не падымала вачэй. Снег і сонца сляпілі. Апуша-

ныя, белыя, стаялі за кароўнікам дзве бярозы. Ад гэтай прыгажосці тужліва стала на душы. Дурніца яна, дурніца, дадумалася... Апараты вінаваты. Прычым тут апараты? Праўдзівая такая, дык і трэба было Вользе сказаць, можа, прасачыць ды за руку схапіць. На чыстую ваду, як кажуць, вывесці...

— Добрага здароўечка, Кацька! — пачула і схамянулася Кацярына. Чорны як грак стаяў у кажусе вартаўнік Ахрэм. З каўняра тырчаў чырвоны нос.

— Не журыся, унучка!..

Кацярына не знайшла, што адказаць гэтаму гаваркому старому. Яна была ўся ў сваёй бядзе, ішла і баялася набліжацца да кароўніка, у якім мычалі нядоеныя каровы.



# СІЛУЭТ

Аднаго разу ў доме патухла святло. Было б яшчэ паўбяды, калі б не футбол — да пачатку матча аставалася каля гадзіны. Генадзь падкаціў ужо да тэлевізара крэсла. «Калі надта вялікая радасць, яе абавязкова павінна нешта азмрочыць»,— падумаў Генадзь. Матч для мінчан сапраўды быў рашаючы: перамогуць маскоўскі «Спартак» — і яны становяцца чэмпіёнамі, упершыню ў гісторыі.

Генадзь адчыніў дзверы ў калідор — было цёмна. Ён пазваніў суседзям-пенсіянерам, але званок за дзвярыма не адазваўся, і Генадзь не стаў трывожыць людзей, і так зразумела, што электрыка асіраціла не толькі яго кватэру.

Генадзь спусціўся ўніз. Каля самага пад'езда нядаўна паставілі дзве тэлефонныя будкі, і ён пазваніў у гарадское бюро электрасетак. Жаночы голас надзіва спакойна адказаў, што «сігнал ужо прыняты і аварыйная машына выслана».

Чыркаючы запалкі, ён адшукаў у шуфлядзе секцыі дзве тоўстыя парафінавыя свечкі, падобныя на смаляныя круглячкі; запаліўшы адну з іх, капнуў некалькі разоў на дно маленькіх чайных сподачкаў; прыладзіў свечкі і паставіў у кухні на стол. Святло было не вельмі празрыстае, але досыць яснае, надта каля свечак, і пры ім можна было чытаць. Генадзь узяў з паліцы

томік Буніна, разгарнуў яго, палажыўшы на стол паміж свечкамі, стаў чытаць.

«На кладбище, над свежей глиняной насыпью, стоит новый крест из дуба, крепкий, тяжелый, гладкий...»

Можа, ад таго, што агеньчыкі на свечках мякка, як п'яўкі, паварушваліся, старонкі кнігі, якія Генадзь не прыцiскаў рукамі, зыбаліся, як усё роўна дыхалі, і Генадзю ў прывіднай сцішанасці здавалася, быццам ён чуе тое лёгкае дыханне бунінскай гераіні.

Ён пакінуў у кухні і ў пярэдняй кнопкі выключальнікаў утопленымі і не турбаваўся, што прапусціць момант, калі дадуць электрыку. Ужо, здаецца, пад'ехала аварыйная машына — на двары па-дзелавому галёкалі мужчынскія галасы і нехта пытаўся, у каго ключы ад падвала; потым ён жа праз нейкі час крычаў — што перагарэў трансфарматар. «Здаецца, футбол ляснуў»,— падумаў Генадзь са скрухаю.

Чорны кнoцік на свечцы нахіліўся, і парафін плавіўся з аднаго боку, сцякаў светлымі кроплямі ў сподак. Генадзь узяў з падаконніка брытвачку, якой ураннi заточваў аловак, і паправіў кнoцік. Цяпер агеньчык быў роўны і востранькі, як зубок часнаку.

Генадзь, здаецца, ці не ўпершыню, як сеў чытаць, глянуў у незахінутае фіранкаю акно. Яно было цёмнае, і ён убачыў у ім адно свечкі ды шкельцы сваіх акуляраў, якія нібыта хтосьці звонку прыставіў да шкла. У жоўтым доме насупраць, які, на думку Генадзя, будаўнікі блізка паставілі, там-сям гарэлі вокны. Гледзячы на іх, Генадзь думаў, што людзям пашанцавала... І раптам — на трэцім паверсе ў акне ўспыхнула святло. Амаль тут жа да акна падышла дзяўчына, стала акурат пасярэдзіне, бы вялізны партрэт у вялізнай рамцы. На галаве ў дзяўчыны была чырвоная вязаная шапачка, з-пад якой шчыльна спадалі за спіну доўгія цемнаватыя валасы. Да такіх валасоў Генадзь даўно быў неабыякавы. Гэтую неабыякавасць ён не хаваў і ад жонкі, хоць яна падстрыгалася заўсёды коратка, да чаго, тлумачыла, вымушаў высокі лоб. Іменна доўгія цемнаватыя валасы дзяўчыны ў акне і затрымалі Генадзеў позірк. Ён толькі на міг адвёў яго, калі знізу пачулася гурчанне матора. Мусіць, аварыйка... І тут жа з-за сцяны дома вывернула крытая машына-будка і паехала, буравячы фарамі квола падсвечаную далёкімі ліхтарамі цемру.

Дзяўчына ў акне тым часам плаўна падняла да патыліцы рукі, быццам хацела зрабіць гімнастычны паварот плячэй, прабегла пальцамі па шапачцы і нешта (мусіць, шпількі) палажыла на падаконнік. Рэзка страсянула галавою — і валасы, звівіста матлянуўшыся, шырока, бы капюшон, акрылі ёй плечы. Гэткім жа адмысловым рухам дзяўчына зняла з сябе верхнюю сукенку — зялёную, з папярочнай рабізною.

Святло ад свечак, адбіваючыся ў акулярах, мружыла Генадзю вочы, але ўсё роўна ён бачыў цёмны сілуэт. Дзяўчына ці то ўзяла са стала, ці выняла з сумачкі нейкі квадрацік і трымала яго перад сабою. Люстэрка ці фатаграфія?

Доўгі час дзяўчына стаяла нерухома, і Генадзь разумеў яе: сапраўды цікава — бачыць сябе ці некага на фоне таямніча-глыбокага, цёмнага мораку. Нешта містычнае, загадкавае і трывожнае было ў гэтым. І пакуль дзяўчына стаяла, а можа, проста думала, успамінала, Генадзь не зводзіў з яе вачэй, адчуваючы, як скрозь дакор («во, акурат падлетак, цікую!») пачынае прабівацца і падступаць да грудзей хваляванне. Чаго яна стаіць перад акном, што трымае ў руцэ, над чым задумалася? Яшчэ, чаго добрага, дзяўчына ўгледзіць яго і палічыць за якога-небудзь маньяка, але не мог прымусіць сябе заплюшчыць вочы ці хоць бы сесці на табурэтку. І тады малюнак з дзявочым сілуэтам у акне ўраз прапаў бы. А яму чамусьці хацелася, каб ён стаяў перад вачыма яшчэ і яшчэ. Не, ён не паспеў засумаваць па жанчыне, хоць і «халасцякаваў» ужо цэлы месяц (жонка, спрыяючы мужу, паехала з сынам да сваёй маці на Магілёўшчыну),— праца над кандыдацкай забірала яго сілы дазвання, і думкі яго, як гімнаст вакол перакладзіны, круціліся толькі вакол яе адной. Яго проста неадольна цягнула думаць-гадаць, што гэта за дзяўчына і што вымушае яе стаяць перад акном. Гэта — была разрадка пасля цяжкіх, пакутлівых дзён, праведзеных за сталом.

І ўсё-такі малюнак прапаў — дзяўчына захінула шторы, і акно стала глухім ружовым квадратам, якіх на сцяне было ўжо вельмі шмат. Генадзь гупнуўся на табурэтку, расслаблены і ўстурбаваны адначасова. Ён сціснуў скроні далонямі і надоўга ўтупіўся ў паліроўку стала, дзе трапятаў-мігцеў агняны зубок ад свечкі. Ачнуўся ад таго, што пачуў каля вуха лёгкае ціканне.

Глянуў на гадзіннік: было а палове восьмай. Цэлыя паўгадзіны прасядзеў у нерухомасці. Агняны зубок ад свечкі час ад часу расплываўся ў вачах, і тады ён зноў бачыў сілуэт дзяўчыны ў акне...

Генадзь замаруджана, як у сне, падняўся, адчыніў падвешаную шафку і ўзяў кававарку. Наліваючы ў яе ваду, адчуў, як яна пацяжэла. Паставіў на пліту і ледзь не вылаяўся: успомніў, што на новай кватэры ў іх не газавая, а электрычная пліта. Папіў з кававаркі проста вады. Зноў сеў чытаць, але да свядомасці словы не даходзілі, быццам сціраліся, прападалі ў паветры, як дым ці дыханне. Што з ім, адкуль гэта мяккае і тонкае пачуццё, што нечакана выплыла на душу і ахутала яе, бы той парафін брытвачку, калі ён папраўляў кнoцік свечкі?

Неспакой не праходзіў, а, здаецца, нарастаў, і Генадзь аніяк не мог атрэсціся ад думак пра дзяўчыну. Яму добра паспрыяў бы футбол, ён забываў на ўсё, калі яго глядзеў, але сёння электрыку наўрад ці падключаць. Генадзь убачыў на лінолеумнай падлозе цьмяны водсвет вады — пачала раставаць у халадзільніку намаразь. Ён выцер ваду і падсунуў пад халадзільнік тоўстую жорсткую мешкавіну, якой звычайна жонка мыла падлогу.

Думаць што-небудзь пра дысертацыю было прыкра і цяжка — ад яе проста аж патыхала сухім пяском і шэрым попелам. Генадзь, шчоўкнуўшы кнопкамі выключальнікаў, пайшоў спаць, загадзя ведаючы, што ноч будзе тлумнай, вярэдлівай, як пасля тых вечароў, калі яму пісалася глыбока і стройна, без гвалту над розумам і душою. Ён чуў, як спрачаліся на двары хлапчукі, гадаючы, святло гарыць у акне ці свечка; потым жанчына прасіла ў некага «хоць запалак», каб дабрацца на сёмы паверх.

Змогшыся недзе за поўнач, Генадзь прачнуўся светлай гадзінаю. Скрозь цюлевую гардзіну глядзела сонца, і неба блакітнела на ўсёй неабсяжнасці крынічна-чыстай, сцюдзёнай глыбінёю. Першае, што ён успомніў з учарашняга, гэта — дзявочы сілуэт у акне, і першае, што зрабіў, падняўшыся,— пайшоў на кухню, уключыў рэпрадуктар і глянуў на акно ў доме насупраць: ружовыя шторы былі расхінутыя на два бакі, але ў глыбіні пакоя, як у мутнай вадзе, нічога не праглядвалася. Каля дома раслі два высокія клёны, і цень ад іх

падаў на сцяну мудрагелістымі ўзорамі. Крыжаваліся, а то ішлі ў адным кірунку выкладзеныя бетоннымі пліткамі пешаходныя дарожкі.

Усё — звычайнае, прывычнае, будзённае... І Генадзь падумаў: ці не прысніў ён гэтую таямнічую дзяўчыну ў акне? Пашчоўкаў выключальнікам — святла ўсё яшчэ не было. А як жа, беднае, застукала сэрца, калі пачуў з рэпрадуктара, што мінскае «Дынама» стала чэмпіёнам. Шкада, як шкада, што не паглядзеў учора матч...

Паснедаўшы, Генадзь паехаў на працу — у НДІ эканомікі народнай гаспадаркі, радуючыся добрай надвор'е, яснай пагодзе, адчуваючы на душы незвычайную лёгкасць і проста дзіцячую самазадаволенасць.

Аднак, вяртаючыся ўвечары дамоў, ён знарок блізенька прайшоў каля сцяны жоўтага дома, імкнучыся заглянуць у акно, але ўбачыў толькі круглы і празрысты, бы шар, плафон пад столлю.

Цямнела хутка. І чым хутчэй стрэлкі гадзінніка набліжаліся да сямі, тым больш хваляваўся Генадзь. Пальцы былі як чужыя — ён адчуў гэта тады, калі непадуладная яму сіла прымусіла выключыць на кухні святло і падысці да акна.

Ён стаяў разгублены, зніякавелы, са сціснутым ад гнятлівага пачуцця сэрцам і глядзеў на цёмнае акно ў доме насупраць. Ён абапёрся рукамі на падаконнік, якраз прапусціўшы імгненне, калі загадкавы цёмны квадрат успыхнуў святлом, і — о, дзіва-дзіўнае! — у акне зноў стаяла дзяўчына ў чырвонай вязанай шапачцы і зялёнай, з папярочнай рабізною сукенцы. Гэта — было падобна на казку ці на сон з тых, што прыходзяць рэдка, але пакідаюць на доўгі час прыемнае пачуццё ад сустрэчы з жаданым. Генадзь, прызнацца, мала спадзяваўся, што сёння ўсё паўторыцца так, як учора, але... Яна што — гэтай парою заўсёды прыходзіць з работы ці, можа, з якога інстытута, дзе вучыцца? І з кім яна жыве? Мабыць, адна... А можа, усе астатнія прыходзяць пазней, і вось ёй выпадае латва пастаяць перад акном з люстэркам ці фатаграфіяй у руцэ. Генадзь злавіў сябе на тым, што яго вочы зусім няцямлівыя, аднак пільна сочаць за плаўнымі, дасканалымі рухамі дзяўчыны.

У яго лёгка, бы ад тонкага віна, кружылася галава. І калі б не гэтае галавакружэнне, ён, мабыць, не так

бязлітасна дакараў бы сябе за сваю слабасць — пасля таго як ружовая штора змыла з вачэй жывы малюнак дзяўчыны ў акне: «Дзівак я! Форменны дзівак!.. З мяне трэба смяяцца і паказваць у мой бок пальцам. Глядзіце, у чалавека на стале дысертацыя, а ён займаецца несур'ёзнымі штучкамі, гадае, што за дзяўчына і што за прывычка ў яе — стаяць перад акном кожны вечар? Ды няўжо невядома, што не трэба і няма сэнсу разгадваць тайну чалавечай душы». Ён толькі думаў так, але не згаджаўся з гэтым, бо, чытаючы Буніна, уражваўся, якія нюансы, тонкасці ў чалавеку падмячае пісьменнік.

Генадзь неахвотна сеў за стол, на якім былі раскіданы аркушы паперы, рознакаляровыя алоўкі, і ўзяў у рукі калькулятар з сіненькімі, як незабудкі, кнопачкамі. Але ніяк не мог прашыцца розумам у сухі, шчыльны частакол лічбаў, формул, крыжыкаў і рысачак... Так і сядзеў, не ведаючы, з чаго пачаць і што працягваць. Вельмі хутка ён зразумеў, што і сёння яму не ўдасца сур'ёзна папрацаваць. Гэта яшчэ больш разварушвала на душы маркоту і, здаецца, пазбаўляла яго радасці тварыць.

Хвіліны такой разбітасці і бязволля з ім надараліся і раней. Тады ён, помніцца, стараўся прыгадваць светлыя моманты [redacted] маленства ці прыемнае [redacted] апошніх падзей. Думаў, што і цяпер гэта дапаможа. Ну, хіба не паднімае настрой учарашняя перамога мінчан над «Спартаком»? Прыемна, канечне.

А сын... Ужо месяц не бачыў сына, а здаецца — цэлую вечнасць; і Генадзь маляваў ва ўяўленні яго трохі клышаногую паходку, словы з дэфектным «р», карыя, надзіва засяроджаныя вочы. Як сынок выходзіў з кватэры на двор гуляць, у рудым палітончыку і жоўтай шапачцы, а ён, бацька, наглядаў за ім з акна і ўсміхаўся сам сабе шчаслівай усмешкаю...

У задуменні галава яго міжволі схілілася да стала, а калі ён падняў яе, то спачатку не зразумеў, чаму вочы адразу скіраваліся на акно ў доме насупраць, акурат там быў нейкі магніт, што прыцягвае да сябе позіркі людзей,— мяккі, ружовы квадрат хаваў у сабе спакой і таямнічую невядомасць, спасцігнуць якую не магла пакуль нават самая смелая Генадзева фантазія.

Каля дома на высокіх слупах гарэлі ліхтары, падобныя на блакітныя чайнікі. Дом быў жоўты, і неба, што адкрывалася з бакоў дома, таксама адсвечвала

невыразнай, мутнай жаўтлявасцю, у якой згубіліся нават зоркі. Мусіць, дзьмуў вецер, бо падрыгвалі нягнуткія чорныя зусім голыя галіны клёнаў.

Назаўтра Генадзь пайшоў на працу з цяжкой галавою, а ў душы панёс дзіўную няўпэўненасць у сабе, у сваёй дысертацыі, у сябрах, ад якіх адгарадзіўся на цэлы месяц. Загадчык сектара прадукцыйнасці працы прапанаваў яму схадзіць у Палац мастацтваў на сустрэчу з мастакамі, але Генадзь адмовіўся, спаслаўшыся на занятасць і на тое, што няма настрою, а там жа трэба будзе нешта гаварыць талковае. Плесці абы-што Генадзь не любіў. Загадчык сектара, чалавек пажылы і праніклівы, глянуўшы на яго, не стаў угаворваць, толькі, здалося, заклапочана паківаў галавою, у чым не было дакору, а толькі шкадаванне.

Генадзь зноў апынуўся дома каля сямі гадзін. Роўна ў сем ён цвёрда, ужо без аніякіх сумненняў падняўся з канапы, на якую прылёг расслабіцца і глянуць у газеты, і пайшоў на кухню. Не ўключаючы святла, стаў каля акна. Сэрца ў грудзях білася суладна з ціканнем будзільніка, які паставіў уранні на падаконнік.

Знаёмае акно ў доме насупраць пыхнула ў цемру святлом, як заўсёды, нечакана, але, здаецца, Генадзь упершыню не здрыгануўся. Ён цвяроза, нават залішне рацыянальна назіраў за ўжо прывычнымі, дасканалымі і плаўнымі, рухамі дзяўчыны, глядзеў на яе руку з фатаграфіяй... Так, ён упэўнены, што яна трымае фатаграфію свайго каханага. Ён, мабыць, служыць у арміі ці знаходзіцца ў працяглай камандзіроўцы, а яна чакае яго і кожны вечар, як на ікону, моліцца на яго фатаграфію. Таямніца прапала, разгадалася (так лічыў ён), і яму стала сумна і нецікава. Ён адчуў, як нешта нясцерпна гарачае абвалілася на душу і, акурат вугалямі, пачало выпякаць у ёй нешта такое, ад чаго было неспакойна ўсе гэтыя дні...

Не расплюшчваючы вачэй, Генадзь намацаў дрыготкімі рукамі фіранку і завесіў акно. Імгненная спустошанасць зрабіла яго надзіва спакойным, вытрыманым і раўнадушным, бы камень. Генадзь сеў за стол, мяркуючы ўзяцца за дысертацыю, але позірк зачапіўся за томік Буніна, які астаўся ляжаць сярод папер з пазаўчарашняга дня, калі чытаў яго пры свечках. З нейкім незразумелым душэўным голадам Генадзь разгарнуў яго...



# ГАЛІНКА ВЯРБЫ

Жонка прынесла з Кальварыі галінку вярбы. Тонкую, гнуткую, залаціста-жоўтую, з рудымі пупышкамі.

На дварэ стаяў сакавік. Вясна пазнілася. Снег ляжаў яшчэ трывала, толькі вецер зрэдку дыхаў мяккім цяплом.

Хацелася вясны, яе выразных прымет. Я апусціў галінку ў малочную бутэльку з вадою і паставіў на падаконнік.

Дні праз чатыры-пяць пупышкі лопнулі, і з іх выкруціліся пяшчотныя зялёныя лісцікі, толькі самыя верхнія не распукнуліся, мабыць, усохлі ці адмерзлі. А на ніжнім канцы выткнуліся ў бакі белыя вусікі, а праз нейкі час перапляліся ў рудаватыя карэньчыкі-махры.

Я часта мяняў ваду ў бутэльцы, лічачы, што галінка смокча, забірае з яе мінеральныя солі,— і вада становіцца пустая.

Лісцікі большалі, і неўзабаве іх было ўжо некалькі — галінка пусціла атожылкі. Цень ад яе на маім стале быў як ад маленькага дрэўца. Гэта была такая мілата — на вуліцы снег, а ў мяне на падаконніку сапраўднае, зялёнае дрэўца з сапраўдным ценем.

Гэтаму дрэўцу радаваўся не толькі я, але і мой сын, радавалася і жонка. Не хацелася нават думаць, што некалі яно загіне.

І таму, калі за акном забуяла вясна — цвілі ўжо вішні, зелянела трава, з блакітнага неба не стамлялася свяціць сонца,— мы з сынам вынеслі галінку на вуліцу і пасадзілі яе сярод дрэў каля дома. А каб яе выпадкова не зламалі, была яна прыметная, паставілі каля яе калок.

Мы самі яе палівалі, а яшчэ дні на два залёг дождж, і вербачка добра прынялася, нават ніводзін ліслік не спахмурнеў, не завяў.

Жыццё не дае чалавеку засяроджвацца на адным, водзіць яго па лабірынтах і радаснага, і сумнага. Усё радзей і радзей я падыходзіў да вербачкі, каб глянуць, як ёй расцецца.

Аднойчы раніцаю я прачнуўся ад звону касы. Нехта касіў. Потым мянташыў касу. Гукі мне былі знаёмыя і блізкія з маленства, і цяпло захліснула мне грудзі. Я нават быў падумаў, што гэта сон, і паляжаў мінут колькі, каб яго не перапыняць.

А потым як кальнула мне ў сэрца. Я падхапіўся з ложка і — да акна. Хлопец у майцы, у штанах, забраных у халявы кірзавых ботаў, махаў касою — выкошваў траву між дрэў. Павольна я перавёў позірк з хлопца туды, дзе расла вербачка... Калок валяўся на скошаным, а вербачкі не было, бязлітаснае джала касы змяло яе з зямлі.

Я стаяў, і пальцы мае ўпіваліся, аж бялелі, у падаконнік, бо я думаў у гэту хвіліну пра хлопца — хто ён, адкуль, ці ёсць у яго бацькі, дзеці. Чаму не затрапятала ў яго сэрца і не апусціліся рукі з касою перад чыстай, цнатлівай, выняньчанай мною вербачкаю?

А можа, ён проста не заўважыў яе? Няхай бы не заўважыў... Я не сказаў у той дзень сыну і жонцы, што здарылася з нашай вербачкаю.

ЗМЕСТ

Издание для детей и юношества

**РУБАНОВ Владислав Яковлевич**

**ТАЙНА ПТИЧЬЕГО ГНЕЗДА**

Повесть
Рассказы

Для старшего школьного возраста
Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке

Выданне для дзяцей і юнацтва

**РУБАНАЎ Уладзіслаў Якаўлевіч**

**ТАЯМНІЦА ПТУШЫНАГА ГНЯЗДА**

Аповесць
Апавяданні

Загадчык рэдакцыі *В. М. Новік.* Рэдактар *У. А. Марук.* Малодшы рэдактар *Г. Д. Зінчанка.* Мастацкі рэдактар *В. І. Кліменка.* Тэхнічны рэдактар *З. Г. Сень.* Карэктар *Л. І. Саўчанка.*

ІБ № 1208

Здадзена ў набор 19.04.88. Падпісана да друку 25.10.88. АТ 09715. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура Школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,44. Ум. фарб.-адб. 13,44. Ул.-выд. арк. 13,69. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1341. Цана 85 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Рубанаў У.**

Р 82 Таямніца птушынага гнязда: Аповесць. Апавяданні: Для ст. шк. узросту/Маст. А. І. Аблажэй.— Мн.: Юнацтва, 1989.— 255 с.: іл.

ISBN 5-7880-0196-X.

Рубанов В. Тайна птичьего гнезда: Повесть. Рассказы.

Лёс не песціў Веру Прызнайцаву — галоўную гераіню аповесці «Голасам разлукі»: не вярнуўся з вайны бацька, смерць маці, назойлівая ўвага айчыма... Здавалася, нягодам не будзе канца, але нечакана ў Веру закахаўся малады заатэхнік...

У апавяданнях асуджаюцца такія заганныя з'явы сярод пэўнай часткі моладзі, як легкадумныя разводы, наркаманія, п'янства, мяшчанскі эгаізм.

Р $\frac{4803120201-008}{М\ 307(03)-89}$ 90—89

ББК 84Бел 7